АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ



# Беларускі эпас

*Пад рэдакцыяй акадэміка АН БССР*
*П. Ф. ГЛЕБКІ*
*і члена-карэспандэнта АН БССР*
*І. В. ГУТАРАВА*



ВЫДАВЕЦТВА АКАДЭМІІ НАВУК БССР

1959



## АД РЭДАКЦЫІ

Даследаванне эпасу народаў СССР — адна з важнейшых задач савецкай фалькларыстыкі. У галіне вывучэння беларускага эпасу да апошняга часу зроблена вельмі мала, таму даследаванне гэтай праблемы сектар фальклору Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР пачаў са складання навуковага зборніка тэкстаў.

Пры падрыхтоўцы кнігі ўлічвалася, што эпас кожнага народа не ўяўляе сабой нейкіх адзіных жанравых форм, а ў сваім развіцці можа мець самыя разнастайныя формы. У адных народаў эпас прадстаўлен такімі класічнымі жанрамі, як руны, думы, гайдуцкія і юнацкія песні і г. д., для іншых, напрыклад беларусаў, такія жанры эпасу не характэрны. У сувязі з гэтым у зборнік уваходзяць як гістарычныя песні і быліны, так і празаічныя творы—багатырскія казкі, паданні, легенды.

Беларускі эпас развіваўся ў цеснай узаемасувязі з эпасам іншых славянскіх народаў, асабліва рускіх і ўкраінцаў, што знайшло свой адбітак і на матэрыялах зборніка.

Кніга «Беларускі эпас», у тым ліку і ўступны артыкул да яе, асобныя палажэнні якога патрабуюць далейшага ўдакладнення, не вырашае многіх тэарэтычных пытанняў гэтай важнай праблемы. Але калі яна пракладзе шлях іншым працам у гэтай галіне, яе роля будзе выканана.

Большая частка твораў, якія ўваходзяць у зборнік, друкавалася раней у розных фальклорных выданнях, галоўным чынам дарэвалюцыйных, некаторыя тэксты публікуюцца ўпершыню.

Адсутнасць адзінай сістэмы ў дарэвалюцыйных публікацыях фальклорных тэкстаў стварыла значныя цяжкасці пры падрыхтоўцы да друку зборніка. Тэксты падаюцца ў

адпаведнасці з сучаснай графікай, але пры гэтым складальнікі імкнуліся захаваць асноўныя асаблівасці мясцовых гаворак пры поўным захаванні мясцовай лексікі. Нязначныя папраўкі ў напісанні дапускаліся толькі там, дзе ў саміх запісах не было паслядоўнасці. Захаванне важнейшых дыялектычных асаблівасцей дае магчымасць прасачыць распаўсюджанасць адпаведных твораў па ўсёй тэрыторыі Беларусі, а таксама сведчыць аб стварэнні лакальных эпічных цыклаў.

У абмеркаванні кнігі, акрамя супрацоўнікаў Інстытута, удзельнічаў прафесар Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта А. В. Кокараў, парады якога былі прыняты са шчырай удзячнасцю.

Каштоўныя заўвагі былі зроблены членамі кафедры фальклору Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта і сектара фальклору Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага пры абмеркаванні ўступнага артыкула і паэтычнай часткі зборніка.

У падрыхтоўцы зборніка да друку складальнікам дапамагалі загадчык сектара этнаграфіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору А. І. Залескі, пад кіраўніцтвам якога была распачата гэта праца, а таксама малодшыя навуковыя супрацоўнікі сектара фальклору Г. А. Барташэвіч і І. К. Цішчанка.





## БЕЛАРУСКІ ЭПАС

Сярод некаторай часткі фалькларыстаў даволі папулярна яўна памылковая думка аб тым, што толькі нязначная частка народаў свету мае свой эпас, а астатнія народы безэпічныя. Да безэпічнага народа адносілі і беларусаў.

Так, напрыклад, М. Янчук, адмаўляючы наяўнасць беларускага эпасу, пісаў: «Старарускі эпас у Беларусі таксама, як і ў Маларосіі, зацёрся хваляваннямі пазнейшых падзей, але ў той час, як маларусы паспелі замяніць яго новай творчасцю, паставіўшы на месца старых асілкаў новых герояў эпохі казацтва, беларусы не знайшлі чым замяніць іх і проста забылі, пакінуўшы толькі ўспаміны... аб асілках, напрыклад, у сваіх казках» [1].

Адмоўна ставіўся да беларускага эпасу і акад. Я. Ф. Карскі, які лічыў, што ў беларускім фальклоры захаваліся толькі слабыя сляды эпасу. Погляд аб адсутнасці беларускага эпасу паўтараецца і сёння ў нашай вучэбнай літаратуры. Не выпадкова аб беларускім эпасе (аб беларускіх былінах, гістарычных песнях, багатырскіх казках і інш.) адсутнічае якая б там ні была навуковая літаратура. Гэта каштоўнейшая і важнейшая частка беларускай народнай творчасці незаслужана забыта.

Мы пераканаиы, што не было і няма «безэпічных народаў»; у кожнага народа маецца свой эпас, абумоўлены асаблівасцямі яго грамадскага і культурнага развіцця. «Праблема» аб «эпічных і безэпічных народах» беспадстаўная, яна толькі ўносіць шкодную блытаніну і нічога не дае навуцы аб эпасе.

---

[1] М. Я. Янчук. О мнимонародных песнях исторического содержания, Харьков, 1908, стар. 4.

Трэба заняцца вывучэннем ступені развіцця эпічнай творчасці кожнага народа, даследаваць інтэрнацыянальныя і нацыянальныя рысы кожнага эпасу, вывучыць яго грамадскую і мастацкую значнасць.

Важнай праблемай навукі аб эпасе з'яўляецца пытанне аб класавай сутнасці эпасу.

Калі ідэолагі дваранства і буржуазіі высунулі так званую «тэорыю арыстакратычнага паходжання эпасу», па якой адмаўляліся творчыя сілы працоўных мас, адмаўляўся ўсякі ўдзел народа ў стварэнні эпасу, то затым пасля разгрому гэтай «тэорыі» ўзнікла другая, не менш вульгарная «тэорыя», прыхільнікі якой аб'явілі ўвесь цалкам эпас творчасцю працоўных мас. Гэты вульгарна-сацыялагічны погляд на эпас вынікае з антынавуковага разумення самога пытання аб народнасці мастацтва. Агульнавядома, што, напрыклад, «Слова аб палку Ігаравым» не магло быць напісана якім-небудзь з смердаў XII ст.; яно не адлюстроўвала непасрэдных іх класавых інтарэсаў. Аўтарам «Слова» быў прыдворны пясняр ці дружыннік, аднак гэта не перашкаджала яму стаць глыбока народным творам.

Тое ж самае можна сказаць і аб некаторых былінах, аб «Прамове Мялешкі», аб падаўляючай большасці палемічных твораў XVI—XVII стст. у беларускай старажытнай літаратуры. Тут патрэбен гістарычна-канкрэтны падыход.

Неабходна памятаць, што народныя масы па сваіх поглядах не былі нечым адзіным, што не ўся вусная творчасць народная, што простанароднасць і народнасць у мастацтве — розныя паняцці. Народнымі мастацкімі творамі мы называем далёка не ўсе тыя творы, якія выйшлі з нетраў народа, у якіх гаворыцца аб народзе; народнымі творамі можна лічыць толькі тыя творы, у якіх таленавіта адлюстраваны грамадска-палітычныя, этычныя, эстэтычныя і іншыя ідэалы працоўных і прагрэсіўных сіл іншых класаў незалежна ад іх паходжання.

Такім чынам, народнасць і прагрэсіўнасць—гэта два непарыўныя бакі ў народным мастацтве. Усякі сапраўды таленавіты твор, які гістарычна праўдзіва адлюстроўвае ў тыповых, мастацкі дасканалых вобразах галоўныя тэндэнцыі грамадскага развіцця, прагрэсіўныя ідэі эпохі, з'яўляецца ў той або іншай меры народным творам. Значыць, народнасць былін заключаецца не ў тым,

што яны нібыта адлюстроўвалі і адлюстроўваюць карэнныя класавыя інтарэсы працоўных, а ў тым, што быліны, як і «Слова аб палку Ігаравым» і многія летапісныя аповесці, выказвалі перадавыя ідэі сваёй эпохі: абарона Кіеўскага княства ад іншаземных заваёўнікаў, барацьба супраць міжусобіц, якія аслаблялі радзіму, усведамленне неабходнасці ўсходнеславянскага дзяржаўнага, грамадскага і культурнага адзінства, вера ў творчыя сілы народа, услаўленне подзвігу, мужнасці, працавітасці і інш. Гэтыя важнейшыя ідэі эпохі Кіеўскай Русі былі жыццёва неабходнымі для фарміравання феадальнага грамадства. Неабходнымі яны былі і для сялянства, для рамеснікаў, для дробнага служылага люду, хоць далёка не ўсе ідэі былін, «Слова аб палку Ігаравым», летапісных аповесцей былі даступны ў той час усякаму смерду і рамесніку.

Вось чаму ў нас ёсць падстава сказаць, што ў стварэнні былін, у іх развіцці і папулярызацыі былі ў вышэйшай меры зацікаўлены і ідэолагі перадавой феадальнай знаці. Такім чынам, можам меркаваць, што ў фарміраванні былявога эпасу (на аснове старажытнай эпічнай творчасці) прымалі творчы ўдзел не толькі працоўныя, але і некаторыя прадстаўнікі пануючага класа.

М. Г. Чарнышэўскі ў 1854 г. у рэцэнзіі на зборнік песень М. Берга растлумачваў, што прыгожая і багатая народная паэзія абумоўлена энергіяй народнага жыцця. «Толькі там,—пісаў ён, — паяўлялася багатая народная паэзія, дзе маса народа (няма патрэбы дадаваць, што слова **народ** мы тут ужываем у сэнсе нацыі, племені, якое гаворыць на адной мове) хвалявалася моцным і высакародным пачуццём, дзе сілаю народа ажыццяўляліся вялікія падзеі. Такімі перыядамі жыцця былі ў іспанцаў войны з маўрамі, у сербаў і грэкаў войны з туркамі, у маларусаў войны з палякамі». (Як вядома, войны з палякамі маларусы вялі сумесна з беларусамі.)

Такім чынам, адказваючы на пытанні, ці ёсць у беларускага народа высокаразвітая народная творчасць з яго эпасам, лірыкай і драмай, мы гэтым самым адказваем, па сутнасці, і на другія важныя пытанні: ці было ў беларускага народа напружанае гістарычнае жыццё, ці хваляваўся ён моцным і высакародным пачуццём.

На гэта пытанне сама гісторыя Беларусі даўно дала вельмі станоўчы адказ. Беларускі народ разам з рускім і ўкраінскім народамі прайшоў суровую, але сапраўды гераічную гісторыю — гісторыю многавяковай класавай і напружанай нацыянальна-вызваленчай барацьбы з нямецкімі, татарскімі, літоўскімі, польскімі і іншымі захопнікамі.

У XVI—XVII стст. беларускі народ разам з украінскім народам, пры актыўнай дапамозе рускага народа сумеў развіць свае высокія маральныя якасці і выклікаць да жыцця вялікую энергію, пры дапамозе якой адбываліся буйныя гістарычныя падзеі. Да гэтых падзей у першую чаргу адносіцца шматвяковая напружаная вызваленчая барацьба беларускай народнасці з польска-каталіцкай рэакцыяй. Да вялікіх гістарычных падзей, што ажыццяўляліся магутнай класавай энергіяй саміх працоўных мас Беларусі, трэба аднесці таксама многавяковую антыпрыгонніцкую барацьбу, якая вылівалася ў шматлікія народныя паўстанні.

Інтэнсіўнае развіццё вуснай паэтычнай творчасці Беларусі выклікана і іншымі акалічнасцямі. Справа ў тым, што пры значным развіцці школьнай і кніжнай справы на Беларусі працоўныя масы — галоўная сіла грамадскага руху — заставаліся непісьменнымі, для якіх вусная творчасць была амаль адзіным сродкам адлюстравання іх жыццёвага вопыту і ўсё ўзрастаючай класавай і нацыянальнай свядомасці. Вось чаму буйныя грамадска-гістарычныя падзеі, выкліканыя антыпрыгонніцкім і нацыянальна-вызваленчым рухам, знайшлі сваё адбіццё ў Беларусі не толькі і, бадай, не столькі ў кнігах, колькі ў вуснай паэтычнай творчасці. Відаць, гэтым можна растлумачыць наяўнасць у беларускім фальклоры багатага казачнага эпасу і даволі вялікай колькасці разнастайных эпічных песень грамадска-гістарычнага і бытавога зместу.

Асабліва ўзрасла грамадская роля вуснай творчасці на Беларусі ў XVIII ст., калі польска-каталіцкая рэакцыя закрыла ўсе беларускія друкарні і школы, калі амаль уся беларуская інтэлігенцыя была паланізавана. У гэта цяжкае стагоддзе беларуская культура захоўвалася і развівалася пераважна народам у формах разнастайнай вуснай творчасці, якая па патрэбах сваіх павінна была атрымаць сваё ўсебаковае развіццё.

Важным гістарычным фактам з'явілася таксама развіццё ў XV—XVII стст. на Беларусі і Украіне высокай культуры, якая мела вялікае значэнне ў грамадскім і культурным прагрэсе не толькі беларусаў і ўкраінцаў, але і рускага народа, як і іншых народаў. Аб гэтым пераканаўча гаворыць узмоцненае развіццё беларускага друку, кніжнай і школьнай справы, дзелавой і мастацкай літаратуры.

Беларускія і ўкраінскія кнігі друкаваліся пераважна на народных мовах у 24 друкарнях, не лічачы Пражскай друкарні, дзе былі выдадзены кнігі Георгія Скарыны.

А. Н. Пыпін пісаў: «У той час як у Маскве першая друкарня з'явілася толькі ў 1564 г., праз сто год пасля вынаходніцтва друкарства, у Заходняй Русі друкарская дзейнасць пачалася ўжо ў 1491 г., ... выданнем Швайпольта Фіоля.

... У той час як у Маскоўскай Русі выдавецтвы былі толькі ў Маскве, у Заходняй і Паўднёвай Русі выдавецкая дзейнасць распаўсюджана была па ўсяму краю ад галоўных гарадоў да невялікіх мястэчак і манастыроў»[1].

Толькі адна палемічная літаратура XVI—XVII стст., накіраваная супраць польска-каталіцкай рэакцыі, складае каля 60 важных твораў. Аўтары гэтых твораў карысталіся не толькі народнай мовай, але і народнай паэтычнай творчасцю, асабліва прыёмамі народнай сатыры, што не магло не выклікаць зацікаўленасці ў грамадскасці да фальклору.

У выніку ўсіх гэтых асаблівасцей грамадскага і культурнага развіцця беларускага народа і было абумоўлена ўзнікненне багацейшай вуснай паэтычнай творчасці.

Прыходзіцца пашкадаваць, што беларускі фальклор пачаў запісвацца і друкавацца толькі ў XIX ст., калі не лічыць запісаў асобных твораў летапісцамі і кніжнікамі XV—XVII стст. Таму пераважная большасць каштоўных народных твораў канула ў Лету. Толькі параўнальна невялікая частка гэтай творчасці была запісана і выдадзена ў XIX—XX стст. Але і тое, што запісана і выдадзена з беларускага фальклору, прадстаўляе сабой даволі значную і вельмі каштоўную спадчыну беларускага народа.

---

[1] А. Н. Пыпин и В. Д. Спасович. Истор. слав. литератур, т. I, вып. 2, СПб., 1879, стар. 328—329.

Каля ста зборнікаў і featureрознага роду кніг па беларускаму фальклору выдадзена толькі да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Вядомы збіральнік і публікатар беларускага фальклору Шэйн у сваёй інструкцыі для збіральнікаў фальклору пісаў у 1894 г.: «Калі вы хочаце дапытлівым вокам заглянуць у самую душу нашага народа, у запаветныя куткі яго сардэчных рухаў, азнаёміцца з больш буйнымі праявамі яго характару, то назірайце яго, асабліва ва ўрачыстыя мінуты, у святы, калі ён бязмежна аддаецца весялосці, калі ў яго душа нараспашку. Тут ён выказваецца ўвесь... Няма хлопца, мужчыны, дзеўкі, бабы, якія б ахвотна не маглі б вам за адзін прысест спець ад 20 да 50, нават да 100 песень».

Асабліва багаты ў Беларусі казачны эпас. Праф. С. В. Саўчанка пісаў, што «...па жывапісу і прыгажосці расказу беларускія казкі не маюць сабе роўных. Нават лепшыя казкі Анчукова і Сакаловых ім у гэтых адносінах уступаюць, хоць і пераўзыходзяць у строгасці эпічнай канструкцыі» [1].

Задачай данай работы не з'яўляецца вывучэнне ўсяго беларускага эпасу. Складальнікі зборніка рашылі абмежавацца багатырскім эпасам, гістарычнымі песнямі, былінамі, багатырскімі казкамі, паданнямі.

Багатырскі эпас атрымаў шырокае развіццё на Беларусі ў XIV—XVII стст. не толькі ў фальклоры, але ён пакінуў пэўныя сляды і ў летапісах. Аб багатырах і справах іх расказваюць летапісныя аповесці і кнігі.

Так, у Чэцьі 1489 г., пісанай «ва граде оу Каменци паповичем з Навагрудка литовского», чытаем: «Братие што нынешнего времені. мужэм добрых. смелых видзим. Как сваими хоробрымі делы чти великое дастоиних бывают. окалиж каторыи храбор. добрые дела. багатырьская вделает на осподарском дваре» [2].

У Георгія Скарыны маецца таксама ўпамінанне аб багатырах у прадмове да «Кнігі судзей»: «Аще ли же кохание имами ведати о военных а о богатырских делех чти книги Судей или книги Маховеев».

У творах палемічнай літаратуры канца XVI — пачатку XVII ст. шырока ўжывалася слова «багатыр», «багатыр-

[1] С. В. Савченко. Русские народные сказки, Киев, 1914, стар. 246.

[2] Е. Карский. Белорусы, т. 3, ч. 1, стар. 485.

скія дзела». Так, у славутай «Палінодзіі...» Захарыя Капысцянскага (1621 г.), апрача апісання багатырскіх ратных подзвігаў рускіх воінаў, вельмі блізкіх да подзвігаў герояў былін, у раздзеле «О зацности и мужестве народу Российского...» гаворыцца, што рускі народ «мужным теж был и валечным (свабодалюбівым)... и славным рыцерскою деелностью», і далей: «Што ж ешчэ а Россійском славным народзе реку... слаўные бовем багатырове и ат непріяцелей и ат неверных пріймалі дары... татараве и туркове, признают росам мужэство» [1].

Аб шырокай папулярнасці багатырскага эпасу на Беларусі гавораць дайшоўшыя да нас беларускія быліны, многія гістарычныя песні і багатырскія казкі.

А. М. Лабада ўпамінае аб дзвюх песнях-былінах аб Сяўруку (Майструку), запісаных П. В. Шэйнам, і называе іх «выдатнымі песнямі... са складам сапраўднай быліны» (стар. 98). Ён спасылаецца таксама на дзве песні аб Алёшы Паповічу ў запісу П. В. Шэйна. У выніку аналізу твораў беларускага эпасу вучоны прыходзіць да вываду аб «доўгачасовым бытаванні і пэўнай акліматызацыі» былін на Беларусі. Ён піша спецыяльны артыкул «Беларуская народная паэзія і рускі былявы эпас» [2].

У кнізе «Рускі багатырскі эпас» (Кіеў, 1896) А. М. Лабада даволі падрабязна застанаўліваецца на беларускім эпасе. «Аб эпасе на Беларусі, — піша ён, — у больш далёкі час нічога пэўнага сказаць нельга; можна толькі з меншай або большай імавернасцю меркаваць, што Беларусь жыла агульным эпічным жыццём нароўні з астатняй Руссю. Нездарма Усяслаў Полацкі трапіў у «Слова аб палку Ігаравым» і прытым у такіх паэтычных абставінах. Не без падставы таксама былінняга Вальгу параўноўваюць не толькі з Вешчым Алегам, але і Усяславам Полацкім». І далей:

«Зусім магчыма, што пасля, калі ў дастатковай ступені будзе распрацавана ўнутраная гісторыя Беларусі, у агульнарускім багатырскім эпасе знойдуцца рысы мясцовых беларускіх, падобна таму, як у іх адзначаны ўжо пласты суздальскіх, наўгародскіх і інш. Уносячы

---

[1] Памятники полемической литературы. Рус. ист. биб-ка, изд. Археографич. комис., т. IV, 1878, стар. 1110.

[2] Этнографическое обозрение, кн. XXV, 1885.

сваю частку ў агульную скарбніцу рускай эпохі, Беларусь, натуральна, магла ў сваю чаргу шмат чэрпаць адтуль. Калі і не прызнаваць асаблівага значэння за старажытнымі ўпамінаннямі аб багатырах і багатырстве ў беларускай пісьменнасці, як напрыклад у Скарыны і інш., то такое сведчанне, як вядомае пісьмо Кміты з Оршы ва ўсякім выпадку служыць ясным указаннем геаграфічнага распаўсюджвання былін. І ў сучасны момант памяць аб багатырах на Беларусі не зусім згасла».

Такім чынам, пытанне аб беларускім эпасе ўзнімалася ўжо ў XIX ст., але вырашалася яно вельмі аднабакова і вузка, таму што ўзнікаўшая тады гістарычная навука аб Беларусі і маладая фалькларыстыка таго часу давалі абмежаваную колькасць фактычных матэрыялаў і мала тэарэтычных прадпасылак для яго вырашэння.

Разгляд гэтага пытання вёўся не столькі ў рамках вывучэння старажытнарускіх былявых традыцый у беларускіх песнях і казках, колькі ў пошуках слядоў былін. Аб беларускім эпасе як самабытнай з'яве, які ўзнік пад уздзеяннем грамадска-гістарычных і культурных падзей, ніхто, па сутнасці, не гаварыў.

Якія ж ідэйныя і мастацкія асаблівасці беларускага эпасу, якавы яго жанры, яго грамадскае і мастацкае значэнне ў мінулым і якое выхаваўчае і пазнаваўчае значэнне ён мае ў нашы дні? Вось пытанні, на якія мы паспрабуем адказаць.

Быў правы акад. А. Весялоўскі, калі сцвярджаў, што «народны эпас усякага гістарычнага народа ёсць па неабходнасці міжнародны эпас» [1].

Беларускі эпас, як і рускі і ўкраінскі эпас, зарадзіўся і развіваўся на старажытнарускай аснове Кіеўскага перыяду. Агульныя вытокі і агульныя гістарычныя шляхі развіцця гэтых трох братніх народаў з'явіліся прычынай таго, што ў іх эпічнай творчасці так многа агульнага. Часам адны і тыя ж эпічныя творы бытавалі на рускай, украінскай і беларускай мовах (такавы шматлікія гістарычныя песні і казкі).

Эпас Кіеўскай Русі, які ў аднолькавай меры належыць рускім, украінцам і беларусам, сваімі глыбокімі

---

[1] А. М. Веселовский. Южнорусские былины, 1881—1884, XI, стар. 401.

карэннямі ўваходзіць у эпічную агульнаславянскую творчасць дакласавага грамадства. Гэтым тлумачыцца той факт, што ў міфах, казках, былінах усходніх славян многа агульных сюжэтаў, вобразаў, кампазіцыйных і мастацкіх прыёмаў з эпічнай творчасцю заходніх і паўднёвых славян.

Разглядаючы жанры беларускага эпасу неабходна адзначыць, што да нас дайшоў беларускі багатырскі эпас (вершаваны і празаічны) у выглядзе значнай колькасці гераічных песень, некаторых былін, асобных летапісных сказанняў і шматлікіх багатырскіх казак. Багатырскі эпас займае бадай што галоўнае месца ў беларускай эпічнай творчасці.

Значнае месца ў беларускай эпічнай творчасці займае гістарычны эпас (гістарычныя песні, казкі), асобныя летапісныя сказанні, аповесці. Нарэшце, да беларускага эпасу патрэбна аднесці featured рознага роду бытавыя эпічныя творы.

Спынімся падрабязней на беларускім багатырскім і гістарычным эпасе.

Да беларускага багатырскага эпасу адносяцца быліны, некаторыя гістарычныя песні і значная колькасць багатырскіх казак.

Да былін, якія мы ўмоўна называем песнямі-былінамі, належаць такія творы, як «Цямрук-Каструк», «Сяўрук», «Быліны аб градзе Себежы», «З'езд багатыроў». Апрача таго, да іх прымыкае некалькі духоўных вершаў, напісаных у стылі былін, сярод якіх вылучаюцца: «Аб Барысе і Глебе і Святаполку Акаянным», «Песня пра багатага» і інш. Сюды ж можна аднесці значную частку беларускіх гістарычных песень гераічнага характару.

Песня-быліна «Цямрук-Каструк» у запісу В. Н. Дабравольскага ў асноўным паўтарае шматлікія рускія гістарычныя песні аб жаніцьбе Івана Грознага на кабардзінскай княжне Марыі Цемрукоўне (1561 г.).

«Песні пра Каструка»,—піша А. М. Астахава,—належаць да тых старэйшых гістарычных песень, на якія ў найбольшай меры аказала ўплыў паэтыка быліннага эпасу. У ранейшыя часы песня пра Каструка была шырока распаўсюджана. Варыянты, у агульнай колькасці больш 60, сабраны ў розных раёнах Поўначы, Заходняй

Сібіры, Паволжжа і Сярэдняй Расіі. Адзінкавыя запісы маюцца з Данскога краю і Украіны» [1].

Беларускі варыянт песні-быліны «Цямрук-Каструк» з'яўляецца ў большай меры былінай, чым гістарычнай песняй, таму што ўвесь гістарызм гэтага твору зводзіцца толькі да ўпамінання аб жаніцьбе Івана Грознага. Галоўная ўвага ў ім удзяляецца не вяселлю, не асабістаму жыццю Грознага, а паказу ў тыповых для былін сітуацыях і багатырскіх вобразах умацавання магутнасці Маскоўскай дзяржавы, якая вызвалілася ад іншаземнага прыгнёту. Гэты настрой імпанаваў беларускаму народу, які ў вызваленні Масквы бачыў сваё вызваленне ад іншаземных захопнікаў.

У «Цемруку-Каструку», як і ў многіх рускіх гістарычных песнях і былінах, перамагаюць дужага багатыра-чужаземца «мужычыя сынкі»—браты Андрэевічы. Нават Іван Грозны надзелен у гэтай быліне рысамі асілка.

Як скочэць наш цар-государь
На сваё красна крылечушка,
Як і свіснець на Волгу-ряку,
А сы Волгі на Остраханю,
Сы Острахні у камянную маць Маскву
С камянной маці Масквы на ціхай жа Дон.

У стылі быліннай традыцыі тут паказана, як рыхтуецца Іван Грозны да вясельнага піру.

Ён і многа да ён півушка варіў,
Ён і многа зелена віна курій,
Ён і многа ён гасцей запрасіў,
Ён і многа князей пазазваў.
Усі госці паз'ехалісь,
Усі князі пасабраліся,
За столікі пасажаліся,
За столікі за цесовенькіе,
За скацерці, за набельчатыя.

Па-быліннаму тут кожны верш разбіваецца цэзурай на два паўвершы.

Вох вы, людзі // людзі старыя
Мужукі вы // прувуслаўныя.

Характэрна для гэтага твору і былінная гіпербалізацыя.

Як узяўся і меншы брат
Як і скочэць чрез семдзесяць сталоў
Ён і семдзесяць татаріныў убіў летучы.

---

[1] А. М. Астахова. Былины Севера. Изд. АН СССР, М.—Л., 1951, стар. 773.

Праслаўленне багатырскай сілы і патрыятызму селяніна Андрэя гаворыць аб глыбокай народнасці быліны.

Гэта быліна бытавала на мяжы Беларусі з Расіяй, і таму тут маюцца рускія, беларускія словы, акрамя таго, многія рускія словы набылі беларускае вымаўленне.

Важнай якасцю быліны з'яўляецца адлюстраванне ў ёй глыбокай павагі беларускага народа да сваёй роднай Русі, «мацеры-Масквы».

Гэты твор, як і многія іншыя, пераканаўча гаворыць, што перадавая частка беларускага народа ўжо ў далёкім гістарычным мінулым правільна разумела вызваленчую ролю Маскоўскай дзяржавы і яе перадавых дзяржаўных дзеячоў.

Максім Горкі быў глыбока правы, калі ў сваім дакладзе на I з'ездзе пісьменнікаў гаварыў, што народ не толькі паэт, але і гісторык:

«Ад глыбокай старажытнасці фальклор неадступна і своеасабліва спадарожнічае гісторыі. У яго свая думка аб дзейнасці Людовіка XI, Івана Грознага, і гэта думка рэзка адрозніваецца ад ацэнкі гісторыі, напісанай спецыялістамі» [1].

Заслуга Івана Грознага ў вызваленні Расіі ад татарскага іга, ва ўмацаванні Маскоўскай дзяржавы правільна ацэнена ў гэтай песні-быліне, як і ў многіх іншых творах.

Значную цікавасць мае гістарычная песня «Сяўрук», блізкая па свайму зместу і паэтычнай канструкцыі да былін і песень пра Каструка (Цемрука). Пра Сеўрука маюцца творы на рускай, украінскай і беларускай мовах.

Усевалад Мілер у зборніку «Гістарычныя песні рускага народа XVI—XVII вв.» (Петраград, 1915, стар. 187) змясціў песню, у якой Сяўрук паказваецца не толькі як багатыр, але і мудрэц, які ведае, «когда белый свет настал, праведно солнце взошло».

Сяўрук патрабуе:

Либо мне хлеба-соли ставьте,
Либо мне борцов дайте,
Либо мне голову срубите .

Супраць гэтага фанабэрыстага іншаземнага багатыра выступаюць данцы, яны

За белы груди взялися:
Как подымут Севрюка

[1] М. Горький. О литературе, М., 1937, стар. 456.

Вон повыше себя
Как ударят Севрюка
Об сыру землю,—
Севрюк глаза вытращил,
Севрюкова кожа лопнула,
Все робрушки посыпались,
Все косточки повысыпались (стар. 188).

У абарону Сеўрука выступае маці, якая не вельмі ветліва гаворыць аб сыне, называючы яго «праклятым сынам», якога згубіла фанабэрыстасць і зазнайства.

Пра Сеўрука ёсць і ўкраінскі варыянт гэтай гістарычнай песні, запісанай М. А. Янчуком. У нарысе «Аб музыцы былін» ён паведамляе: «Мне асабіста ў 1912 годзе ўдалося запісаць фанографам у Палтаўскай губ. ад старога маларосa — рыбака на р. Суле пад Дубнамі— маларускую перапрацоўку быліны, ці, дакладней, гістарычнай песні пра Каструка або Цемрука, перайменаванай тут у Сеўрука» [1].

Сяўрук у гэтай песні таксама «все знав: як свит настав, як сонечко заходзиць». Ён крычыць «богатырьским голосом, молодецьким посьвистом». Затым ідзе сцэна паядынку з дэталямі, характэрнымі для песень пра Цемрука (Каструка). Але ў адрозненні ад іншых песень у першай сутычцы Сяўрук забівае аднаго з братоў-барцоў. У сутычцы з другім братам-барцом гіне сам. У абарону Сеўрука выступае яго жонка.

Ой барец-молодець,
Нашто ты мужа вбив?

У адказ на гэта пытанне разгневаны барэц лаіць яе і гаворыць, што Сяўрук нізашто яго «двух братов убив». Аб смерці трэцяга брата нічога не сказана, відаць, сказіцель прамінуў адзін эпізод бою.

Гэта эпічная песня па свайму казацкаму зместу і па сваёй паэтычнай пабудове вельмі блізкая да ўкраінскіх дум, аб чым сведчыць яе эпічны рытм, характэрная для дум страфа з традыцыйным рэфрэнам:

Э-гей-гей, гей!
Севрюк, Севрюк... Севрюк вин не простой син,
Севрюк, татарин бив.
Э-гей, гей, гей!

Ператварэнне гэтай гістарычнай песні ва ўмовах Украіны ў думу лішні раз пацвярджае правату П. І.

[1] Памятники мировой литературы. Русская устная словесность, т. II, М., 1919, стар. 545.

Жыцецкага, які пісаў: «Можна з упэўненасцю сказаць, што ўкраінскія думы складаюць працяг песняспеваў Кіеўскай эпохі, толькі ў думах князі-героі ўступілі месца казакам-героям, полаўцы—татарам.

... Як толькі створан быў указаны ідэал народнага жыцця, адразу ж паданні аб героях ранейшай эпохі аказаліся непатрэбнымі» [1]. Гэта быў пачатак адмірання былін на Украіне і Беларусі, гістарычны лёс у якіх быў адзіны да сярэдзіны XVII ст. Думы, гістарычныя песні і песні-быліны стаяць на мяжы паміж былінай і песняй.

Беларускі ж варыянт гэтага эпічнага твору бліжэй стаіць да былін, чым да гістарычнай песні. Таму, друкуючы гэты твор, П. В. Шэйн называе яго былінай. У заўвагах ён справядліва зазначае: «Па характару і па ўсіх прыёмах былявога стылю відаць, што гэтыя радкі складаюць толькі пачатак быліны... (канец яе не захаваўся)». Быліна запісана на этнаграфічнай мяжы Беларусі. У ёй акрэслена вылучаюцца асаблівасці беларускай мовы (аканне — Сяўрук, терям, наибольшаго; замест мяккага «д» ужываецца «дз»—ходзя; замест «как» ужываецца «як»; замест «пошла», «нашла» ўжываецца «пайшла», «найшла» і г. д.).

Пачатак беларускага варыянта гэтай быліны супадае з рускай і ўкраінскай гістарычнай песняй. Сяўрук ведае не толькі, «як белый свет настав, як и солнушко взойшло», але і «як царь да сынов пожанив, як царь дочерей поотдав». Далей Сяўрук выступае ў ролі «пазыватага», г. зн. чалавека, якому па звычаю беларускага вяселля даручаецца збіраць гасцей на вяселле. Гэтых дэталей няма ў рускіх былінах і песнях.

Падобна Салаўю Разбойніку Сяўрук свішча багатырскім посвістам. Шырока ўжываецца тут і характэрная для былін гіпербалізацыя.

Як ударіў жа поніже сябе,—
Земля стряхнулася,
Вода спляснулася,
Москва ўлякнулася.

Жонка Сеўрука — «Бело-удалая чаркашаніца» таксама багатырка, якая гаворыць:

Семсот городоў пройшла,
По сябе борца не найшла.

---

[1] П. Н. Житецкий. Очерки звуковой истории малорусского наречия, Киев, 1876, стар. 288—289.

У змесце гэтага твору, характарыстыцы вобразаў, у паэтычных прыёмах і мове многа быліннага. Аднак тут ужо можна адчуць дэфармацыю старажытнага быліннага стылю. Верш быліны значна карацей традыцыйнага быліннага верша, і таму тут няма цэзуры. Як і ў гістарычных песнях пазнейшага перыяду, у гэтым творы маецца вытрыманая парная рыфма.

Аб шырокай вядомасці былін на Беларусі гаворыць і «Быліны абградзе Себежы». У зборніку «Рускія быліны...» пад рэдакцыяй акад. Н. С. Ціханравава і праф. Ус. Ф. Мілера (Масква, 1894) змешчаны «Повесть о сильном могучем богатыре о Илье Муромце и о Соловье Разбойнике» (стар. 2—4), «История о Илье Муромце и Соловье Разбойнике» (стар. 4—7), «Повесть о Илье Муромце и о Соловье Разбойнике» (стар. 7—9) і «Сказание о Илье Муромце и о Соловье Разбойнике» (стар. 10—11).

У гэтых чатырох былінах Ілля Мурамец паказан як збавіцель горада Себежа (б. Віцебская губ.), за што Себежскі цар дзякаваў Іллю, прапаноўваў яму дарагія падарункі.

Н. С. Ціханраваў меркаваў, што гэтыя быліны былі ўзяты з больш старых спісаў, магчыма з рукапісаў XVII ст. Гэта меркаванне мае сур'ёзныя падставы, бо характэрныя назвы для XVIII ст. «старыны», «песні» нетыповыя для гэтых твораў. Яны па традыцыі старажытных пісцоў і летапісцаў называюцца «аповесцямі», «гісторыямі», «сказаннямі». Такое змешванне жанраў было характэрна для больш позняга часу. Па гэтаму поваду Ус. Мілер піша: «Быліны, пад пяром пісца, пакладаўшага іх на паперу, атрымалі назву «сказанні» і такім чынам пастаўлены былі нароўні з арыгінальнымі і перакладнымі гістарычнымі і паэтычнымі «сказаннямі», «словамі» і «аповесцямі» [1].

Аб тым, што гэтыя быліны запісаны былі да XVIII ст., сведчыць мова і празаічны пераказ, а таксама водгукі ў іх гістарычных падзей, якія адносяцца да XVI ст. (разгром літоўска-польскай арміі ў 1536 г. каля горада Себежа).

Быліны захоўваюць старажытнарускую мову, у якой, аднак, маюцца беларускія словы з іх беларускім вымаў-

---

[1] Вс. Миллер. Заметки к былинам. Журн. Мин. Нар. Просв., март, 1895, стар. 114.

леннем: «ажно под Ільёю конь впотыкнулся», «востру саблю», «і напущает на ніх сілу великую», «теж люди минавалиса» і інш.

Галоўнае месца ў былінах займае апавяданне аб разгроме Іллёй моцнага войска «трех заморских царей», у выніку чаго быў выратаван «град Себеж». Шмат увагі адводзіцца таксама апісанню ўшанавання, якое аказаў Іллю Себежскі князь.

Ус. Мілер у «Заўвагах аб былінах» [1], аналізуючы гэтыя быліны, пытае: «Чым растлумачыць вызваленне Іллёй Себежа, зараз павятовага горада Віцебскай губерні?» (стар. 118). Адказваючы на пытанне, ён спасылаецца на гістарычныя помнікі і тэксты народнай творчасці, якія сведчаць аб распаўсюджанні былін на Беларусі ў XVI ст. «У 1536 годзе,—піша Мілер,—польскі кароль Сігізмунд загадаў кіеўскаму ваяводзе Няміру разбурыць Себежскую крэпасць [2]. Але дваццацітысячнае войска літоўцаў і палякаў выступіла даволі няўдала.

Наступ непрыяцеля да крэпасці быў адбіт. Літоўцы і палякі, бітыя і гнаныя рускімі, кінуліся ўцякаць паільду Себежскага возера, але пад іх цяжарам лёд праваліваўся і мноства ўцякаўшых загінула ў вадзе глыбокага возера» [3]. Гэта падзея, па думцы Ус. Мілера, і паслужыла повадам для стварэння былін аб горадзе Себежы. «Аб моцным уражанні, — піша ён, — зробленым у Маскве і, вядома, у рускіх абласцях, блізкіх да Себежа, сведчыць пабудаваная ў горадзе царква св. Троіцы як ушанаванне гэтых падзей. Таму можна думаць, што пасля, магчыма, яшчэ ў тым жа XVI стагоддзі ці ў наступным, калі рэальныя рысы гістарычнага факту ўжо згладзіліся ў народнай памяці, і ён прыняў няпэўную эпічную афарбоўку, народны асілак Ілля быў пастаўлен у сувязь з горадам Себежам і з'яўляўся яго выратавальнікам ад нейкіх царэвічаў заморскіх, якія хацелі праваслаўныя цэрквы на дым пусціць і Себежскага цара ў палон узяць.

Такое прыстасаванне подзвігу Іллі Мурамца да горада Себежа сведчыць аб тым, што ў XVI ст., калі можна

---

[1] Журн. Мин. Нар. Просв., март, 1895, стар. 100—124.

[2] Крэпасць была пабудавана ў 1535 г. наўгародцамі і пскавіцянамі для абароны ад польска-літоўскіх захопнікаў.

[3] Вс. Миллер. Заметки к былинам. Журн. Мин. Нар. Просв., март, 1895, стар. 118—119.

так меркаваць, імя Іллі-асілка было вядома беларускаму насельніцтву» [1].

Безумоўна, разгром пад Себежам моцнай польскай і літоўскай армій не мог прайсці бясследна для народнай памяці, аднак толькі гэтым гістарычным фактам нельга растлумачыць паяўленне былін пра Себеж. Як відаць, у іх узнікненні вялікую ролю адыгралі моцныя былявыя традыцыі на Беларусі, якія бяруць свой пачатак са старажытнарускага былявога эпасу і ўзмоцнена развіваюцца на Беларусі на працягу амаль усёй эпохі феадалізму.

Бліжэй да ісціны стаяў А. М. Весялоўскі. У сваім артыкуле «Ілля Мурамец і Салавей Будзіміравіч у пісьме XVI ст.» [2], гаворачы аб Кміце Чарнабыльскім, ён піша: «Я не стану перавялічваць значэнне паведамляемага тут; у крайнім выпадку яно можа служыць сведчаннем геаграфічнага распаўсюджання былін, бо Валовічу павінны ж былі быць зразумелыя алюзіі на асілка, ды і Кміта разумее іх як нешта агульнавядомае».

Аналізуючы погляд на Салаўя Будзіміравіча Кміты Чарнабыльскага, Ус. Мілер прыходзіць да заключэння: «...Мы асмельваемся зрабіць здагадку, што Кміта Чарнабыльскі меў пра Іллю і Салаўя не зусім тыя ўяўленні, якія маем мы ў сучасны момант: Ілля не быў яму, мабыць, вядомы як сялянскі сын з сяла Карачарава; ён не ўяўляў Салаўя страшыдлам—не то чалавекам, не то птушкай — забітым Іллёй за непаслушэнства пры двары Кіеўскага князя. Такое меркаванне Кміты... не стаіць у супярэчнасці з кароткай рэдакцыяй сказання пра Іллю Мурамца, якое існавала ў XVII ст., і, відаць, гаворыць у карысць адноснай старажытнасці гэтай рэдакцыі» [3].

Можна згаджацца ці не згаджацца з тлумачэннем Ус. Мілера прычын паяўлення вобраза багатыра Іллі—абаронцы старажытнага горада Себежа, ці з тлумачэннем А. М. Весялоўскага аб неўласцівым для рускіх былін, запісаных у XVIII—XX стст., сяброўстве Іллі Мурамца з Салаўём Будзіміравічам, але факт застаецца бясспрэчным, што ў XVI — XVIII стст. у Беларусі былі быліны, яны многім розняцца ад рускіх былін, запісаных у пазнейшы час. Гэта дае падставу мерквацц, што яны былі

[1] Журн. Мин. Нар. Просв., март, 1895, стар. 119—120.
[2] А. М. Веселовский. Южнорусские былины, II, стар. 64.
[3] Журн. Мин. Нар. Просв., март, 1895, стар. 124.

мясцовымі былінамі, народжанымі многавяковай старажытнарускай былявой традыцыяй і грамадска-гістарычнымі ўмовамі Беларусі.

Да «Былін аб градзе Себежы» прымыкае і вялікая колькасць эпічных песень пра Смаленск, у якіх адлюстроўваецца сумесная барацьба рускага і беларускага народаў супраць літоўскіх захопнікаў [1]. Аб барацьбе рускага і беларускага народаў за Смаленск з татарскімі, літоўскімі і польскімі захопнікамі складзена многа народных песень і казак, духоўных вершаў і жыцій, летапісных паданняў і аповесцей, «допісаў», «слоў» і «прамоў». Дастаткова назваць «Прамову Мялешкі, кашцеляна смаленскага», шматлікія варыянты сказанняў (каля трыццаці), жыцій і духоўных вершаў пра Мяркурыя смаленскага, многія варыянты і спісы «Аповесці аб паўстанні чорных людзей у Смаленску», рад рускіх гістарычных песень аб горадзе Смаленску і многа беларускіх народных песень і казак, прысвечаных гэтаму гораду, які знаходзіўся на мяжы беларускіх і рускіх зямель. На працягу рада стагоддзяў Смаленск з'яўляўся буйным культурным цэнтрам і важнейшым баявым фарпостам Маскоўскай дзяржавы, абараняўшым подступы к Маскве. Вось чаму аб абароне Смаленска ад татарскіх, літоўскіх, польскіх, нямецкіх і іншых захопнікаў склаліся і адшліфаваліся за стагоддзі многія вусныя і пісьмовыя мастацкія творы, якія маюць аднолькавыя адносіны да фальклору і літаратуры Расіі і Беларусі. Аб гэтым сведчаць шматлікія творы фальклору, запісаныя ў Смаленскай губерні.

Не выпадкова «Аповесць пра паўстанне чорных людзей у Смаленску» (1440) увайшла амаль ва ўсе рускія і беларускія летапісы. А калі ўлічыць, што частка насельніцтва смаленскіх зямель складае этнаграфічнае адзінства з насельніцтвам Беларусі, то стане зусім зразумела, чаму фальклarысты ўключылі і ўключаюць пэўную частку фальклору Смаленшчыны ў беларускія зборнікі і наадварот.

Менавіта з гэтага боку рускія гістарычныя песні аб абароне Смаленска ад літоўска-польскіх захопнікаў

---

[1] Відаць, некаторая частка былін і гістарычных песень, прысвечаных Смаленску, таксама адносіцца да эпасу беларускага народа. Гл. В. Ф. Миллер. Исторические песни русского народа XVI—XVII вв., Петроград, 1915, стар. 631—643.

маюць велізарнае пазнаваўчае значэнне для гісторыі беларускай народнай творчасці [1].

Прадстаўляе вялікую цікавасць таксама быліна аб трох багатырах (Іллі, Алёшы і Дабрыне), тэкст якой разам з напевам запісаў А. Л. Маслаў у 1908 г. [2] у Краснянскім п. Смаленскай губ. Гэта быліна зацікавіла былога дырэктара Маскоўскай кансерваторыі вядомага кампазітара Іпалітава-Іванава, які апрацаваў яе мелодыю.

Іпалітаў-Іванаў назваў гэту быліну «З'езд багатыроў». Прыходзіцца пашкадаваць, што запісана толькі 24 радкі быліны і што быліна падверглася апрацоўцы; аб гэтым гаворыць М. А. Янчук у сваім артыкуле «Аб музыцы былін» [3]. Пакуль што не ўдалося знайсці арыгінал быліны, і таму застановімся на ёй у рускім перакладзе.

Быліна пачынаецца незвычайным зачынам:

Что не три горы зашаталися,
Что не три горы зашаталися,
Три богатыря соезжалися,
Три богатыря соезжалися,
Илья Муравец с товарищами,
Илья Муравец с товарищами.

Тры асілкі радзяць «раду новую»: кого в поле встреним, того в смерть убьем».

Але вось сустракаецца ім «калечище, все убогое, все безногое».

А у него шляпа сорока пудов,
А у него костыль двадцати сажень
Становится он ■ стороне пути,
Костыль ставит середи пути.

Вешае калека капялюш на кастыль і вітае трох асілкаў.

---

[1] Гл. тэксты песень пра Смаленск у зб. Ус. Мілера «Исторические песни русского народа XVI—XVII стст.», Петроград, 1915, стар. 631—643.

[2] Быліна з нотамі апублікавана пад назвай «Белорусская былина» ў «Трудах музыкально-этнографической комиссии», існаваўшай пры «Обществе любителей естествознания, антропологии и этнографии» пры Маскоўскім універсітэце, т. IV, стар. 106.

[3] Зб. «Памятники всемирной литературы. Рус. уст. словесность. Былины, ист. песни», М., 1919, стар. 545.

Гэта толькі пачатак быліны, увесь паэтычны змест якой мала цікавіў музыкантаў і кампазітараў: яны далі толькі тую частку тэксту, якая неабходна была для запісу мелодыі.

Кідаецца ў вочы незвычайны зачын гэтай быліны. Яшчэ больш цікавы эпізод аб сустрэчы трох асілкаў з «каличищем убогим» і бязногім.

Абяздолены люд — калекі, па адным і групамі, вандруючы ад вёскі да вёскі, ад горада да горада, пелі малітвы, духоўныя вершы, гістарычныя песні, быліны, за што ад насельніцтва атрымлівалі міласць, якая служыла адзіным сродкам іх існавання. У значнай меры яны былі носьбітамі і папулярызатарамі народнай творчасці. Адсюль зусім зразумела ўсхваленне багатырскай фізічнай сілы і высокай маралі Калечышча.

Маючы велізарную сілу багатыра, які насіў «шляпу сорока пудов» і кастыль «двадцати сажень», ён пры сустрэчы з Іллёй Мурамцам, Алёшай Паповічам і Дабрыняй Нікіцічам скромна становіцца ў баку шляху, здымае свой багатырскі капялюш і мірна вітае іх, называючы кожнага з іх ласкавым словам:

Здравствуйте, братцы, вы товарищи,
Илья Муромец с товарищами,
Ай с Алешечкой со Поповичем,
Со Микитушкой со Добрынюшкой.

Калечышча паказан тут больш дужым, чым былінныя волаты. Апрача таго, ён маральна вышэй іх, ён не імкнуўся «в смерть убить» кожнага сустрэчнага ў полі.

Хаця быліна і падаецца на рускай мове, аднак і тут захаваліся асобныя рысы беларускай гаворкі, аб чым сведчаць такія выразы і словы: «радили раду», «встренем», «загубили», «со Микитушкой».

Як бачым, быліны былі вядомы ў Беларусі аж да XX ст.

Па свайму зместу, па структуры верша, па паэтычнай мове, прыёмах характарыстыкі дзеючых асоб да былявой традыцыі прымыкаюць і многія беларускія песні гістарычнага зместу.

Прывядзём некалькі прыкладаў. У гэтых адносінах маюць цікавасць найбольш старажытныя гістарычныя песні, якія адлюстроўваюць барацьбу з татарскім на-

шэсцем: «Ой, літаў-пылітаў ды сівы гарол...» [1], «Наехалі, наехалі усе татарыны...» [2], «У недзелю пад панедзелак...» [3], «А ў неділю параненько наіхалы татары...» [4] і інш.

У песні «Ой, літаў-пылітаў ды сівы гарол...» выкарыстоўваецца традыцыйны вобраз незалежнага, вольналюбівага арла, які на пытанне: «А дзе ж быў-жыраваў ты, сівы гарол», адказвае:

А я быў-жыраваў // на пабоішчы,
Над шырокай ракой // кыля Клеціўска!
А там послынь [5] сьцеліна // ды галовымі,
Усё галовымі // мылайцоўскімі;
А там кроў плыве // ды Дунай-ракой,
А ваўкі грызуць // белы костычкі!
Там агні гырацъ // там катлы кыпяць
І татары стыяць // палон дзелючы.

У песні захаван былявы тон апавядання, рытмічны склад, цэзура былін і асобныя іх моўныя і выяўленчыя сродкі. Напрыклад:

Там агні гырацъ, там катлы кыпяць
І татары стыяць, палон дзелючы.

Малюнак:

А там послынь сьцеліна да галовымі,
Усё галовымі мылайцоўскімі;
А там кроў плыве ды Дунай-ракой,
А ваўкі грызуць белы костычкі!

некалькі нагадвае вядомы эпізод са «Слова аб палку Ігаравым»:

...скочи влъком
до Немиги [6] с Дудуток.
На Немизе снопы стелют головами,
Молотят чепи харалужными.
На тоце живот кладут,
веют душу от тела.
Немизе кровави брезе
на бологом бяхут посеяни,
Посеяни костьми русских сынов [7].

---

[1] В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, СПб., 1891.
[2] Там жа.
[3] Е. Романов. Белорусский сборник, вып. 1—2, стар. 49—50.
[4] Д. К. Булгаковский. Пинчуки, СПб., 1890, стар. 94—95.
[5] Пасцель.
[6] Немига—рэчка, якая працякала праз г. Мінск.
[7] Слово о полку Игореве, М.—Л., 1950, стар. 25.

У песні расказваецца, як татарын «...привез цещу малодой жене». Тут амаль паўтараецца змест вядомай рускай гістарычнай песні «Татарскі палон».

На ўгаворы дачкі — жонкі татарына — застацца ў яе гаспадыняй:

Бяры золата-срыбра сколькі табе трэба,
А будзь ў міне, родна, як у сібе дома.

маці адказвае:

Дзіцятка маё, Алёнка мілое,
Не нада мне грошы, пусьці да дому,
Пусьці да дому ў Клецькі староны.

Цікавыя таксама песні «Наехалі, наехалі усе татарыны...», «У недзелю пад панедзелак...» і інш.

Па прыёмах гераізацыі людзей блізка да былін стаяць многія песні, якія адлюстроўваюць барацьбу з польскімі захопнікамі. Такімі з'яўляюцца шматлікія ўкраінскія і беларускія песні пра Бандароўну [1].

Па ўчынках герояў, па манеры тыпізацыі і гераізацыі грамадскіх падзей і людзей, па многіх паэтычных прыёмах і мове да былявой творчасці можна аднесці некаторыя эпічныя творы, якія трапілі ў зборнік духоўных вершаў.

Пад духоўнымі вершамі прынята разумець царкоўную творчасць на біблейскія тэмы, з характэрнай для яе прапаведдзю хрысціянскага аскетызму і містыкі. Аўтарамі такіх вершаў, далёкіх ад жыцця і дзейнасці народа, Максім Горкі лічыў «манахаў, жаласлівых «старыц», ахопленых горам і нягодамі свету, і ўвогуле безымянных «гуманістаў» з асяроддзя ўшчэмленага жыццём мяшчанства» [2].

У перыяд польскага панавання ў разбуранай, збяднелай, цёмнай беларускай вёсцы была папулярная гэта творчасць царкоўнікаў.

М. Горкі гаварыў, што «... яшчэ ў XIX стагоддзі ў Беларусі хадзіў па вёсках Хрыстос, якога суправаджалі «святыя» [3].

---

[1] На аснове гэтых песень Я. Купала стварыў сваю вядомую паэму «Бандароўна».
[2] М. Горький. Собр. соч., т. 27, М., 1953, стар. 496—497.
[3] Там жа.

Пры дапамозе малітваў, царкоўных легенд, духоўных вершаў «царква, імкнучыся прымірыць раба з яго лёсам і ўмацаваць сваю ўладу над яго розумам, суцяшала яго, ствараючы герояў пакорлівасці, цярпення, пакутнікаў «Хрыста радзі», стварала самотнікаў, выганяючы бескарысных для яе людзей у пустыні, у лясы, у манастыры»[1].

Але далёка не ўсё насельніцтва Беларусі было ва ўладзе рэлігіі. Яго перадавая частка, знаходзячыся пад уплывам ідэй антыпрыгонніцкай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы, пачынала ўжо разумець, што віноўнікам яго гаротнага становішча з'яўляецца не злы дух, а пан-прыгоннік, што выйсця з цяжкага становішча трэба шукаць не ў малітвах, а ў тапары, у паўстанні. Перадавая частка сялянства, узняўшы тапор на прыгонніка, замахнулася на рэлігію, якая апраўдвала прыгнёт і эксплуатацыю прыгоннага сялянства.

Іменна гэтым трэба растлумачыць паяўленне ў беларускага народа, як і ў іншых народаў у XVII—XIX стст., велізарнай колькасці антыпрыгонніцкіх твораў і разам з імі не толькі антыпапоўскіх, але і антырэлігійных прыказак, казак, песень.

Беларускі народ здаўна гаворыць: «Бог сірату любіць, але долі не дае», «Узяў божку за ножку, ды аб падложку», «Поп служыць не для Ісуса, а для хлеба куса».

Каб адцягнуць інтарэсы народных мас ад атэістычных ідэй, дваранскія і буржуазныя рэакцыйныя фалькларысты спрабавалі даказаць, што галоўным жанрам рускага, украінскага, беларускага фальклору з'яўляюцца духоўныя вершы. Прадстаўнікі так званай афіцыяльнай народнасці і славянафілы старанна збіралі і выдавалі духоўныя вершы, не грэбуючы часам грубай фальсіфікацыяй народнай творчасці. Імкнучыся паказаць народнасць і папулярнасць духоўных вершаў сярод насельніцтва, яны наўмысна ўключалі ў зборнікі духоўных вершаў эпічныя творы, якія нічога агульнага не маюць з царкоўнай мараллю. У выніку многія песні гістарычнага і бытавога зместу былі аднесены да духоўных вершаў толькі на той падставе, што ў іх упаміналася імя бога ці якога-небудзь «святога».

---

[1] М. Горький. Собр. соч., т. 27, М., 1953, стар. 310.

Паказальны ў гэтых адносінах зборнік духоўных вершаў П. А. Бяссонава[1]. Услед за Бяссонавым і збіральнікі беларускага фальклору называлі часам духоўнымі вершамі глыбока народныя творы. Калі выкінуць з гэтых «духоўных» вершаў дзве-тры страфы (магчыма, штучна ўключаныя збіральнікамі ці выдаўцом) рэлігійнага зместу, то верш ператвараецца ў звычайную эпічную песню гістарычнага ці бытавога зместу. Такі, напрыклад, духоўны верш «Быліна аб Барысе і Глебе і Святаполку Акаянным»[2]. Гэты твор прысвечан вядомай гістарычнай падзеі: забойству ў XI ст. сыноў князя Уладзіміра Святаслававіча Барыса і Глеба. Аб гэтай гістарычнай падзеі маецца многа народных песень і летапісных паданняў. Тут гаворыцца аб тым,

Як у слаўным городзе Кіеве,
Як жыў сабе Владзімір князь,
Ён ў сваём доме благочынном,
Ён ў сваёй каменной палаце.

Далей расказваецца, што ў князя было «дванаццаць чадаў», з якіх

Ён только залюбіў тры чады,
Тры чады надзежные:
Борыса, Хлеба, Владзіміра.

Сын князя Уладзіміра Полгей, авалодаўшы Кіеўскім княствам, падзяліў гарады паміж братамі:

Владзіміру чаду даў Кіеў-город,
А Чэрнігоў-город Хлебушку,
А Магілеў Борысу.

Далей у былінным стылі апавядаецца аб каварным забойстве Полгеем «под Вышгородом» Барыса і Глеба.

Загубіў іх ён, Борыса копьем пробіў,
А Хлебушка ножом заколоў.
Борыс і Хлеб просілі брата Полгея:
— Ой, брацец мой, брацец святой Полгей.
Ой, не узрэй, не губі нас людзей молодых.

Але «ўражжы сын, ні айцецкі сын» не паслухаў просьбы братоў і забіў іх.

Ён побіўшы, погуляўшы,
Сам сабе уцешаецца,

[1] Калики перехожие, вып. I—VI, М., 1861—1874.
[2] Запісана ў Барысаўскім п. Мінскай губ. Авенарыусам (Образцы белорусского наречия разных местностей, СПб., 1890, стар. XIII—XX).

Што ему богацтво отставаецца,
Под Вышэгород подъезджаючы,
Под нім земля здрагонулася...

Як бачым, у змесце гэтага «духоўнага» верша нічога няма царкоўна-рэлігійнага. Толькі ў канцы яго гаворыцца аб нятленных святых мошчах Барыса і Глеба. Прычым канцоўка твору зусім не вынікае з яго зместу, таму што ніякіх «святых» подзвігаў да сваёй смерці Барыс і Глеб не зрабілі. Тут у быліннай форме апавядаецца не аб царкоўных, а аб свецкіх, аб гістарычных падзеях. Ідэйная накіраванасць гэтага твору таксама нічога не мае агульнага з духоўнымі вершамі. Гэты твор справядліва было б аднесці не да духоўных вершаў, а да былін ці гістарычных песень. Не выпадкова ён названы Авенарыусам «Былінай аб Барысе і Глебе і Святаполку Акаянным». Падобны твор запісан Я. Раманавым пад назвай «Сказанне пра Барыса і Глеба»[1].

У пачатку гэтага сказання даюцца вобразы Уладзіміра і яго сыноў.

А Владимир князь преставился,
А большой брат Святый-полок[2] князь.
Ен садився на доброго коня,
Ен на коня усадяше,
Да у чистое поле выяжжаше,
А у поли палаты напинаше.
Святополк пишет письмо
Своим двоим любезным брацом
Святому Борису и Хлебу:
Ни у пир гуляць, ни у бяседу—
Отца свойго роднаго хороници.

Апрача быліннага вобраза князя Уладзіміра тут маецца тыповы для былін прыём гіпербалізацыі.

Садзіўся ён на добраго коня,
Под ім земля здрыганулася,
І ў царстві вода сколыхнулася...

З быліннай паэтыкі запазычаны і некаторыя выяўленчыя сродкі з іх пастаяннымі эпітэтамі «добры коні»,

[1] Е. Романов. Белорусский сборник, вып. 5, Витебск, 1891, стар. 337—338.
[2] Там жа.

«чистое поле», з характэрнымі для былін адмоўнымі паралелізмамі:

Ни у пир гуляць, ни у бяседу—
Отца свойго роднаго хороніці...

Гэты яркі твор беларускага гістарычнага эпасу і па зместу і па паэтычнай форме далёкі ад духоўных вершаў, ён многім напамінае эпас Кіеўскай Русі.

Нават у тыповых духоўных вершах, якія нічога агульнага не маюць з народным эпасам, захоўваецца паэтычная структура былін. Возьмем для прыкладу яшчэ адзін духоўны верш «Пра Аляксея, чалавека божага»[1]. У ім апавядаецца аб нараджэнні ў княжацкай сям'і «божага чалавека... Ляксея». Бацька навароджанага князь Уладзімір

Царэй-королей заклікая,
Попов і дзяков зазывая,
І трі большія патріярхі,
У тыя у камянныя палаты.

Далей у стылі былін апісваюцца дзіцячыя і юнацкія гады Аляксея. Аляксея жэняць на прыгажуні-княгіні, ад якой ён тайком уходзіць і робіцца жабраком, пасля чаго памірае. Заканчваецца твор плачам бацькі, маці і жонкі Аляксея.

У зборніку П. В. Шэйна змешчан другі варыянт гэтага верша, яшчэ больш блізкі па сваёй паэтычнай структуры да былін.

Вось тыповы былінны зачын:

У тым же городзе // да у Риме.
У тым же городзе // у Ерусалиме.
Жыу там слаўны князь // Аухемянь
С обрученой своей // княгиней...

Гэтыя словы напамінаюць зачын былін «Об исцелении Ильи Муромца»:

Ай во славном было городе // во Муроме,
Ай во том было сели да // во Карачарови,
Там ведь жил-то был // богатой-от крестьянин...

Як і ў былінах, тут героі садзяцца «за столы цесовые», яны «пьют напитки дорогия» і ядуць «стравы сахарные».

Засадзили Лексея за столы,
Засадзили Лексея за цесовыя,

[1] Е. Романов. Белорусский сборник, вып. 5, Витебск, 1891, стар. 357—360.

За скацерци за беленые,
За напитками дорогими,
За стравами за сахарными.

Тут, як і ў былінах, шырока ўжываецца прыём перыяду з характэрнай для яго анафарай-паўторам адных і тых жа слоў у пачатку паэтычнага выразу:

Засадзили Лексея за столы,
Засадзили Лексея за цесовые.

Невядомы аўтар гэтага твору мала звяртае ўвагі на «святыя» ўчынкі Аляксея, ён з вялікім майстэрствам, як жывапісец, апісвае бытавыя дэталі, якія засланяюць сабой «подзвігі святога».

Калі княгіня Екацярына ў нябожчыку пазнала свайго мужа, яна дакарае яго ў плачы.

Чаму ж ты прежде не прызнався?
Я б тайком к табе приходила,
Пицэнне, ядзенне приносила,
Нихто б про нас с тобой не узнаў,
Грыху б мы с тобой не мали.

Гэта сугуба рэалістычная гутарка жонкі з мужам далёкая ад царкоўнай маралі.

У дзесятках варыянтаў духоўнага верша аб Лазары таксама шырока выкарыстоўваецца паэтычная і кампазіцыйная структура былін. Вось адзін з многіх прыкладаў:

Ты гниющий, Лазар, ляжыш у гнои,
Смярдзіш ты, Лазар, як мой лютый пес.
А яшчто моим братом узываешься,
Моим ты родом нарекаешься.
У мяне брата Лазара у роду не было,
Гэткай я сквернасьці слыхом не слыхау,
Есь у мяне брацi і получше цябе,
Есь у мяне брацi і князі, бояре,
Во вкоторых много злата серебра
Больше за того чиста жемчуга,
Вот тые мої брацьця возлюбленные;
Сам я не баюся жадных началоу,
От господа бога сам одмалюся,
От судов, от началоу деньгами откуплюся,
От зла человека ружьем отобьюся [1].

Можна было б прывесці яшчэ дзесяткі прыкладаў, якія пераканаўча гавораць аб глыбокім пранікненні старажытнай быліннай паэтыкі нават у духоўныя вершы.

---

[1] П. В. Шейн. Материалы..., СПб., 1893, стар. 583.

Былявы эпас пакінуў свае акрэсленыя сляды і ў летапісных паданнях, аповесцях і плачах. І гэта зусім зразумела.

Баяры, шляхецкая і пазней дваранская знаць на працягу стагоддзяў цураліся не толькі фізічнай працы, але і службовай дзейнасці. Вось чаму летапісцамі, перакладчыкамі, выдаўцамі кніг, аўтарамі старажытных твораў дзелавой і мастацкай літаратуры былі пераважна здольныя выхадцы з народа.

Не выпадкова многія нават дзелавыя запісы даваліся ў летапісах у найбольш даступнай для летапісцаў форме—у формах народнай творчасці, з характэрнай для яе вобразнасцю, эмацыянальнасцю, мастацкімі прыёмамі, яркай народнай мовай, накшталт: «Нашли горы высокие, а на оных горах равнины великие и дубравы роскошные и размаитое офитности наполненых разное рожою» (ружаю.—*С. В.*) [1].

Некаторыя летапісныя сказанні і аповесці лёгка ўкладваюцца ў рамкі народнага эпічнага верша.

Рэзка вылучаюцца рысы старажытнарускага эпасу ў беларускім летапісным «Сказанні аб барацьбе з Батыем» (плач княгіні Марыі па яе мужу—князю Васілю). Сказанне гэта змешчана ў Супрасльскім і ў Нікіфараўскім спісах [2]. У ім апавядаецца аб гібелі двух мужных рускіх князёў—Юрыя Усеваладавіча і Васіля Канстанцінавіча. Тут жа змешчан плач княгіні Марыі аб сваім мужы Васілю (Васільку). У плачы княгіні, як і ў плачы Яраслаўны, ідэалізуюцца воінскія доблесці і патрыятызм князя Васіля. Плач Марыі захоўвае многія рысы паэтыкі народнага плачу. Ён лёгка дзеліцца на вершы з характэрнай цэзурай.

У сказанні гаворыцца, што татары не маглі прыцягнуць на свой бок князя ні «грозою», ні «моукамі», ні «ласкаюче его дарами и ризами безьценьными». Вось зачын плача:

И бе плачь велик во всемь (граде)
Рыдание невтомимо и жалосные слезы
Иливани быша яко вода много.

Апрача ярка выражанай эпічнай напеўнасці, плач характарызуецца тыповымі народнымі параўнаннямі, трап-

---

[1] Полн. собр. русских летописей, т. XVII, Западнорусские летописи, СПб., 1907, стар. 228—229.

[2] Там жа, стар. 19—21.

нымі эпітэтамі і яркай метафарыстычнасцю («И жалосныя слезы изливани быша, яко вода много», «и нищим и печальнымъ былъ яко отец чадолюбив». Татарскія захопнікі называюцца «сыроядьцамі», «пауганамі», князь Васіль «красен бе лицемъ и оумиленнымъ образом», ён «сердцем легокъ» і г. д.).

Глыбокі патрыятызм і дэмакратызм гэтага твору, яго песенная структура з тыповымі для народнага эпасу мастацкімі прыёмамі і народнай мовай дае падставу збліжаць яго з эпічнымі сказаннямі народнага характару, якія многім напамінае быліны.

Асабліва адчуваецца былінная форма летапісных «Пахвал Вітоўту»[1].

Вось зачын адной з шматлікіх «Пахвал Вітоўту» па Супрасльскаму спісу, які таксама лёгка дзеліцца на радкі:

...хочю вам поведати // о великом князи
александри зовемем // Витовети Литовском
и воуском иных многих земель гсдрь[2]
. . . . . . . . . . . . .
но немощьно исповедати,
Ни писанию предати дела великого князя.
Яко // же мощно комоу испытати
высота небесная и глоубина морская
тоже бы исповедати мощьно
Сила и храбрость того сильного государя.

Словы: «но немощьно исповедати, ни писанию предати дела великого князя» напамінаюць казачную формулу: «ни в сказке сказать, ни пером описать». Формула: «Яко же мощно комоу испытати высота небесная и глоубина морская» таксама вельмі папулярна ў багатырскім эпасе — «высота ли высота поднебесная, глубота-глубота океан-море».

У гэтым плане мае асаблівую цікавасць «Аповесць аб паўстанні чорных людзей» (1440 г.).

Няма сумнення ў тым, што гэта летапісная аповесць узнікла на народнай аснове, што яна ўвайшла ў летапіс як гатовае (ці амаль гатовае) народнае паэтычнае сказанне, якое бытавала да таго, як яно было запісана летапісцамі. Аб гэтым сведчыць незвычайны для летапісу глыбокі народны змест і ярка выражаная песенная

---

[1] Вітоўт (Вітоўтас)—Вялікі князь Літоўскі (1392—1430).
[2] Полн. собр. русских летописей, т. XVII, Супрасльский список, стар. 64—65.

структура, парушаная ў радзе месц летапісцамі ў мэтах маскіроўкі народнага характару твору.

У аповесці расказваецца аб паўстанні і гераічнай барацьбе «чорных людзей» [1] Смаленска з літоўскімі і польскімі захопнікамі. Вось урывак з гэтай аповесці:

здоумаша Смоляне. черные люди
коузнеци кожемяки перешевники
мясьники котельники пана Андрея //
согнати силою с города.
а целование перестоупили.
и наредилися во изброи
и со лукщами [2] и со стрелами
И с косами и зь секерами [3]
и зазвонили в колокол [4].

Тут ясна адчуваецца песенная напеўнасць, выразны песенны і эпічны тон апавядання. Кожны верш аповесці дзеліцца цэзурай на два паўвершы з традыцыйнымі вольнымі працягамі ці скарачэннем верша ў залежнасці ад зместу і дынамікі перадаваемых падзей. Так, напрыклад, для паказу нарастання грознага паўстання «чорных людзей» удала выкарыстан прыём градацыі:

А а целованне престоупили
и наредилися во изброи
и с косами изь секерами,
и зазвонили в колокол...

У гэтым эпічным творы ўцалела нават рыфма:

посады и церкви и монастыри пожьгоша
а людеи много множество посекоша
а живых в полон поведоша.
И много зла сотворися и поидоша прочь.

Песеннае паўнагалоссе: «не отступати», «не пристоупати», «держати» і іншыя традыцыйныя эпічныя прыёмы таксама гавораць аб сувязі з народным эпасам.

У гэтым творы маецца малюнак лютай зімы, які служыць фонам грозных сацыяльных падзей і сімвалізуе сабой народныя бедствы. Замалёўкі прыроды выкарыстоўваюцца тут і як сродак эзопаўскай мовы.

Гэты твор мае вялікае навукова-пазнавальнае значэнне.

---

[1] Аповесць увайшла ў скарочаных і поўных варыянтах у дзевяць спісаў літоўска-беларускіх летапісаў.

[2] У Увараўскім спісе: «и сулицами».

[3] У Увараўскім спісе: «...пошли с копи на конях противу им».

[4] У спісе Красінскага: «и зазвонили в колокол ратный».

Як бачым, быліны пакінулі свае сляды і ў творах беларускага летапісання.

Такім чынам, «былінная форма», «былінная паэтыка», «былінны стыль» характэрны не толькі для былін, але і для многіх летапісных сказанняў, аповесцей і галашэнняў, гістарычных песень і нават для некаторых духоўных вершаў. Нам думаецца, што было б нацяжкай бачыць ва ўсім гэтым толькі ўплыў былін Кіеўскай Русі. Напрашваецца пытанне: ці не паявілася шырока распаўсюджаная эпічная форма, якую мы называем былінай формай, раней саміх былін? Магчыма, што гэта гістарычна склаўшаяся старажытная эпічная форма ўсходніх (ды і не толькі ўсходніх) славян была шырока вядома ў далёкім мінулым дакласавага грамадства. Мы схільны лічыць такую гіпотэзу правамернай. Калі ў далейшым наша меркаванне пацвердзіцца данымі навуковых даследаванняў, то ў другім святле паўстануць перад намі і быліны.

Акрамя творчасці, блізкай да былін, беларусы ведаюць гістарычны эпас, творы якога не маюць формы былін. У гэтай творчасці ўжо няма эпічных багатыроў, але яна адносіцца да гераічнага эпасу, паколькі адлюстроўвае ў эпічнай форме гераічную барацьбу народа.

Аб гістарычным эпасе беларускага народа таксама амаль нічога няма ў друку. Незаслужана забыта і гэта важнейшая творчасць народа. Да нас дайшло каля сотні цікавых песень гістарычнага зместу аб барацьбе беларускага народа з татарскімі, турэцкімі, літоўскімі, польскімі і іншымі захопнікамі, а таксама маса антыпрыгонніцкіх эпічных песень.

Беларускі народ асуджаў у сваіх гістарычных песнях захопніцкія войны, якія прыносілі страшэнныя пакуты насельніцтву Беларусі.

У песні «Каля лесу, каля цёмнага...» даецца карціна вяртання цяжка параненага воіна дамоў. Яго сустракае маці і пытае:

Ох, ты, сынку, мой сынок,
Нашто так ківаесся,
Што на коніку хістаесся?

Сын адказвае:

Ох ты, маці моя матушка,
Ні сам я ківаюся,—
Упаіў мяне татарскі сын:
Тром ножыкам вараўскім,

А чацьвёртай шабляй войстрай,
А пятай—куляй простай.

У песні «Са вечыра дождж, кі утру туман...» паказваецца горкі лёс маладой удавы, мужа якой забілі татары.

Гляну, маладзёшынька, у вакошачка
Па уліцы, уліцы татары ідуць,
Майго мілінькага коніка вядуць.
Знаць жа мой мілый убітый ляжыць,
А мне, маладзёшынькі, удавою быць.
Маім дзетушкам горькый сіратою.

Пра цяжка параненага альбо забітага татарамі бацьку, мужа, брата спяваецца і ў іншых песнях. Так, у песні «Вох ты, ёлка, ялінка...» даецца вобраз параненага воіна, у якога сарочка «ўся кроўю скіпела». Воін кажа, што сарочку яму

А ня шыла матушка,
Ні страчыла сястріца,—
Вох і шылі татары,
А страчылі калмыкі;
Вох і шылі татары
Вострымі мічамі,
Страчылі калмыкі
Залатымі штыкамі.

Татары забіралі не толькі маёмасць у насельніцтва, але ўводзілі ў палон усіх працаздольных. Вось чаму так многа беларускіх, рускіх і ўкраінскіх песень аб «татарском полоне».

Многія гістарычныя песні вылучаюцца сваім патрыятызмам. У песні «Зашоў, зашоў маладзец...» пяецца пра малайца, які трапіў на «чужую старонку».

Налівалі малайцу
Тры поўныя чаркі:
«Выпі, выпі, маладзец,
Тры поўныя чаркі
Забудзь, забудзь, маладзец,
Пра сваю старонку».

Маладзец адказвае, што тугу аб роднай старонцы нельга заліць віном.

Ой, хоць вып'ю я,
П'яным я не буду.
Про сваю старонушку
Ва век не забуду.

Для паказу патрыятычных пачуццяў выкарыстоўваецца шырока папулярны ў народных песнях вобраз

арла — сімвала храбрасці, свабоды і незалежнасці людзей.

У песні «Ой, арол, ты арол...» сілай адарваны ад радзімы чалавек звяртаецца да арла:

Ці бываў ты, арол,
На маей старане?
Ці ня чуў ты, арол,
Разгавор аб мне?

Вельмі пашыраны ў такіх творах вобраз маці, жонкі, сяброўкі, гвалтоўна ўгнанай у палон татарамі.

У песні «Што по полю лібяда...» гаворыцца аб тым, што паланёная жанчына звяртаецца да бацькоў з просьбай выкупіць яе з палону. Але ні бацька, ні маці не пазналі дачку і адмаўляюцца дапамагчы, кажучы: «не наш род». Толькі яе любімы пазнае яе і прыходзіць на дапамогу.

Ёсць у мяне мілы друг,
Прі ў дарожынькі жывёць:
Ці ня выкупіць мяне,
Ці ня выручыць.
Ах, я к міламу на двор,
Мілый кажыць: «Вот мой род!» [1].

У радзе песень расказваецца аб тым, як бацька ў слязах збірае сына на вайну з туркамі.

Панясеш ты галоўку
У чужую старонку.
Занясеш свае плечы
Пад турэцкія мечы [2].

У песні «Зажурылася крутая гара...» пяецца аб нападзе на Русь турак. Туркі захапілі ў палон дзяўчыну па віне яе мілага.

Запісан шэраг песень аб турэцкіх войнах у пазнейшы час: «На граніцы мы, брацці, стаялі...», «Ах, спомнім, спомнім, брацці...», «Ні туман с мора, брацці, падняўся...» і інш.

У гістарычных песнях вельмі часта атаесамляюцца татарскія захопнікі з турэцкімі. У песні «У турэцкай зямлі...» гаворыцца:

У турецкай зямлі
За намі гнаўся
Тур да татарын
Злы дух паганы.

---

[1] В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, М., 1903, ч. IV, стар. 608.

[2] Песні беларускага народа, т. І, Мінск, 1940, стар. 138.

Асабліва шырока адлюстраваны ў беларускім фальклоры класавыя і нацыянальныя супярэчнасці. Аб гэтым сведчаць гістарычныя песні аб барацьбе беларускага народа з польска-каталіцкімі захопнікамі. Шматвяковы польска-каталіцкі прыгнёт зліваўся ў Беларусі і на Украіне з прыгонным уціскам. Польскі пан стагоддзямі быў увасабленнем сацыяльнага, нацыянальнага і рэлігійнага прыгнечання ў Беларусі і на Украіне.

Працяглая вострая антыпрыгонніцкая, нацыянальна-вызваленчая і рэлігійная барацьба беларускага народа з польска-каталіцкімі рэакцыянерамі выклікала вялікую колькасць гістарычных песень, казак, драм, прыказак і прымавак, у якіх шырока адлюстроўваліся, часам у вострай палітычнай форме, не толькі нягоды і цяжкае жыццё беларускага народа, але і яго ярка выражаны пратэст, яго непрымірымая барацьба з польскімі прыгнятальнікамі і эксплуататарамі.

У песні «Цяжка ды важка» спявалася:

Свеціць сонейка—ды не нам,
Свеціць яснае—ды панам.
Захавалі долюшку паны,
Без салодкага віна яны п'яны.
Нашай крові напіліся, як павукі,—
Стогнуць, стогнуць на радзіме мужыкі [1].

Асабліва нешчаслівым было жыццё беларускай жанчыны пад прыгнётам польскіх паноў. Аб цяжкай долі яе складзена шмат эпічных песень, у якіх жанчына паказана не толькі як ахвяра разбэшчаных польскіх паноў, але і як барацьбіт за сваю свабоду. Такімі з'яўляюцца многія песні аб Бандароўне. Некаторыя з іх змешчаны ў зборніку.

Беларускія песні аб Бандароўне сваёй ідэйнасцю, сюжэтамі і вобразамі вельмі нагадваюць украінскія песні аб Бандароўне. Песні адлюстроўваюць барацьбу ўкраінскага і беларускага народаў супраць польскіх захопнікаў.

У барацьбе з польска-каталіцкімі заваёўнікамі ўзнікла ўкраінскае і беларускае казацтва. Звесткі аб беларускіх казаках мы знаходзім у радзе гістарычных дакументаў. Так, у «Пастанове да запарожскіх казакоў» (1659) цар Аляксей Міхайлавіч «всея Великія, Малыя

[1] Дарэвалюцыйная і савецкая Беларусь у народнай творчасці, Мінск, 1938, стар. 27.

і Белыя Росіи» адводзіць спецыяльны артыкул аб беларускіх «чэркасцах» (казаках). У шостым артыкуле гэтай пастановы сказана: «О залогах на Бела Русі черкасцом не быть. В Городах же и Местех и местечках на Белой Росіи ныне и впред залогом черкаским не быть, штоб ссоры тем между ратных людзіей как у Великорусских с Белорусских неначинилосе». Далей гаворыцца:

«Полковником и Сотником и Казаком в Белой Росіи запорозким казаком не отзыватся. А Белоруским и Старобоховским и Чаусовским хто будет называться Войском запорозским и тех выслать ву Государевы черкаскіе Городы з их пожитки. А которые непохотят ити в черкаскіе Городы и тем жить ву местех а Казаками Запорозскими не азыватся. А если б которые оучнут озыватся Запорозскими Казаками и пойдут у Полскому королю тех имати и карат горлом».

Многія «лісты», якія адлюстроўваюць казацкі рух на Украіне і Беларусі, называюцца «Списками с листов с белоруского писма...» [1]

Аб беларускіх казаках маецца вялікая колькасць беларускіх песень.

Казацтва было вялікай і грознай сілай украінскага і беларускага народа ў барацьбе з іншаземнымі захопнікамі, асабліва з польскімі заваёўнікамі. У XVI—XVII стст. беларусы і ўкраінцы, у якіх быў агульны вораг — польска-каталіцкая рэакцыя, аб'ядналіся для аказання супраціўлення. Сярод запарожскага казацтва было, як вядома, шмат і беларускага насельніцтва. Акрамя таго, у Беларусі былі свае казацкія сотні і палкі, якія называлі сябе запарожскімі казакамі («чэркасцамі»).

Вобраз казака ў народнай творчасці XVI—XVII стст.— гэта ўвасабленне свабоды, любві да радзімы, мужнасці і адданасці народнай справе.

Народныя ўкраінскія песні аб запарожскіх казаках, аб іх праслаўленых атаманах (Дарашэнку, Сагайдачным, Марозе і інш.) вядомы і ў беларускіх варыянтах («Ой на горы да женцы жнуць», «Ой ты, Мороз, морозенку» і інш.).

У беларускіх казацкіх песнях адлюстроўваецца вызваленчая і антыпрыгонніцкая барацьба працоўных мас.

---

[1] Трехсотлетие воссоединения Украины с Россией. Под ред. А. М. Панкратовой, стар. 78, 85, 106, 111, 115, 117, 136, 149, 170 і інш.

Так, у песні «Кукoвала ды кукулечка», гаворыцца:

Падняліся
Да казачанькі
У поход на ватагі.
А за імі ды маёнтачкі
Агнём запылалі.

У Беларусі захавалася шмат песень, у якіх апавядаецца аб сумеснай антыпрыгонніцкай і нацыянальнай вызваленчай барацьбе рускага, украінскага і беларускага народа. Гэта песні аб татарска-турэцкіх і польскіх захопніках, шматлікія антыпрыгонніцкія песні.

Дайшлі да нас і беларускія песні аб Сцяпане Разіне. У песні «Сценька Разін» паказваецца непаражальнасць Разіна. У адказ на пальбу Астраханскага губернатара ён гаворыць:

І вы паліця, ні паліця,
І сваей сілы не губіця.
Мяне пушачка не забьець.
Мелка ружачка ня возьмець:
А только вобьець и возьмець
Адна дзеўка Астраханка,—
Вот ана меня ссушыла
І жывот-серца сокрушила.

У беларускіх народных песнях адлюстраваліся гістарычна склаўшаяся давер'е і глыбокая павага беларускага народа да Расіі, да рускага народа. Многія беларускія песні прысвечаны паказу важных падзей з рускай гісторыі, рускім гістарычным дзеячам. Вышэй ужо прыводзіліся прыклады паэтызацыі дзейнасці Івана Грознага. Захаваліся таксама песні і казкі пра Пятра І (песні «Как с-под гор, братцы, гусары...», «Как с-под лесу, лісочку...» і інш.).

Асабліва багата песень пра вайну з Напалеонам. Усе яны прасякнуты пачуццём патрыятызму. У песні «Як у нонішнім гаду...» гаворыцца:

Як у нонішнім гаду
Зыявіў хранцуз вайну,
Ды зыявіў хранцуз вайну
Ны Расеюшку на ўсю,
Ды на Расеюшку на ўсю
На матушку на Маскву.

У песні «Разарёная дарожка» расказваецца аб разбураных ваенных дарогах, па якіх «неприяцель вор, вор

французуз» уцякаў з Масквы. Апяваецца ў ёй (песні) харaство і магутнасць Масквы.

Ні хваліся, вор-хранцуз,
Своим слаўным Паріжой...
Палуччы, пачышчы, пачышчы Паріжа,—
Ёсць жа матушка жысць-Масква!
Хараша Масква строіна, строіна,
Белым камнем, выбіта, выбіта,
Жалтым пяском ўсыпана, ўсыпана [1].

У песні «Ты Расея, ты Расея...» пяецца аб храбрасці «донского казака», якога французы прынялі за купчыка. Яна з'яўляецца варыянтам рускай салдацкай песні аб «Платоне-казаку».

Шырокае адлюстраванне атрымала ў беларускіх песнях рэкруччына. Рэкрут, узяты ў царскую армію на 25 год, паўстае перад намі глыбока няшчасным чалавекам, у якога «ноженьки скованы, белы рученьки связаны, воля отнята». У рэкруцкіх і салдацкіх песнях народ выказаў сваю нянавісць да самадзяржаўя, да ваеншчыны з іх захопніцкімі войнамі, што прыносілі многа гора і пакуты народу і ў першую чаргу рэкруту.

У песні «Служыў драгун службу» спявалася:

Адбілі драгуну руку і нагу.
Дарма праліваў ён на вайне кроў,
Цяпер жа адсылаюць драгуна дамоў.
Прышоў драгун са службы дадому,
А ў доме ды няма нікога.
Пытае ён суседа:—Дзе мая жана?
А сусед гаворыць «Учора памярла!» [2].

Як бачым, беларускі народ усебакова і глыбока адлюстраваў у сваіх песнях найбольш важныя моманты сваёй цяжкай і ў той жа час гераічнай гісторыі. Песні гістарычнага зместу значна адрозніваюцца ад былін і песень быліннага складу. У аснове кожнай т. зв. гістарычнай песні ляжыць гістарычная падзея і, такім чынам, тут менш выдумкі і фантазіі, чым у былінах. Вось чаму гістарычныя песні больш рэалістычныя, чым быліны.

---

[1] В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, кн. IV, М., 1903.

[2] Р. Шырма. Беларускія народныя песні, Мінск, 1947, стар. 174.

Важнай асаблівасцю беларускіх гістарычных песень з'яўляецца зліццё ў іх ідэй нацыянальна-вызваленчага руху з ідэямі антыпрыгонніцкімі, што надае ім сацыяльную вастрыню.

Да эпічных жанраў вусна-паэтычнай народнай творчасці адносіцца велізарная колькасць песень бытавога зместу. Гэтыя эпічныя песні маюць вялікую пазнаваўчую цікавасць. Большасць з іх прысвечана цяжкаму жыццю прыгонных сялян.

Накармлю сыночка лебядою,
Пасалю я лебяду сваёю слязою.
— Еш, мой даражэнькі, ды спяшы,
А то прыганяты ўжо бяжыць.
Каб нашаму пану трасца ў бок
Як ён цябе сушыць, мой сынок.
(*«А ў бары зязюлька кукуе»*)

Беднасць і галеча беларускіх сялян дапаўнялася іх поўным бяспраўем. Над прыгонным чалавекам памешчык здзекваўся, як хацеў. Права першай ночы, прымусовая выдача замуж або жаніцьба на нялюбым чалавеку, насільная разлука з жонкаю і дзецьмі, продаж і абмен людзей на сабак, фізічныя і маральныя здзекі над прыгоннымі людзьмі, патрыярхальны, дамастроеўскі ўклад сям'і, якія былі на працягу вякоў пеклам для моладзі, асабліва для жанчын [1],—вось галоўны змест бытавых беларускіх песень.

Але цяжкасць гістарычнага лёсу Беларусі, галеча, беднасць і бяспраўе беларускага народа не пазбавілі яго высокіх ідэалаў, веры ў будучае, глыбокіх пяшчотных пачуццяў і запаветнай мары. Усе гэтыя якасці з'явіліся важнай асаблівасцю яго нацыянальнага характару. Большасць гэтых песень не ўкладваецца ў рамкі лірыкі. Яны маюць усе прызнакі апавядальных эпічных твораў: вялікі змест, разлічаны на разважанне, сюжэт, вобразы-персанажы, адпаведныя кампазіцыйныя элементы. Такім чынам; яны таксама з'яўляюцца састаўной часткай эпасу.

Але даследаванне гэтай часткі беларускага эпасу не ўваходзіць у задачы гэтага артыкула.

Застановімся коратка на казках.

---

[1] Гл. аб гэтым падрабязней у зборніку «Жанчына і беларуская народная творчасць», Мінск, 1940, стар. 258.

Сіла казак у тым, што яны падкупляюць людзей рознага ўзросту і рознага ўзроўню развіцця сваёй глыбокай змястоўнасцю, захапляюць фантазіяй і нечаканымі канфліктамі, сваім гумарыстычным і сатырычным сюжэтам, красамоўнай мовай.

«Што захапляе нас у паданні аб Зігфрыдзе?—пытаўся Ф. Энгельс.—Не гісторыя сама па сабе, а подлая здрада, ахвярай якой становіцца малады герой, а ўкладзеная ў яго глыбокая значнасць»[1].

На глыбокую змястоўнасць казак указваў У. І. Ленін, падкрэсліваючы, што ў кожнай казцы ёсць доля праўды. Аналізуючы нямецкія народныя кніжкі, Ф. Энгельс адзначаў высокія мастацкія якасці народнага эпасу. «Гэта дасціпнасць, — пісаў ён, — гэта натуральнасць задумы і выканання, дабрадушны гумар, які суправаджае заўсёды едкую насмешку, каб яна не стала занадта злоснай, здзіўляючая камічнасць абставін—усё гэта, сапраўды кажучы, здольна заткнуць за пояс значную частку нашай літаратуры»[2].

Казка і песня—гэта сапраўды вобразная гісторыя чалавецтва, увабраўшая ў сябе яго сілу і слабасць, яго перамогі і паражэнні, яго рэальную, часам горкую, сапраўднасць і запаветную мару аб чалавечым шчасці і свабодзе.

Вялікую выхаваўчую, пазнаваўчую і эстэтычную ролю мае багацейшы казачны эпас усходніх славян, які ўваходзіць сваімі карэннямі ў сівую старажытнасць агульнаславянскага перыяду. Казкі ўсходніх славян адкрываюць перад намі цэлую галерэю старажытнейшых, вякамі адшліфаваных яркіх вобразаў і характараў. Іх сюжэты, кампазіцыйныя і выяўленчыя сродкі, іх багацейшая прыгожая мова развіты, адшліфаваны за стагоддзі да бляску. Усходнеславянскі эпас з'явіўся фарміруючай асновай, на якой скlаліся і выраслі самыя багатыя ў свеце рускія, беларускія і ўкраінскія казкі.

З прычыны рада грамадска-гістарычных абставін беларуская казка заняла адно з пачэсных месц сярод казак славянскіх народаў, што не адзін раз адзначалася даследчыкамі казак.

---

[1] Ф. Энгельс. Родина Зигфрида. Статьи и письма, 1838—1845, М., 1940, стар. 65.

[2] Ф. Энгельс. Немецкие народные книги. Статьи и письма, 1838—1845, М., 1940, стар. 30.

Вялікае месца ў беларускім казачным эпасе займаюць беларускія багатырскія казкі.

Ёсць рад беларускіх казак, у якіх фігуруе Ілля Мурамец. Так, у казцы «Як Ілья Мурамец пабядзіў Салаўя Разбойніка, Абжору, Алькадзіма» захаваліся эпізоды быліны аб выздараўленні Іллі Мурамца і яго перамозе над Салаўём Разбойнікам.

У зборніках Раманава, Шэйна, Дабравольскага, Сержпутоўскага змешчана многа казак багатырскага характару, героі і сюжэты якіх маюць многа агульнага з героямі і сюжэтамі былін. Частка гэтых казак змешчана ў нашым зборніку.

Маюць вялікую пазнаваўчую каштоўнасць беларускія казкі аб Іване Грозным, аб Пятру I, аб войнах з палякамі, са шведамі, французамі і інш. Значнай папулярнасцю ў Беларусі карыстаўся Пётр I. Праф. А. В. Кокараў пісаў: «Народ высока ценіў барацьбу Пятра I за інтарэсы Рускай дзяржавы і супроцьпастаўляе яго баярам»[1]. Інтарэсы рускай дзяржавы заўсёды былі дарагі ўкраінскаму і беларускаму народам. Акрамя таго, гэтыя народы прымалі актыўны ўдзел у вайне са шведамі. «Партызанскія атрады, украінскія і беларускія, аказалі вялікую дапамогу рэгулярнай рускай арміі ў яе барацьбе са шведамі»[2].

Арыгінальныя і вельмі важныя антыпрыгонніцкія казкі ў Беларусі. У казцы «Ад чаго ліха на свеце» адлюстравана даволі высокая класавая свядомасць перадавой часткі сялян, якія ўжо зразумелі на сваім горкім вопыце прычыны сацыяльнага зла. Герой казкі—батрак кажа, што ліха на свеце ад таго, што несправядлівы сацыяльны лад, пры якім чалавек прыгнятае чалавека. Батрак яшчэ не бачыць рэальных сродкаў барацьбы за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, але ён пераканаены, што такая несправядлівасць на зямлі доўга не ўтрымаецца. Ён уяўляе сабе грамадства ў выглядзе велізарнай пірамідальнай кучы каменняў. Унізе маленькія каменьчыкі—сяляне, на іх большыя—паны і чыноўнікі, на гэтых больш буйных каменнях ляжаць велізарныя камені — прыдворныя і міністры цара, а на самым вер-

---

[1] А. В. Кокарев. Литература и театр, Очерки истории СССР. Первая четверть, Изд. АН СССР, М., 1954, стар. 703.

[2] Там жа, стар. 709.

се—самы вялікі камень — цар. Батрак гаворыць, што пад цяжарам усёй гэтай велізарнай каменнай кучы (царскай Расіі) трашчыць яе аснова—маленькія каменьчыкі (сяляне), не вытрымаюць яны доўга такога ўціску, і куча хутка распадзецца. Тады не будзе «ні паноў, ні мужыкоў — усе будуць роўныя... Мы, мажа, гэтага не дачакаемся, але нашы дзеці ці ўнукі дачакаюцца».

Цвёрдая ўпэўненасць народа ў сваю непазбежную перамогу над прыгнятальнікамі і эксплуататарамі, яго запаветная мара аб шчаслівым часе, калі не будзе прыгнятаць і эксплуатаваць чалавека чалавек, калі чалавек чалавеку не будзе ворагам, а сябрам, братам, таварышам, шырока адлюстраваны ў беларускіх казках і песнях.

Ужо Радзішчаў разумеў, што нельга зводзіць увесь рускі фальклор да абрадавай і бытавой творчасці; ён указваў на наяўнасць грамадска-палітычнай вуснай творчасці народа, якая выражала вольналюбівыя, рэвалюцыйныя імкненні працоўных.

Гэта давала падставу Ф. Энгельсу бачыць у народнай творчасці «скрыты сацыялізм»—стыхійнае, але не стрыманае імкненне працоўных усяго свету да сацыяльнай і нацыянальнай свабоды, да дружбы людзей і народаў, да мірнай працы і шчасця людскога.

Але гэтага ніяк не хочуць зразумець некаторыя фалькларысты, якія адносяць нават антыпрыгонніцкія песні і казкі да бытавой творчасці народа. Карыстаючыся ўстарэлай класіфікацыяй, яны ўсё яшчэ падраздзяляюць народныя казкі на казкі аб жывёлах, чарадзейныя, авантурныя і бытавыя казкі. Калі верыць гэтай класіфікацыі, то выходзіць, што народная творчасць не адыгрывала ніякай агульна-грамадскай ролі, што народ быў абыякавы ў вуснай творчасці да свайго палітычнага лёсу і захапляўся толькі бытавымі казкамі аб жывёлах, аб чараўніках і авантурыстах.

Эпічныя песні і казкі эпохі феадалізму рэалістычныя ў сваёй аснове. Гэта ў першую чаргу адносіцца да гістарычных песень і антыпрыгонніцкіх казак.

Максім Горкі пастаянна развіваў думку аб вытоках рэалізму са старажытнай народнай творчасці. «Ідэалізуючы здольнасці людзей і нібы прадчуваючы іх магутнае развіццё,—гаварыў А. М. Горкі,—*міфатворчасць у асновах сваіх была рэалістычная* (падкрэслена

мною.—*С. В.*). Пад кожным узлётам старажытнай фантазіі лёгка адкрыць яе ўзбуджальніка, а гэты ўзбуджальнік заўсёды—імкненне людзей палегчыць сваю працу. Зусім ясна, што гэта імкненне было ўнесена ў жыццё людзьмі фізічнай працы»[1].

Рэалістычны напрамак у беларускай казцы дасягае вышэйшай ступені свайго развіцця ў антыпрыгонніцкіх і антырэлігійных казках. Тут сапраўды дано тыповае ў тыповых абставінах. Тыповыя ў гэтых казках народныя героі, нягледзячы на іх казачныя подзвігі, тыповыя і ворагі народа, тыповыя грамадскія і бытавыя абставіны, у якіх разгортваецца дзеянне.

Развіццю рэалізму ўзмоцнена садзейнічаў рост класавай свядомасці народа, які дапамагаў працоўным усвядоміць рэальныя прычыны сацыяльнага зла і бачыць рэальны выхад з яго ў рэвалюцыйнай барацьбе. Вядома, рэалізм народных твораў гэтага часу носіць на сабе рысы гістарычнай абмежаванасці. Але пры ўсім гэтым іменна народны рэалізм быў асновай і адным з важнейшых фактараў развіцця рэалізму ў дэмакратычнай літаратуры.

Ітак, мы разгледзелі пытанні аб генезісе, гістарычнай і класавай сутнасці, аб ідэйных, жанравых і мастацкіх асаблівасцях беларускага эпасу. У заключэнні неабходна спыніцца на яго гістарычным лёсе.

Пытанне аб гістарычным лёсе эпасу атрымала сваё рашэнне ў працах рэвалюцыйных дэмакратаў і класікаў марксізма.

У пачатку XIX ст. у сувязі з выхадам у свет «Старажытных расійскіх вершаў» Кіршы Данілава разгарэліся шырокія спрэчкі аб гістарычным лёсе эпасу.

Славянафілы, адмаўляючы неабходнасць для народа асветы, літаратуры, ідэалізуючы дапятроўскую эпоху, усімі сродкамі намагаліся давесці, што вусная творчасць патрыярхальнага сялянства па свайму зместу і мастацкасці стаіць вышэй літаратуры. Яны спрабавалі давесці аб вечнасці, неўміручасці эпасу.

В. Г. Бялінскі высока цаніў вусную творчасць народа, але ў той жа час ён правільна лічыў, што чалавецтва пайшло не назад ад сучаснай яму літаратуры да фальклору, а ўперад, праз крытычнае засваенне ўсіх багаццяў фальклору да народнай літаратуры як вышэй-

[1] А. М. Горький. О литературе, М., 1953, стар. 695.

шай ступені паэтычнага мастацтва. Вось чаму ў сваіх выдатных працах аб эпасе ён выказваў думку, што вусная эпічная творчасць спела сваю гістарычную песню.

«Думаць, што ў наш час магчым старажытны эпас гэтак жа недарэчна, як і думаць, каб у нашы часы чалавецтва магло зноў зрабіцца з дарослага чалавека дзіцяцей: а думаць так—значыць быць чужым усякага гістарычнага разумення і пустыя фантазіі ўвабражэння выдаваць за філасофскія ісціны»[1].

Гэту думку Бялінскага развіў і ўдасканаліў М. Г. Чарнышэўскі. Падкрэсліваючы высокія якасці народнай паэзіі, Чарнышэўскі ў той жа час заўважаў: «Мы не думаем ставіць, як гэта робяць многія, цыганскага хору вышэй оперы, або канцэрта, «Ай, вдоль по улице молодчик идет» вышэй моцартаўскай або расінаўскай арыі, не лічым «Древних российских стихотворений» Кіршы Данілава вышэй «Стихотворений Пушкина» [2].

Гаворачы аб гістарычным лёсе народнай паэзіі, Чарнышэўскі адзначаў: «Яна—адгалосак мінулага маладзенчаства, успомніць аб якім прыемна і цудоўна, але вярнуцца да якога для нас немагчыма, а калі б і было магчыма, то ніколькі не было б прыемна» [3].

К. Маркс навукова абгрунтаваў, што эпас не магчым ва ўмовах капіталізму. Ён іранічна заўважаў: «Так як мы ў механіцы і г. д. пайшлі далей старажытных, то чаму б нам не стварыць эпасу? І вось з'яўляецца «Генрыяда» ўзамен «Іліяды» [4].

Некаторыя фалькларысты, ідучы супраць фактаў, нягледзячы на выказванні рэвалюцыйных дэмакратаў і класікаў марксізма аб гістарычнай абумоўленасці эпасу, аб яго непазбежнай замене эпасам літаратурным, усё яшчэ намагаюцца абгрунтаваць свае далёкія ад навукі канцэпцыі аб наяўнасці сучаснага вуснага эпасу ўсходніх славян як жывой з'явы, якая быццам бы развіваецца і ў форме вусных савецкіх былін, дум, казак [5].

---

[1] В. Г. Белинский. Соч., т. VII, изд. Венгерова, стар. 430.

[2] Н. Г. Чернышевский. Полн. собр. соч., т. II, М., 1949, стар. 280—281.

[3] Там жа, стар. 291.

[4] К. Маркс. Капитал, т. IV, М., 1954, стар. 247.

[5] Падрабязней аб гэтым гл. нашы артыкулы «За марксісцкую навуку аб беларускай народнай творчасці», «Полымя» № 4, 1950; «За передовую науку о народном поэтическом творчестве», «Новый мир» № 8, 1954.

Значэнне эпасу не ў тым, што ён бессмяротны, як жывая з'ява, а ў тым, што ён «складаў эпоху ў сусветнай гісторыі» ў мінулым і мае велізарнае пазнаваўчае і выхаваўчае значэнне ў нашы дні як манументальны помнік вялікай творчай энергіі і гераічнай сацыяльнай і нацыянальнай барацьбы працоўных мас.

Такім чынам, разгледзеўшы вялікую колькасць гістарычных песень, былін, духоўных вершаў, летапісных паданняў, аповесцей і багатырскіх казак Беларусі, у нас ёсць падставы зрабіць наступныя вывады.

Беларускі народ мае свой вялікі эпас, які цесна звязан са старажытным рускім эпасам. Эпас адыграў вялікую грамадскую і выхаваўчую ролю ў Беларусі ў мінулы час і мае вялікае пазнаваўчае значэнне для нашага часу.

Багатырскі гераічны эпас займае адно з галоўных месц у эпасе Беларусі. Гераічны эпас прадстаўлен не толькі вялікай колькасцю арыгінальных беларускіх казак, але і значнай колькасцю беларускіх эпічных песень грамадска-гістарычнага зместу, сярод якіх прыкметнае месца займалі і быліны.

Старое ўяўленне аб распаўсюджанні старажытнарускіх былін толькі ў рускіх абласцях абвяргаецца вялікім фактычным матэрыялам, які сведчыць аб глыбокім пранікненні былін у XIV — XIX стст. у разнастайныя жанры вуснай і пісьмовай творчасці беларускага народа. І калі да цяперашняга часу сур'ёзна не гаварылася аб беларускім былявым эпасе, то гэта можна растлумачыць толькі памылковай прадузятасцю аб немагчымасці існавання ў мінулым беларускага гераічнага эпасу.

Беларускі гераічны эпас развіваўся, з аднаго боку, як старажытнаўсходні эпас, які ўваходзіць сваімі карэннямі ў сівую старажытнасць агульнаславянскага перыяду, а з другога боку, ён усё больш і больш набывае ў XVI—XVIII стст. і свае нацыянальныя рысы.

Адсюль арганічная сувязь беларускага гераічнага эпасу з гістарычнымі падзеямі Беларусі, што непазбежна вяло стваральнікаў гераічнага эпасу Беларусі ад быліны да гістарычнай песні і казкі, ад міфатворчасці да рэалізму.

Беларускі гераічны эпас, які існаваў у форме казак, песень, былін і летапісных паданняў і аповесцей, развіваўся на аснове і пад непасрэдным уплывам старажыт-

наруcкага гераічнага эпасу, знаходзячыся ў пастаяннай цеснай узаемасувязі з рускім і ўкраінскім эпасам.

Для захавання і развіцця гераічнага і гістарычнага эпасу ў Беларусі былі адпаведныя грамадска-гістарычныя і культурныя ўмовы ў выглядзе: а) многавяковай напружанай нацыянальна-вызваленчай і антыпрыгонніцкай барацьбы народных мас Беларусі; б) многавяковага магутнага грамадскага, культурнага, моўнага ўсходнеславянскага адзінства і пастаяннай разнастайнай узаемасувязі і ўзаемадапамогі трох брацкіх народаў. Гэтыя асаблівасці грамадскага і культурнага развіцця Беларусі нарадзілі багаты беларускі гістарычны эпас.

Беларускі гераічны эпас, выкліканы да жыцця нацыянальна-вызваленчай і класавай барацьбой, узрастаючай класавай і нацыянальнай самасвядомасцю працоўных, быў заклікан адыграць вялікую грамадска-палітычную, арганізацыйную і выхаваўчую ролю ў Беларусі. Акрамя таго, гераічны эпас з'явіўся важнейшым фактарам у развіцці беларускай літаратуры. Не выпадкова рад твораў XVI — XVIII стст., многія творы Ф. Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа выраслі пад уздзеяннем беларускага народнага эпасу.

Такія, у агульных рысах, асаблівасці, жанры і гістарычны лёс беларускага гераічнага і гістарычнага эпасу.

*С. І. ВАСІЛЁНАК*





# КАЗКІ І ПАДАННІ АБ БЫЛІННЫХ БАГАТЫРАХ І АСІЛКАХ

## ПРАЗ ІЛЛЮШКУ

Жылі сабе ўдваіх муж з жаной, і нарадзіўся ў іх сын Іллюшка. Пражыў ён больш дваццаці гадоў, і ляжаў дваццаць тры годы на адным баку. После таго (як) пралежаў ён дваццаць тры годы, прыходзя к яму дзядулягасподзь.

— Што ты, Іллюшка: вады б напіўся ці квасу?

Ён гавора:

— Магу напіцца вады!

І сказаў яму дзядуля прынесці вядро вады. Так ён як унёс, так і выпіў. Тады после гавора:

— Як ты, Іллюшка, маесся сам сабою?

— А во, дзядуля: маюся так, што магу ад зямлі неба дастаць, а ад неба зямлі!

Дужа даў яму господзь багатырскую сілу. Тады, гавора, штоб ён унёс вядро квасу. Тэй як унёс, так і выпіў. Тады дзядулька ўзноў спрашуя:

— Як ты маесся, Іллюшка?

—Не,—кажа,—дзядуля: чустую, што крэпак, да ўжо так не магу здзелаць—ат зямлі неба дастаць!

— Жыві ж,—гавора,—Іллюшка, на здароўя і очышчуй свет. Прашчай!

Тады яго матка з бацькам пашлі гэтакім урэмям, у пятроўку, як во й цяпер [1], пашлі ляда сеч, а яго, значыцца, кінулі бальнога. Тады Іллюшка зняў вароты, паставіў на іх бочку вады і дванаццаць булак хлеба і панёс ім на галаве абедаць. Яны, значыцца, не знаюць, што даў яму господзь здароўя. Падходзя ён к ляду, бацька ўбачыў, гавора:

---

[1] Казка запісана каля 20 чэрвеня, у пятроў пост.

— Наш Іллюшка ідзе!

— Во,—кажа матка,—наш Іллюшка так здзелая? Гэто так нехта ідзе. Ён толькі часу дажыдая!

А того не ўвознала, што гасподзь яму даў.

— Не,—кажа бацька,—гэта наш Іллюшка!

Прыходзя Іллюшка:

— Памагай бог вам!—гавора.

Тады бацька з маткай узрадаваліся, што прышоў іх сын Іллюшка гэтак.

Тады ён гавора:

— Ну, ацец з мацью, абедайця, лажыцясь аддыхаць, а я пасякаю ляда!

Тады ацец-маці паабедалі, ляглі аддыхаць; а ён стаў ляда сеч, да ня сеч, а так ірваць с кареннямі. І стаў Іллюшка тэй лес кідаць на адзін бок і на другі на сем вёрст і загаціў тым лесам раку Дунай на сем вёрст. Тады разлілася тая рака і пашла па ўсіх старанах, хацела ўвесь свет аттапіць — крэпка загаціў. Прашнуўся яго ацец-маці, убачылі, што ён надзелаў і гаворуць:

— Ах, Іллюшка, не ладна дзелаеш, свет затопіш!

Тады пашоў Іллюшка к Дунай-рацэ і зноў стаў раскідаваць лес на сем верст, расчышчуваць раку. Расчысціў раку і пашоў дамоў. Рака як была, так і пашла зноў гуляць. Прыходзюць бацька з маткай дамоў. Іллюшка паслаў бацюшку свайго ік папу.

— Ёсь у яго такі конь, купі ты мне яго за пяць злотых!

Ён пашоў к папу:

— Бацюшка, ёсь у вас лошадзь за пяць злотых, прося Іллюшка прадаць гэтага лошадзя!

— Ёсь,—гавора,—прадам!

Ён і купіў.

Прыводзя к сыну дамоў. А конік быў нячысты, каросьлівы, маленькі. Тады тэй Іллюшка пускаець яго, таго лошадзя, у чыстае поле на двананцаць сутак, штоб двананцаць травін зьеў за двананцаць днёў. А сам пашоў у кузьню к кавалю і зработаў двананцаць пудоў булаву зялезную. Тады вышаў на чыстае поле добры моладзец Іллюшка, раскруціў тую булаву і шыбнуў угору. Яна ляцела двананцаць часоў, палавіна сутак, і як узварочалася, падставіў ён калена. Яна як ляцела — дзер аб калена, і рассыпалась. Тады апяць ён:

— Не,—гавора,—трэба крапчэйшую дзелаць!

Апяць пашоў к кавалю ў кузьню, і здзелаў булаву дваццаць пяць пудоў. Пабалуваў яе ў руках:

— Вот гэта,—гавора,—будзя мне хараша!

Тады здзелаў сабе пігу—усё роўна, шаблю войструю здзелаў сабе. Тады вышаў добры моладзец Іллюшка на чысто поле і крыкнуў па-маладзецку, свіснуў па-казацку: «Каб мой конь сычас тут быў!» Ён прыбягая. Бяжыць—земля дрыжыць, сам увесь калоціцца—дужа стаў крэпка сілян. Прыбягая і стаў,—поўсціна залатая, поўсціна сярэбраная. І спрашуя:

— Чаго, Іллюшка, жалаеш?

— А паедзем белы свет ачышчаць, нягіднага Сокала пабіваць!

І прося ён у ацца-маці бугуславенства:

— Бугуславіця, ацец-маці, у белы свет ехаць мне!

Ацец гавора:

— Бог баславіць, і мы баславім. Куды надумаўся, атпраўляйся сабе, куды табе гасподзь баславіў!

Тады ён увабраў лошадзя ў залатое сядло, узяў с сабою весь струмен бойны—булаву і пігу, і паехаў у белы свет. Ехаў ён, ехаў—трое сутак, і прыехаў у царства цара Пражора. Ён па дзесяць чалавек еў на дзень, а нягідны Сокал яму дастаўляў есь. Ён, нягідны Сокал як свісьня, дак на дванацаць вёрст даленей чалавек упадая—крэпка сілян быў. І дастаўляў яму, цару Пражору, па дзесяць чалавек у дзень. І сядзеў тэй нягідны Сокал на дванацаці дубах адзін, і ў яго дванацаць рагоў. Тады Іллюшка пад'яжжая, ён і гавора:

— Здрастуй, Іллюшка, добры малойца! Чаго ты сюды зайшоў?

— Сам добры малойца ахвотаю зайшоў!

— Што ж, Іллюшка, ці біцца будзем, ці мірыцца? — спужаўсь, значыцца, зная, што голаву паложа. Ён гавора:

— Не на тое я ішоў, штоб мірыцца, а на тое, штоб біцца с табой!

Тады як крыкнуў па-маладзецку, свіснуў па-казацку. Гавора:

— Баславі, госпадзі, і ўсі мне сродственьнікі—ацец, маці на помач, і лошадзь мой, із нягідным Сокалам паваевацца!

Тады як хваціў добры малойца Іллюшка булаву, як дзёрнуў яго па галаві—на месці і палажыў. Атрубіў яму галаву і ўстыкнуў яе на пігу, і пасёк яго тулава на дробны

мак, і ўзяў — у асінавы груд, і спаліў. Сычас крыкнуў па-маладзецку, свіснуў па-казацку:

— Ну, мой лошадзь, паедзем ік нягіднаму цару Пражору!

— Ну й паехалі—галаву на пігу! Пад'яжжаюць туды і выстаўляюць тую галаву нягіднага Сокала на пігі ў цара пад ганкам. Тады ўслыхаў тэй цар Пражор, што нехта едзя, і гавора:

— Хто там едзя? Каго гэта мой нягідны Сокал дапусціў?

А таго не зная, што нягіднага Сокала галава ў яго пад ганкам на пігі!

— А едзя, — кажа, — Іллюшка! Будзя тое і табе, што твайму Сокалу!—гавора на цара Пражора.

А ён быў крэпка жыран; дак вочы ў яго заплылі і бровы зарасьлі, і ён нічога ня відзеў. Дак ён гавора:

— Слугі мае верныя, падыміця мне вілкамі бровы!

Хацеў ён паглядзець на Іллюшку. А добры моладзец Іллюшка ўзяў булаву і ідзе к яму ўжэ, аж ганкі трашчаць пад нагамы. Цар Пражор спрашуя:

— А дзе ж мой Сокал?

Іллюшка сычас выскакуя на ганкі, бярецца за пігу і паказуя: а во, гавора, дзе твой Сокал! Цар Пражор гавора:

— Слугі мае верные! Дайця нам піцення, ядзення—папьём, паядзім мы з Іллюшкой!

Тады завялеў цар Пражор прыгатаваць лі Іллюшкі залатое крэсла, с сабой пасядзець.

Не хаціць Іллюшка нічога, садзіцца нібыццом-то піцьесь із ім, да нічога не гавора, схапіў з галавы сваю шапку — двананцаць пудоў, як ударыў таго нягіднага цара Пражора—дак на тры аршыны сцяну камянную прабіў і яго наскрозь сцяны прабіў! Убіў ён нягіднага Сокала і цара Пражора і ачысціў свет.

Тады ўбіраецца ён у белы свет ехаць пуцём-дарогаю. І ўяжжая ён у такіе лясы, у такую пушчу-драмушчу, што ня ўздумаць, ня ўзгадаць, толькі ў казках сказаць. Прыяжжая ён у такое царства, ня ў гэта, дзе мы жывем, а ў прочая. Прыяжжая ён туды. І стаўляецца ў тым царстві пруд на двананцаць камянёў. Пад'яжжая ён туды і гавора:

— Бог помач вам! Ці ня есь у вас, рабяты, вады папіць?

Яны атказуюць:

— Чаму,—кажуць,—можна вадзіцы папіць, ёсь харошая!

Папіў ён вады, падзякуваў:

— Ну, спасіба вам за харошую воду!

І разгаварыліся яны. І спрашуюць яны ў яго:

— Вот,—гаворуць,—ці не параеш ты нам, ці не паможэш ты нам двананцаць камянёў узлажыць? Мы б табе, што ты хочэш, заплацілі б.

Тады гавора Іллюшка:

— Я вашыя платы ня хачу, а пасабіць магу. А ці крэпкі вашы ганкі!—гэта, значыцца, узнесці камяні наверх.

— Атчаго,—гаворуць,—крэпкі, можаця ўзайці!

Аб тым яны не знаюць, што ён такі крэпкі багатыр! Тады ён узяў на'дну руку камянь надзеў і на другую надзеў і стаў ступаць на ганкі. Ступіў—тыя ганкі ломюцца.

— Не,—гавора,—ня магу ўзнесці па гэтых ганках, ламаюцца ганкі. Ну, да мне вашы ганкі ня трэба, я магу й так паўскідаць!

Узяў адзін камянь у во'дну руку, а другі ў другую і паўскідаў іх наверх, туды, дзе трэба іх класці. Ну тады яны гаворуць:

— Ну, просім мы цябе, каб ты ўсе паўскідаў!

Так ён узяў і ўсе паўскідаў. Тады яны гаворуць:

— Хто ты такі, добры малойца?

— Я Іллюшка Іваноў!

— Што ж ты з нас хочэш: ці грошы, ці што?

— Нічога я з вас ня хочу, хачу толькі благадарення, каб вы мне пастаянна благадарылі.

— Можа хочэш, мы цябе папоштуем харошымы напіткамы?

— Ну, мне гэта ваша ня трэба! Прашчайця, па Хрысту браццы! Ачысціў я ўвесь белы свет! Жывіця на здароўя! Вот, цяпер вы ня зналі, а цяпер я скажу, што я ёсь сільны, магушчы багатыр Іллюшка Іваноў. І маліцесь богу за маё здароўя пагэтаму!

Тады ўяжжая ён аттудава і прыяжжая ў царкву, у сабор аца Мікалая. Заехаў ён у той сабор, памаліўся богу нізкім уклонам і ацу Мікалаю пакланіўся за сваё здароўя. Пакланіўся і сеў на каня і паехаў у сваё царства. Сколькі праехаў лясамы, морамы, балотамы, пакуль прыехаў у сваё царства, даставіўся. Прыяжжая туды, прыходзя ў свой двор к ацу, к маці. Так яны ўзрадаваліс:

— Ах,—гаворуць,—Іллюшка! Мы ўжэ думалі, што цябе на свеці нема!

— Слава богу,—кажа,—жыў і здароў, вясёл, і ачысціў увесь свет! Цяпер, — гавора, — хай хрысціяньскі мір моліцца богу за мяне!

Сычас лёг на бацькавай пасцелі, палежаў ён тры дні і пераставіўся. І паступіў у свят—святы Іллюшка.

— Вот,—гавора,—буду я грамовай тучай заведуваць!

А атцу завялеў завесць гэтага лошадзя апяць к папу і дзякуваць яму нізкім уклонам ат мяне і ат сябе за гэтага лошадзя. Так ён і здзелаў, завёў лошадзя:

— Благадарыў, татулька, і сын, благадару і я за вашаго лошадзя! І мой сын ужэ пераставіўся і прасіў вас, каб вы на похараны былі.

Поп прышоў, атправіў яго, і схаранілі яго ў склепу. Гасподзь так даў: ніхто яго не знаў, ня відзеў—атправіўся ён вадой у склепі ў Кіяў, у пяшчэры,—плыў па Сожы па рацэ. І аб'явіўся, і палучыў сабе свят у пяшчэры. І цяпер там.

А ацец-маці яго здаровыя, вяселыя асталіся і цяпер, і жывуць.

## АБ ІЛЮШКУ

Жыў сабе старык са старухаю. Багатыя. На хутары жылі. Нарадзіўся ў іх сын Ілюшка і сеў у седнях—папрыгінала рукі і ногі. Прасядзеў трыццаць тры гады. Вот надась пайшоў бацька і матка ў ляда, а к яму прышлі тры старцы і гаворацць:

— Ілюшка, падары-ка нам чаго-небудзь.

— Рад бы я вас дарыць, дык я не магу ўстаць.

— Э,—гавораць,—ты прытвараешся.

Не можа ўстаць ён.

— Пацягні-ка,—гавора,—нагу.

Выцягнулась.

— Пацягні другую.

І гэта выцягнулася. Ну і рукі так. Устаў.

— Чым вас адарыць?

— Бяры той таз, ідзі ў падвал і засілі віна нам.

Ён пабег, засіліў, уносе. Яны гавораць:

— Выпі.

Ён выпіў.

— Ідзі другі засілі.

Ён другі прыносе.

— Выпі і гэты. Ідзі трэці засілі. Нас жа тры. Гэта ты як нам дорыш.

Ён уносіць і трэці.

— Выпі і гэты.

Ён і гэты выпіў.

— Ну як, ты цяпер чуствуеш сілушку ў сябе?

— Калі б у неба і ў зямлю стоўб і штоб было ў ім калясо, дык бы ўвесь свет перакруціў рукою.

Так яны глянулі адзін на аднаго:

— Ідзі,—гавора,—шчэ прынясі таз таго віна.

Ён уносіць.

— Выпі і гэты.

Ён выпіў.

— Ну цяпер, як чуствуеш сілушку?

— Палавіну,—гавора,—таго.

— Ну, хопіць з цябе. У баю нідзе не загінеш. Дажджэшся будучай нядзелі, папросіш сто рублёў у бацькі грошай і ідзі ў горад. Дайдзеш да раскрэсаў недалёка ад горада, дык будзе старык весці касматага лашонка, дык ты яго штоб купіў. Ён запросіць з цябе сто рублёў. То будзе твой конь. Прывядзеш дамоў яго, пакорміш тры дні белаярай пшаніцай і тры зары на шоўкавую траўку будзеш выводзіць, каб ён пакачаўся. Тады ты убачыш, што гэта за конь.

Зрабілася на ім залатая шарсцінка і срэбраная.

Ён просіцца ў бацькі:

— Пусці мяне ў свет пагуляць.

Вот ён сеў і паскакаў.

Ехаў, ехаў, вот раскрэсы, стаіць стоўб, на стаўбе табліца напісана: «Гэтай дарогай паедзеш—будзеш жанат, а гэтай паедзеш—будзеш багат... гэтай паедзеш—будзеш убіт». Ён падумаў: «Жаніцца я не хачу, багацтва мне не нада, паеду сюдой, дзе буду ўбіт. Мне тры старцы гаварылі, што я ў баю не пагібну». І пусціўся гэтай дарогаю. Ехаў-ехаў, выяджае на паляну і выходзіць к яму дванаццаць разбойнікаў.

— Стой!

Ён стаў.

— Дзеньгі!

— У мяне мала дзенег. Усяго чатырыста рублёў. А сертучок мой каштуе тысячу рублёў. А каню майму цаны няма.

— Ета нам,—гавора,—і нада.

—Ета вам і нада?

Дмух на іх, так яны сып аб зямлю, без памяці ляжаць. Ён злез з каня, пападымаў іх.

— Вот што: еслі будзеце яшчэ ета дзелаць, то жывых вас у другі раз не астаўлю.

Яны перад ім ком зямлі з'елі:

— Век болей дзелаць гэтага не будзем.

— Ну ідзіце.

Сам пусціўся далей. А там далей Салавей Разбойнік звіў гняздо на дванаццаці дубах і жывець там. Ён свістам убіваў за тры вярсты людзей. Як толькі замеціў каго, так свісь і няма яго. Вот Салавей бача ўсаднік едзе не

абы які. Падпускае яго бліжай. Як свіснуў, дык конь на калені ўпаў. Ён [Ілля] спрыгнуў з каня: «Стой, конь, не падай». Нацягнуў свой лук і як рэзнуў яго [Салаў'я Разбойніка] прама ў правае вока. Выбіў. Ён вобаратам на зямлю. Ён [Ілля] пад'ехаў к яму і падвязаў яго к сядлу і паехаў у Кіеў у горад. Прыехаў туды к князю. Князь і спрашвае:

— Што гэта за звер?

— Гэта Салавей, каторы ўбіваў людзей.

— А... мы наслышны былі аб ім.

— Загадай-ка яму свіснуць.

— Не, еслі загадаю, дык вас на свеце не будзе і ўвесь горад разрушыцца.

— Захавайцесь, калі хочаце пачуць, у падвал за трое дзвярэй. Дык я яму толькі на дзесятую долю загадаю прасіпець, а не пець.

Ён як засіпеў, не асталося ў цераме ні аднаго вакна. І яны ў падвале былі паглохлі. Тады ён узяў яго, як падшыбнуў у гару, так ён упаў і разбіўся. А тут у князя два багатыры служаць Алёша Паповіч і Дабрыня Нікіціч. Вот і Ілюшка к ім. Сталі ўтраіх тут служыць. Вот прыяджае сюды багатыр і раз'яджае па ўсіх іх палатах.

— А ну вылазь на бой каторы!

Алёша Паповіч выяджае к яму. Ён як чувікнуў Алёшу, дык той, як сноп. Выяджае Дабрыня Нікіціч. Ён і гэтага таксама ўбіў.

Выяджае Ілюшка. Як дзвігнуў, дык той, як сноп, пакаціўся. Сам астаўся служыць. Доўга ці каротка ён паслужыў там, прысылае бацька пісьмо.

— Едзь дамоў. Мы паміраем. Некаму дабром будзе пользавацца.

Ён сеў на каня і паехаў дамоў. Ажаніўся і стаў жыць. Пражыў да старасці лет, стаў сівы. Вот заехаў багатыр у Кіеў-горад такі, што адна галава з сянны стог. Князя ў цюрму засадзіў, а яму прарэзалі ў цераме сцяну (у дзверы не пралазіў).

Ён прыказвае гораду, штоб дванаццаць печаў пяклі хлеба і падцёлка каб зажарылі, і кабана, і гуску, і вутку, і індыка, курыцу і бачонак віна. Гэта ён за дзень з'ядаў. Штоб гэта было кожны дзень. Так ён і жыве. Прыказаў, каб усе старцы ішлі к яму, ён іх будзе дарыць. Дачуўся аб гэтым Ілюшка, сабраў сабе старцаву

сумку, сеў на каня, паехаў апяць у Кіеў. Прыяджае туды, каня паставіў, сам пайшоў к цераму і просіцца:

— Адчыніце і падарыце старцу.

Ён з-за стала вылез, адчыніў яму дзверы, сам ізноў за стол і есць.

— Адкуль ты, брацец?

— Адтуль і адтуль.

— Во мне гэта і нада. Вот скажы, брацец, там, гавораць, у вас ё багатыр Ілюшка. Раскажы, я цябе адару.

— Ёсць.

— Які ж ён? Такі, як я?

— Да не! Ён такі, як я. Каб у па́ру нас паставіў, дык сказалі б—гэта браты. Не разгадаць.

— Гэ... такі багатыр. А гавораць, сільны. Вот я, бачыш, па колькі ем і п'ю?

Ілюшка і гавора:

— У нас у канцы вёскі пан жыве, у яго многа кароў. Адна карова большая за ўсіх. Тры трэба каровы ўместа. Дык яна выпівае па тры бочкі брагі. А надысь узяла ды і чацвёртую выпіла. Узяла і лопнула. Каб і з вамі гэтага не здарылася.

Ён цап кінжалам і так туды ў яго. А ён кіў галаву— кінжал праляцеў міма. А ў Ілюшкі была сорак пудоў шапка. Ён цап тую шапку і як стукнуў яму, дык галава ўліпла ў сцяну. Выпусціў князя. Князь не знае, што яму рабіць. Сталі піць і гуляць. Князь і гаворыць:

— Вось тут у нас у лесе на паляне сільны-прасільны багатыр. Ён паша тую палянку.

Ён пашоў туды на палянку і бачыць: паша чалавек. Ад'ехаў недалёка ад дарогі, з сахой паша.

— Пачакай, — гавора, — хадзі-ка сюды. Скажы ты мне, тут гавораць, што на паляне ёсць сільны багатыр.

А ён адказвае:

— Я багатыр.

— Э-э-э, такі багатыр.

— Такі багатыр.

— Я ж цябе б як узяў, на ладоню пасадзіў і падшыбнуў пад хмару.

— А можа б я цябе падшыбнуў. Ідзі к маёй сошцы і папробай яе вытрусіць.

Ён падыйшоў к гэтай сошцы, ды і з месца не кране.

— Да,—гавора,—праўда твая, ты б мяне падшыбнуў.

Вот ён апяць пашоў к князю і давай зноў пір піра-

ваць. Прышлі з Кіева к князю пасланцы: «Прыляцеў змей з дванаццацю галовамі і пасяліўся каля Лаўраў». Ілюшка пашоў туды. Узяў меч свой і як стаў біцца са змеем гэтым, ды рады няма. Ссячэ галаву, а яна зноў нарастае. Патуль біўся, пакуль сам па калені ўехаў у зямлю і зрабіўся каменем. Ён і цяпер стаіць там. Я сам там відаў яго.

І так расказваюць людзі, як ён уедзе ўвесь у зямлю, то і свету канец.

## ЯК ІЛЬЯ МУРАМЕЦ ПУБЯДЗІЎ САЛАЎЯ РАЗБОЙНІКА, АБЖОРУ, АЛЬКАДЗІМА

Жіў пад Брянскім мужічек, і толькі радзіўся ў няво сын, крясцілі яво Ільёю. Рос Ілья, тріццаць лет нідзвіжім быў ні рукамі, ні нагамі. Толькі ацец яво сабраў талаку рассікаць ляда, дубы — гатовіў ён абед к талаке; маць пашла ў чужей двор сабіраць талаку, несць абедаць. Заходзіць к Ілье ў хату старічок.

— Здрастуйця вам!

Ілья атвічаіць:

— Здрастуйця, дзедушка!

— Дай мне, галубчік, напіцца! Нет лі чаво ў вас?

— Дзедушка, я нідзвіжім ні рукамі, ні нагамі. Ёсць жа ў нас квасок папіць хароші.

— Абапрісь рукамі: можіць быць, прайдзеш.

— Не, дзедушка! Тріццаць лет уж я сіжу.

— Можіць, ты ўстанеш! Абапрісь, абапрісь рукамі!

Абперся Ілья рукамі і нагамі і падаець яму квасу кружку:

— Пей, дзедушка!

— Папей ты, галубчік, сам, Ілья!

Ён выпіў кружку квасу етыва.

Спрашііць старічок у в'Альле:

— Як ты цяпер чуўствуіш, Ілья Мурамец, у сібе сілу?

— Госпадзі, еслі бы гасподзь утвярдзіў стоўб у неба і землю, то б я мох мацЬ сыру землю пувярнуць уверх нагамі...

— Чарпні, Ілья, яшчо квасу кружку!

Ён падаець дзедушкі. Дзедушка ўзяў:

— На, пей палавіну кружічкі!

Ілья папіў палавіну кружкі.

— Как ты чуўствуіш, Ілья, сілу?

— Госпадзі, палавіну сілы атбуло.

Ні стала старіка ў ізбі. Пріходзіць маць Ільі с дзяреўні і абрадавалась, што сын ходзіць, і спужалась:

— Сыночік ты мой, хто цібе саздаў ногі і рукі?

— Мамінька, саздаў мне гасподзь усё.

Потэм і гаворіць:

— Ну, маць мая, я абедаць сам панясу сваім рабочім к аццу.

Абчапіў ушаты вяреўкамі:

— Лей варіва ета ў ушаты!

Налілі варіва. Падчапіў ён заборіну пад еты ўшаты і ўзяў бачонык пяць вёдзір воткі, пяць хлебыў,—узяў усё с сабою, пріносіць на дубы, на ляда, к ім, паставіў за кустамі шалашок, варіва і вотку, і пашоў к сваім туды, ідзе сякуць, разчішчаюць ляда.

— Бох помач вам, ацец!

Усі крікнулі:

— Благадарім пакорна, Ілья!

— Ну, пайдземця: я прінёс вам абедаць, кушаць і вотычкі.

Пріходзюць к шалашу, сталі вотку піць, сталі закусываць.

— Есьця, добрыя людзі, і лажіцісь атдыхаць.

Пабедалі і ляглі атдыхаць. Ён пашоў на работу: дваццаць пяць дзісяцін за два часа вырваў дубоў, паўкладаў усё ў Дзясну, да пазнасіў дубы. Пріходзіць к ім, рібятам:

— Ну, уставайця, ацец!

Паатдыхнулі, усталі яны. Ілья і гаворіць:

— Ну, ацец, будзіць с цібе етыва, што наработана.

Глянулі: чістая поля здзелана. Пашлі дамоў. Рады ацец-маць, што сын ходзіць. Тада сын пасылаіць ацца к саседу. Ліжала кабыла тріццаць лет нагамі нідвіжіма.

— Купі ты ету кабыленку, бацюшка!

— На што іна табе, сынок?

А Ілья зачасціў:

— Купі да і купі!

Пашоў бацька к саседу:

— Здрастуйця вам!

— Здрастуйця!

— Што, брат, жіва лі твая кабыла?

— Я хацеў ужу ўбіць яе даўбнёю!

— Прадай ты мне яе!

— На што іна цябе, калека, спанаравілысь?
— Ня мне іна спанаравілась, а майму сыну Ільюхі.
— Ну давай пяцерку!

Смехым сказаў. Вынімаіць ён яму пяцерку дзеніх і аддаець яму на рукі. Тада прiходзiць дамоў:

— Ну, сынок, купіў кабылу.
— Купіў? Я сам за ею пайду.

Пріходзіць на дом тэй, ідзе кабыла. Січас кругом яе абыйшоў:

— Польна, кабыліца, ліжаць — нада ў белы свет біжаць!

Кабыліца скачіла, зарзала; ён яе авуздаў, прівodзіць дамой:

— Ацец, вы сказывалі, кабыленка калека; — а вот іна, іна ўстала; я ўстаў, і іна ўстала. Ідзі, кабыліца, гуляць у чіста поля, атпраўляйся!

Тада ён пашоў, справіў сабе луку і стрялу, справіў сабе багатырскыя сядло і прівёў кабыліцу с поля, асідлаў яе, садзіўся на яе, браў сабе ў рукі стрялу, луку, пад'іжжаў к сваім радзіцілім, хадзіў у хату, маліўся богу і сказаў:

— Прашчайця, мае радзіцілі: ацец і маць!
— А куда ж ты, сынок, дзіця наша?
— О, я, ацец і маць, вам ні карміліц! Благаславіця міне ў белы свет ехаць — і прашчайця!

Слышаў ён па вопісях, Ілья Мурам, што ёсць на Крівым лясу Салавей Разбойнік, — нету пропуску там ні пяшком, ні на лашадзі, — ніхто ні прахадзіў міма яво бліз двінаццыць верст: свістым убіваў Салавей,—за тым туды і пропуску не было, ні ходу: баялісь Салаўя. Хацелась Ільє Мураму атведаць Сылаўя, што за Салавей. Пад'іжжаў к Крівому лесу і спрашііць, ідзе Салавей Разбойнік жівець. Слышна, што ў етым лясу жівець, — толькі нету ні ходу, ні езду: убіваіць. І паехаў Ілья Мурамец ні пуцямі, ні дарогамі, а ехаў ён пряма на яво, на Салаўя Разбойніка. Разбойнік слышіць: упраціўнік едзіць к яму, і ўдаріў громкі свіст, што яво ўбіць. Толькі яво лошадзь дріганулась пад ім ад свісту. Пад'іжжаіць блізка. Відзіць Салавей Разбойнік, што едзіць супраціўнік блізка, ударіў свісцець яшчо паграмчей: лошадзь Ільі пала пад ім на каленкі. Ён падхваціў лошадзь:

— Ні рабей! Ні так ты свісціш, Салавей Разбойнік!

Січас стряльнуў, наведші лук, яво ў глаз ударіў, ссадзіў яго с гнізда на дванаццаць дубоў,—і сваліўся Салавей Разбойнік. Прівязаў яго к сядлу живога, і паехаў ён у царскі дом, к царю.

У царскім домі багатырей сборішча.

Едзіць ён. Глідзяць багатырі с акна і ўдзіўляюцца, какой багатырь едзіць, Салаўя Разбойніка вязець.

Усе багатырі мы сабраны, а хто ж ёсць яшчо багатырь па опісі, какей багатырь побядзіў Ілью Мурамца?

А сільны багатырь магучі гаворіць у чуланчіку:

— Што вы забылі пра Ілью? Ён даўно ўжу нарадзіўся, а ні чудзіў яшчо нейдзе.

Бліз пад'ізжаіць варотам — навялі багатырі доскі чугунныя, кверху паднялі: када плахой к ім пад'едзіць— даска раздавіць яму голаву. В'ізжаў Ілья ў варота, і даска ўдаріла яво па шляпі; на ім шляпа чугунная — уріда яму, галаве, ні дала. Ілья злез с лошадзі, пусціў сваю кабыліцу, і яво кабыліца ўсіх лашадзей атагнала ат корму. Уходзіць Ілья ў дом. Багатырі гаворюць:

— Екай нявежа ідзець: твая лошадзь усіх лашадзей паатагнала!

— Здрастуйця ж вам усім! Нечіва ссоріцца! Падзвіньцісь-ка, дайця мясцечка.

— Да, скажі пупраўдзі, хто ты такей пріехаў: ты Мурам?

— Станем зюкаць, толькі дайця мясцечка!.. Чім хочіш называйця.

— Ідзе стаіш, там і сядзь!

— Вот, рібяты, я ёсць Ілья Мурам! Я ні хачу садзіцца, ідзе стаю — а падзвіньцісь, гаспада!

Як падзвінуў — сціна выскачіла вон: каторых пазадавіў, каторыя павыкацілісь.

Абжора багатырь сядзеў асабліва; ён трі вола з'ідаў адзін, пяць вушатыў піва выпіваў. Гаворіць Абжора:

— Ілья Мурам, падайдзі ка мне, пубратаімся, пурукаімся!

Ілья падходзіць к яму, у чуланчік, ня быў яму паклонін, багатырю таму, называў яго Абжораю.

— Абжора, што ты сядзіш тут?

— Што такоя ета, Ілья Мурам, я ўпрацівін табе? Давай пубратаімся!

Ілья падаець яму руку; Абжора схватаў яво за руку рукацца. Ні ўзлюбіў Ілья, што ён цісніць дужа, — скі-

нуў сваю шляпу з галавы левыю рукою, ударіў Абжору: пракаціўся Абжора скрозь сцену. Далажілі каралю, што Ілья Мурам пріехаў, пабядзіў багатыроў, сільнага магучыга багатыря шляпаю ўбіў. Король паслаў к Ілье людзей, штоб Ілья пряма па чесці прішоў к каралю, на ліцо. І ўзяў ён атвізаў ат сідла Салаўя Разбойніка, засадзіў яво за пазуху; ну, пріходзіць у каралеўскі дом, здрастуіцца с каралём:

— Здрастуй, кароль і каралеўна!

— Здрастуй, Ілья Мурам. Куды ты пріізжаў у мой дом, якім пуцем ехаў на Крівой лес, ка мне? Як цібе прапусціў Салавей Разбойнік?

— А што, вам хочіцца разві Салаўя пувідаць? Я міма яво ехаў, пубядзіў яво, ішчі глаз выбіў. Дак во ён!

— Прыкажы яму, Ілья Мурам, свіснуць, як ён свісціць!

— Нет, вы ні ўтраваіця ат яво свісту! Дайця вы мне, кароль і каралеўна, свае галовы пад пахі: а то плоха вам будзіць!

Узяў голывы караля і каралеўны пад пахі і прыказаў Салаўю самым малым свістком сыйграць. Салавей як свіснуў, паталок ат свісту разламіўся і крыша звалілась. Тада Ілья Мурам асірчаў на яво, узяў шаблю, пурубіў Салаўя на мелкія штукі. Тада ўзяў крошічку парубемшы і дунець на крошычку — салавейкый та крошічка і паляціць, салаўём, а кажный салавейка с крошічку, а, як чокніць, аглушаіць — і пусціў іх усіх у свет. Тада атправіўся Ілья Мурам караля іскаць сабе супраціўніка. Паехаў у Кіеў, у ту сторану, ідзе, па слыхам, жывець Алькадзім-багатыр Нізряшчі, сільны, магучі. Ілья іскаў яго па лесу: ён, Алькадзім, жіў у лясу. Алькадзіму снілась усё нешта, што ат Ілы ён памрэць. Толькі наніў ён загадзі сабе гроб дзелаць. Ілья едзіць по лесу, слышіць бальшей стукат, пріізжаіць: дзелаюць гроб робяты.

— Бог помач, робяты!

— Благадарім пакорна, добрый чілавек!

— На каво дзелаіця дамавіну?

— На багатыра Алькадзіма.

— Но вот жа я сам яво ішчу, ідзе ён находзіцца, на якім пуцю. Што ж вы так зажіва гроб дзелаіця няўмертвыму?

— Яму ў ва снях сказана ат Ільі Мурамца пуміраць— так ён загадзі і заказаў.

— Дзелайці ж паскарей, гаспада: сам я Ілья Мурамец, еду к яму ў госці.

— Паізжайця етый трапой: пряма к яму ў госці і преедзіця!

Дом агромны заперт накрепка заваламі: нільзя к яму падыйціць. Ілья, ні на шта ні ўпываўші, пачаў дзвері разбіваць, выспёткім разламаў семіра дзвярэй.

— Здрастуй, багатырь Алькадзім!

— Здрастуй!.. Хто ты такой ёсь?

— Ілья Мурам.

— А Ілья Мурам!.. Хадзі парукаімся!

Падаваў Ілья Мурам правую руку. Пажаў Алькадзім крепка. Ілья Мурам ні ўзлюбіў: браў левый рукой сваю шляпу і біў багатыря Алькадзіма—прідаў яво смерці. Алькадзім кончіў жісць, а Ілья паехыў у свет[1] іскаць бох знаіць чаво.

---

[1] У першакрыніцы замест слова свет, відаць, памылкова надрукавана смерць.

## БЕЗНОГІ БАГАТЫР

У нейкім царстве, нейкім гасударстве жыў-быў каваль да каваліха. Спарадзіла каваліха, на яе ліха, гожага хлапчука, да безногага. Расце хлапчук не на радасць, а на горэ. Ведамо, калека з роду, якая радасць бацьком. Гадуецца ён як пакідзішчэ. Управіцца каваліха калі печы да й бежыць у поле, ці ў вагарод, а хлапчук валяецца па землі да смокчэ скарынку або жуе па̀раную картоплю. Кінула яго раз каваліха на дзедзінцы, дак чуць яго свіне не з'елі. Не шкадуе каваліха, на яе ліха, свайго дзіцяці.

— Бо, — кажэ,—якая з яго карысць. Калека — не памога, а толькі абуза. Хаць бы яго бог з свету прыбраў.

А тут ён наперакор расце да таўсцее. Вырас ужэ хлапчук нелапы́, але не ходзіць да толькі поўзае. Карміць яго кармі, а карысці з яго ніякае німа. Яшчэ гарэй пачала яго праклінаць матка да наракаць на бога, што даў ён сына не на ўцеху, як людзям, а на беду. Слухаў, слухаў каваль праклёны дурное бабы, але нічога не мажэ парадзіць. Шкода яму хлопца, але ат бабы жыткі німа. От нарэшце не вытрымаў ён, запрог кабылку, пасадзіў на воз сына да й павёз яго ў лес. Завёз ён далёка ад вёскі, да й хацеў там пакінуць сына на страту, але ўбачыў у лесе маленькую хатку. Улез ён у хатку, аж там нікога німа. Зірнуў ён туды-сюды—у хаццы ўсё е, а гаспадыні німа. От ён унёс сына ў хатку да там і пакінуў, а сам сеў на воз да па кабылцы, да па кабылцы. Патарахцеў ён хутчэй, не аглядаючыся, каб ніхто не дагнаў. Седзіць хлапчук адзін у хаццы да разглядае, што там е. Толькі ось прыходзіць якісь старэнькі дзедок і просіць напіцца.

— Рад бы я даць табе напіцца,—кажэ хлапчук,—да не магу хадзіць.

— Прашкі,—кажа дзедок,—зачарпні да перш закаштуй сам, ці харошая вада.

А хлапчуку даўно піць хацеласо, хлебануў ён да й выдундзіў немаль поўны корчык. Як выпіў, дак атразу пачуў у сабе такую сілу, што здаецца ўсю зямлю перавярнуў бы, каб толькі было аб што ўперціса нагамі. Напіўса дзедок да й кажэ:

— Пі больш, бо табе трэ вялікая сіла,—да й знік, баццэ яго й не было.

Падзівіўса хлапчук, думаў, што гэта яму прысніласо, але бачыць, што ў яго здаровые ногі, што ён так ідзе, што пад сабою й землі не чуе. Напіўса ён яшчэ тае вады, дак і чуецца, што яму німа раўні на ўсём свеце. Хацеў ён яшчэ больш наліць вады, да як узяўса за збан, дак і разгнёў яго, а вада выліласа. Схапіў ён ведро дай пабег да крыніцы. Шукаў ён яе, шукаў—німа, от бы ў землю праваліласа. Варочаецца ён да хаткі, аж і тая прапала. Ён туды, ён сюды, да так заплутаўса ў гушчэчы, што не ведае, куды йці. Пастаяў ён трохі да й пашоў проста. Ідзе ён, а спераду пападзецца тоўстая хвоя або дуб, як печ. От схопіць ён адною рукою дзерава, дак тое й хрусне, бы саломіна. Ідзе ён да варочае дзераўлякі, баццэ там віхар пралецеў. А ён ломіць лес дзеля таго, каб зрабіць метку да ў другае туды не прыці. Доўга ён так ішоў, пакуль вышаў на дарогу. А там паабапал дарогі лежалі велізазные каменні, баццэ валы. От і пачаў ён перакідаць тое каменне на дарогу, бы картоплю. Толькі ось едуць багатыры. Пад'ехалі яны да й супыніліса, бо нельга ехаць далей, каменне мешае.

— Здароў, дзецюк, — кажуць багатыры, — што ты робіш?

— Граю сабе,—кажэ той хлапчук.

От багатыры злезлі з коней да хацелі апрастаць дарогу; узяліса яны за адзін камень, але не могуць яго й крануць. Падышоў тут хлопец да й згроб тое каменне ў роў.

— Паедзем з намі,—кажуць багатыры.

— Як жэ я паеду, калі ў мене німа каня,—атказвае хлопец.

— Выбірай сабе каня з нашых.

Пашоў хлапец выбіраць сабе каня, але толькі паложыць каню на спіну руку, дак той і ўпадзе на пярэдніе каленкі. Перабраў ён так усіх коней, а сабе не выбраў ні годнага. От пашоў ён з багатырамі, тые на конях, а ён пешкі. Толькі ось бачыць ён, што кала дарогі мужык скародзіць поле. Кабылка ў яго худая, маленькая, але жылі-

стая. Палажыў ёй хлопец руку на спіну, а яна й не ўхмылілаcа. От пачаў ён таргаваць тую кабылку, але мужык не хочэ аддаваць ні за якіе грошы.

— Навошта мне грошы,—кажэ ён,—яшчэ хто заб'е, а без канякі як я ўпраўлюса з гаспадаркаю. Без канякі й чалавек не чалавек.

— Паменяй сваю кабылку на каня,—кажуць багатыры,—беры сабе на выбар, якога хочэш.

— Хто меняе, у таго хамут чуляе,—кажэ мужык.

Насілу багатыры ўламалі мужыка да за пару самых лепшых коней выменялі хлопцу тую кабылку. Сеў ён на кабылку, й паехалі яны далей. Толькі ось пад'ехалі яны к той вёсцы, дзе жыў хлопца бацька, да й сталі кала кузні каваць коней. Не пазнаў каваль сына, так ён зменіўса, да падкаваў і яго кабылку. От і просіць кавальчук, каб бацька выкаваў яму булаву. Сабраў каваль усе залезо да й выкаваў такую булаву, што ўтрох насілу яе варочаюць. Узяў кавальчук тую булаву, пакруціў яе адною рукою да як шыбануў угору, дак яна няведамо дзе й дзеласа. Стаяць багатыры да дзівяцца. Але ось па немалым часе й гудзе тая булава, бы гром грыміць, леціць уніз. Падставіў кавальчук калена. Ударыласа булава аб калена да толькі скрывіласа. Прыбавіў каваль яшчэ з пуд залеза да й выкаваў мацнейшую булаву. Падзякуваў кавальчук, узяў тую булаву да й паехаў з багатырамі ў свет. Прыехалі яны к аднаму цару й нанеліса на службу. Па немалым часе аб'явіўса там вельмі дужы змей і пачаў прылетаць да цягаць к сабе людзей. Багацько пахватаў ён людзей да й паеў іх. Нарэшце захацеласо яму царскаго мяса, от і схапіў ён царэўну да й зап'ёр к сабе ў лёху, але не есь, а трымае на закуску. Аб'явіў цар па ўсему царству, што дась таму паўцарства й аддась замуж царэўну, хто яе выбавіць ат змея, а яго заб'е. Многа парываласо сілных багатыроў біцца з тым змеям, але ўсе яны там загубілі свае костачкі. Нарэшце вызваліса й тые багатыры, што прыехалі з кавальчуком.

— Паедзем з намі,—кажуць яны кавальчуку.—Ты яшчэ малады, пара й табе шукаць славы. Паедзем, та мы цебе навучым, як біцца.

Згадзіўся кавальчук і паехалі яны разам. От едуць яны да едуць і пад'езджаюць, аж растанцы на дарозе й стаіць слуп, а на ём штось напісана. Быў з іх адзін пісьменны, от і пачаў ён чытаць. От і перачытаў ён, што, хто паедзе на-

права, той дабудзе сабе славу, хто налева, знайдзе багацтва, а хто проста, таго спаткае смерць. І пачалі тут багатыры выбіраць, куды хто ахвоч ехаць. Выбралі яны ўсе дарогу направа й паехалі шукаць славы, толькі адзін кавальчук кажэ, што ат смерці не атперці, да лепш ехаць проста. Як ні адмаўлялі багатыры, а кавальчук упёрса да такі адзін паехаў проста. Праехаў ён трохі да й трапіў на тую самую хатку, куды яго завёз бацька бязногага. Прывезаў ён кабылку да й улез у хатку. Зірнуў ён у кут, аж там у запечку седзіць вельмі старэнькая баба.

— Здарова была, бабка!

— Дзякуй табе, дзецючок. Куды бог несе?—пытае яна.

— Паеду, бабка, проста.

— Ні едзь, дзеткі, бо загінеш. Там змей з'есь.

— Не, бабка, паеду, хаць загіну.

— Шкода мне цебе, дзеткі. Ты быў у маёй хатцы, дак ты мне, бацэ родны ўнук. Дак от жэ слухай мяне. Што ты ні сустрэнеш на дарозі, дак не забівай, та яно табе ў дарозі да ў бедзе паслужыць.

Падзякуваў хлопец бабе да й паехаў далей. Толькі ён ат'ехаў ат хаткі, аж выскачыў заяц. Хацеў ён шварнуць у яго булавою, але той кажэ:

— Не бі мене, я табе ў бедзе паслужу.

Паехаў ён далей, а заяц бяжыць за ім назіркам. Толькі вось выскачыў воўк. Ён за булаву. А воўк кажэ:

— Не бі мене, буду табе патрэбен у бедзе.

Апусціў ён булаву да й паехаў далей. Бежыць воўк назіркам. Ат пад'ехаў ён к каменнай гары. Німа як ехаць далей. Злез ён з кабылкі, пусціў яе на пашу, а сам пашоў шукаць дарогі. Тым часам змей вылез з лёху жыраваць да як раз трапіў туды, дзе была кабылка. Бачыць воўк, што змей з'есь кабылку, от ён як напалохаў яе, дак яна й пусціласа наўцекача с усіх ног да тым часам і ўцекла ад змея. Пажыраваў змей да й вернуўса к сабе ў лёху. От прыбег к хлопцу заяц да й паказаў яму тую шчыліну, дзе змей зачыніў царэўну. Пагрукаў хлопец булавою каменную сцену, от там і паказаласа царэўна да й кажэ: уцякай, бо змей з'есь. А тут хлопец размахнуўса да як трэсьне булавою аб сцену, дак яе й высадзіў. Кінуласа к яму царэўна на шыю да давай прасіць, каб даўёз яе к матцы да к бацьку. Тым часам змей высунуў голаў праз шчыліну да й хацеў з'есці таго хлопца. Тут хлопец схваціў булаву да як рэзне па галаве змея, дак з яе й мазкі пацеклі.

От атрэзаў ён у змея язык да й палажыў яго сабе ў кайстру. Тым часам змей высунуў другую голаў. Хлопец і тую размажджыў да выразаў язык. Такім парадкам расквасіў ён змею ўсе дванаццаць галоў. Рада царэўна, што такі знайшоўса багатыр да й страціў ліхога змея. Спадабаўся ёй той хлопец і абецала яна, што пойдзе за яго замуж, як ён завезе яе к бацьку да к матцы. А што гэта праўда, дак яна разарвала хустачку да й дала хлопцу адну палавінку. Палажыў хлопец хустачку за пазуху да й лёг спаць, бо вельмі ўтаміўса, пакуль ухадзіў змея. Спіць хлопец багатырскім сном і не чуе, што беда блізка. Тым часам тые багатыры пад'ехалі туды, убачылі царэўну да й пачалі яе пытаць, як тое ўсё было. Расказала яна ўсё, як было да й кажэ, што пойдзе замуж за таго хлопца. Пазавідувалі яны хлопцу, падбеглі к яму соннаму да й забілі яго. Потым пачалі яны спрачацца, каму павінна дастацца царэўна. Доўга спрачаліса яны, нарэшце пачалі біцца, пакуль пазабівалі адзін другога. Застаўса толькі адзін самы дужы да спрытны. От ён прымусіў царэўну, каб яна сказала бацьку да матцы, што гэты [ён] багатыр забіў змея й выбавіў яе з неволі. Німа ёй чаго рабіць, трэ згаджацца, бо яе каханага хлопца німа ў жывых. От той багатыр пасадзіў царэўну на свайго каня да й паўёз яе к цару. Тым часам заяц пабег да крыніцы, набраў там жывое вады ў рот, прынёс да й пырснуў хлопцу ў вочы. Ажыў той да й прахапіўса. Зірнуў ён, аж царэўны ўжэ німа. Дагадаўса ён, што тут было ліха, да чуць не заплакаў ат жалю. Хацеў ён хутчэй бегці к цару да расказаць там усю праўду, дак, ведама, пешкі далёка не забежыш хутка. Тым часам воўк пабег па лесі да й трапіў яго кабылку. Напужаў ён яе да й прыгнаў туды. Сеў гэта хлопец на кабылку да й паехаў хутчэй к таму цару. Прыезджае ён туды, аж там ужэ ўсе гатовяцца к вяселлю. Пашоў ён к цару да й расказаў яму ўсю праўду. Не мае цар веры да й пытае ў дачкі. Але ведама, тая кажэ толькі тое, што ёй велеў казаць той багатыр. От цар велеў за паклёп павесіць таго хлопца. Тут толькі пачалі яго пытаць, хто ён такі.

— Я,—кажэ,—бязногі багатыр, а больш я вам нічога не скажу.

От ужэ ведуць таго бязногага багатыра вешаць. А тым часам царэўна пашла ў сад гуляць. Ідзе хлопец да й бачыць, што кала плоцья туляецца заяц. От ён выняў з-за пазухі тую хустачку да й кінуў зайцу. Схапіў заяц хустач-

ку да й прымчаў царэўне. Зірнула тая да чуць не абамлела.

— Чаго ты?—пытае цар.

Тут яна кінулася цару-бацьку ў ногі, расказала ўсю праўду да й пачала прасіць, каб не вешалі таго хлопца, каторы збавіў яе ад змея. От цар велеў не вешаць таго хлопца, а прывесці яго ў палац. Прышоў ён з сваёю кайстраю да й стаіць. Пачаў тут цар пытаць яго, як тое было. Расказаў ён усё, як было. А той багатыр кажэ, што гэта няпраўда. Тагды бязногі багатыр выцяг з кайстры змеіные языкі да й пытае:

— А што гэта?

Змешаўся той багатыр, а царэўна паказала бацьку абедзьве палавінкі хустачкі. Тагды ўсе паверылі. Таго ліхога багатыра павесілі, а бязногі багатыр жаніўса з царэўнаю да й заўладаў палавінаю царства. Справілі гучнае веселле.

Я там быў і мёд піў, па барадзе цекло, а ў рот не папала.

## АБ РЫЦАРУ, ЯК ЁН ЗАБІЎ ЗМЕЯ

Жылі сабе ў адной вёсцы двое людзей, і не было ў ніх дзецей, тылё нарадзіўсе адзін сын, і не меў жаднай владзы да трыдзесту лет. Пашлі ены еднаго разу ў поле жаць, а его пакінулі дома зачыненаго. Аж прыходзяць туды ўтрох людзі старые і просець у его, жэбы даў ім цо напіцьсе. А ён кажа:

— Даў бы я вам, але не магу хадзіць.

Так ены кажуць ему:

— Папрабуй ты аднаею нагою, чы ты можаш ею рухаць?

Ён парухаў, аж пачуў, цо можа хадзіць. Так вельмі ўцешыўсе і кажа:

— Чы много вам трэба прынесці? Бо ест у нас віно, але ўнізі ў склепі.

Так ены кажуць:

— Вазьмі ведро і прынесь поўно.

Ён прынёс і кажа:

— Пійце.

— Папрабуй сам напіцьсе.

Ён як узяў, так адразу цэло ведро і выпіў. Так ены кажуць:

— Прынесі два раза только.

Ён прынёс, так кажуць:

— Папрабуй.

А ён усё да чыста выпіў. Так трэйці раз кажуць ему:

— Ідзі і прынесі яшчэ два разы только.

Ён і тым разам выпіў усё. Тэраз пытаюцьсе ў его:

— Ну, як у цебе велька сіла ест?

— Чую, — кажа, — такую сілу, цо мог бы ўсю землю перавернуць, жэб тылё далі мне такі стоўп.

Так ены пагаварылі з сабою ўтрох, же то за много ему сілы будзе і кажуць:

— Хадзі, прынесі віна яшчэ два разы только і выпій.

Ён выпіў, так пытаюцьсе:

— Ну, як ціпер чуеш сілу?

А ён кажа:

— Тэраз тылё полова засталосе сілы.

Так кажуць між сабою:

— Даволі будзе сілы для его, — і даюць ему шпільку з галоўкаю на канцу і кажуць, жэбы ён занес да каваля і казаў куць датоль, аж стане седэм пудоў булава. І кажуць:

— Каваль нех куе, а ты вернісе назад да нас.

Ён так і зрабіў. Прыходзіць да хаты, а ены ему кажуць:

— Гэты каваль то не будзе рабіць з гэтай шпількі; але зробіць з жэлеза, то вазьмі тую булаву, выйдзь на двор, вазьмі за ценьшы канец і кінь угару і слухай, як ена будзе з высока ісці, то пачуеш шум, тэды падстаў калена, то ена разбіецьсе, калі не з шпількі зроблена.

Потым далі ему лук жэлезны і дванасце куль і кажуць:

— Гэты лук, то будзе табе на тые разбойнікі, цо ў лесі ў такум мейсцу ест, а з гетаю булавою, то пойдзеш у поле, там расце шэсць дубе, то паміж гэтымі дубамі ест жэлезные дзверы, ты тры разы ўдар у дзверы, то ены паб'юцьсе; а пад тымі дзверамі ест ешчэ адны жэлезные дзверы, там будзе жэлезно колко, то возьмі за его, то а(д)чыняцьсе. А потым, — кажуць, — а(д)чыніўшы тые дзверы, свісні тры разы моцно, то выбежыць да це з-пад землі конь, то его не выпусць наверх, бо не зловіш, тылько злаві за уздэчку і выведзі его на свет і тады седай і едзь просто на сход слонка, бэз гэтые лесé(!), то едучы, напаткаеш зараз дванасце разбойнікі, то зараз кладзі ў лук кулі (і) бій. Потым,—кажуць, — як пазабіваеш гэтых разбойнікоў, то едзь далей у лесе, знайдзеш там дванасце дубе агромных, а на іх гнездо, а ў том гнездзе змей будзе з аднаею галавою. Як будзеш пад'езджаць, то ён свісне, але ты не ўважай, бо табе свіст не ўшкодзіць, бо ты сільны. А як ён высадзіць голаў, то ты чым хучэй кладзі кулю ў лук і пападай ему ў правае око. Ён, — кажуць, — зараз упадзе на землю, тады беры его прывежы да седла і едзь з ім просто да кроля. Там у кроля будзе велькі баль і будуць зусюль рыцэры і кажан будзе хваліцьсе за свае сілы і адвагі, а ты ўвайдзі

і ўсім пакланісе, а як будуць пытаць, хто ты ест, то ты скажы, цо я найсільнейшы з вас усіх. Пузней па балю будуць вызываць, жэбы з сабою прабавалісе, то ты вазьмі гэтага змея, адвяжы ад седла і кажы змею (бо ён не будзе забіты, тылё ранены) жэбы па сваему свіснуў, то ены за страху пападаюць на землю і ўже ніхто з табою не будзе прабавацьсе.

І казалі ему, жэбы зараз нёс на поле радзіцам абед, і пашлі самі. Як ены наўчалі, так ён і зрабіў. Занёс абед, прыносіць, аж радзіцы ўцешылісе і дзівілісе, цо то сталосе, же ён можа хадзіць. А ён кажа:

— Ого, абачыце, які я ешчэ слаўны на цэло кралеўство стану.

Потым пашоў да каваля, узяў булаву і зрабіў так, як ему казалі. Так тая з жэлеза зламаласе, і каваль мусеў выкуць ему нанова з тае шпількі. Так узяўшы булаву пашоў, вывяў таго каня, сеў і паехаў. Прыехаў у лес, пабіў разбойнікоў, потым раніў таго змея, прывезаў да седла і паехаў. Прыежджае на кролеўскі двор, аж там рыцэроў, бавяцьсе, п'юць, банкетуюць. Так пакланіўся ўсім, а ены:

— Хто ты ест?

— Рыцар!

— Будзеш з намі прабавацьсе?

— Добро, тылё ходзіце, забачце, цо я прывёз.

Ены выходзяць, аж змей прывезаны да седла, а галаў у его як цэбар, а пазурэ як сашнікe! Так угледзеўшы, чысто патрупелі, а ён то на змея: «Свішчы!». А змей як свісне, так ены як га! так і пападалі на землю. Тэды кроль казаў ему змея забіць і ажэніў его з сваею дачкою. Васелё было гучнае: і я там быў, мёд-віно піў, па ўсах пацекло, ў губу не папало. Байка за байку запала, кавал носа адрвала і конец тэму утрапеню.

## ІЛЬЯ

Ілья етая колісь столькі-та лет сядзеў у седнях, а патом, значіцца, бог даў яму сцалення, і ўстаў ён і пашоў на сваіх нагах. А яго радзіцелі пашлі ў ляда, капаць. Дак ён узяў, абеду навар́іў і панёс ім туды ў ляда, уже сваім радзіцелям. Прінося ён абедаць, а тая ўже, яго матка, і кажа:

— От жа, — кажа, — наш Ільюша нясе нам абед!

А бацька кажа:

— Э-э! Пад'ясі ты ат Ільюші! Пагуляеш!

І ня ймалі веры, штоб ён ік ім прішоў. Думалі, мо так хто ідзе. А патом ён прішоў ік ім самым. Тагды ён приходзя ік ім і гавора:

— От жа, — гавора, — можа вы хочаця абедаць, дак садзіцеся абедайця, а я ўже сам буду полаць ляда!

От, яны селі абедаць, а ён як стаў корні вырываць, як стаў — дак вырвя і кіня, вырвя і кіня, вырвя і кіня. Дак, кажуць, у Палтаўскай губерні дак роў ё такі, што ён узрываў. Дак ён, значіцца, стаў узнаваць, калі хто памре, калі што будзя. (Пророк). Дак бог яго і ўзяў на неба с целясамі.

## ІВАН ПРЕКРАСНЫ І КНЯЗЬ ЛАДЫМЯР

Жіў-быў себе Іван Прекрасны, сірата несчасны, і служіў ён па князям, па панам і па ўсем багатырям; не імеў ён себе ні плацця цветнага, ні слова добрага. Наняўся ён к князю Ладымяру, Кіяўскаму садзержацелю, многаміласліваму. Праслужіў ён у князя трі года, — тоже не імеў ні плацця цветнага, ні слова добрага.

Даждалі праздніка светлага Васкресенія. Князь Ладымяр стаў сваіх пріслуг суряжаць, каторые былі ў него. Быў у него Алёшка — легок на язык, сладок на слова. Князь Ладымяр спрошуець у Алёшкі:

— Ніхто на нас не абіжаецца,—ні адна душа?

— Есць у нас Іван Прекрасны, сірата несчасны,—тот абіжаецца.

Прізваў князь Ладымяр к себе Івана, даець яму куні нячіняны і шуба няшітая:

— Вот цібе куні нячіняны і шуба няшітая, штоб эція куні пачініў і себе шубу пашіў і штоб ты са мною на завутрянь паспеў.

Палучіў Іван Прекрасны, сірата несчасны, горька заплакаў. Пашоў ён ік реке Днепру і думая сам себе пагубіць. Яўляецца к яму баба, як сенная капа:

— Ап чом ты, Іван Прекрасны, сірата несчасны, журісься? Я твайму горю памагу. Будзіш міне маткай звацъ?

— Буду!

— Садзісь на міне!

Баба старая перевязла Івана на тот беряг рекі. Там стаіць дом — ні ўздумаць, ні ўзгадаць, толька пяром напісаць. Прінося баба к варотам, бразнула ў кальцо. Выскакуя ік нім дзевушка, Алёна Сівалобаўна.

— Вот цібе друг! Будзіш ты яво сваім мужам называць?

— Буду!

— Вот жа ты яму куні пачіні, шубу пашы і выправі с князем Ладымярам на заутрянь.

— Лажісь, друг мой, Іван Прекрасны, спаць, — гаворіць Алёна Сівалобаўна, а сама вышла на крыльцо, крікнула багатырскім голасам. Ідуць к ней все ея слугі.

— Ап чом ты нас спрошуеш?

— А вот наця, штоп вы куні пачынілі і шубу сей час жа пашілі.

Алёна Сівалобаўна стала Івана будзіць:

— Уставай, мой друг! Вот шуба гатова, — на заутрянь звоняць.

Іван Прекрасны, сірата несчасны, надзеў шубу тую. Тагда Алёна даець яму тры яечка:

— Адным ты яечкам князя Ладымяра пахрістосуй, другім папа, а трецья вязі ў двор.

Послі заутряні Алёшка — легок на язык, сладок на слова, і кажа Івану:

— Пахрістосуй, брат, і міне.

Пахрістосаваў Іван і яго.

Пріезжая Іван у дом, Алёна гаворя яму:

— Пахрістосуй і міне!

— Я, — гаворіць Іван, — Алёшку пахрістосаваў.

— Ты дурак, хам! Себе безгалоўе палучіш.

Князь Ладымяр сабіраў багатых і ўбогіх на абед. Ён спрашуваў у багатых:

— Хваліцесь багацтвам! Буду за багацтва хваліць, а ўбогіх надаряць.

Іван Прекрасны седзіць, нічога не атвечаець. Алёшка — легок на язык, сладок на слова, запышеў[1] і гаворіць:

— Іван сібе жану нажіў, краше ў свеце нет. Ладымяр на эта і кажа:

— Паслаць яго к Воўку Мінчігрею за самаграйнымі гуслямі — Мінчігрей яго істребіць, а жана яго ў нас астанецца.

Напісалі пісьмо і паслалі Івана к Воўку Мінчігрею і сказалі яму:

— Еслі ты не прістaвіш нам самаграйных гусель, то цібе плаха і меч і голаву с плеч.

Палучіў тое пісьмо Іван Прекрасны, сірата несчасны,

---

[1] Раззлаваўся.

заплакаў. Прiходя ён у дом Алёны Сiвалобаўны. Узнаў аб этам, яна гаворя:

— Я цiбе гаварiла, што будзет цiбе безгалоўе. Ну, на цiбе шiрiнку, рубашку i порткi. Когда ж цiбе будзець прiтуга, успамянi мiне трi разы.

Прiехаўшi к Воўку Мiнчiгрею, Iван падаў яму пiсьмо. Воўк Мiнчiгрей прачiтаў пiсьмо, гаворя:

— У мiне нет гатовых, нада каваць, а цiбе, Iван Прекрасны, дуць, не атдыхаючi, трое сутак.

Iван Прекрасны за трое сутак трi раза атдыхаў, а Воўк Мiнчiгрей на яго сiльна асерчаў i хацеў з'есць. Iван Прекрасны папрасiў у Воўка Мiнчiгрея сiбе баню, штоб на смерць памыцца. Памыўшiсь, ён стаў рубашку надзеваць i Алёну Сiвалобаўну памiнаць: «Спасiба, Алёна Сiвалобаўна, што ты на смерць маю рубашечку дала».

Воўк Мiнчiгрей спрашуя ў яго:

— А што цiбе Алёна Сiвалобаўна?

— Жана мiне, — кажа Iван.

— Чаму ж ты мiне раньше этага не сказаў? Яна сястра мiне. У мiне есць гуслi гатовыя.

Воўк Мiнчiгрей даў Iвану гуслi. Ён iх прiвёз i аддаў князю Ладымяру. Через Алёну Сiвалобаўну астаўся жiў. I цепер яны жывуць, мед-вiно п'юць. I я там быў, мед-вiно пiў, па вусам цякло, а ў рот не папала.

## КІРЫЛА КАЖАМЯКА

Колісь быў у Кіеві князь, а быў коло Кіева змій і кажнага году князь пасылаў яму дань. Давалі або маладога хлопца, або дзеўчыну. А то прышла чарга і да дачкі самога князя. Нечага рабіць: калі давалі гаражане, трэба і яму даваць.

Паслаў князь сваю дачку змею. А дачка была такая харошая, што і сказаць не можна. То змей яе і палюбіў. От ена да яго прылісілась да і пытаецца раз у яго:

— Ці е,—кажа,—на свеці такі чалавек, каб цябе падужаў?

— Е,—кажа,—такі ў Кіеві над Дняпром: як затопіць хату, то і дым аж пад небесамі сцелецца, а як выйдзе на Днепр мачыць шкуры, то не адну несе, а дванаццаць разам, і як набракнуць яны вадою ў Днепрэ, то возьмя і ўчапіцца за іх: ці выцягне? А ён такі ж і не чуя, возьмя і мене з імі трохі на бераг і выцягне. Таго чалавека толькі мне і страшна.

Княжна ўзяла сабе гэтае на душу і думае: як ей карту да дому падаць і на волю да аца дастацца? А пры ёй не было ні душы, толькі адзін галубок. Ена выгадавала яго за счасліві, і напісала да пана аца:

— Гэтак і так,—кажа,—у вас,—кажа,—паночэнку, е ў Кіеві чалавек, на імя Кірыла, а на прозвішча Кажамяка. Прасеце вы яго чараз старых людзей, ці не захочэ ён із зміем пабіцца? Ці не зволіць мене, бедну, з неволі выручаць? Просеце яго, паночэнку, і словамі, і падарункамі, каб не абідзіўся ён за якоя незвычайная слова. Я за яго і за вас буду да веку богу маліцца.

Напісала так, прывязала пад крыло голуба да і выпусьціла ў вакно. Галубок звіўся пад неба да і паляцеў да дому, на падвор'е князя. А дзеці самі ўглядзелі галубка.

— Бацько, бацько, — кажуць, — ці бачыш, галубок ад сястры прыляцеў?

Князь перш зарадаваўся, а дале падумаў, падумаў да і сумеўся:

— Пракляты ўжэ згубіў, відна, маю дачку!

А далей прыклікаў да себе галубка, глядзь — ажно пад крылом картачка. Ён за картачку, чытая, што дочка піша. Той раз прызваў да сябе ўсю старшыну, сяк-так парадзіліся да і паслаў да Кірылы Кажамякі самых старых людзей. Прыходзяць яны да яго хаты, атчынілі па-малу дзверы да і спалохалісь. Дзівяцца: аж седзіць сам Кажамяка і мне рукамі дванаццаць шкур. От адзін з тых пасланцоў:

— Кахі!

Кажамяка спалохаўся і дванаццаць шкур разарваў. Ены пакланіліся яму і гавораць:

— Князь з прозьбаю к табе прыслаў нас.

А ён і не слухае, што чараз іх дванаццаць шкур пa-рваў. Прасілі, прасілі да і пашлі, панурыўшы галовы. Тагды князь паслаў малых дзяцей. Тыя як сталі плакаць, то і сам Кажамяка не выцерпеў, заплакаў і кажа:

— Ну, ужо ля вас я зраблю.

Пашоў да князя, узяў дванаццаць бочак смалы і дванаццаць воз канапель, абматаўся каноплямі і абсмаліўся смалою; узяў булаву пудоў с дзесяць і пашоў біцца з змієм. Білісь, білісь Кажамяка з змієм, і такі Кажамяка забіў змія, вызваліў княжну і аддаў князю. Князь ужэ не знаў, як яму і дзякаваць, чым яго і надарыць. Так ужэ з таго-та часу і пачало звацца то ўрочышча, гдзе ён жыў, Кажамякамі.

## КУРЫЛА КАЖАМЯКА

Як-то была нейдзі сільная гара, а ў тэй гарэ жыў цмок. Тады гэты цмок украў у цара дачку. Жыла яна год у тэй гарэ с цмокам, жыла два. А ў тэй гарэ была дзюрка, куды летаў цмок. Раз, як паляцеў цмок, улетаець у тую дзюрку галуб. Тады яна напісала картачку к свайму бацьку, на нітачку прывязала і начапіла на шыю голубу. Як начапіла картачку, дак выпусціла голуба вон. Голуб пыляцеў у тэй горад, адкуль цмок узяў царэўну, і сеў на даху. Тады людзі ўбачылі, што ў таго голуба нейкая картачка на шыі, і сталі яго лавіць. Улавілі, адвязалі картачку ад шыі і сталі чытаць. А ў тэй картачцы напісана: «Ацец мой любезны, дастаньця мяне з такей і з такей гары. І больш мяне ніхто не дастанець, апрыч Курылы Кажамякі. І вот як вы яго можаця ўзнаць: як толькі будуць тапіцца печкі і будзець ісці дым, дык ува ўсіх дамах дым пойдзець на бок, а ў яго прама. Ён сільней цмока, і калі хочаця дастаць мяне адсюль, дык упрасіця Курылу!».

Тады тэй цар сабраў старыкоў паштэнных і паслаў іх к Курылу прасіць, каб ён дастаў яго дачку з гары ад цмока. Пашлі цяпер тые старыкі к Курылу і сталі яго прасіць. Прасілі, прасілі, і кланялісі, і каралісі — ня ўпрасілі. Сабраў тады цар сярэдніх людзей і паслаў іх к Курылу прасіць, каб ён дастаў яго дачку з гары ад цмока. Пашлі яны к яму, кланялісі, каралісі, усё прасілі — не, ня ўпрасілі. Засмуціўся тэй цар і ня ведаець, што яму цяпер рабіць, як ба та яго ўпрасіць. Тады яму параялі асобы: вазьмі ты паспрабуй паслаць малых рабят, можа ён над імі змілуецца! Ён паслухаў тыя рады іхныя, сабраў малых дзяцей і паслаў іх к Кажамяку прасіць, каб ён схадзіў к цмоку за дачкой за царскай. Пашлі тыя дзеці к Кажамяку, а ён на возеры кожы мыець.

Сталі яны перад ім плакаць, кланяцца. Тады яго быццам-то ўзяла жаль. Разырваў ён тыя кожы на чатыры часці і ўкінуў у возяра. І паслаў сказаць цару, каб ён купіў дванаццаць пудоў пянькі і шэсць пудоў смалы, і даставіў яму. Курыла абвярцеўся пянькою, абсмаліўся смалою і пашоў на тую гару.

Прыходзіць ён на тую гару, ажны цмок січас вылетаець к яму:

— Што,—гаворыць,—Курыла, зачым прышоў сюды?

— А прышоў,—кажаць,—за царскай дачкой. Аддай мне яе!

— Не, я не аддам царскія дачкі!

— А ня'тдасі, дык мы з табой разбяромся!

І схапілісі яны біцца. Білісі, білісі, с самага рання да самага поўдня. Цмок убіў Курылу па пяты ў зямлю, а Курыла цмока ўбіў па калені. Тады цмок кажаць:

— Аддышам, Курыла! Цары з царамі б'юцца, каралі з каралямі б'юцца і то аддушку маюць, а мы з табой білісь палавіна дня, і ня'тдыхаем!

А Курыла кажаць:

— Не, я ня хачу аддыхаць, біцца, дык біцца!

Сталі яны ўзноў біцца. Білісі, білісі ад самага поўдня да самага вечара: Курыла цмоку галаву зняў, а цмок убіў у зямлю Курылу па калені.

Убіўшы праклятага цмока, Курыла раскапаў гару і дастаў царэўну. І, дастаўшы царэўну, прыставіў яе к аццу. Цар, увідаўшы сваю дачку перад сабой, крэпка ўзрадаваўся, угасціў Курылу як можна лучча і даў яму дужа многа грошай.

Вярнуўся Курыла дамоў і лёг спаць на дванаццаць сутак. І прыставіў лі дзвярэй часавога, і прыказаў яму так: каторые хацяць пасматрэць на мяне мужчыны, ты пускай, ну жэншчын ня'днэй не пускай!

Як лёг ён спаць, тады яго матцы крэпка захацелась на яго паглядзець. Узяла яна, адзелась у мужчынскую адзежу і прыходзіць. Часавой думаў, што гэта мужчына, і прапусціў яе ў пакой. Увыйшла яна туды, дзе ён спаў, і як толькі глянула на яго, так ён і ўмёр...

## АБ ІГРІ ІГРАВІЧІ, АБ СТАРІКЕ ПАЛУГРІМІ

В адном дреўнім царстві быў царь Ігра, імеў ён трех сыноў. Дажілі яны да савяршенных лет, і старші сын стаў прасіць благаславенія ў аца пувідаць чужіх зямель, паказаць і сябе.

Ацец і дазволіў яму атпраўляцца ў чужея землі. Сын сідлаіць добрую лошадзь, садзіцца і атпраўляіцца ў пуць. Пріблїжаіцца ка граніцы аццоўськага царства, а на граніцы стаіць дуб, на том дубу сядзіць старік палугрім. Палугрім імеў прі сябе кнуцік длінною на сем вёрст; сам ён з вяршок, а галава з гаршок. Палугрім спрашіїць, хто едзіць, куды едзіць, ці па хоці, аль па няволі. Каралевіч у атвет яму:

— Ека дзіковіна! Узабраўся на дуб — як ба челавек, а то мальчуган ростам с вяршок, а галава с гаршок!.. Еду туды, куды мне нада.

Услыхаў палугрім дзерзкі атвет царевіча, астанаўліїць яго лошадзь, бярець свой кнут і ўсыпаў царевічу, сколькі прішлось, ізбяёдаваў яго ладна і вярнуў яго назад.

Царевіч вазвраціўся к бацюшкі царю ў сваю сталіцу. Ацец дзівіцца, што сын яго царевіч скора вярнуўся і спрашіїць:

— Што с табой злучілась, што ты скора вярнуўся?

— Ах, бацюшка, на заставі, прі граніцы тваяго царства, мне ўсі ребра пераламалі — ні магу ўжу далі ехаць, і паетаму счеў за лучшее вярнуцца.

Просіцца другой сын, сяредні, у чужея землі, павідаць і чужіх загранічных зямель і людзей, да і сваю моладасць паказаць.

Бацюшка царь дазваляіць і етаму сыну атпраўляцца ў чужея края.

Пріблїжіўся к тэй заставі і тому дубу і еты сын,

Слышіць, як с дубу крічіць яму палугрім.

— Стой! Хто едзіць? Куды едзіш? Ці па сваёй хоці, ці па няволі?

Царевіч с гордасцю ўзглянуў на еты дуб, відзіць мальчугана: сам ён с каршок, галава с гаршок, і гаворіць яму царевіч:

— Ека дзіковіна какая! Туда еду, куды нада.

— Ну, калі так ты мне рячіш, то я с табой рассчітаюсь! Тут і пціца біз міне ні адна ні пралітала, ні людзі ні праезжалі.

Прыг с дубу, да і начаў яго кляўміць, кнуцікым ахажіваць: ізбіў царевіча, як гамана.

Царевіч ізбіты вазвраціўся ва сталіцу к бацюшкі царю. Царевіч рассказаў яму ўсё, што з ім злучілась у дарогі, атказаўся ат дальній паездкі.

Спусця нескалькі гадоў, младші сын Ігра Ігравіч просіць благаслаўленія ў аццa пувідаць чужіх зямель і сябе паказаць. Царь сына благаславіў, і ён атправіўся ў дарогу. Пріехаў к граніцы чужей зямлі і к таму дубу, а палугрім і гаворіць царскаму сыну:

— Што, царевіч Ігра Ігравіч, куда ты едзіш, ці па хоці, ці па няволі?

— Нет, палугрім, не то шта па няволі, а пу бацюшкіныму благаславенью: хачу праехаць у чужея края, паглядзець і чужіх зямель, і сябе паказаць.

— Ну, знаю я тваe намереніe, толька ты, царевіч, на етый лошадзі ні даедзіш, а вярніcь дамой і прасі ў сваяго бацюшкі ту лошадзь багатырскую, на каторай ён ездзіў ат младысці да старысці!

Вазвраціўшісь к аццу, рассказаў усё, як паступіў з ім палугрім, і просіць аццоўськей багатырскій лошадзі на праезд яму ў загранішныя края.

— Ну, сын мой мілы, атпрыўляйсі ж ты іпяць к палугріму!

Увідаў палугрім царевіча і гаворіць яму:

— Што цябе, царевіч, сказаў твой ацец?

— Сказаў мне мой ацец, што лошадзь стаіць у бірягу, у скляпу, а ключікі ў вашій мілысці.

Палугрім і гаворіць царевічу:

— Я таперь знаю а тваей паездкі: ты едзіш па світу сябе паказаць і дружкі паіскаць.

Спрыгнуў палугрім с дубу, атправілісь к склепу. Атмыкаіць лошадзь, а лошадзь ад дреўнысці пасівела.

Ігра Ігравіч, увідаўші ету багатырскую лошадзь, гаворіць ёй:

— Служіла ты маяму бацюшкі ат младасці яго і да старасці—пуслужі таперь і мне!

— Нет, Ігра Ігравіч, я ўстарела — ні магу цябе служіць, а пазволь мне ў чістым полі пагуляць, ярый пшаны паідаць, зямчужный расы пупіваць!

Царевіч с палугрімым і самі атправілісь пагуляць і пувісяліцца. Гулялі яны доўга і прідоўга, а ў ета ўремя і лошадзь ат'елась. Пріходзіць Ігра Ігравіч к то́му месту, свіснуў багатырскім посвістым, маладзецкім голасам: лошадзь бяжіць, пад ёю зімля дрыжіць.

— Скажі жа мне напярёд, — гаворіць лошадзь Ігрі Іграві́чу,—якую табе службу служіць!

— Я, — гаворіць царевіч, — хачу чужіх зямель павідаць, сваю красату паказаць.

— Ну, скідайся мухыю, палізай у мае левыя уха, а ў правыя вылізай: таперь ты красіў і сілен, а тады яшче болій будзіш і красіў, і сілен.

Выліз із вуха лошадзі царевіч і ў праўду стаў і сільней і красівій.

— Садзісь лягенька і дзяржісь кряпенька — паедзім!

Усеўшісь на лошадзь, царевіч прасціўся с палугрімым і ўскакаў. У мінуту ўремені царевіч Ігра Іграві́ч праскакаў на багатырскій лошадзі адно чужоя царства. Відзіць агромны дом. Астанавясь здзесь, прівязыіць ён верную сваю лошадзь, сам уходзіць у еты дом: відзіць агромныга змія, змій жа еты махаіць жалым да верхніга на́валка. Царевіч, не рабея, кладзець сваю шапку і нізка кланііцца змію. Змій скаціўся ў клубок, пакаціўся ў дальніі пакоі—і выходзіць пріКрасівая дзявіца.

Дзявіца гаворіць царевічу:

— Здрастуй, Ігра Іграві́ч, куды ты едзіш: ці па хоці, ці па няволі?

— Я еду ні па няволі, а пу бацюшкіныму благаславенню.

— Знаеш лі, царевіч, хто далёка літаіць, тот сваю галаву ціряіць, а пакорную і павінную галаву і меч ні бярець. Ты, куды едзіш, туды ты на сваей клячі ні даедзіш. Астаўляй яе ў маім дваре, а я дам табе сваяго добрага каня.

Публагадаріў яе за ўслугу, сеў на дзіўнага каня і паскакаў у чацвертыя царства. Як воласу пірігарець, ён

праскакаў па етыму царству, пріскакаў к заставі чацвертыга царства, відзіць грамадны дом; прівізаў дзіўныга каня, сам пашоў у тот дом. Прі ўходзі ў дом відзіць грамадныга змія; нічуць ні рабея тога змія, кладзець сваю шапку к месту, нізка пакланіўся змію — змій свярнуўся ў клубок, пакаціўся ў задніі пакоі. Выходзіць прікрасная дзявіца, і аткланіваіцца ёй Ігра Ігравіч. Дзявіца гаворіць яму:

— Куды едзіш? Ці па волі, ай па няволі?

— Ні па няволі, а пу бацюшкіныму благаславенству.

— Даляко, царевіч, літаіш, сваю голаву ціряіш; ну, а пакорную і паклонную галаву і меч ні бярець. Толька ты на клячі, куды едзіш, ні даедзіш. А дзелаць уж нечіга — думаю памоч цябе: бярі майго быстрага багатырскага каня, а свайго астаў у канюшні.

Публагадаріў дзявіцу-красавіцу, сеў на быструю лошадзь і паскакаў да следуюшчага чацвертыга царства. Ехаў так быстра, што праехаў усё царства, як воласу пірігарець. Пад'ізжаіць к заставі, відзіць велікалепны дом. Астанаўлііць быстрага багатырскага каня, уходзіць у дом, відзіць агромныга змія. Не рабеючі, кладзець сваю шапку і нізка кланіііцца ён тому змію. Змій свярнуўся ў клубок і пакаціўся ў задніі пакоі. Яўляіцца пірід яго прікрасівая дзявіца, ён аткланіўся ёй. Дзявіца спрашііць у царевіча, ці па хоці, ці па волі едзіць і куда, і за чім. Царевіч атвічаіць пріўкрасный дзявіцы:

— Я еду к мурумскуму царю прасіць рукі яго дочірі, прікрасный Іріны.

— Знаю я етыга царя: ён мне родны, но толькі ты на лошадзі ня ездзі, а атстаў яе ў мяне, а я табе дам ўместа каня шацёр-самалёт, шапку-нівядзімку, і сапог-бісаног... Да, сматрі: як даляціш, ні ўхадзі ў іх палаты, а астанавісь у іх зяленым саду, штоб іна ні тваяго голаса ні слыхала, ні тваяго воласа ні відала — а то іна цябе спатрябіць. Наблюдай яшче, як цареўна Іріна будзіць іціць на гулянья, у сад, са сваімі пріслугамі і ўзойдзіць у шацёр на отдых—тады ты скорым поспіхым к ей у шацер, патдахні і кольцы на кольцы пуміняйся, квасу напейся і ўхадзі скарей.

Выслушаў усё, што яму гаваріла і прысаветывала, публагадаріў яе і сеў у самалёт, і паляцеў к мурумскуму царю, прекрасный дочері яго Іріны. Пріляцеўшы, ён аста-

навіўся ў царскым саду і выжідаў выхыду цареўны, прікрасный Іріны.

У поўдзінь вышла із дварца цареўна с пріслугамі пагуляць па саду і, нагуляўшісь, пайшла ў шацер на отдых. Тут Ігра Іgraвіч скорым поспіхым уходзіць к ёй у шацер, так жа на отдых. Патдахнуўші с ею, нагаваріўшісь у волю, абмяніўся на кольцы, напіўся квасу і, ні накрыўші квашні, уляцеў у абратны пуць. Пріляцеў к прікрасный дзявіцы, аткланіўшісь ёй, вазвраціў ёй самалёт, шапку-нівядзімку і сапог-бісаног, і благадаріць яе. Дзявіца прікрасная (звалі яе Алёнай) сказала царевічу:

— Даляко літаішь і многа бед дзелаіш: квас піў і квашні ні закрыў. Садзісь жа скарей на каня сваіго і скач скарей, а то віць за табой будзіць пагоня. Вот табе мая шчетачка. Як будуць цябе даганяць, брасай скора ету шчетку — сделаюцца мхі і балоты, а пака ганцы канавы пракапаюць, масты намасцяць, дарогі правядуць— ты ўсё то царства праскачіш.

Даганяюць царевіча ганцы, а царевіч брасаіць шчетку — дзелаюцца мхі, балоты, і, пака ганцы правялі дарогі, ён ужу праскачіў усе царства. Пад'ізжаіць к заставі другога царства. Уходзіць ва двор, аткланіваіцца прікрасный дзявіцы, атдаець ёй быстрага багатырскага каня і паклон ат сястры Алёны.

Другая дзявіца дала Ігрі Ігравічу грібяшок.

— Будзіць за табой пагоня, тады брасай еты грібяшок: ат етыга будзіць ссадзі цябе агромны лес. Пака лес разрубюць і масты, дарогу сдзелаюць, ты пріскочіш у треція царства.

Усеўся на лошадзь добры молыдзіц і быў такоў. Даганяіць пагоня, царевіч бросіў грібяшок, і вырыс агромны густы лес. Пака ганцы срубкай леса занімалісь, а царевіч ускакаў у треція царства.

Яўляіцца к прікрасный дзявіцы, атдаець паклон ат сястры. Прікрасная дзявіца гаворіць:

— Ігра Ігравіч, за вялікыю бядою ездзіш ты па свету. Сматрі, ні паціряй сваю галовушку, а біда ў цябе ўжу на насу тваём. Вот жа табе ат мяне хустычку. Будзіць за табой вялікая пагоня — ты ні дупускай да сябе, брасай ету хустычку. Загаріцца пазадзі цябе і земля, і вада; пагоня ў агонь ні пайдзець, а вазвраціцца ва сваясі.

Даганяіць пагоня, царевіч Ігра Ігравіч брасаіць

хустку: загараіцца і зімля, і вада. Ганцы ў агонь ужу ня бросілісь, а толькі дзівуюцца. А Іріна гаворіць:

— Ну, Ігра Ігравіч, таперь-та ты ат маіх рук ускальзнуў, но дажідай мяне с гасцінцым у тваем царстві!!

Царевіч пад'ізжаіць к старіку палугріму. Астанаўліііць утамлёнага свайго верныга багатырскага каня, здрастуіцца с палугрімым. Палугрім радзеханік благапалушныму вазврашченію Ігры Ігравіча.

— О, Ігра Ігравіч, даляко ты літаіш, да і бед жа многа надзелаў: то-та маладосць—буйносць! Піў квас, да квашні ні накрыў! Паізжай жа ты к аццу тваяму: у вас бальшоя бізчасця. Наляцеў у ваша царства заморскі Абжора — выідаіць усё ў вашім царстві.

Даскачіў скорым поспіхым да сваяго царскага дварца, входзіць ва дварец, відзіцца с аццом і браццямі. Началісь распросы а пуцяшествіі царевіча. Царевіч ат ніці да ніці разсказаў аццу а сваём странстваванії. Аццец, нагаваріўшісь с сыным, гаворіць і а сваём горі.

— Вот, сын, у міне, у маем царстві сільныя бізчасця. Налітаіць Абжора, па нескалькі куф водкі выпіваіць і па нескалькі валоў паідаіць.

— Бацюшка, прікажіця сдзелаць трі прута зялезных, булку хлеба і гарніц водкі.

Ляціць Абжора, як гром гріміць, яўляіцца ва дварец, як сінная капа, і ўходзіць у палаты, требуіць папіць і паесць.

Яўляіцца царевіч Ігра Ігравіч с булкыю хлеба і гарцым водкі.

Абжора горда рячіць царевічу:

— Што, ты шуціць уздумаў са мной: ці накорміш ты мяне етым кусочкым?

Царевіч і гаворіць Абжорі:

— У нас была карова-абжора: ела ўсё па такой булкі хлеба і піла пу вядру вады марской, да патом аб'елась і апілась. Няўжо ш і на цябе ня будзіць акалівання?! Ведзь акалеіш і ты!

Абжора і рячіць царевічу:

— Ты са мной мала пагаварівай!

— Ну, калі ты, галубчік, такоў, то я с табой пабоірюсь. Падайці-ка трі прута маіх.

Падаюць яму трі зялезных прута. Царевіч давай яго бізуваць па хрябетнай касці, сбіў трі пруты, а Абжора ні паялся. Тады царевіч патребуваў дзедушкіну булаву.

Валакуць тую булаву дзесіць чілавек царскіх прíслуг. Абжора спужаўся ўжу булавы — крутнуўся ат царевіча так сілна, што ў руках царевіча астаўся і чэріп Абжоры, і паляцеў Абжора із царскага дварца. Пусціўся ў дагонь за Абжорай, но відзіць, што яго ні дагоніць, пусціў услед за ім дзядоўскую булаву — паляцела булава за Абжорай, як з ружья пуля.

Відзіць Абжора, што яго дзела плоха — ударіўся об земель. Зімля ат сільныга ўдара расступілась, і Абжора заморскі праваліўся сквозь землю. Загрімела ўслед за ім булава, і сдзелалась на том месці окнішча. Ігра Ігравіч падходзіць к таму окнішчу, сматріць туды і відзіць, што і канца-краю нету.

Пріходзіць ва дварец і гаворіць аццу:

— Какаво, бацюшка, накарміў і напаіў заморскага Абжору? Ён як крутнуўся, у маіх руках атстаўся і черіп яго с валасамі, но бяду адну сдзелаў — жалею і сам: булава дзедушкіна паляцела ў тар-тарары за Абжорай.

Ацец гаворіць царевічу:

— Ладна, што ізбавілісь ат Абжоры, а булава, хуць і прапала, нібальшая тут яшче біда.

— Ох, нет, бацюшка, я думаю булаву і там найдзіць.

— Ну, што ты чудзіш?—гаворіць царь сваяму царевічу.

— Бацюшка, прікажіця сдзелаць блок: я на блаку спушчусь і найду булаву.

Узяў ружьё, зарядзіў і ідзець к блоку; праважаюць яго ацец і браццbackground. Царевіч просіць аццa-царя:

— Бацюшка, як спушчусь я ў тар-тарары, ты пастаў старажамі лі блока ні салдат, а сыноў тваіх — маіх брацьіў; я калі дзёрну за вяреўку, то б яны мяне аттэль бы ташчілі.

Ну, так яго і спусцілі. Ён сашоў на тот свет і там начаў іскаць булаву. Іскаўшы булавы, нашоў гняздо птушінят і пріцеліваіцца іх біць. Пцічіняты іспужаліс і затряслі сваімі крылушкамі, а ён адумаўся. Ряшіўся ўзяць іх і карміць: можа, у іх нету ні ’цца, ні маціpі. Начаў іх карміць і паіць да ўзросту іх. Пціцы сталі палетываць, і слышаць яны, што ляціць іх маць-пціца, усяму свету хлапатніца. Сталі яны дружка с дружкыю талкаваць:

— Што ты знаіш, сястріца? Ляціць наша маць-пціца, усяму свету хлапатніца; іна, ні растукаўшісь, ні разгукаўшісь, Ігра Ігравіча спатрябіць; нада нам яго спря-

таць: хуць ён нас напугаў, да памілуваў. А куды ж мы яго охуваім?

А падружка-пцічка атвічаіць:

— А пад ту скурлупу, із каторый мы самі выхадзілі.

Так яго туда і спряталі. Прілітаіць іх маць-пціца, усяму свету хлапатніца, і гаворіць сваім пценцам:

— Дзеткі мае, гулубяткі, хто вас ускарміў, і хто вас успаіў—я тога і сама б аблагатваріла!

Дзеці-пцянцы і гаворюць ёй:

— Хадзіў тут якей-та ахотнік, хацеў нас с ружья пабіць,—нашi жілачкі ўсе пазамерлі, патом ён асумніўся, стаў нас карміць і стаў нас паіць, пакель мы ўжу сталі пірялетываць.

— А дзе ж вы яго дзівалі?

— Мы спряталі пад ту скарлупу, с каторый самі выхадзілі.

— Ідзіця і завіця яго ка мне!..

Пцянцы яго вядуць к сваёй мацірі. Іна, ета пціца, яго ўзнала і гаворіць:

— Здрастуй, Ігра Ігравіч!..

А ён ей:

— Здрастуй, пціца — усяму свету хлапатніца!

— Віць ты, царевіч, даляко літаіш, да сваю голаву ціряіш; толька тым і бяреш, што пакорную і паклонную галаву і меч ні бярець. Ты тэй свет увесь аб'ехаў і сюда явіўся! Што ж табе нужна здзесь і зачім сюда ў еты свет?

— Абжора занёс булаву, вот я прішоў атысківаць яе.

— Што ты пцянцоў маіх карміў і паіў, за то я цібе атблагадарю. Ідзі і разысківай сваю булаву.

Ён піходзіць к дому тога Абжоры, і на крыльцы сідзят дзве дзевушкі, слезна плачуць і кавёр вышіваюць, і яны так красівы, што ідна другей красівій. Ён пріходзіць к ім і спрашіiць у іх, якога яны званія і горады. Яны атвічаюць яму:

— Мы дзявіцы: адну завуць Марюхай, а другую Насцюхай, званія мы царскага, украдзены заморскім Абжорай. Марюшка царства Мятліцкага, а Насцюшка царства Вьюгіна.

— Скажіця мне, ці жіў Абжора?

Тыя дзявіцы атвічаюць:

— Жіў! Ён нідаўна сыскаўся і прінёс с сабой булаву; сам таперь аддыхаіць і булаву ў угол паставіў.

— Я хачу яго відзіць. Пакажіця мне, ідзе ён аддыхаіць. Яны яго ўводзюць у спальню, а Абжора спіць. Ён узяў сваю булаву і адбіў Абжорі голаву.

— Вот, красавіцы цареўны, Абжорі таперь ужу нет: я яго са свету сжіў.

— Ах, царевіч, у яго ёсць старушка,—та пахітрей за яго; яе толькі дома нет. А мы парадзім цябе, калі ты тут нас ні аставіш, як справіцца са старухай.

Яны ўзялі залатыя ключі, пашлі ў патайные пагрябы. У пыгрібах стыялі дзве куфы віна: на левым баку—сіла, а на правым — бязсілья.

— Вот, Ігра Ігравіч, пей віно с левый стараны, а с правый не трогай. Ён, як віна напіўся, падноснік пад ім сламіўся—пачуяў ён у сябе болій сілы.

Перекацілі куфу с левый стараны на правую, а с правый на левую, заперлі патайной погріб і ўшлі. Ключі павесілі на места і гаворюць:

— Прідзіць старуха і вызавіць цябе сражацца с сабой, — і ты яе спашібеш; іна папросіць у цябе роздуха і прігласіць цябе папіць і пагуляць. Вазьмець іна залатые ключі і пайдзець у патайные пагрябы, там ёсць дзве куфы віна, і предложіць піць віно, а ты пей із бочкі на правый старане: тады іна аслабеіць, а ты пасільнееш.

Патом узялі Ігра Ігравіча і спряталі.

Ляціць старуха — с палета сур'ёзна.

Як вашла ў комнату і гаворіць, што русь-кось пахніць. Атвічаюць ей цареўны-красавіцы:

— Бабушка па Русі літала, да руськуга духа набрала!..

— Вы ўреця — вы мяне праводзіця!

А яны атвічаюць ёй:

— Нет, бабушка, мы гаворім табе праўду.

Глядзь, Абжора забіт.

— Хто ж ета маяго Абжору забіў?

— Пріхадзіў якей-та чалавек за булавой, узяў булаву і атбіў дзедушкі галаву.

Сейчас жа ўскачіла ў комнату Абжоры, яе мужа, і ўвідала, што Абжоры галава атбіта, і ляжіць галава асоба, а тулува тожа асоба. Рассярдзілась дужа і прішла ў бальшую злосць, громка закрічала:

— Падайця мне яго сюды: я яго жіўцом з'ем!..

Дзявіцы пазвалі Ігра Ігравіча. Яўляіцца к старухі.

— Ех, галубчік, ты тэй свет увесь аблітаў і на еты прішоў. Нет, нет, цяпер ня выкруцісся. За што ты маяго старіка ўбіў?

— За то, — кажіць Ігра Ігравіч,—што ён маю булаву ўнёс. Вот я ўзяў у яго сваю булаву і атбіў яму галаву.

— Ну, пайдзем-ка на расправу!

Вышлі за варота, і гаворіць старуха:

— Ну-ка, Ігра Ігравіч, дуй поля — ток!

Ён як дунуў на дванаццаць вёрст, выдуў хруштальны ток. А іна дунула на дванаццаць верст — выдула ток чугунны; да і начали драцца. Царевіч старуху сбіў.

— Стой, Ігра Ігравіч, пайдзем пагуляім!

Старуха бярець свае залатыі ключі, атваряіць патайнэя пагрябы.

— У мене здзесь ёсць дзве куфы віна. С каторый староны будзім піць віно: ці с правый, ці с левый?

— Я буду піць хуць с правый.

І як напіўся, яшче пасільней стаў, а іна сільна асалапела. Царевіч і гаворіць:

— Ну, што, баб, адзе будзім вуювацца?

А іна яму ня вымалвіла і славечка. Тады ён узяў яе за валасы, тріханув — і косці з кожі вытріс. Прішедші к пленніцам-дзявіцам, і гаворіць ім:

— Ну, таперь я ўсіх сваіх і вашіх урагоў пубядзіў. Таперь ні бяріця ні злата, ні сребра, а забірайця драгаценныі камення!

І атправілісь утраём к блоку; узяў ён і сваю булаву.

Прішедші к блоку, садзіцца ў яго, а дзявіцы зарыдалі горькамі слязмі і гаворюць яму:

— Мы табе ў тваем горі пумаглі нашім саветам, і ты абішчаўся вывісць нас на руські свет, а между цем таперь пакідаіш нас. Луччі ты пасадзі нас на блок, а тады сам сядзіш: твае брацця наверна пададуць табе блок.

Царевіч прізнаў іх слава за праўду, пасадзіў дзявіц ва блок і тряхнуў ім. Брацця яго і пацянулі. Давалаківаюць блізка кі берігу і замецілі їх красату, і сталі друг с другым гаваріць:

— Ну, брат, ці нравюцца яны табе?

Атвічаіць другой брат:

— Агу! А чаму ж?—якея прігожія красавіцы!

— Да во што, брат. Як нам брат явіцца, то ён возьміць адну сабе, а другую каму-нібудзь із нас уступіць... А мы разрежім вярёўку, выцінуўші іх на край, і пусцім

туды адзін блок. Тады еты дзявіцы будуць нашімі жонамі, а брат на векі застаніцца на том свеці.

Дзявіцы абразавалісь залатымі бярёзамі і лісцьямі на бярёзах сяребрінамі і свілісь макушка с макушкаю, і окнішча ета зарасло, і прізнакыў ні 'тсталысь. Тады яны спугалісь і самі, да і думаюць, як ідзіць к аццу і што яму сказаць.

Пріходзюць ка 'ццу і гаворюць яму:

— Бацюшка, наверна, наш брат на том свеці ліба ўмір, а ліба ўбіт: окнішча заруўнувалась, і вырыслі два памятніка залатымі бярезамі с сяребрінымі лісцьямі са світымі ўмесці макушкамі.

Ігра Ігравіч, узнаўші, што брацця яго яму ізмянілі, атпраўляіцца к пціцы — усяго света хлапатніцы, і гаворіць яму пціца:

— Што, Ігра Ігравіч, здрадзілі цябе твае братчікі?

І ён заплакаў горькімі слізамі.

— Што ж дзелаць? Я надзеіўся на іх ні так, як на чужіх, а яны ўтварілі мне зло хужі чужіх.

— Но я тваіму горю пумагу: ты маіх дзяцей васкарміў і васпаіў. Ступай, набей мне пцічік і, сколька набьеш, усіх на нітычку навяжі, а заўтра рана ка мне пріхадзі.

Ён набіў пціц цэлую нізку і пріходзіць к ей. Іна і гаворіць яму:

— Садзісь на мяне лягенька і дзяржісь кряпенька, а как замарюсь, так кідай мне ў мой рот, што б не аслабець.

Бярець ён булаву і садзіцца на пціцу лягенька і дзержіцца кряпенька, і пашлі на руські свет. Вызнісла яго вочінь высока і спрашііць яго:

— І дзе мы находзімся? Глянь уніз!

Ён паглядзеў уніз і гаворіць:

— Нічаво ня відна, толька адна вада, як хрушталь — знаць, мы над морім.

Іна січас пірівярнулась уніз спіною, а ў верх нагамі — царевіч і загрімеў, як камінь, у воду. Тады ізноў падхваціла яго і пытаіць:

— А што, Ігра Ігравіч, як ты спужаўся?

А ён ей атвічаіць:

— Я так спужаўся, што нямнога ат смерці атстаўся!

— Вот жа так і мае дзеткі ат цябе пупужалісь! — вот так-та хлеб-соль усігда атдаецца!

Вынісла на руські свет і пусціла. Ён і пашоў па гораду ка дварцу. Ідзець служба ў божым храмі, і пытаіць ён:

— Якей сяводні празднік?

Тут яму і атвічаюць:

— Наш царь па сыну сваем Ігры Игравічу саракауст атпраўляіць.

— Бейця ў калакала: Ігра Ігравіч жіў і ідзець дамой. Царю аб ём далажілі, і ён вышіў к сыну на ўстречу, і радаваўся царь-бацюшка благапалушныму вазврашчэнію сына.

Браты прібіжалі, слезна плакалі і рыдалі, на калені ўпадалі і гіварілі яму:

— Многа мы вінуваты прід табою, як і пред богам.

Ігра Ігравіч братам сваім прасціў іх віну. Завець царя бацюшку і сваіх брацциў к тому месту, ідзе стаяць две бярёзы. Пріходзюць к тому месту, стыяць дзве красівыя красавіцы. Падходзіць і Ігра Іграві і гаворіць ім:

— Здрастуйця, цесареўны-пленніцы!

І яны яму пакланіліс.

Бярець ён за руку адну цареўну Мархвуту і гаворіць большіму брату:

— Вот табе нявеста; а за што — знай і свадзьбу іграй.

Тады бярець за руку Настассю і гаворіць мяньшому брату:

— Вот і табе нявеста; а за што — знай і свадзьбу іграй!

— Ну, што ж ты, сынок, — гаворіць царь, — брацьям нявест атдаеш, а сабе ні водный ні бяреш?

Ігра Іграві атвічаіць:

— Бацюшка, аба мне ні клапаціся: я сабе даўным даўно нашоў.

Пашлі яны ў свае палаты свадзьбы гуляць; гулялі яны месіц, а можа і нядзель дзесіць. У адзін дзень уся світа царская пашлі ў зялены сад гуляць, і толькі ў еты дзень і час у ета царства в'ізжаіць мураўская цареўна Алена і пад'ізжаіць к царскыму сыну сі сваім сыным. Сын, увідаўші царскую світу ў саду, гаворіць маціры:

— Пасматрі-ка, маміька, как наш дзедушка гуляіць с маім папінькай і с дзядзюшкамі па саду!

— Пачаму жа ты, мілы мой сыночік, знаіш, што еці людзі тваё дзедушка, папінька і дзядзюшкі?

Сын на ета маціры гаворіць:

— Ёх, мамінька, воран ворана далеча відзіць.

Ігра Ігравіч узнаў прікрасную Алену і скорым поспіхым пряма к ей на ўстречу, цулувалісь у сахорные ўста, і пріняў іх да чесці ў свае палаты, паказаў і рассказаў аццу, што ета прекрасная Алена яго нявеста. Ні мала ня медля, началі піва варіць і свадзьбу завадзіць. Свадзьбу сыйгралі, піва папілі і месяца два і трі пувісялілісь. Царь-бацюшка атдаў яму (Ігры Ігравічу) палавіну царства.

Яны сталі жіць і быць і дабро наживаць.

## ІВАШКА МЯДЗВЕЖЖА ВУШКА

Жыў сабе так чалавек і была ў яго хазяйка. І пашла іна ў лес у грібцы. І заблудзіла. Налучыўся на яе той жа час мядзведзь. Ён яе ўзяў, да і ўзнёс яе к сабе, у лес і стаў, значыцца, з ей жыць. Пажыла яна годы трі і забременела ат яго. Радзіла яна сабе сына. Далі яны яму імя-празванія Івашка Мядзвежжа Вушка. Пабыў ён годы тры і рос не па гадах, да па часах, не па часах, да па мінутах. Да. Ён і гаворіць: «Маць, я, — гаворіць,— ня буду с табой жыць і з мядзведзем, ну я выйду ат цябе!» Пашоў сабе, ідзець дарогай і страчая чалавека. Той гаворіць:

— Здрастуй,—гаворіць, — Івашка Мядзвежжа Вушка!

— Добрая здароўя, — гаворіць,—Дуб-Дубавік.

— А куды ты ідзеш? — пытае Дуб-Дубавік у Івашкі Мядзвежжага Вушка.

Ну ён гавора:

— Пайду ў свет!

— Ах, брат, пайду і я с табой!

— Ну, пойдзем.

Сколькі яны ўремя ішлі—стаіць апяць чалавек. Яны гаворюць:

— Здрастуй, — гаворюць,—Гара-Гаравік!

— Добрая здароўя, Івашка Мядзвежжа Вушка і Дуб-Дубавік. Ну куды вы ідзеця?

— Ідзём у свет!

— Пайду й я з вамі!

— Ну, хадзі, — гаворіць етый Івашка Мядзвежжа Вушка.

Ну яны пашлі ўтрох. Ішлі, ішлі і нашлі яны сабе дом.

— Вот,—гавора,—братцы, во гдзе цепер будзем жыць.

Тагды Івашка Мядзвежжа Вушка і гаворыць на Гару-Гаравіка:

— Ну, Гара-Гаравік, ты аставайся, — гавора, — абед варіць, а мы пойдзем на ахвоту.

Той січас узяў, вала зарезаў, аблупіў, у кацёл уклаў, цяплю расклаў і давай варіць. Толькі ета гавядзіна закіпела, січас жа ідзе і стукае ў дзверы і кажа:

— Атчыні, хто ў маём домі ёсць? — Бяссмертны Кашчэй, ён сам с кокаць, барада з локаць. Ён яму атчыніў.

— Усадзі, — гавора, — мяне на лаўку!

Ён узяў і ўсадзіў яго.

— Ну, дай мне, — гавора, — есць!

Ён яму і даў вала.

Ён етага вала з'еў, тагды ўзяў паласу ў яго выкраіў з плячэй, сам і ўляцеў. Ну, таму некалі дажыдацца, а треба другога резаць вала — абед треба гатаваць. Пріходжуюць яго таварішы, толькі што ён закіпеў.

— Ну, — гавора, — брат, давай абедаць!

Ён выняў саўсім шчэ сыроя мяса. Яны сталі есць.

— Ах, — гавора, — як ты варіў, саўсім яно ў цябе сырое!

— Ах, братцы, пакудава дровы нарубіў, ну, братцы, запазніўся.

Ну, аднача ён таго не сказаў ім, што яму такая штука здзелана.

Івашка Мядзвежжа Вушка гавора:

— Эх, брат, ня стоя табе! А нутка ты, Дуб-Дубавік, аставайся тут, ці ня луччы ты згатовіш!

Дуб-Дубавік начаў пашыбчы варочацца. Вала зарезаў, січас аблупіў, у кацел уклаў яго, цяпло расклаў і стаў варіць яго і думая — як ба паскарей. Січас жа і ляціць той самы змей, сам с кокаць, барада з локаць, Кашчэй Бяссмертны і стучыць у дзвері:

— Хто ў маём домі ёсць, атчыні!

Ён яму атчыніў.

— Перасадзі мяне чэраз парог!

Ён перасадзіў.

— Ну, уссадзі мяне на лаўку!

Ён уссадзіў.

— Дай мне есць.

Ён яму даў есці. Кашчэй вала з'еў і апяць паласу выкраіў з яго і паляцеў. Той думаў — от гора! Пачаў шчэ

пашыбчы варочацца, зарезаў другога вала, стаў гатаваць. Да січас яны і прыходжыюць.

— Давай,—гавора,—брат, абедаць!

Ён вынімае саўсім сыроя. Івашка Мядзвежжа Вушка і гавора:

— Ах, брат ты мой! Я ж думаў, што ты палуччы згатуеш, ажна ты шчэ худжы! Аднак ідзіця вы сабе, братцы, на ахвоту, а я астанусь гатаваць: ці ня луччы я вас згатую!

Івашка Мядзвежжа Вушка вала зарезаў, уклаў у кацёл і начаў гатаваць. Развёў цяпло. Да. Толькі ён згатаваў, січас і ляціць, і гавора:

— Хто ў маёй хаці ё, атчыні мне!

Ён гавора:

— Рукі ня патсыхалі, калі треба, дак атчыніш!

Ён атчыніў.

— А ну,—гавора,—перасадзі мяне чэраз парог!

Ён атказуя яму, што ногі ня патсыхалі, пералезеш і сам.

— Уссадзі, — гавора, — мяне на лаўку!

Ён гавора:

— Ногі ня патсыхалі, сам узлезеш!

— Дай мне,—гавора,—паесць!

— Калі нагатаваў, дак паеж! Я нагатаваў, да ні длі цябе.

Ён схваціўся да на яго. Тагды Івашка Мядзвежжа Вушка ўхапіў яго за бараду да пацёг яго прама ў лес. Узяў, раскалоў дуба, да засадзіў яго бараду ў дуба, да й забіў клінам.

— Вот ты, — гавора, — тут пасядзі, пакуль таварішы прідуць!

Пріходзюць таварішы.

— Ну, давайця,—кажа,—братцы, абедаць! Вот я зварыў не так, як вы. А хадзіця, братцы, пабедаўшы, — кажа,—паглядзіця, што я ўсадзіў у дуба—бараду ўшчаміў у дуба!

Прішлі яны ў то места пасматрець, ажно яго нету.

Вырваўся і паляцеў, барада ў дубі асталась! От яны і пашлі.

— Пойдзем,—кажа,—братцы, паглядзім, куды ён пашоў, віць кроў,—гавора,—ё!

От яны ўзялі і пашлі. Увыйшлі ў лес у вагромный. Тагды Івашка Мядзвежжа Вушка гавора:

— Ну, Дуб-Дубавік, давай,—кажа,—дарогу.

Начаў Дуб-Дубавік ірваць дубы, дарогу прабіраць. Да. Прабралі дарогу, прішлі к бальшой гаре.

— А ну, Гара-Гаравік, раска́пуй гару!

Гара-Гаравік раскапаў. Перашлі яны гару, ляжыць бальшы камянь. І пад той камянь нара. Тагды Івашка Мядзвежжа Вушка гавора:

— Вот, братцы, во ён куды палез. Ну, давай валоў резаць і пас сшываць. І ўпусціця мяне туды, я пайду яго шукаць. Ну, вы, братцы, тут даўжны быць круглы год, да етага ўремя, як мене ўпусціця туды. Ну, а тагды, братцы, як год выйдзя, вы даўжны прібыць сюды, і я пас еты скалатну, і вы мяне выцінься!

Тагды яны ўзялі валоў штук пятнаццаць зарезалі, здзелалі пас, начапілі камянь і ўпусцілі туды. Ішчэ не хватая.

— Давай, братцы, яшчэ зарежам штукі трі, да пас надвяжам!

Ну вот нашылі і ўпусцілі яго туды. Дасталі глыбіну.

— Ну, вот, цяпер, братцы, пушчайця мяне туды. Толькі глядзіця ж, братцы, цяпер я вас прашу, штоб вы гдзе былі, а ў той час, як мене спушчаеця, чэраз год даўжны сюды прібыць!

Упусцілі яго туды, ён і пашоў. Находжуя, стаіць дом медны. Пріходзя ён у тэй дом, сядзіць там дзевушка.

— Ах,—гавора,—здрастуй, Івашка Мядзвежжа Вушка! Слыхам было слыхаць, а цяпер і ў глазы відаць. Зачым ты ходзіш сюды? Мы сколькі ўремя жывом, мы рускага чалавека не відалі. Ну, аднакава, ты сваю галаву занёс сюды, — мы жывом з Бяссмертным Кашчэем.

— Ну, я таго і ішчу!

— Ну, аднакава, — гавора, — давай мы с табой жаніцца.

Ён гавора:

— Не, — гавора, — я пайду Бяссмертнага Кашча шукаць!

— Эх, — гавора, — ты як пойдзеш, там шчэ красівей мяне ё, ты на мяне забудзеш!

— Не, — гавора, — я й цябе вазьму атсюль!

Ну, ён пераначаваў, назаўтра ўстаў, памыўся, богу памаліўся і пашоў. Пріходжуа, аж стаіць другі дом сярэбраны.

— Здрастуй, — гавора, — дзеўка!

— Здрастуй, здрастуй, Івашка Мядзвежжа Вушка. Слыхам було слыхаць, а цяпер і ў глазы відаць. Зачым ты ходзіш сюды? Мы сколькі ўремя жывом, мы рускага чалавека не відалі. Ну, аднакава, ты сваю галаву занёс сюды, мы жывём з Бяссмертным Кашчэем!

— Ну, я таго,—гавора,—і ішчу, я за ім і іду, за Бяссмертным Кашчэем.

— Ах, Івашка Мядзвежжа Вушка, давай, — гавора, — с табой жаніцца!

— Не, — гавора, — пайду падальш, пайду Бяссмертнага Кашчэя шукаць!

— Ах, — гавора, — ты як пойдзеш, там шчэ крашы мяне ёсць, ты і на мяне забудзеш?

— Не, — гавора, — я не забуду, я й цябе вазьму.

Да й пашоў, пераначаваўшы. Стаіць трэці дом—дом залаты. Ён уходжуя ў той дом, — сядзіць красівая дзеўка, вышывая.

— А, здрастуй, — гавора, — Івашка Мядзвежжа Вушка! Ці па волі, ці па няволі зайшоў сюды, буйну галаву,—гавора,—занёс? Здзесь Бяссмертны Кашчэй, дак ён цябе з'есць!

— Ну я яго ішчу!

— Да ці ішчэш, ці не ішчэш, а ён тут не так, як на том свеці, на етом свеці ён сільней! Ну, на ж ты, — гавора,—паеж, і здзелаю я цябе булаўкай і ўторну ў падушку.

Ну, ён гавора:

— Пажалуста, і распрасі, дзе яго,—кажа,—смерць.

У скорам уремю прілетая Бяссмертны Кашчэй і гавора:

— Фэ, русь-кось пахня!

Ну, яна яму атказуя:

— Ах, — гавора,—душанька: ты па Русі лятаў, Русі набраўся, так табе бытто атдае тут. Я тут колькі жыву, а рускага чалавека не бачыла!

Унясла яна яму гарячых карцеч, ён наглытаўся. Лёг сабе і ляжыць. Іна гавора:

— Душанька, сколькі мы с табой жывом! Ну, крый бог, нас хто пабідзя — крый бог, твае смерці.

Ён зарагатаў:

— Ха, ха, ха, дура, мае смерці нету. Мая смерць: у моры скрыня, а ў скрыні заяц, а ў зайцу вутка, да а ў вутцы яйцо, вот то мая смерць.

Да. Устаў і паляцеў еты Бяссмертны Кашчэй. Яна тагды яго і выпусціла, Івашку Мядзвежжа Вушка, і гавора:

— Знаеш, — гавора, — друг мой, дзе яго смерць? Яго смерць—у моры скрыня, а ў скрыні заяц, а ў зайцу вутка, а ў вутцы яйцо, што б яйцо ты тоя дастаў, да ўдарыў яму ў лоб, от яму і смерць, дак ідзе ты дастанеш?

Ён узяў сабе ружайцо і пашоў. Сколькі ён урямя ішоў, што баліць ажно яго шкура, што ён есць хоча. Бягіць воўк. «Ах, — думае, — вазьму ўб'ю, хаця ваўка наемся». Толькі ён зпажыўся біць, а воўк і гавора:

— Ах, Івашка Мядзвежжа Вушка, ня бі мяне, я табе прі злой гадзіні знадаблюсь.

Так Івашка Мядзвежжа Вушка і пашоў, есць не захацеў. Апяць ішоў, ішоў аж шкура яго баліць. Думая: «Ну, хто сабе нарвецца, уб'ю да з'ем». Бача, ляціць коршык. Ён склаўся і думае: «Уб'ю». Коршык яму гавора:

— Ах, Івашка Мядзвежжа Вушка, ня бі мяне, я табе знадаблюсь прі злой гадзіні!

Так ён узяў і пашоў і не захацеў есці. Сколькі ён урямя ішоў, прііходзя к мору; аж ляжыць рак, такі агромны; і ён думая:

— Атсяку яго палавіну да з'ем. Вот жа папраўлюсь!

Рак гавора:

— Ах, — гавора, — Івашка Мядзвежжа Вушка! Віць ты бачыш, што я гарую — палавіна на берагу, палавіна ў вадзе. Вот ты вазьмі кол, да спіхні мяне ў ваду. Я табе ў злой гадзіні знадаблюсь: што табе трэба, то табе ат мяне будзя.

Івашка Мядзвежжа Вушка ўзяў кол і скаціў яго ў ваду.

Ён гавора:

— Ну, благадарыць табе, Івашка Мядзвежжа Вушка, што табе трэба, сказувай!

— А вот што, — гавора, — мне трэба: я прішоў сюды за смерцю Кашчэя Бяссмертнага. Ёсць у моры скрыня, а ў скрыні заяц, а ў зайцу вутка, а ў вутцы яйцо!

— А вот, — гавора, — я табе яе дастаўлю.

Так ён папоўз і цягня скрыню ету перад сабою. Ён узяў ету скрыню, разбіў крышку, толькі атчыніў — заяц выскачыў і пабег.

— Ах, бог мой, дзе той воўк, што казаў — я табе прі злой гадзіні знадаблюсь — што, каб ён мне ўлавіў етага зайца.

Так той жа час воўк і схваціў яго. Ён яго ўзяў разадраў. Вутка із яго пыр — і паляцела. Ён стоючы і гавора:

— Дзе ета дзеўся тэй коршык, каб ён мне яе ўлавіў. Толькі ён сказаў — аткуль узяўся коршык, улавіў тую вутку. Ён узяў разадраў тую вутку, узяў яйцо. Ну, яно гразная.

— Ах, панясу ў мора, памыю.

Узяў, панёс. Стаў мыць, яйцо ета пакацілася прама ў мора. Ён стоючы і кажа:

— Ах, божа мой, божа, што як ба тэй рак да мне ета яйцо падаў!

Так і нясе той рак тоя яйцо яму.

Ён узяў і пашоў. Ну, слава табе госпадзі. Пріходжуя прама к Бяссмертнаму Кашчэю. Так як ішоў, так прама ў дом. Бяссмертны Кашчэй, як толькі ён увыйшоў, глядзь на яго.

— А, — гавора, — ты тута, Івашка Мядзвежжа Вушка!

А ён гавора:

— А ўжэ ж тут!

Так ён усхваціўся, прама к яму і кінуўся. Ён яго ўдарыў тым яйцом прама ў лоб. Тагды Бяссмертны Кашчэй кажа:

— Ах, вот мая смерць!

Убіў Бяссмертнага Кашчэя. Тагды гаворіць:

— Ну, красная дзеўка, я цябе вазьму, а дому етага жалка, як мы дом заберͦм.

А яна гавора:

— Эх, я дом — гавора, — січас забяру.

Узяла яйцо, апкатнула кругом, так еты дом увабраўся ўвесь чыста ў яйцо. Тагды Івашка Мядзвежжа Вушка ўзяў яго, у кішэню ўклаў і пашлі. Пріходжуюць к другому дому. То залаты ўзялі, а шчэ пріходжуюць к сяребранаму.

— Што ж, — гавора, — красная дзеўка, я цябе забяру, а як жа дом забраць?

— Эх, — гавора, — не беспакойся: я дом січас забяру!

Узяла яйцо, апкатнула кругом. Так етый дом увабраўся ўвесь чыста ў яйцо.

Тагды Івашка Мядзвежжа Вушка ўклаў яго ў кішэнь і пашлі. Прыходжуюць яны к трэццему дому, к меднаму.

Івашка Мядзвежжа Вушка і гавора:

— Ну, вот, — гавора, — я цябе забяру, а як жа ты дом забярэш, дома шкода!

— Эх, — гавора, — я дом січас забяру.

Іна ўзяла яйцо, апкатнула кругом, так еты дом увабраўся ўвесь чыста ў яйцо. Тагды Івашка Мядзвежжа Вушка ўклаў яго ў кішэнь і пашлі. Пріходжуя на тоя места — акурат год. Узяў ён, прівёў іх на тоя места і пасадзіў ету, з меднага дому, і таргануў тэй пас. Яны ўзялі і пацягнулі. Выцягнулі і началі адзін з адным біцца. Тэй гаворіць: «Ета мне», а тэй: «ета мне».

І началі драцца. А дзеўка ета гавора:

— Стой, — гавора, — ня біцеся, там яшчэ крашы мяне ёсць.

Так яны ўзялі, апусцілі апяць пас. Ён узяў, пасадзіў с сярэбранага дому тую дзевушку. Яны патаскалі. Выцягнулі і пачалі апяць драцца — тэй гавора: мне, а тэй, ета мне. І началі драцца. А дзеўка ета гавора:

— Стой, — гавора, — ня біцеся, там яшчэ дзевушка крашы мяне ёсць.

Яны ўпусцілі пас; ён пасадзіў і трэцюю, што із залатога дому. Тагды выташчылі:

— Ну, брат, — гавора, — ета нам па адной, а трэццяя будзя нам за чалядку, служыць будзе нам. Ну яго, брат, упусцім пас і ўцягнем упол і пас перарежам — нехай ён уб'ецца.

Да, упусцілі пас. Ён тагды ўзяў, пудоў лі ста́ зачапіў камянь і торгануў пас, і сам атышоў дужа далёка. Яны і патаскалі яго. Толькі ўполсвета ўцягнулі — узялі, пас перарубілі — так гудзець тэй камянь назад. Ён тагды гавора:

— Ах, божа мой, вот ба ета мне было!

Узяў, ізбедніўся (што горка стала), зажурыўся і пашоў адзін.

— Ах, божа мой, во што то мне було. Не знаю, як ба мне на той свет дастацца?

Так, находжуя дужа хмара бальшая. Ён і думае:

— Ах, пайду я пад дуба схаваюся, штоба я не замяк.

Пріходжуя пад дуба і стаў. І чуя, крічаць пціцы, дужа крепка. Ён тагды:

— Ах, божа мой, іць пайдзе хмара — засячэ іх дождж. Узлезу я, іх прікрыю.

Ён улез на дуба і распяўся над гняздом, і прікрыў етых дзяцей, пакудава хмара не прайшла. Тагды, распагодзілась, ён узяў і злез, узяў і схараніўся. Ня доўгім уремям ляціць пціца Палугріца і спрашая:

— Ах, дзеткі мае, хто вас прікрыў ат етыя хмары? Я ўжо думала, што вы жывы ня будзяця.

Яны кажуць:

— Якійся, — гавораць, — чалавек.

Яна і крічыць:

— Ах, — гавора, — чалавек, абвясціся; што ты за ета хочаш?

Ён атказуя пціцы Палугріцы:

— Я нічога с цябе не хачу, толькі штоб ты мяне даставіла на тэй свет!

Во іна яму і гавора:

— Ідзі, набі мне дзве бочкі мяса, дак я цябе даставлю!

— Толькі чым жа мне, якім цябе мясам?

— А вот бі лягушак, бі мышэй, бі гадаў, якую звяріну пападзеш, такую бі — і складай у бочкі. Тагды ка мне прідзеш і скажаш. Ну я цябе панясу!

Пашоў Івашка Мядзвежжа Вушка і пачаў біць разныя разнасці: і вужоў, і лягушак, і мышэй, разная-разная, што толькі на свеце ёсць, і складаў у бочкі. Набіў і пріходжуя:

— Ну, я ўжо набіў.

Апушчаецца пціца Палугріца.

— Ну, — гавора, — падвязуй мне пад адно крыло бочку і пад другоя, а сам садзісь пасярод. І сматрі: управа гляну — с правай бочкі падай, улева гляну — з левай бочкі падай, і як гляну, так і кідай!

Ну і панясла яна. Начала пціца Палугріца, што даляй, то вышэй угору падымацца. Як яна на бакі пазірая, так ён гавядзіну кідая. Так ён кідаў, не больш ба ўжо сажэнь на пяці яго ўзнесць, ужо гавядзіны не стала. Пціца Палугріца раз зірнула — нема, у другі бок зірнула — нету, пачала маленька ўніз апускацца. Да Івашка Мядзвежжа Вушка не ўрабеў. Січас узяў, атрезаў сває ікры. Як яна зірнула, ён ёй і ўкінуў — так яна зразу са-

жэня на два ўгору ўсхвацілася. Зірнула яна ў другі бок, ён атрезаў другія ікры і ўкінуў ёй у рот. Ну, яна яго ўжо вынесла. Ну, слава, табе госпадзі!

Тады пціца Палугріца гавора:

— Скажы ты мне, што колькі ты мне гавядзіны даваў — ну смашней етыя не было. Што ета за гавядзіна?

А ён гавора:

— Я атрезаў свае ікры.

— А ну, пакажы.

Ён узяў, выставіў. Яна харкнула, яно зразу прірасло. Ён другую выставіў — яна зноў харкнула, і другая болька загаілась, яно і прірасло.

— Ну, толькі, ідзі, пажалуста, паскарей, ужо тварэ таварішы скора будуць жаніцца. Ну, яны б даўно жаніліся, ну толькі без цябе нічога ня будзя!

Ён пашоў.

Прыходжуя ў горад. І здзелаўся ён масцеравым — сапожнікам, шаўцом, значыцца. Ну аднак жа, ён шыць ня ўмея — толькі ён стаў у яўрэя хваціраваць. І тая дзевушка, самая паследняя, што была ў залатым домі, гавора:

— Калі ты мне пашыеш такія чаравікі, як у мяне былі ў том залатым доме, дак я тагды ўжо — так таму і быць — што я с табой буду ўжо жаніцца.

Так еты Дуб-Дубавік вышаў на вуліцу і пытая:

— Хто во такія-та чаравікі справя, во столькі-та грошы дам.

А ён і гавора:

— Ах, Іванічка — а ён здзелаўся Іванічка-п'янічка— ах, — гавора,—Іванічка-п'янічка, дадзен заказ, штоб чачаравікі такія і такія былі, як у етыя барыні — дужа багата грошай дасць!

А ён яму гавора:

— Ідзі, бяры задатак, і гаварі, што я спраўлю.

Ён пашоў, узяў задатак, даў етаму Іванічку. Сказана так: што к такому та ўремю былі чаравікі гатовы. А Іванічка напіўся, аб ета ня думая. Еты яўрей і гавора:

— Ах, Іванічка, што ета будзя?

— А што?

— А як жа? Саглашаўся: калі ўмееш шыць, дак і шый. Мне за ета, — гавора, — галаву знімуць!

Ванька пашоў, дом раскаціў, чаравікі выняў і атдаў.

— На, нясі! І будуць у цябе спрашываць — хто табе

іх шыў? Не шыў, а хто табе работаў іх? — ну, ты скажы, што ў мяне е Іванічка-п'янічка!

Жыд і панёс. Узялі етыя чаравікі, і дабраў ён сваю астальную плату. Іна гавора:

— Во, ета ікурат, як мае! Во цяпер я табе шчэ скажу—калі ты справіш мне такое плацця, як у мяне, так таму і быць, што будам жаніцца с табой!

Ён, Дуб-Дубавік, вышаў на базар і гавора:

— Эй, вы партныя, гаспада, ці ня можа хто з вас здзелаць такоя і такоя плацця?

Іванічка-п'янічка і гавора:

— Паднімайся, — гавора, — дзелаць і бяры задатку пабольш.

Да. Ён узяў задатку і піходзя:

— На табе грошай, ну толькі ці здзелаем, Іванічка?

— Здзелаем, ня бойся!

Ужэ етаму яўрею треба несць, а тут плацця не гатова.

— Ах, Іванечка, што будзем рабіць?

— Я не знаю! Што ўмеў, то й здзелаў, ты паднімаўся!

Пайшоў Іванічка, раскаціў дом і выняў плацця.

— На, нясі, дабірай астальныя грошы!

Прынёс і аддаў.

— Вот ета,—гавора яна,—маё! От цяпер,—гавора,— харашо! Толькі каб у мяне такі вянок быў! Калі скуеш, то ўжо пеўня, што мы с табой будзем венчацца!

Ужо Іванічка перайшоў у кузніцу. Вышаў Дуб-Дубавік на базар і кліча:

— Гаспада кавалі! Ці ня можыця здзелаць вянок от такі-то, як у мае нявесты быў!

А пачом хто зная — які ён быў. Ужэ Іванічка перайшоў у кузніцу і гавора:

— Кузнец! Ступай, паднімайся!

— Ох, Іванічка, як жа здзелаем? Мы здзелаем, які хочаш, а толькі, як жа не бачыўшы? Ліцо пад ліцо не падвядзеш!

Ён гавора:

— Ня бойся, бяры грошай паболі!

— Ну харашо, — ён пашоў і падняўся.

— Я, — гавора, — зработаю.

— А зработаешь?

— Зработаю.

— Вот табе грошай столькі-та. Да сматрі, штоба здзелаў.

Прыходжуя ў кузніцу.

— Давай, Іванічка, работаць! Я, брат, етага ня ўмею, што ўмеў, то рабіў, а то я етага не знаю!

— Ты ж каваль, дак даўжон на ўсякія атлічыя работаць!

Напіўся Ванічка да спіць.

— Што, Ванічка, прашынайся, а то галава далой мне!

Ванічка дамок раскаціў, вянок выняў, атташчыў:

— На, — гавора, — атнясі, да астальныя грошы забяр!!

Ён панёс тэй вянок. І спрашуя ў яго яна:

— Хто ў цябе работая?

— Іванічка-п'янічка!

Запрягая лашадзей, едзя Ванічкі сматрець. Ета ўжэ іна, іна, чый вянок. І спрашуя ў каваля:

— А дзе Ванічка-п'янічка?

Ванька ета ўслыхаў, ён узяў січас лёг на стол. Пашла іна ізноў к кавалю. І спрашуя у каваля:

— Скажы праўду, ці іменна ета ён работаў?

— Я,—гавора, — вам не скажу, — работаў ён ці не, толькі ён мне падае!

Яна абратна звярнулася, апяць там к яму. Ён апяць так ляжыць. От яна на ета не пасматрела і прама ў ліцо паглядзела.

— Вот,—гавора,—друг мой любезны; іць я цябе колькі лет ажыдала!

Яны тоя счіталі, думалі, што канец яму там будзя, як ён туды паляцеў. Ну, а яна ета ведала, што ён як-як да выкруціцца аттуль.

Ну, вот яны і павенчаліс. А Дуб-Дубавік і Гара-Гаравік павенчаліс с тымі меншымі. І сталі жыць да пажываць кожная ў сваём домі.

## ІСКАРКА-ПАРУБАК ДЗЕВІЧЫ СЫН

Вот было ў бацькі трі сына, два вумных, а треці дурак. І была ў ватца на стайні кабыла. Вумныі сыны паехалі ў лес, а дурінь застаўся дома. Дзве нявесткі затапілі печку, напяклі бліноў. Патом просюць яго, дурака етыго:

— Ах, — гаворюць, — прінясі нам вады, мы табе блін пумаслім.

Ён узяў вёдры і пашоў. Прішоў ік калодзіжу, калодзіж быў убліз рякі кала моста. І ў мосту ўвязла шчука. Ітвічаіць голасам — што чалавек гаворіць:

— Вызвыль мяне з естуга места, — што длі цябе будзіць нужна, усё судзействуіцца.

Патом таго ён вызваліў і пусціў яе ў ваду. Так і атвішчаіць:

— Па шчуччыму пувяленію, па матушкіным параждзенію, па бацюшкіным благуслуненію нуці-ка, вёдры, чырпайцісь самі і ідзіця дамой самі!

Удрух етыя вёдры зачэрпаліс і пашлі ўпярёд яго. Так нявесткі ўвідалі ў акно і ўказыіць адна другой:

— Во, — гаворіць, — мы ўсё дурнім яго ўзываем, а што ў ём дзействуіцца. Сваіх мужоў знуджым, а ён у нас усё за дурня сядзіць!

Пріехалі брацья з лесу, пазаўтрыкалі, і нуждаюць яго з сабой ехыць у лес. Ён атвішчаіць:

— Кагда дасцё бацькыву лошадзь, то і паеду, а ні дасцё, і ні паеду!

Дазволілі запреч. Выехаў за гумны, ета лошадзь пачыла яго тарзаць, разнашаваць. Ён зайшоў, кулаком ударіў у лоб — ета лошадзь звалілася з ног. Ён за хвост узяў, тріхануў, с кожы ўсю гувядзіну вытріс, а кожу ўзбросіў на гумно. Сам узяў аглоблі звізаў, сеў на сані і гаворіць:

— Па шчуччыму пувяленію, па матушкіным параждзенію, па бацюшкіным благуславенію нуці-ка, сані, едзьця ў лес самі.

Етыя сані засмычэлі, заскріпелі, за браццімі паляцелі. Чудзяцца браты — што ён бяз лошадзі пріехаў.

— А гдзе ж ты, брат, дзеў бацькыву лошадзь?

Атвішчаіць ён, што ўбіў і кожу ўзбросіў на бацькыва гумно.

— Ня будзіць цеч, — гаворіць.

Брацці нарубілі і паехалі, а яго заціяюць:

— Чаму ты ні сячэш?

— Ну ні так ім ахота, што ён нысячэць воз дроў, а большы таго пасматрець, як ён будзіць сеч — што с атрода тапара ні дзіржаў у руках.

Ён скызаў:

— Па шчуччыму пувяленію, па матушкіным параждзенію, па бацюшкіным благуслувенію нуці-ка, дровы, сячыцеся самі і кладзіцеся самі!

Дровы еты пазахрапаталі, воздухым пычалі ламіцца і на сані валіцца. Нываліліся на сані с целы сажань. Ну, браты тэя паехалі. Ён узяў, узлез на воз на еты і сеў, гаворіць:

— Па шчуччыму пувяленію, па матушкіным параждзенію, па бацюшкіным благуслувенію нуці-ка, сані, едзьця дамой самі.

Піріжжаіць чіріз возіро. Там рыбаловы ловюць рыбу і выцігнулі адну толькі рыбінку. Так ён увідзіў ету рыбіну і атвічаіць:

— Вот рыбіна дарагая. Хто яе будзіць есць, той сына родзіць, і хто косці абсасець, тэй сына родзіць, а хто косці паесць, і тэй сына родзіць. Будуць трі сыны і ўсі багатырі.

Дысталась тая рыбка цареўні. Зжаріла яе і з'ела. Костачкі на блюдзічка атлажыла. Прішла яе доч і давай абсасваць косці еты і брасаць пад стол. І атвішчаіць:

— Ах, мамінька, — гаворіць, — ікая ета ўкусная рыбіна!

Костачкі абсасала і бросіла пад стол. Сучонка, быўшы пад сталом, косці еты і паела. Удруг яны ўсе ўтрёх і забремінілі. Сколькі ўремя прайшло, радзілі ўсе трі па сыну — царіца, і доч яе, і сучонка та. Так растуць яны, еты сынаўя, чыстыі рібяты. Вырaслі яны лет да сімнаццыці. Патом і гаворіць:

— Бацюшка наш, міласцівейшы гусудар, спраў нам трі мячі пу пітнаццыці пудоў. Ёсць у таком-то царстві, у таком-то гусударстві змей — трі галавы, утарой шэсць галоў, трецці двінаццыць. Канчаюць народ.

Міласцівейші гусударь ні аставіў іх просьбы. Здзелыў ім трі мячы, пу пітнаццыці пудоў. Быў у яго сірядзі двара камінь з бальшую харóміну. Так яны міжда сябе і гаворюць:

— Ну, што,—гаворюць, — брація, каторы мы і катораму будзім патчыняцца, хто із нас старшым будзіць? Сячыця камінь. Ат каго камінь раскоціцца надвоя, таго будзім слушыць.

Суччы сын сікануў — камінь толькі намеціў; Царіцын сын сікануў камінь — ду ў полу ўбіў; Дзевічы сын як сікануў, так ён і пакаціўся падвоя. Вот і гаворіць:

— Сматріця, брація, мяне слушайця і пувінуйціся! Паедзім на трідзісятае царства, на трідзісятыю землю.

Пад'іжжають к таму памесцію вёрст за двінаццыць, састроілі сабе комнату і астанавіліся ў ёй хваціраваць. Патом і гаворіць Іскарка-Парубак Дзевічы Сын:

— Слушылі мяне і слушайця. Вот, — гаворіць, — Суччы сын, ідзі на мост на стражу. Мост бальшой. Будзіць ехыць, — гаворіць, — Юда с трімя галовамі, штоб ты яго стрябіў!

Еты брат ня'тказаў. Пашоў к масту і лёг, і заснуў. Іскарка-Парубак Дзевічы Сын пріспаў царіцына сына, а сам удрух стрялой паляцеў к масту. І стаў на масту, ні відзіць памошніка сваіго. Так пад поўнач чуіць бальшэй грюкат — едзіць Юда с трімя галовамі. Так яго лошадзі ўзбеглі на мост, астанавілісь і зарзалі. Быўшы з ім сабакі голасам завылі. Быўшы прі ём пітухі і тыі пазапелі. Ён улякнуўся, Юда, і гаворіць на лашадзей:

— Ах, вы, — гаворіць, — пессія мяса, аб чом рягочыця.

І на сабак:

— А вы, псы, аб чом скігочыця?

Так і на пітухоў:

— А вы, істрыбіныя перья, аб чом голас атрываіця? Нам раўняг тут нету. Ёсць трі брата на трідзісятам царстві, на трідзісятай зямлі, дак ня то што яны сюды зайдуць, дак і воран косці не занясець!

Іскарка-Парубак Дзевічы Сын атвішчаіць:

— Ды ня воран косьці заносіць, а сам добры моладзіц на вараным кані заіжжаіць!

Юда атвішчаіць:

— Ці ты іздзесь?

— А іздзесь.

— Ну, пачанём біцца!

Ну і пачалі. Іскарка-Парубак галаву збіў Юдзі. Юда атвішчаіць:

— Іскарка-Парубак Дзевічы Сын, стой,—гаворіць,— царі-каралі б'юцца, тож заміраюцца—замірімся і мы,— гаворіць, — хуць на малыя ўремя.

Іскарка атвішчаіць:

— Можна, — гаворіць.

— Іскарка-Парубак Дзевічы Сын, укажы ты сваю сілу, у чом ты б'еш так сільна? Ікая твыя сіла?

— А мыя сіла, — гаворіць, — як лібядзіныя пяро?

Выніў сваю сілу і дунуў ветрам угору. Пяро паляцела. Ён дыхнуў — яно назад ускочыла ў рот. Спрашуіць Іскарка-Парубак:

— А ты, Юда, укажы сваю сілу — чым ты так сілён, ікая твыя сіла?

Еты атвішчаіць:

— Мыя сіла з бабіну ростам. Бросіў на мост — іна і пакацілась.

Іскарка-Парубак схваціў у рот і ету з'еў. Ён ні з цярпеніі бросіўся біцца із ім. Іскарка-Парубак пабіў яго і парубаў і лашадзей, і сабак, і пеўніў, і змеў з маста. Сам скорам поспіхам паляцеў у сваю комнату і лёг спаць, бытта ён і ні быў там. Суччы сын устаў, даждаўшы вутра. Пысматрэў на мост: што такое, увесь мост у крыві і ў пер'і. Пріходзіць у сваю комнату. Іскарка-Парубак у яго і пытаіць:

— Што чуў, што відзіў?

Суччы сын атвішчаіць:

— Ні чуў нічаво і ні бачыў. Толькі, устаўшы, відзіў кроў, косці і перья.

Іскарка-Парубак і гаворіць:

—Вот якей ты ў мяне верны! Ну, ладна, — гаворіць. Дыжыдаіць другея ночы і пасылаіць царіцына сына:

— Глядзі ж ты, як мажней строга.

Еты пашоў.

— Ну, я так, — гаворіць, — ні здзелаю!

Іскарка-Парубак Дзевічы Сын пріспаў Суччага сына і апяць туды на стражу. А еты, Царіцын сын, падлез пад мост і лёг на брусах і заснуў. Іскарка-Парубак прішоў узноў, стаў на масту. Патом пад поўнач патходзіць — чуіць грюкат і калакалы звіняць. Так січас едзіць Юда шэсць галоў. Толькі на мост ўзыжжаіць, так січас лошадзі еты і пазарзалі, сабакі пазаскігаталі, пеўні пазапелі. Ён і гаворіць, Юда:

— Што вы мяне ўстрашчаіця? Мне раўнягі нету. Ёсць раўняга на трідзісятам царстві Іскарка-Парубак, дык яго воран сюды і косці ні занясець.

Іскарка-Парубак атвішчаіць:

— Нет, Юда, — гаворіць, — ня воран чылавечыцкыю косць заносіць, а сам добры моладзец на вараном кані заіжжаіць. Юда гаворіць:

— А ці ты здзесь?

— Здзесь!

— Ну, што ж ты сюды прішоў — ці біцца, ці кылы мяне пачудзіцца? Ай будзім чэсна расходзіцца?

Іскарка-Парубак атвішчаіць:

— Ні затым я ішоў сюды трі гады. Табе ні дам ходу і на трі шагі!

— Ну, пашнём ваювацца!

Білісь, білісь, ён яму трі галавы збіў, а трі асталась.

—Іскарка-Парубак Дзевічы Сын, стой, — гаворіць,— царі б'юцца і тыя замірваюцца; здзелаім вотдых хуць на трі мінуты!

— Можна,—атвішчаіць Іскарка-Парубак.

Юда гаворіць:

— Іскарка-Парубак Дзевічы Сын, укажы ты мне сваю сілу, што ты так быстра б'еш?

Еты атвішчаіць;

— Мая сіла, — гаворіць, — ні бальшая — як лібядзіныя пяро. Дунуў — яно паляцела. Духнуў к сабе — апяць на месці села.

Іскарка-Парубак спрашуіць:

— Юда, — гаворіць, — укажыця мне сваю сілу?

— Мая сіла, — гаворіць, — тож не бальшая — як валоўскі арех. Бросіў на мост, іна пакацілась.

Іскарка-Парубак схваціў і ету з'еў. Юда ўзліўся — давай біцца. Іскарка-Парубак узяў пасек, парубіў і яго, і лашадзей, і сабак, і пеўняў і змёў з маста. А сам пашоў у сваю комнату, узяў і лёг і спіць, бытта і ні быў ён

там. Даў бог дзень, прiходзiць Царiцын сын. Ён у яго i пытаiць:

— Што чуў, што вiдзiў?

Еты атвiшчаiць:

— А што, — гаворiць, — ня чуў нiчога i ня бачыў — толькi ўстаў, дак кроў з маста, дажа i мяне абкапыла пуд мастом!

— Ох, браты, от як вы верна мне служылi!

Трэцiя ночы дажыдаюць, трэба iсцi самому. Iскарка-Парубак гаворiць:

— Ну, брацiя, — гаворiць, — наця вам калоду картаў i прашу я вас нi спаць усю ноч i наця вам парожнi стакан. Кагда еты стакан сухей кроўю набяжыць, то як сiла ваша падбiгайця ка мне на мост.

Вот яны кон iлi два ў карты згулялi i на стол галовы палажылi. Свечы гыраць, i яны спяць. Iскарка-Парубак стаiць на масту. Як пад поўнач — чуiць грюкат i калакалы звiняць. Едзiць Юда дзвiнаццыцi галоў i дзвiнаццыць конiй. Як уз'ехаў на мост, так сiчас лошадзi заржалi, сабакi заскiгаталi, пеўнi запелi, зязюлi закукувалi.

Ён i гаворiць:

— Што вы, пессiя мяса, рягочыця? А вы, псы люты, што вы скiгочыця? Мне тут раўнягi нету — вы мяне не ўлякайця. Ёсць роўны на трiдзiсятам царствi Iскарка-Парубак, дык яго воран сюды i косцi нi занясецъ, — гаворiць.

Iскарка-Парубак атвiшчаiць:

— Нет, Юда, — гаворiць, — ня воран чылавечыцкаю косць заносiць, а сам добры моладзец на вараным канi заiжжаiць.

Юда гаворiць:

— А цi ты здзесь?

— Здзесь!

— Ну, што ж, — гаворiць, — цi ваювацца, цi толькi друг на друга пулюбувацца ты сюды заехаў?

Iскарка-Парубак гаворiць:

— Нi так любувацца, як ваювацца.

— Ну, — гаворiць, — пачанём.

Бiлiсь, бiлiсь — дзве галавы збiў. Тут еты стукан кроўю споўнiўся. А яны спяць. Патом Юда гаворiць:

— Iскарка-Парубак Дзевiчы Сын, царi, каралi б'юцца i тыя замiряюцца, здзелаiм вотдых хуць на трi мiнуты!

Замірілісь. Так ён і гаворіць:

— Іскарка-Парубак, укажы ты мне сілу, што ты так быстра б'еш. Ікая твыя сіла?

— Мыя сіла, — гаворіць, — нібольш, як лібядзіныя пяро. Дунуў — яно паляцела. Духнуў к сабе, апяць на месці села.

— А што, — гаворіць, — я табе паказаў сваю сілу, пакажы і ты мне сваю — ікая ў цябе сіла?

Еты гаворіць:

— Мая сіла, як хунтавае яблыка.

Выніў яе і бросіў на мост. Іскарка-Парубак патхваціў і ета з'еў. Юда разазліўся, што ён абідзіў яго. А Іскарка-Парубак з правыя нагі схваціў сапог і запусціў на ету комныту і збіў яе па вокны. Усхваціліcі еты яго браты — па зямлі са стукана пу калені наплула кроў. Удруг яны пабеглі к яму — ён шэсць галоў збіў адзін. Узялі етыга Юду парубілі і пасеклі і змялі яго косці ў ряку. Іскарка-Парубак і гаворіць:

— Ну, браццы, дайця мне оддыхі троя судык!

А брацья 'т радысці спішаць дамой. Ён атвішчаіць:

— Не, я сільна збіўся. Атдыхнём троя судык, тады будзім ехыць.

Первыя ночы дыжідаюць — так ён братоў пріспаў, скінуўся голубам і пыляцеў к Юдзінай жане, каторая с трыма галовамі. Сеў на вакно і забрукуваў. Жана Юдзіна паслышала і гаворіць: «Юда мой, біззаконны мой. Аслязіў цябе Іскарка-Парубак Дзевічы Сын, асляжу і я яго, — думаіць, ета душа Юдзіна пріляцела.—Будзіць ехыць к свайму дому, пажалаіць піць — я стану крініцыю кала дарогі і пушчу разныя стуканы і напушчу разных ядаў. Як глынець, то трёх мінут ня выбудзіць».

Іскарка ўзяў у замічанія і паляцеў к брацціям — браты етыга ні знали. Назаўтрага браты рупюцца дамой, ён іх просіць падаждаць. Дыжыдаіць другія ночы, ён скінуўся голубам і пыляцеў к Юдзінай жане, каторая мела шэсць галоў. Сеў на вакно, загуркуваў. Іна пачула і гаворіць:

— Юда мой, мілый мой! Аскарбіў цябе Іскарка-Парубак Дзевічы Сын, аскарблю і я яго. Будзіць ехыць да свайго дому — я стану яблыняй і пушчу на сорак вёрст воздух. Пачуіць ён воздух і пажалаіць яблык. Я павешу разныя і насычу ядамі. Толькі ён яблыка возьмець, дык яго на сколькі часцей разарвець!

Вот ён узяў у замічанія і пыляцеў к брацiям сваім. Лёг, бытта і ні быў нідзе. Назаўтрага браты ўстаюць і рупюцца дамой. Апяць ён іх упрашыіць:

— Аддыхнём хоць адны суткі.

Дыжыдаіць ён трецція ночы. Так, узяў, братоў пріспаў, скінуўся голубам і пыляцеў к Юдзінай жане, што двінаццыць галоў. Сеў на вакне і забуркуваў. Пачула Юдзіна жана і гаворіць:

— Юда мой, мілы мой, аскарбіў цябе Іскарка-Парубак Дзевічы Сын, аскарблю і я яго. Будзіць ён ехыць к свайму дому, а я лягу на яго дарозі зямлёю і займу абшырнасць на дваццаць пяць вёрст, длінніку на сорак пяць, — ні абыйдзець і ні аб'едзіць. Як будзіць ехыць, так я на жала яго і схвачу!

Ён ета ўслышаў, у паміць узяў і пыляцеў к брацiям к сваім. Чуць на зарю, будзіць брацiяў сваіх:

— Ну вот, рібяты, — цяпер паедзім!

Выбралісь ехыць, сколькі праехылі — жылаюць міжда сабой піць. Суччы сын і Царіцын сын, і ён жылаюць. Ён ім і атказыіць:

— А ці замецілі, — гаворіць, — во каля дарогі, криніцу, — вот я і відаў, а вы не. Паедзім і нап'ёмся.

Увідзілі еты брацця криніцу, на выгонкі пубіжалі. Ён ім атвішчаіць:

— Стойця, я упярёд буду піць.

Піріцягнуў нахрісць мечом — піріўрацілась вада ўся кроўю. Ён зацяець:

— Нуця, браты, ня піця ваду ету!

Яны ні ўзялі. Сколькі праехылі, пачулі яблышны воздух — пажылалі яблыка.

Іскарка-Парубак атвішчаіць:

— Няўжо вы ні відалі кала дарогі яблынь? А я ехыў і відзіў яе! Вот мы, — гаворіць, — даедзім да яе, здзелыім аддышку і яблык нытрісём.

Замецілі браты ету яблынь і замецілі яго ля криніцы. Былі бросілісь, а патом назад.

— Нутка ты ўпярёд, — гаворюць, — пакушай яблыкаў!

Ён узяў, сікануў нахрісць меччу — пацікла з яе кроў і закрічала громкім голасам — што яго браты пуўлякаліся. Ён атвішчаіць ім:

— Ета шчэ нам ні загадка. А вот пад'едзім к загадцы!

Сколькі там праехылі і відзяць нейкую бальшую гару і сказуюць міжда сабою:

— Тады ні было етый гары, ні туды мы едзім!

— А вот жа ўсі тыі прыметы, уся тая дарога!

Пад'іджаюць бліжы. Іна разінула пасць, выцягнула жала на вярсту. Пад'ехылі к ей. Іскарка-Парубак сільна скочыў прямо ёй у пасць. І давай яе з ізыка сеч мечым і кавалкымі выкідываць. І сказаў на братоў:

— Як скрозь праpублю, як сіла праіжжайця скрозь яе. І маю лошадзь ні стаўляйця!

Увідалі браты скрозны ход, як сіла скрозь праляцелі і правялі скрозь яго лошадзь, а яго і прістынавілі. Ён астаўся. А змея ета пірівараціласъ назад услед за ім. Ён стрялою ляціць уцікаць, а іна за ім. Кала дарогі стаіць кавальскі дом, ён і гаворіць:

— Куваль, кувальскі сын, прікрый мяне ат нагалнай смерці.

А яго дом увесь чугунны. Дайжы і дзенніка нет, і сонца ня свеціць туды. Ён яго ўпусціў у вароты — вароты чугунныя, і захвацілі яе на вуліцы. Іна ўзіла, кругом дому абвілась у трі редзі і пачыла пралізываць крышу. Ат трёх раз прагрызла крышу і гаворіць:

— Куваль, кувальскі сын! Падай мне вінаватага!

Куваль узяў клешчы, распёк, ды яе за качкі праняў кліщчамі наскрозь і дзяржыць, і крічыць:

— Іскарка-Парубак, ідзі, — гаворіць, — рубі мечым с хваста і да галавы!

Еты ўзяў яе, пачаў рубіць. Дырубіў ды галавы. Во яны ўзялі ды яе ў кацёл. Пачалі піріварачываць і дзелаць яму кабылу. Здзелалі кабылу; ён зы яе жыў трі гады ў куваля.

— Ну, — гаворіць, — едзь жа ты на етый кабылі, ды нідзе, — гаворіць, — ні астанаўляйся. Калі ідзе астановісся, то трі гады праслужаш апяць.

Вот, сколькі-то ён праехаў, ураніў кнут, — там кала дарогі тожа самая жыў куваль. І ўзнаў, што ні простая кабыла ета. Падняў яму пугу і ўзяў за руку, зачуруваў кабылу ету, што іна ня можыць і з места суступіць.

— Ну, Іскарка-Парубак, кылі трі гады пражівеш, — паедзеш на ёй апяць. Толькі ты ні хадзі на Усіяньскыю гару, і ні глядзі на сваю старану!

Ён зачаў апяць жыць трі гады. Вышаў на Усіяньскыю гару, глянуў на сваю старану. Бытта памеў заміча-

нія, што матка ваду носіць, а бацька рубіць дровы. Заліўся слізамі. Узыйшоў на двор, куваль зацяміў яго:

— Што, — гаворіць, — схадзіў на Усіяньскыю гару, пылядзеў на сваю старану?

Ён атказываіць:

— Нет, — гаворіць, — ні хадзіў — ета я ішоў па камышывай лазе, камышыва лаза каланула ў глаза, і пакацілыся з глаз сліза.

Вот еты Іскарка-Парубак пражыў трі гады і тут. Патом едзіць на етый кабылі, дыіжжаіць да трецціга дому да царскыга. Тэй цар зылажыў пуці і заняў яго на савет:

— Што, — гаворіць, — высватыіш мне там і там дзевіцу, — гаворіць, — то ты паедзіш дамой, а ня высватыіш, то ты і павякуеш у мяне, — гаворіць. Сыбярі, — гаворіць, — сабе двінаццыць мылайцоў і ’тпраўляйся ў пуць. (Імя царя забыта). Едзіць ён пы дарозі, піріежжаіць ён чыріз ряку, там сядзіць на ряке Абпівала, у рот вада бяжыць, а з яго нідзе ні відаць — ніжы яго ріка суха — і крічыць:

— Ай, піць хачу!

Ён сказыіць:

— Здрастуй, Абпівала!

— Здрастуй, Іскарка-Парубак.

— Пайдзі са мною ў свет!

— Ну, пойдзім!

Нямнога прайшлі, стаіць кала дарогі хлібапёшня, убліз горада, на двінаццыць пячэй хлеб пякуць і аднаго Аб’ідалу кормяць. А ён крічыць:

— Ай, есць хачу!

— Здрастуй, Аб’ідала, — гаворіць Іскарка.

— Здрастуй, Іскарка-Парубак!

— Пайдзі, Аб’ідала, са мной у свет!

— Што ж, пайдзём!

Яшчэ прайшоў — гаріць горад. Наскочыў Гунька, як ляцеў, наскочыў на агонь, лёг у агонь, у самы сільны і кожаю накрыўся і крічыць:

— Ай, замёрз!

Агонь патушыў і крічыць:

— Ай, замёрз.

Іскарка-Парубак гаворіць:

— Здрастуй, Гунька, пойдзем са мной у сваты.

Гунька атказыіць:

— Пойдзем.

Нямножка прайшлі — стаіць Даўгашост кала дарогі.
— Здрастуй, Даўгашост!
— Здрастуй, Іскарка-Парубак. Куды бог нясець?
— Ідзём у сваты.
— Вазьміце і мяне!
— А хадзі, пойдзім, — нам етакія людзі і нада.
Сколькі там уремя прайшлі, сядзіць Лысыя Муха кала дарогі.
— Здрастуй, Лысыя Муха.
— А, здрастуй, Іскарка-Парубак Дзевічы Сын! Куды бог нясець?
— А ў сваты!
— Вазьміце і мяне!
— А, хадзіця, нам етакія нада.
Ну, пашлі яны. (Набраў ён сабе двінаццыць малайцоў). Прішлі яны к етыму царю ў сваты прікраснай дзевіцы. Так сват і гаворіць:
— Мае сваты, — паставіў двінаццыць бочык віна і пылажыў ім двінаццыць пудоў хлеба, — еслі ета за ноч, — гаворіць, — ні распарядзіця, — то і ні мае сваты!
Пашлі яны ў сарай у еты і начылі піць віно. Еты выпілі па требі па сваёй. Абпівала выпіў усі бочкі і ў кучу скаціў. І сам на бочкі сеў і крічыць:
— Піць хачу!
А Аб'ідала ўвесь хлеб паеў і крічыць:
— Есць хачу!
Відзіць назаўтра, што віно папіта і хлеб паедзін, — нада ета ўжо доч яму аддаць — патом гаворіць:
— Ну, еслі, — гаворіць, — зяць мой будзіш, вот я яшчо табе закажу загадку на ныч! Еслі сатваріш ета, то доч будзіць за вамі.
Узяў, напаліў яму вугулля, жару ў ямі.
— Еслі ноч ету піріначуіця ў ямі ў етай, то доч за вамі будзіць!
Сычас еты Гунька лажыцца ў агонь, накрыўся кожую, і па кожы іні пашлі зімныі. Ляглі яны ўсі ўкрыўшысь і пакряхтуюць, што дужа халодна. Назаўтріга ўстаў еты цар і гаворіць:
— Ідзіця, — гаворіць, — хоць косці іх павыкідайця аттуль.
Прішлі слугі пасматрець, а яны кріхцяць:
— Дайця нам хуць пагрецца!

Уходзіць ён у комнату — біз атказу нада доч атдаць. Доч ета атказываіць:

— Пазвольця нам у саду прагуляцца!

Пашлі ў сад, і давай яна ў яго сматрець у галаве. Накінула сон, ён і заснуў. А сама скінулася галубкый і пыляцела, каб і саўсім атліцець ат яго. Так січас Муха ўкусіла яго, ён усхваціўся — дзевіцы нету. Спрасіў у таварішаў:

— А дзе іна дзелась, у каторую старану пыляцела?

— Даўгашост, відзіў ты? Змець хуць глазком!

Даўгашост схваціў яго сабе на хвост, два разы пірівараціўся і яе папірядзілі. Узялі яе, ні 'тпушчая к аццу, і пувялі пу сваёй дарозі. Прііжжаіць к етуму царю, а еты царь акружыў свой дом і пыкапаў канавы і напаліў агнём бальшым. Патом і гаворіць:

— А што, Іскарка-Парубак, жыў ты з етай дзевіцыю, пакуль давёў сюды?

— Не, — каець, — ня жыў.

— Ну, калі ня жыў, — палажыў сухую быліну, — дык пярейдзіш чіріз быліну, а калі жыў, дык і ні пярейдзеш!

А дзевіца ўзіла, ды і драціну ўткнула ў быліну, і ён ні замеціў. Ён і піряйшоў.

Іскарка-Парубак сказуіць:

— А ты, царь, ездзіў на маёй лошадзі?

— Не, ня ездзіў.

— Ну, калі ня іздзіў, — піряйдзі ты па етай быліні. І пярейдзіш, калі ня ездзіў.

Ён узяў і пашоў — надзеіцца, што ня ездзіў. Толькі ўступіў сірядзі канавы, а дзевіца ету драціну сморг к сабе — быліна пупулам, а ён у канаву і ўпаў. А Іскарка-Парубак з естай дзевіцай і звінчаліс і паехылі ў сваё царства. Ды якое было вяселле, віно рякою лілося, і мне дайжа выпіць прішлося. У році то ні було, і па губах ні цякло.

## ВАСЬКА ПАПЯЛЫШКА

От, у некаторым царстві, некаторым гасударстві, можаць у том, у каторым мы жывём, жыў сабе старік са старухай, тріццаць трі гады. І не было ў іх дзяцей. Патом нарадзіўся ў іх сын. Рос ён не гадамі—гадзінамі, не гадзінамі—мінутамі. Да вырасту сямі лет стаў ужу прасіцца ў свайго аццa ў навучэніе, у школу. Ацец яго не мог запрешчіць і даў яму волю, дазволіў яму ў школу хадзіць. Прабыў ён у школі трі гады. Стала яму дзесіць лет. Просіць ён свайго аццa з'ездзіць у горад к кувалям, здзелаць балдаву, па сілі маёй, з дроціку, што ён нашоў у попялі. Рыўся пад ямачкай і нашоў дроцік. Ну, патом ацец паехаў к кувалям. Прежда былі людзі вумныі, узналі, што ён чалавек не прастой, здзелалі яму балдаву двінаццаць пудоў, с самай харошай сталі, ну не ўзялі яму работаць з яго жалеза. Патом, пріходзіць ацец дамой. Ён сідзеў у вакна, ажыдаў аццa, калі ён яму гасцінец еты прівязець. Як уезжаець ацец на дом, ён узлезаець на лавачку і пашоў кругом столу. Атрезаў себе скібачку хлеба і пасыпаў соллю, і ўкусіў трі раза, і вышаў на двор. Узяў ету балдаву і паважыў яе. І пусціў яе за пуд болакі. Іна як палецела за болакамі—многа ўремя праляцела,—ён уходзіў у ізбу і прахаджуваўся. Патом уходзіць на двор і свіснуў маладзецкім посвістам, багатырьскім голасам — злетаець ета балдава. І ён надставіў сваё калена правае—і ета балдава рассыпалась над каленам на мелкія часці. Ён тады паклон даець бацюшкі:

— Што, ацец мой мілы, пажалуста, прашу вас, каб неабхадзіма з майго жалеза здзелалі балдаву!

Так ацец апяць жа паехаў к кувалём і прасіў іх:

— Што ўгодна з мяне ўзяць, а здзелаць балдаву з естага зялеза майго сына!

Кап яшчэ куваль не страціў і ўторнуў у шчэлку еты

дроцік. І патом абдумаўся сматрець: нацэліваецца ета зелеза браць у клешчы і класць на гонь. То ета зелеза ешчо прібавілась на пяць пудоў. І для таго, што двінаццаць маладцоў у двінаццаць молатаў двінаццаць сутак білі. А ета зелеза ўсё прірастала, большэла. Патом яны акончылі работу. І насільна двінаццаць чалавек усклалі на воз. Прівозіць ацец яго дамой. Вышаў ён на стречу сваіму аццу і ўзрадаваўся сваёй рабоці. Патаму ж ён апяць, не сматря нічега, узлез на лаўку, атрезаў партычку хлеба, пасыпаў соллю і ўкусіў яе трі раза. І вышаў на дом і прахадзіўся. Узяў ету балдаву за канец і паважыў яе і пусціў яе пуд небеса. Патом уходзіць у ізбу, прікланяецца аццу і матушцы сваёй:

— Благадарім вас за матушкіна параждзенне, за бацюшкіна благаславеніе, што я не магу з вамі жыць. А благаславіця мяне, я пайду сабе роўнасці шукаць!

Ацец благаславіў яго, азначаець яго:

— Кагда, сын мой мілы, цябе павіджу ў глаза?

Атвечаець ён яму:

— Бацюшка мой любезны, бацюшка мой радзімы! Ежалі я пападу сабе роўнасці ў скорасці, то ты не ўвідзіш мяне нікагда!

Па етуму па бацюшкінуму благаславенію, ацец-маці плакалі сілна, што жалка свайго рябёнка, што ён так атвеціў ім. Патом ён усовясціў іх словасамі:

— Бацюшка, цябе бог не аставіць і без мяне!

Тож бярець сваю балдаву і ідзець. Заходзіць у Кірсонгорад[1], заходзіць к кувалю. І здзелаў сабе драцяную плець. І атправіўся пуцём у ход па сваёй дарозі. Ідучы пуцём, падходзіць у сілныя горы. Ажну там Гарын-багатырь бярець на вілы горы і разнашуець, і раўняець поля, даліны, і пацеху сабе маець ат етага. Падходзіць к яму еты Васька Папялышка і чалом яму б'ець.

— Здрастуй,—гаворыць,—Гарын-багатырь!

— Здароў!

— Хацеў я тваёй сілі падзівіцца!

— Што,—гаворіць,—маёй сілі дзівіцца? Ёсць нейдзі Васька Папялышка—у таго ўся сіла!

Ён яму аткрываець:

— Я самы!

— Ну, пойдзем,—гаворіць,—мы за туварішуў удваім!

---

[1] Казачнік ніколі ў Херсоне не быў.

Ён яго прінімаець, і ідуць удваім. Уходзюць яны ў пушчу, на цёмны лес. Замечаець Васька Папялышка, што Дубін-багатырь дуб выварачуець,—возьмець за макушку дуба і с корнем выварачуець і размахуець. І ета за пацеху сабе меець. Параўнялісь яны два багатырі і к треццему. Етый жа Васька Папялышка апяць жа чалом б'ець:

— Здрастуй, — гаворіць,—Дубін-багатырь!

— Здароў!

— Хацеў я тваёй сілі падзівіцца!

— Што,—гаворіць, — маёй сілі дзівіцца, ёсць нейдзі Васька Папялышка—у таго ўся сіла!

Ён яму аткрыў:

— Я самы!

— Ну, пойдзем жа мы за дружбу разам!

Сабралась іх трі багатыря: Васька Папялышка і Гарынь-багатырь, і Дубін-багатырь і пашлі дальшэ. Заходзюць у такія крутыя горы і бальшыя рвы, аж там Камін-багатырь береця па тысічы пудоў камень у абедзві рукі і размахуець: камень аб камень пусціць — і яны разбіваюцца. І ён пацеху сабе адъетуль маець. Патом яны ўтраём ужэ яму чалом б'юць.

— Здрастуй,—гаворіць,—Камін-багатырь!

— Здароў!

— Хацелі мы тваёй сілі падзівіцца!

— Э, што маёй сілі дзівіцца? Ёсць нейдзі Васька Папялышка—у таго ўся сіла!

— А ета ж я! А са мной і Гарын і Дубін!

— Да пріміця і мяне да кунпаніі!

— Ну, пойдзем за дружбу ўсі разам. І пашлі яны па етый пушчі.

Находзюць хатку. Проціў етыя хаткі стаіць баня. Патом яны падходзюць к етый 'збушцы, вот еты Васька Папялышка гаворіць:

— Вот, браццы, ета йзбушка будзець пражываніе наша!

Патом астаець ён Гарына-багатыря ізбушку тапіць:

— А мы,—гаворіць,—пойдзем па ахоці прайцісь!

Астаўсь еты ў йзбушцы і затапіў яе. Пратапіў ету ізбушку, і вакошка разчыніў і жджэць сваіх тубарішчаў. Патом відзіць аказыецца чатыре галубкі і садзяцца пры етый лазні і скідаюцца дзявіцамі. І затаплююць лазню, і пратапіўшы лазню, начінаюць паріцца. Як забачыў ён іх красату і пауміў, каб іх заперць у лазні. Падыйшоў

пад дзверя і падпер дзверi плячом, каб іх задзержыць, пакуль туварішы прідуць. Ну, яны пупарілісь і ідзець старшая мізь етых сясцёр. Паспрабувала атчыняць і гаворіць:

— Вот,—гаворіць,—мае сястріцы, нейкі ўзгорак натоп, нельзя дзвярей атчыніць!

Так шчаўком шчаўканула, дзвері атляцелі, і багатырь еты атскочыў. І іна яму паклон б'ець:

— Здрастуй, — гаворіць, — Гарын-багатырь! Як, пачаму, па няволі, алі па ахвоці ты тут ходзіш?

Ён атвічаіць ёй:

— Не так па няволі, як па сваёй ахвоці!

Яна яго шчаўком убіла і пад вугóл падклала. Патом самі скінулісь галубкамі і паляцелі.

Ну, пріходзюць яны с ахвоты. Тые ж пашлі ў ізбу, а Васька Папялышка ў лазню. Паднімаець вугóл і вынімаець Гарына-багатыря, і дунуў у вадно вуха яму і ў другое—і атжывіў яго. Патом пасядзелі яны, і што прістарялісь ужу на абед, то вялеў Дубіну-багатырю печку пратапіць і згутуваць на абед. Патом таго, пашлі тожа ўтраіх на ахвоту. Еты Дубін-багатырь астаўся печку тапіць тожа. Сухога дуба паламаў, у печку паклаў, пратапіў, што было, згутуваў. Па ўпраўкі дзелам, сеў сабе ў креселца, вакошка атчыніў і смотріць, ажідаець сваіх туварішуў. Патом, відзіць ён ета самае дзела, стаццю: прілетаюць чатыре галубкі, скінулісь дзявіцамі, натапілі ету лазню. Пратапёмшы і давай паріцца. Тожа еты ўсматріўся ў дзявіц, і пауміў сабе, — што пайду я сабе іх закутаю, пакуль таварішы прідуць. Ну, узяў, падпёр тожа плячом дзвері. І ішла другая сястра і таўханулась плячом у дзвері і гаворіць:

— Ах, мае сястріцы, нейкая гнілая калода падкацілась пад дзвері: нельзя дзвярэй атчыніць!

Іна ж тожа шчаўканула шчаўком,—дзвері атляцелі, багатырь атмахнуўся. Іна яму чалом б'ець:

— Стой,—гаворіць,—Дубін-багатырь. Пачаму ты ходзіш: па няволі, алі па ахвоці?

— Нет, не па няволі, як па сваёй ахвоці!

Іна шчаўком ударіла і ўбіла і пад другі вугóл паклала. Самі скінулісь галубкамі і паляцелі на места на сваё. Ідучы багатырі с ахоты, і ўсе трі,—два ж пашлі ў 'збу, а Васька Папялышка пашоў у лазню: паднімаець вугóл і вынімаець Дубіна-багатыра. І дунуў яму ў вадно вуха і ў другое і атжывіў яго. Уводзіць у йзбу; пакушалі, што ім

бог паказаў, і астанаўляюць Каміна-багатыря; самі тож пашлі на ахоту, на пушчу. І апяць за імі еты жа самы Камін-багатырь, пратапіў збушку, абед згутуваў, і тож вакошка атчыніў і жджэць таварішаў. І тож прілетаець чатыре галубкі. Затапілі баню і вытапіўшы сталі паріцца. Ён усматріўся ў іх і паўміў сабе:

— Пайду я закутаю іх сабе на забаўку.

Пашоў і падпёр дзверы плячом. Патом ішла ўжу трецція: таўханулася ў дзверя:

— Ах,—гаворіць,—сястріцы, нейкі камень падкаціўся пад дзвері; няможна дзвярей атчыніць.

Шчаўком як шчаўканула, ён і атляцеў. Іна яму чалом б’ець:

— Здрастуй,—гаворіць,—Камін-багатыр. Як, пачаму ты ходзіш: ці па няволі, ці па ахоці?

— Не,—каець,—больш па ахоці, чымся па няволі.

Іна шчаўком шчаўканула, убіла яго, вугóл падніла і яго падклала. Самі скінуліся галубкамі і паляцелі на сваё места. Скора кажацца, доўга дзеецца. Еты ідуць с ахвоты. Два ідуць у ізбу, а Васька Папялышка пашоў у лазню, падняў вугол, выніў Камін-багатыря, дунуў яму ў вадно вуха і ў другое. Атжывіў яго і павёў у ізбу. Патом папішчэваліся, што ім бог паслаў.

— Вот,—гаворіць,—ребяты, атпраўляйцеся вы на ахвоту, а вочэредзь мне печку ету тапіць!

Тыя пашлі, а ён тапіў — не тапіў, узяў прадзіковіну ету сматрець. Тожа яны пріляцелі, паскідаліся дзявіцамі і затапілі ету лазню. Ну, Васька Папялышка не сагласян к ім ісці. А тожа яны ажідалі яго. Ён прігутуваў булдаву і драцяную плець палажыў лі сябе, і ажідаець іх к сабе ў госці. Ну, то самая малая яе сестра ўзываець сваіх сясцёр:

— Пойдзем-ка к Ваську Папялышку паваювацца!

Ён з бальшым удавольствам запрашіець іх. Уходзюць яны ў ізбу, нічаво не сматря. Ён згрёб іх усіх чатырёх у леву руку, і ўзяў сваю драцяную плець, і начаў іх па свойму катаць. І гаворіць:

— Прісігайця, будзеця нашы жоны, алі нет? То перастану катаць.

Патом яны атпрашуюцца:

— Васька Папялышка! Мы б са ўсею радасцю, ну наш ацец не такой! Ён вас усіх заваюець і нас назад атбярець! І зноў нам жыцця ня будзець! Хаця ж ты і ду-

жа сілён і туварішы твае, — ну ўсё ж ты атраждзёны і смерётны, а наш ацец ат паганага смока і не смерётны! І ты яго не змаюеш!

Ён, на ета не сматря, падальше іх падзергуваць узяў. І датуля біў пакамесь яны далі клятву аб сабе,—па кому зямлі з'елі,—што мы сагласны жыць із імі. Патом таварішы яго пріходзюць. І ўзялі яны на радашчу пір піруваць, і піць, і гуляць. Патаму вышла із-за стала старшая сестра прастудзіцца і завідзіла сілнае воінства, прамагучую сілу, што ідзець к етай ізбе. Ускочыла іна ў ізбу і гаворіць:

— Мае сястріцы і брахненькі! Вот пакамесь мы жылі! Вас ацец заб'ець і нас забярэць!

Ну, тая сіла ішла, аж маць-земля стагнала. Патом Васька Папялышка атвяшчаў:

— Што, ребяты, піця і гуляйця і дзела сатваряйця, што я буду пувеляць!

Ну, як узялі, — падышла ета сіла, стала хату разбіваць. То ета хата толькі трясецца, а нічаво ёй не бярець. Час і другей Васька Папялышка муўчаў. Патом васалаець Гарына-багатыря:

— Выхадзі на ету сілу, ламіць!

Гарын-багатырь як вышаў, узяў на вілы гару, дык так усю сілу і закрыў! І гуляюць яны іпяць жа, нічаво не сматря. Патом вышла другая сестра на крылцо прастудзіцца. І глянула туда, што пабольшая сіла яшчо ідзець, як ішла. Вот ускакуець іна ў ізбу і гаворіць:

— Вот,—гаворіць,—сястріцы і брахненькі, не то была сіла! Вот ідзець сіла: не відаць ні зямлі, ні вады, ні лесу— прамагучая сіла! От цяпер жысь наша неспадзежна!

Атвешчаець ім Васіль Папялышка:

— Што я вам сказую, ребяты, піця і гуляйця і маё дзела сатваряйця, што я буду вялець!

Падыйшла ета сіла,—дык сталі ету хатку ваюваць— што толькі калышыцца! А нічога ёй не ўредзяць. Патом Васіль Папялышка васалаець:

— Камін-багатырь, выхадзі,—гаворіць,—ету сілу паламіць!

Камін-багатырь як выскачыў, узяў камні і паўбіваў ету сілу, і ўсю паразмахаў. Патом апяць яны пілі, гулялі. Пашла трецція на крылцо прастудзіцца. І ускакуець скорым поспехам, што іна ўвідзіла:

— Вот,—гаворіць,—мае сястріцы і брахненькі: то бы-

ла сіла, не сіла, а цяперь сабраў наш ацец сілу да белыя галавы (да бабскага полку), і сам услед с пужкую едзець!

Васіль Папялышка атвешчаець тож:

— Не рабейця, ребяты, піця і гуляйця і дзела сатваряйця, што я пувялю!

Так ета сіла ўзіла ету хатку сваімі парядкымі ваюваць. Той Васіль Папялышка васалаець Дубіна-багатыря:

— А выйдзі-ка, Дубін-багатырь, ету сілу паламіць!

Дубін-багатырь вышаў і ўзяў два дубы за макушкі, і ўзяў кругом сябе вадзіць—убіў ету сілу ўсю! Патом апяць пілі-гулялі, нічаво не сматря. Вышла меньшая сестра на прасыпаліcь. Васіль Папялышка ваюваўсь-ваюваўсь с паганы цмок і с пужкую. Убегаець іна скорым поспехам у ізбу:

— Мае сястріцы і брахненькі! Ідзець сам ацец сюды!

Тэй Васіль Папялышка ідзець ваювацца сам с паганым цмокам. Стаў на стол і ўзяў свой із-за шыі платок і піўны стакан і ўторнуў у стол нож, і павесіў платок. І пріказыець:

— Вот, браццы мае, піця, гуляйця і етага стакана сабурегайця! Як еты стакан крыві найдзець і церез пойдзець, то на памогу ка мне выбегайця!

Так яны пілі і гулялі і ўсе паваснулі. І як яны былі багатырі, дык яны па двінаццаць сутак спалі, а двінаццаць прасыпаліcь. Васіль Папялышка ваюваўсь-ваюваўсь с паганым цмокам, рассекаў яго на мелкія часці, ну ён крошка к крошцы зляпліваўся і апяць жа паўзець к яму. То і да таго ў етай ізбушцы, што і па калені крові найшло. Тожа яму помачы нет. Да таго дзела, што Васіль Папялышка ўмаріўся. І пасільнічыў яго паганы цмок, — убіў. Увышоў у вызбу, па'трубіў усім багатырям галовы, сонным, і замкнуў сваіх дачок, у запор узяў, на ланцугі, і павёў.

Так удруг,—скора ета кажацца, да ня скора дзеецца,— 'друг аткудава ўзілась кабыла, залатая шарсціна і сярebріная, і пала перед Васькай Папялышкай і стала ірзаць, капытамі біць, а наздрямі попел сабіраць—каторы з яго сыпаўся. Ну й атжывіла яго. Ён уходзіць у ізбушку і бярець сваіх туварішуў галовы і прітаркаваець к тулуву. І па трі раза дунуў і атжівіў іх. І распрашчэнія просіць у іх:

— Браццы! Пілі-гулялі, майго дзела вы не споўнілі,

хаціця сабе ідзіця сабе ўкучы, алі ўрозь, а я 'дзін пайду, паганага цмока дабіваць!

Іны атвішчаюць яму:

— Брат Васька Папялышка, калі ты яго тут не памог, а ў яго царстві ты яму нічога не здзелаеш!

Ну ён на ета не самлеваўшысі, сеў на кабыліцу і паехыў. Пытаўся, прапітуваў яго гарадоў і яго царства і пашоў. Падышоў к яго пылатам і ўвыйшоў у сад воўся. Сеў пад вінаградам і размысліваў сабе мыслі: якім образам,— хоць далёка, алі ёсь на яго смерць, што яго можна с свету збавіць? Вышла на крылцо тая цареўна, што абіцала за ім замужам быць, і пачыла абіжацца на свуго аццa:

— Якій-та,—гаворіць,—наш бацька не любімы, не радзімы, што ён нас разаріў! Мы б не хацелі яго царства, ні гасударства, з багатырямі б жылі, ніякага горя не мелі!

Заслышаў Васька Папялышка еты глас і давай яе клічыць к сабе:

— От,—гаворіць,—любімая мая: я вас буду аднаго дзела прасіць! Каб ты разадзела ету адзежу і надзела пачышчую і падступіць к свайму аццу з гарючымі слезамі і спрасіць у яго, ідзе яго смерць падзелась? Ну, трі раза,—гаворіць,—будзець шуціць, а за чацвёртым праўду скажэць!

Так іна тут здзелыла. Скінула ету адзежу, надзела другую, падыйшла к свайму аццу і ўкленчыла перяд ім, заплакала гарючымі слязмі:

— Бацюшка мой мілы, бацюшка мой любезны, скажы ты мне, пажалуста, як я старшая твая доч: ідзе твая смерць, аткуль,—гаворіць,—нам ее дажыдаць?

Атвішчаець ён ёй:

— Доч мая мілая! Ёсь у табуне карова абгаджаная, у той каровы ў хвасце смерць мая!

Іна пувялела яе абмыць і абчасаць і падвела к яму. А ён усмеяўся:

— Эх, — гаворіць, — дочарь мая любімая: у бабы волас довег, вум каротак! Якей я,—гаворіць,—буду пісацца несмярётнік, калі ета карова січас падзець, дык і мне канец?

Патом іна ўспяшыла скорым спехам і атвясціла Васілю Папялышку тыя словы. І пріказаў ён ёй, што пачышча адзежу надзеньця, і ешчэ паласкавейша паступіця і спытайця пра смерць. Тож іна зноў надзела дара-

гую адзежу, падходзіла ізноў к свайму аццу і гаварІла:

— Ацец мой радзімы, ацец мой любімы! Польна вам шуціць! Скажыця мне, як я вашая старшая доч, адкуль мне вашай смерці ждаць? Не верыцца мне, каб ее не было, ідзе-небудзь ды іна ёсць!

Тожа ён пачаў апяць жа шуціць:

— Вот,—гаворіць,—доч мая мілая, доч мая любезная! Ёсць у стадзі кріварогая каза, дык у яе ў рогі забіта мая смерць!

Іна вялела атыскаць кріварогай казы ў табуне, вымыла, вычысціла яе і падводзіла к яму. Тожа ён усмехнуўся:

— Я табе сказаў, што ў бабы волас довег, вум каротак. Якей я буду несмярётнік: ты бачыш, што ета каза ледва ходзіць. Іна падзець, дык і мне канец?

Нічога іна не атвішчала, паспешыла іна к Васілю Папялышку ў вінаград. І ўчыў ён яе дастаць адзежу яшчэ луччую і падступіць к яму і прасіць гарючымі слезамі са трудамі. То іна дастала адзежу яшчэ луччую і ўвубралась і ўкленьчыла, падступіўшы к атцу, заплакала, сашчапіўшы рукі:

— Бацюшка мой мілы, бацюшка мой радзімы! Скажы ты мне як я старшая доч твая, ідзе твая смерць? Адкуль мне яе дажыдаць?

Ён тагды абсмеяў ее.

— Ёсь свіння абарваная ў стадзі: у яе пад хвастом! Тож іна ўжо чацверты раз пашла к Васілю Папялышку.

Ён каець:

— Дастань ты адзежу як на небі звёзды і ўбярісь, і падступі пабліжэй, і пакланіся паніжэ,—то я спадзіваюсь, што ён скажаць праўду!

Іна справіла адзежу такую, па ўказу яго, Васіля Папялышкі, і пашла к свайму аццу. Падыйшла пабліжэйшэ, пакланілась яму паніжэ і стала слезна плакаць:

— Бацюшка мой любезны! Раскажыця мне, айдзе ваша смерць! То ён думаў, думаў і ўздыхнуў:

— Вот, — гаворіць, — доч мая любезная, хаціцца табе маей смерці даведацца: ёсць у такіх-та і такіх-та гарадах крутая гара. У той гаре ступа, у ступі заіц, у зайцу вутка, у вуткі яйцо, у яйцу смерць мая!

Так іна ўспяшыла і к Васілю Папялышку і ўзвясціла. Васіль Папялышка, нічога ня 'жыдаўшы, іздзелаў сабе кавырьку і начаў гару капаць. Паганы цмок узяў хва-

раць. Патом ён дакапаўся ступы. Дальша капаць — заіц выпархнуў і пабежаў; ён дальша капаць—вылецела вутка. Патом ён дальша капаць — находзіць яйцо, на самам дне, у шпунце, у ступі. Васька Папялышка ўзяў ета яйцо, перевярнуў ступу і ўзяў ета яйцо, паклаў на дно на ступу і ўдарію кавырькай. Ета яйцо на сколькі часцей разляцелась. І на столькі часцей етага царя, паганага цмока, разарвала. Васька Папялышка прішоў у тое царства, жаніўся на тэй цареўні і астаўся там жыць.

## ПРА ІВАНА-ДАРАГАНА

Гэта было з пачатку света. Жыў Кашчэй Бяссмертны і багатыроў усіх пабіў і валшэбнікаў усіх пагубіў і ўкраў сонца, і месячка, і зорачкі, і стала цёмна людзям. Тут людзі сабіраюцца кучкамі: «Што будзем рабіць?» Радзяцца. Давай на шляхі з'язджаць і старажаваць. Хто ні будзе ісці ці ехаць, то аглядаць кожнага, можа і знойдзем у каго. У адной вёсцы, у бацькі было тры сыны: два разумных, а трэці Іван-Дараган, дурань зваўся. Вось яны сабіраюцца ехаць, два вумныя, аглядаць на шлях, а Іван-Дараган гаворыць:

— Тата, і я паеду з імі.

Тыя і гавораць:

— Куды ён паедзе, хай ён сядзіць дома.

— А не, тата, калі не дасцё мне каня, дык я пайду пешкам за імі.

Бацька прыказвае:

— Не кідайце яго, хай і ён едзе.

Даў ім па каню, усім тром, вось яны і паехалі. Тыя ўдвух селі на коней сваіх, а Іван у руках вядзець. Яны гавораць:

— Што ты не садзішся?

— Выведу за вёску, там сяду,—кажа Іван.

Выехалі яны за вёску, ён свайго каня ўзяў за хвост і трухнуў яго, усё выскачыла, толькі кожа асталася ў руках. Свіснуў багатырскім свістам. Ляціць да яго конь з экіпажам, з наздзёр полымя ідзе, а з-пад капыцця іскры ідуць. Ён гаворыць:

— Стой конь перада мной, як ліст перад травой!

Гаворыць на братоў:

— Пускайце сваіх каней дамоў.

Тыя бачаць, што брат не просты, не дурны. Яны сваіх каней пусцілі.

— Садзімась-ка на майго каня, можа чаго-небудзь і знойдзем.

Селі і паехалі. Ехалі яны доўга, прыязджаюць к мору. У леса-апушкі і стаіць дом белы, аграмадны, аграмадны. Астанавіліся яны ў гэтай апушкі. Ён узяў лесу наламаў, злажыў хату сабе і печ склаў. А конь у яго стаіць, трое дзвярэй у павозцы гэтай і зачыняе яго туды і кормя. Вось і гаворыць братам:

— Вось, браты! Будзем па-старшынству хадзіць пад гэты мост і сцерагчы пад ім. Хто ні будзе ісці, будзем асматраваць, можа што і нойдзем.

На першую ноч большаму брату трэба ісці сцерагчы. Большы брат пайшоў, выйшаў на двор і чакурдык пад вугол, баіцца туды ісці. Іван-Дараган устаў пасярод начы і пайшоў пад гэты мост, вырывае шпалу жалезную і як запусціў у гэты дом, аж дом гэты затросся, а ў самым даму жыў Кашчэй Бяссмертны і ў яго было тры сыны. Вось ускаквае большы сын:

— Вось, папаша, нейкае непрыяства!

Ён і гаворыць:

— Якое можа быць непрыяства, мы ж багатырэй усіх адбілі і валшэбнікаў усіх пагубілі, ёсць Іван-Дараган на свеце багатыр, дак ён яшчэ малалетны, ён сюды не павінен прыці. Ну потым, едзь, мой сын, аглядзі, што там ёсць.

Ён бярэ харла і сакала, садзіцца на харла, сакол асвяшчае, а харол чуе. Вось пад'язджаюць к масту. Харол цуп і стаў. Вось сын і пытае:

— Што вы, харол і сакол, нашлі? Мой жа папаша гаварыў, што ніякага ніпрыяства не павінна быць. Багатырэй мы ўсіх адбілі, валшэбнікаў усіх пагубілі, а ёсць Іван-Дараган, багатыр, дык ён яшчэ малалетны, ён не павінен сюды прыходзіць.

А Іван гаворыць:

— Не, я ўжо тут.

Вырывае шпалу жалезную і ўдарыў сына старшага і ўбіў.

Ён бярэць харла і сакала гэтага і прыходзіць у сваю хату. Браты спяць, старэйшы пад вуглом, а сярэдні ў хаце. Ён іх пусціў (харла і сакала), сам лёг спаць. Вось большы брат прасынаецца, увайшоў у хату, паглядзіць, што гэта такое відна. Ён будзіць Івана-Дарагана:

— Эй, вы спіце, а паглядзіце-ка што я дастаў.

Іван падняў галаву і пахваліў яго.

— О, брацец, маладзец, дастаў. Хоць відна ў хаце.

Ну, пераначавалі гэту ноч і перадняваді. Іціць сярэдняму брату. І гэты баіцца туды ісці. Вышаў на двор, ды і пад вугал. Іван устаў сярод ночы і пайшоў пад той мост, вырывае зноў шпалу жалезную і запусціў у белы дом зноў. Зноў дом аж загрымеў. Ускаквае сярэдні Кашчэеў сын.

— Вось, папаша, ё нейкае непрыяства.

— Ну ды ні даўжна быць. Ну едзь, аглядзі.

Бярэ гэты харла і сакала і едзя. Прыехаў к масту. Харол астанавіўся, не ідзе блізка. Ён і гаворыць (сярэдні сын):

— Што вы ўчуствавалі, харол і сакол, ніякага ніпрыяства не даўжно быць, ацец сказаў, што мы ўсіх багатыроў адбілі, усіх валшэбнікаў пагубілі, есць Іван-Дараган на свеце, ён яшчэ малалетні і не даўжно яму яшчэ сюды прыціць.

Ён вылажуе (Іван) з-пад маста:

— Не, я ўжо тут.

Вырваў шпалу жалезную і ўдарыў гэтага і ўбіў. За харла, за сакала, ды ў сваю ізбу. Вось і гэтых пусціў, сам лажыцца спаць. Вось і сярэдні брат праспаўся пад вуглом, бача ўжо чатыры вешчы такіх: два харлы і два сакалы. Будзе ён братоў сваіх.

— Устаньце-ка паглядзіце, што я дастаў.

Іван падымае галаву і гэтага пахваліў.

— Во мае браты маладцы. Дасталі, хоць у хаце нам відна.

Пераначавалі, перадняваді — іціць Івану-Дарагану высцярэгці. Вось ён вынімае карты, кладзе іх на стол. Вынімае дзве жмені золата, адну жменю кладзе на адзін рог, другую на другі, нож у паталок і кажа:

— Вот, братцы! Прашу я вас, штоб вы ету ноч ні спалі, а гул'ялі ў карты на золата, хто каму прайграе, гэтаму яшчэ дам, хто прайграецца. Як пакапае кроў з нажа, дык каня майго яшчэ не адмыкайце, а як пацячэ цурком, тады каня адмыкніце.

Сам пайшоў пад мост. А ў Кашчэя меншы сын яшчэ сільней чуць не за яго, Івана. Вось Іван вырваў шпалу і запусціў у гэты дом зноў, аж дом затрося. Ускаквае меншы сын.

— Вось, папаша, гэта Іван-Дараган тут.

Кашчэй адказвае:
— Вядома, гэта Іван-Дараган тут. Ну, едзь, мой сын, я надзеюсь, што ты можа і мацней за яго будзеш. Ну, толькі ні ашыбайся, глядзі.
Прыляцеў і гэты:
— А ну-ка, Іван-Дараган, вылазь на бой.
А Іван узяў булаву дванаццаці пудоў.
— А вось,—гаворыць,—і лезу.
— Ну ідзем на медны ток біцца, тут нам не бітва.
Сышлі на медны ток, як ударыліся па разу, дык па пояс і паехалі на медным таку. Кашчэеў сын крычыць:
— А ну-ка, Іван-Дараган, і тут нам не бітва. Ідзем-ка на сярэбраны ток.
Сышлі на сярэбраны ток, ударыліся разы па тры, уехалі па калены. Кашчэеў сын крычыць:
— А ну-ка, Іван-Дараган, і тут нам не бітва, ідзем-ка на залаты ток, во там мы пабіваемся.
Вось і пашлі.
Прышлі на залаты ток, біліся, біліся, доўга: Іван-Дараган пачуставаў, штоб ні замог, крычыць Іван-Дараган:
— А ну-ка, пёсье мяса, давай-ка аддыхнем.
А браты гулялі, гулялі ў карты, ды і заснулі. Адзін лёг пад прыпек, адзін лёг на лаўкі. Ён, Іван, здзеў з нагі сапог аддыхаючы і запусціў ім у хіжыну, каб разбудзіць братоў, бо ведаў, што яны паснулі. Нячутна нічога. Кашчэеў сын падымаецца:
— А ну, уставай, Іван-Дараган, на бой.
І зноў пачалі мясіцца.
Біліся, біліся, чуствуе Іван-Дараган, што замагае, зноў ён крычыць:
— Давай яшчэ, пёсье мяса, аддыхнем.
— Давай.
Ён здзеў другі сапог з нагі, і запусціў у сваю хіжыну, і папаў у грубу. Груба развалілася, старшаму брату ўдарыла кірпічамі па назе. Гэты прахваціўся, глядзіць—кроў на палу і па хаце пацякла, ні то што з нажа. Ён скарэй за ключы і пабег каня адмыкаць. А Кашчэеў сын крыкнуў:
— Уставай, Іван, на бой!
Конь крычыць:
— Скарэй адмыкай, а то гаспадар пагібае.
Адмыкнуў ён каня, конь ляціць і крычыць:

— Іван-Дараган, астараніся.

Як прыляцеў, так Кашчэевага сына на капусту пасек сваімі капытамі. Іван сеў, умарыўся б'ючыся, аддыхае. Аддыхнуў, хацеў дамоў ісці, а дай-ка,—думае,—пагляджу, што ў іхніх карманах ёсць. Вось ён палез у карман, ляжыць у кармане кніжачка і насавы платочак клубочкам звязаны. Ён за гэту кніжачку, сабе ў карман. Насавы платок развязаў, сонца пырх—паляцела з яго, ён і к першым падышоў, што першых пабіў, у аднаго цап—насавы платок, тожа звязан. Ён развязаў, месячка пырх—паляцела. Ён у трэцяга сына ў карман — выцягвае адтуль тожа насавы платок звязаны. Зорачкі пырх паляцелі. Вось ён прыходзіць у сваю хіжыну к сваім братам.

— Ну вось, братцы. Вось я найшоў віднае, ды вы трохі вінаваты, чаго вы лажыліся спаць? Я чуць не пагіб, як бы не ўзбудзіў вас, то і пагіб бы. Садзіцесь-ка на майго каня і едзьце дамоў, ну каня не ганяйце, ён сам вас прывядзець на тое месца, ён сам пойдзе на тое месца, дзе я бацькавага каня вытрусіў, а вы пойдзеце дамоў, а я тут астануся, мне дзела ё, а можа вас і даганю.

Як узяў ён тую кніжачку ў яго і прачытаў яе, дык ён найшоў у ёй тое, што можна чым хочыш зрабіцца. Ён адзеўся галубком, узляцеў на вакно дома, дзе Кашчэй Бяссмертны, і слухае, што тут будуць за разгаворы. Ускаквае дачка Кашчэева і гаворыць:

— Ну, папаша, калі мае браты яго не перавялі, дык я яго перавяду. Забягу наперад і зраблюся хрустальнай крыніцай і яны як нап'юцца вады, дык і палопаюцца.

Ускаквае другая:

— Ну, мая сястра, калі ты не перавядзеш, дык я перавяду. Я забягу далей наперад і зраблюся яблыней. Будуць на ёй залатыя яблыкі і сярэбраныя, як з'ядуць, дык і палопаюцца.

Ускаквае сама змяя, Кашчэева жонка.

— Ну, мае дочкі, калі вы не перавядзеце, дык я даганю і цалкам іх пакаўтаю.

Ён, Іван, паслухаў, больш нічога нячутна болей. Дагнаў сваіх братоў, ударыўся аб зямлю і зрабіўся зноў Іванам.

Ну і едуць. Наперадзе паяўляецца крыніца хрустальная. Браты пасаскаквалі, хацелі вады напіцца, а Іван-Дараган іх не пусціў, а ўзяў кол, як ударыў па той крыніцы, толькі багна палучылася. Гэту забіў. Едуць далей.

Вось паяўляецца яблына, залатыя яблыкі і сярэбраныя. Браты пасаскаквалі і хацелі яблыкаў нарваць, а Іван іх не пусціў. Як ударыў зноў колікам па яблыні, тожа багна атрымалася. Браты і гавораць:

— Што ты нас не пускаеш ні піць, ні есці. Мы з табой ня хочам ехаць, калі ты такі.

— А вы, братцы, са мной і не паедзеце. Едзьце адны, конь вас прывязе, куды я і казаў.

А сам чуствуе, што змяя скора будзе ляцець, Кашчэева гэта жонка. Браты паехалі адны. А ён шагнуў багатырскімі шагамі ў Кіеў-горад. Ён знаў, можа там і спасуся. Там ёсць тры багатыры; зялезная кузня ў іх, яны куюць у ёй, трое дзвярэй у ёй зялезных. Вось ён прыбягае ў Кіеў. Чуе ляціць змяя. Ой, бачыць наганяе, а кузня яшчэ далёка. Дык ён забягае ў склад, дзе солі кулі, хватае па дзесяць мяхоў зразу і шыбануў ёй у рот. Напоўніў яе кулямі з соллю, яна абажралася. Паляцела ў Дняпро вады піць, а ён у гэты час скок к кузні.

— Эх, братцы, пусцеце, паратуйце.

— Мы пусцім цябе, толькі паслужыш у нас год.

А змяя ўслед, як толькі яны яго ўпусцілі ў кузню. Хлоп на кузню, аж кузня зялезная затрашчала. Вось яна і гаворыць:

— Падайце мне машэнніка, а то і кузню вашу разару.

Яны адказваюць ёй.

— У чым мы віноваты, мы ж не зналі, хто гэта такі. Мы баімся кузні адчыняць, а ты вазьмі трое дзвярэй пралізні, ў цябе язык большы, дык мы табе яго на язык пасадзім і цягні сабе.

Яна як лізнула, дык язык тырчыць да сцяны. Іван-Дараган за клешчы ды на кавадла язык гэты, а тыя ўтры малаты як пачалі біць, аж кузня ходырам хадзіла. Атрубілі, пакуль чуюць ужо слабка — ходзіць па павадку. Выходзяць з кузні, там ляжала зелязяка семдзесят пудоў. Дык Іван-Дараган цэпам прычапіў зелязяку тую ды на шыю ёй гэты цэп, а тыя ўсё душаць па галаве, а Іван-Дараган як запароў ету зелязяку ў зямлю, дык і зрабілі канаву цераз увесь Кіеў да Дняпра і кінулі змяю ў Дняпро з залязякай і не прыплыла метраў дзесяць, там ёй і душа вон.

Іван служыць год. Адслужыў год, яны яго напаілі, накармілі харашэнька і на дарогу далі. Пайшоў ён

к двару дабірацца (дамоў). Вось ідзе па шляху, шлях той праз ясакарнік, дык ён як крыкнуў песні, дык аж лісця сыпалася з ясакарніку. Вось бачыць наперадзе едзя, як на мацыклеці, дзяўчынка і крычыць:

— Астаранісь, а то ўшыбу.

Ён думая: «Такая малая, да міне ўшыбець». Вось ляціць прама на яго, ён нагой як таўхануў яе, дык нага і прыліпла. Ён другой—і тая прыліпла. Ён рукамі—і рукі прыліплі і пацягнула яго як ташчыла, ды ў Кашчэеў дом.

— Дзедка! Вось я табе яго прывезла.

То звалася дзяўчына Анціпка, каторая яму вейкі падымала (Кашчэю). Ён загадвае:

— Падымі-ка ж вейку. Яна падняла (а ў Кашчэя векі былі па пяць пудоў).

— О, галубчык, тут я цябе зразу ня буду ні біць, ні казніць.

А Кашчэй, як паглядзіць на каго, то ад яго ўжо не адыйдзеш, хоць і пусціць, то ўсё роўна к яму прыдзеш. Ён і гаворыць яму (Івану):

— Сыночкаў пабіў, дачок пабіў і жонку ўбіў, дык вось табе загадка: па гэтаму мору ўніз пяцьдзесят вёрст ідзі, там жывець на востраве на моры вось такі стары, штоб ты мне яго дачку прывёў на жонку, а не прывядзеш—мая меч, твая галава з плеч.

Ну ён і пайшоў. Прашоў вёрст дзесяць, выскакуе к яму чалавек з лесу і пытае:

— Куды ідзеш, чалавек?

— А іду ў сваты.

— І я з табой пайду.

— А ты што за чалавек?

— Па ўсём свету бачу.

— Ну і ідзем разам.

Пайшлі далей. Выскакуе яшчэ адзін.

— Куды, хлопцы, ідзеце?

— А ідзем у сваты.

— І я з вамі пайду.

— А ты што за чалавек?

— У адзін час усё царства аббягу.

— Ну ідзем разам.

Прайшлі далей. Выскакуе трэці.

— Куды, хлопцы, ідзеце?

— У сваты.

— Ну і я з вамі пайду.
— А ты што за чалавек?
— А я такі, што многа п'ю, вып'ю ўсё мора.
— Ну ідзем разам.
Прайшлі дальш. Выскакуе чацвёрты.
— Куды, хлопцы, ідзеце?
— У сваты.
— І я з вамі пайду.
— А ты што за чалавек?
— Колькі мне ні дай, я ўсё паем.
— Ну ідзем разам.
Прайшлі далей. Выскаквае пяты з зялезнымі вілкамі.
— Куды, хлопцы, ідзеце?
— У сваты.
— І я з вамі пайду.
— А ты што за чалавек?
— А вось гэта мора ў копы складу за пяць мінут і мора перайду.
— Ну ідзем разам.
Вось падыходзяць і бачаць той востраў. Выскакуе шосты. З рагожкай пад пахай.
— Куды, хлопцы, едзеце?
— Ды вось к гэтаму ў сваты на востраў.
— Дык вось садзімася на гэту рагожку, яна нас і перавязе.

Яны селі і пераехалі. Там аграда, ніхто ні ўвойдзе туды. То жывець валшэбнік, што і Кашчэй яму рады не даў. Вось па аградзе тысячы градзін і на кожнай аградзіне чалавечая галава тарчыць, а сем аградзін пустых. Яны і гаворaць, хлопцы:

— Гэта для нашых галоў.

Падыходзяць к варатам, замкі самі адчыняюцца на варотах і вароты самі расчыняюцца. Яны ўвайшлі, вароты самі хляп на замкі. Яны падыходзяць к дому. Дзверы адчыняюцца самі. Уваходзяць у дом, сядзіць там стары, з ног да галавы касамі аброс:

— Што вы, хлопцы, прышлі?
— У сваты к бабе.
— За каго ж вы будзеце сватаць?
Паказваюць на Івана.
— Дачка! Хадзі-ка сюды.
Дачка прышла з другога пакою.
— Вы бачыце, якая мая дачка прыгожая. А вы ж

мурзатыя. Дык вось вам загадка:

У такім-та царстве есць два калодцы, дык хто той вадой памыецца, дык будзе прыгожы, як і дачка мая. Дык вам, калі мая слуга наперад прынясе, за вас скарэй, то мая меч, вам галаву з плеч. А калі вы прынясіцё скарэй, то будзем гаманіць.

Стары паслаў бабулю-Ягу, касцяную нагу. Вось хлопцы пасылаюць таго, што ўсё царства аббягае. Вось ён як дунуў, дагнаў тую бабу-Ягу, набок яе таўхануў нагой, а сам далей. Набраў вады. Бяжыць назад. Сярод дарогі сустракаецца зноў і з ёй. Яна тут яго задзяліла і сароку на галаву пасадзіла, і ён спіць, заснуў. Яна за бутылку ад яго і бяжыць. Іван-Дараган гаворыць:

— Да павінен ужо быць.

Узлезлі на балкон з хлопцам, што па ўсім свеце бачыць. Ён і гаворыць:

— Сядзіць сарока на галаве і ён сядзіць і спіць.

Іван-Дараган як крыкнуў багатырскім голасам, так ён і падхваціўся. Дагнаў зноў бабу гэту, нагой таўхануў, бутылку адабраў, прыбег, а бабе трэба яшчэ пяць гадзін бегці. Іван узяў памыўся гэтай вадой і стаў красавец. Ён загадвае, стары той:

— Ну цяпер будам свадебку гуляць. У мяне ёсць амбарык бачонкаў віна, ёсць і амбарык хлеба печанага, пухованага, дык вось каб вы папілі гэта ўсё, гэта за раз, і паелі. А ні пап'іцё і ні паясцё—мая меч, вам галовы з плеч.

Гэты, што многа п'е, к бачонкам у амбар, а гэты, што многа есць, к хлебу, папілі і паелі ўсё. Крычаць:

— Дай-ка шчэ, калі ёсць, а то мала.

Ён гаворыць:

— Не, даволі, хлопцы! Вось, хлопцы, цяпер што: твар то вы памылі, прыгожыя, а цела ваша бруднае, дык ідзеце ў баню, памыйцеся, а калі не памыецеся ў маёй бані, то мая меч, ваша галава з плеч.

Яны пайшлі.

А баня ўжо двое сутак топіцца, зрабілася, як жар, чырвоная.

К бані падышоўшы, гэты, што папіў многа, як пусціў у яе ваду, поўную баню наліў і затушыў яе. Яны параздзяваліся, давай купацца ў ёй, як у ванне. Ну ён пасылае дачку:

— Бяры-ка, мая дачка, качаргу, да ідзі павыграбай попел, што пагарэлі ў ёй.

Яна за качаргу і пабегла. Падбягае к бані, а яны там купаюцца.

— Э, — гаворачь, — што вы так кепска натапілі, мы ўжо пакалелі.

Яна круць назад, бяжыць плачучы к бацьку і гаворыць:

— Татачка, яны ўжо там купаюцца.

— Ну, мая дачка, пойдзеш. Гэта хлопцы не простыя. Больш я ім загадваць не буду, а то яны мяне перавядуць.

Прышлі яны.

— Ну, што ж, бярыце дачку, вядзіце.

Узялі і павялі. Вось прыводзяць к мору, расцілаюць рагожку, паселі ўсе на яе: паехалі. Толькі праз мора ўплылі, так яна боўць у мора. Гэты, што ў копы складае, шарах, марах, а той, што далёка бачыць, граб яе, сюды на рагожку. Іван-Дараган дзяржыць яе, яна і гаворыць:

— Як бы за цябе, Іван-Дараган, дык бы я згодна з дарагой душой, а то ты мяне павядзеш к Кашчэю.

— Да,—гаворыць,—павяду к Кашчэю.

Пераехалі. Той адкуль выходзіў, на сваё месца пайшоў, а Іван яе павёў к Кашчэю. Прывёў.

— Ну, вось прывёў табе жану.

— Анціпка, падымі-ка вейку.

Тая аж крэкча, падымаючы вейку. Глянуў.

— Ну цяпер, Іван, гуляй у мяне.

Пабыў ён нядзелю, а Кашчэй знаў ні такую шчэ красавіцу марскую, на дне мора жыве. Прыказвае Івану:

— Вось табе дастаць марскую красавіцу мне, а не дастанеш—мая меч, твая галава з плеч, а дастанеш, куды хочыш пушчу. Вось яна ўверх па мору за семдзесят вёрст, там каля яе красівыя кусты па берагу, яна кожнай раніцы на паверхнасць выплывае да сонца і песенькі распявае, як запяе песні, дык аж мора калышацца. Дык вось, як сабе хочаш, а мне яе дастань.

Пайшоў ён у горад, заказаў слесару зрабіць такую карапашку, дзверы штоб былі раздзвіжныя, каб не было відна, каб я сядзеў і не відзен быў. Разукрась рознымі кветкамі. Ён набраў напітак, наедак, наняў у го-

радзе звозчыка і павёз яго з карапашкай. Ну прыехалі туды, ён астанавіў у тых кусціках недалёка ад берагоў, а звозчык паехаў дамоў. Ён сеў у яе і сядзіць, чакае раніцы. Вось настала раніца і яна выплывае, плыве сюды к берагу і стала па пахі ў вадзе і размаўляе:

— Эх, што гэта за такое, відна штось смачнае. Ці ня хоча хто злавіць мяне, ні пайду.

Боўць у мора. Сядзіць Іван да другой раніцы. Вось яна зноў выплывае, зноў плыве к берагу, вышла на сушу, шагі на тры не дайшла да яе, стаяла, стаяла.

— Не, каб хто не злавіў мяне.

Апяць зноў боўць у мора. Ён сядзіць да трэцяй раніцы. Вось на трэцюю раніцу зноў яна плыве, вышла на сушу і падыйшла к карапашкі, стала піць і есці і гаворыць:

— Эх і смачнае, і няма тут нікога.

Іван дзверцы дзвіг і граб за яе. Яна рвалася, рвалася, ён гаворыць:

— Не, ні вырвішся з рук.

Такая яна красавіца, што ні ў казцы казаць, ні пяром ні апісаць. Вось Іван як глянуў на яе з карапашкі вылязшы і падумаў: «Вось каб такая жонка мне!»

Абняла яго, пацалавала і прыгаварвае:

— Ты мяне к Кашчэю павядзеш.

— Да,—гаворыць,—к Кашчэю.

— Дык вось давай мы з табою пакладомсь, каб ты быў мой муж, а я твая жонка. Я яму ні падамсь, а як гляне ён на мяне, дык усю праўду мне скажа. Я ў яго дапытаюся, дзе яго смерць, а ты, як добры маладзец, можа і дастанеш. Так з гэтым і пайшлі.

Прыходзяць к яму. Іван гаворыць:

— Ну, прывёў.

— Анціпка, падымі-ка вейку! Падымае вейку. Як глянуў на яе, гаворыць Івану:

— Куды цяпер хочаш, хочаш дамоў едзь, а хочаш у мяне будзь за сына.

— О так і быць,—гаворыць Іван,—я ўжо ў вас прывык, бацька, і буду за сына за вашага.

— Во, во, мой сынок родны, вунь табе будзя тая жонка, што ты ўперад прывёў, бяры ключы на сцяне, ідзі ў інбар адмыкай, там маіх сыноў ружжы, ты бяры сабе любое, па свету пахаджвай, гуляй, еш, пі.

Ён пайшоў, адамкнуў, узяў ружжо і пайшоў, а яна Кашчэя прыгалубіла і гаворыць:

— Ой міленькі мой, які ты прыгажун і жывіцё ўжо доўга, мой бацька расказваў, што дзед наш пражыў трыста лет і вы жывіцё, дзедка вас знаў, і бацька мой пражыў дзвесце гадоў, а вы ўсё жывіцё і маладыя такія.

— Э, мая родненькая, я ж пражыў семсот гадоў, яшчэ буду жыць сто, мне смерці няма, я бяссмертны, і ты памрэш, а я буду жыць.

— Ой, міленькі, ой, любенькі, як жа ты так жывеш? Раскажы.

— Э, як была перша, я ні прызнаваўся, як была другая, ні прызнаваўся, ну табе, як крэпка палюбіў, дык раскажу.—Вунь востраў на моры, бачыш?

— Бачу.

— Бачыш, там дуб стаіць грамадны, пад тым дубам тры касых сажні ў зямлі сундук нізгараемы, нізгніваемы, а ў том сундуку заяц, а ў том зайцы вутка, а ў той вутцы яйцо, а ў том яйцы мая смерць.

Яна яго прыгалубіла, ён і заснуў. А Іван з ружжом на ахоту пайшоў. Ідзець, бяжыць гончы сабака, ён хацеў у яго стрэліць, сабака крычыць:

— Іван-Дараган, ня бі мяне, ні губі мяне, я табе ў большай прыгодзе зпанадаблюсь.

Пайшоў далей. Ляціць арол. Ён хацеў тожа стрэліць. Арол крычыць:

— Іван-Дараган, ня бі мяне, ні губі мяне, я табе ў большай прыгодзе зпанадаблюсь.

Ён і гэтага ні біў. Ідзе паўз мора, паўз ета, заплуталася шчука ў язу, крычыць:

— Іван-Дараган, вырві кол і вывалакі мяне адсюль і выпусці на мора. Я табе ў большай прыгодзе зпанадаблюсь.

Ён вывалачыў яе і пусціў на мора. Сам пайшоў дамоў. Прыходзіць дамоў, яна ўзрадавалася, вывела яго на балкон і паказвае:

— Вунь война востраў, вунь і дуб там стаіць аграмадны, пад тым дубам у тры касых сажні сундук, ні згніваемы, ні згараемы, а ў том сундуку заяц, а ў зайцы вутка, а ў вутцы яйцо, а ў яйцы смерць яго.

Ён кінуўся ў плынь, прыплыў туды, як ірвануў тога дуба з карэннем, капнуў там, дастаў сундук, узяў яго, падумаў так:

— Як удару аб дуба, усяму канец.

Вось і ўдарыў. Заяц прыг і пабёг. Адкуль узяўся гончы сабака, дзёрг зайца тога, вутка пырх — палящела, адкуль узяўся арол, вутку дзёрг, а яйцо чмяк у мора. Стаіць і думае. Праз некалькі часу нясе шчука яйцо ў зубах:

— На, Іван-Дараган, я табе казала.

Узяў ён яйцо і паплыў зноў назад, а Кашчэй ужо сядзіць, праснуўся:

— Ну-ка, дзяржысь, пёсье мяса,—кажа Іван.

— Што, што, машэннік. Анціпка, падымі-ка мне вейку.

Падняла.

— Іван-Дараган, ня бі мяне, ні губі мяне, век ня буду чапаць нікога, толькі буду адной рыбай харчавацца.

Іван як шлопнуў у лысіну яму яйцом гэтым, дык Кашчэй і ногі задраў, і капут. Сам выйшаў на двор, свіснуў багатырскім голасам, прыляцеў к яму конь, ну і селі ўсе ўтрох і паехалі дамоў.

Прыехаў дамоў, з гэтай марской сам ажаніўся, а тую брату аддаў, і сталі жыць і пажываць і дабра нажываць.

## АСІЛКІ

Даўно, даўно, калі яшчэ людзі жывалі па лясам драмучым, прышлі ў цяперышнію Утужыцкую вобшчыну асілкі і занялі яны два места, адно на рэчке Вараухе, у Забарышчах, а другое—на Іваніхе пры той же рэчке. У тых мястах у тое ўремя ніякога народу не було, мясты былі вольныі па ўсёй Жанвіль-Утужыцкай старане. У лісах той стараны жылі звяры ўсякія: мядзведзі, воўкі, ласі, кабаны, лісіцы, рысі, а па рэкам і азярам жылі выдры; рыбы ў вадах было такое множаства, хыць палоўнікам чэрпай.

Асілкі тыі былі людзі здаровыі, росту ў касую сажень, у плячох аршіна з два, голас мелі як звон немалы, бывала калі крыкніць ва весь голас, ды свісніць, дык якое б дзірава ні было бальшое, а заваліцца. Вот якіі былі яны людзі, тыя асілкі. І жонкі іхніі былі па ім: бальшова росту, сільныя, і ражалі кажны раз па два, па тры рябёнкі, адначі выкармлівалі, як другая ціпер і аднаго не выкарміць.

Хазяйства яны нікакога не садержівалі, не было ў іх ні якой худобы, ні скацінкі дамашняй, ні прыпасу, ні запасу. Ні хлеба, ні лёну не сеялі. Карміліся яны тым, што лавілі па лясам звярэй, ды па вадам рыбу. Адзежу сабе яны строілі з звярыных шкур. Вот так і жылі. Мусіць пра бога яны саўсім не знали, бо ніхто не чуў ад старікоў, штоб яны мелі дзе-нібудзь царкву алі папа. Асілкі, пажіўшы на раке Вараухе, спадабалі Жанвіль-Утужіцкую старонку, бо тут ім усяго досыць було. Звір'я па лясам було відзімо-нявідзімо і рыбы ў водах тожа, а ім больше нічаго і ні трэбавалась. Вот і задумалі яны тутацька абсяліцца і пачалі сразу строіць два гарадзішча — Забыркі і Іваніху. Народу тут было многа, шутка сказаць, кажінны год бабы прівадзілі па два ды па тры рябёнкі. Стру-

менту ў іх пашні ніякага не было. Кажуць, што ў іх быў на ўсіх адзін тапор, ды і той ні жалезны, а якісь медзяны, а можа і жалезны, пра гэта дзяды не сказывалі настояшчэ, мусіць запомнілі. Адно звесна, што асілкі не мелі струменту, а гарадзішчы строілі. Гарадзішчы гэтыі і ціпер есць на Вараухе, вот січас ідзі і пыглядзі. Ня меўшы досыць струменту, асілкі перабрасывалі тапор з гарадзішча і на гарадзішча, бо не хацелі траціць часу на хаждзенне. Зыкніць, бувало, асілак з аднаго гарадзішча ў другое, тапор давай, той возьмець тапор ды й кініць яму. Такая была ў ніх сіла, за то і празывалісь асілкамі. Гэта яшчэ нешто тапор перакінуць, вярсты за тры, а то, бывала, нада на пастройку дзіраво, пайдзець у лес, вырвіць дзіраво з карнём ды так і прэць на гарадзішча, а то камень прыдзецца прыставіць, дык ён вазьмець яго ды й кінець за вярсту і больші прама на гарадзішча. Другіі кідалі такіі бальшушчіі камні, што будзіць у полсажня велічіною, алі такіі камні ні ўсягды дакідывалі да гарадзішча. А то есць такія мясціны, што саўсім закіданы камнямі. Дзяды казалі, што на гэтых самых мясцінах асілкі друг супроць дружкі ваявалі, кідаясь камнямі. Яны і звярэй убівалі камнямі, аттаго камні і ліжаць аж да сягодня па лясу. А далі сказывалі старыкі, што асілкі ўшлі адсюль, як толькі перавяліся ў лясах звяры і пазменшіло рыбы ў вадзе, бо ім не с чаго стало жыць. С тых пор і гарадзішчы іхнія запусцелі, бо послі іх ня скора прышлі сюды нашы дзяды, каторые ababралі сабе другіі мясціны, каторые больш спасобны длі хлібапашіства і длі разводу скацінкі.





# БЫЛІНЫ І ПЕСНІ БЫЛІННАГА СКЛАДУ

## ИЛЬЯ МУРОМЕЦ[1]

### *Повесть о сильном могущем богатыре о Илье Муромце и о Соловье Разбойнике*

Во славном было граде Морове[2] слуша Илья Муровец заутреню воскресную и в уме держал к сильному ко князю Владимиру киевскому Всеславичу, а завет[3] держал во всу востру саблю и на крепкой луке, чтоб во всю дорогу титивы не кладывать, что о[т]нють во всю дорогу широкую вострыя сабли из ножей не вынимать и на крепкой луке титивы не кладывать. И как едучи будет по[д] Себежм градом, и услышал крик и стук и конское ржание, и наехал тут силны Илья Муровец, ажно под Себежем градом стоят три царевича заморские, а силы с ним было у всякова царевича по сту и по тысяче, а хотят они Себеж град за щитом взять, а самаго царя сибирскаго[4] в полон взять. И тут Илья Муровец отвязывает свою востру саблю от седла черкаскаго и напущает на их силу великую, как на галечье стадо, и побил всю рать силу великую и трех царевичев в полон взял и подарил сибирскому царю в подарки. Сибирской царь взговорит:

— О еси ты доброй молодец! Как тебя зовут по имени и по отечеству, и котораго ты города?

---

[1] Тэкст падаецца з захаваннем усіх моўных асаблівасцей рукапісу.

[2] У рукапісу над гэтым словам надпісана яшчэ раз «град Мурове». Ніжэй словы, напісаныя над радком, набраны ў тэксце курсівам, прапушчанае ў рукапісу заключаецца ў прамыя дужкі.

[3] У рукапісу: «заведь».

[4] Замест «себежского».

Ответ держал Илья Муровец:

— Зовут меня, государь, Илюшкою, а по отечеству Иванов сын, урожденец града Морова.

И сибирской царь взговорит:

— Откуды твоя дорога излучилась?

Ответ держал Илья Муровец:

— Еду, государь, к столному граду Киеву, ко князю Владимеру киевскому Всеславичу.

И сибирской царь[1] взговорит Илье Муровцу:

— Служи ты у меня; все отдам тебе полцарства.

Илья Муровец спрашивает у него прямой дороги ко граду Киéву. И сибирской царь взговорит:

— Прямая у нас дорога ка граду Киеву на леса на брын[с]кие, на грази топучие, на мост калинов, на реку Смородыню,—толко тут тебе дорога залегла ровно тридцать лет: ни единой год по той дороге никаков человек конской не проеживал, ни человек[2] не прохаживал, ни птица не пролетывала, ни звер не прорыскивал от Солов[ья] Разбойника.

И тут богатырское сердце разгорелось, и поехал прямой дорогою. И как[3] Илья Муровец будет на мосту калиновом, на реке Смородыне, и спустил к нему Соловей Разбойник, засвистал своим разбойническим посвистом, ажно под Ильёю конь впотыкнулся. И тут Илья Муровец взговорит:

— Что ты, волчья сыть, рано подо мною вподтыкнулся? Нету веть силнее меня на всей святорусской земле!

И вынимает свой крепкой лук и калену стрелу накладывает... Соловья Разбойника в правой глас. И Соловей Разбойник упал з девяти дубов, что овсяной сноп свалился. Илья Муровец сел у него на белы груди и хотел у него вынять сердце ретивое. И змолился Соловей Разбойник:

— Ой еси ты[4] сильны могучий богатырь Илья Муровец сын Иванович! Оставь душу хотя на покаяние!

Что взговорит Илья Муровец Солов[ь]ю Разбойнику:

— Скажи мне ты: где твоя золота казна лежит?

И Соловей Разбойник взговорит таково слово:

---

[1] Гэта слова надпісана над радком.

[2] У рукапісу: «и».

[3] У рукапісу: «таке».

[4] Пасля «ты» ў рукапісу над радком прыпісана «доб-добрый».

— Моя, государь, золота казна лежит[1] [в] моих селах Кутузовых, а гонцу гонять ровно по два месеца, а скоро-наскоро во един месец.

Илья Муровец привязывает Соловья Разбойника к [с]воему с[т]ремени булатному. И как едучи будут по[д] селами Кутузовыми[2], и увидели Соловья Разбойника ево двенадцать сыновей, и зговорят таково слово:

— Вон едет наш батюшко, везёт мужика у стремени привязана.

А болшой сын взговорит:

— То-де едет Илья Муровец, везёт нашего батюшка у стремени привязана.

И метались в золоту казну, и надевали на себя ружье[3] богатырское, и хотят они с ним поле дат.

И Соловей Разбойник взговорит:

— О еси вы, мое детушки! Не дразните вы добраго молотца, зовите вы ево к себе хлеба кушать и сажайте его за столы дубовы, а за ествы сахарныи.

А Илья Муровец поворачивает своим добрым конем ко граду Киеву ко князю Владимеру. И как едучи будет ко граду[4] Киеву, и скачет чрез ограду каменную, и едет как на княженецкой двор, не обсылаючи и шапки не снимаючи, а Соловья при[вя]зывает к своему[5] доброму коню богатырскому, а сам входит в палату столовую, молится чудному образу, а князю Владимеру поклоняется, а после на все четыре стороны[6]. И князь Владимер спрашивает:

— О еси ты, доброй молодец, как тебя зовут по имени и потечеству[7], и котораго ты города?

Ответ держал Илья Муровец:

— Зовут меня, государь, Илюшкою, а потечеству[8] Иванов сын, урожденец града Мурова.

Князь Владимер взговорит:

---

[1] У рукапісу гэта слова закрэслена, але іншым не заменена.

[2] У рукапісу: «Кутузовымыми».

[3] Трэба чытаць «оружье».

[4] У рукапісу: «ко грады». Не трэба лі чытаць: «к ограды?», г. зн. «к ограде».

[5] У рукапісу: «сквоему».

[6] У рукапісу: «сторону».

[7] Так у рукапісу.

[8] У рукапісу: «ским».

— Давно ли ты, Илья Муровец, из града Мурова поехал?

Ответ держал Илья Муровец:

— Поехал я, государь, из Мурова, отслушав заутреню воскресную.

И князь Владимер усмехаетца:

— Что ты, Илья, бредишь? Не твои у меня гонцы: гоняют по два месяца, а скоро-наскоро во един месец с Киева в Муров-град.

Илья Муровец взговорит:

— Да ещё на меня, государь, две причины великие и беды несносныи. Как поехал из Мурова, отслушав заутреню воскресную, а завет положил на всю востру саблю и на крепкой лук, что отнюдь во всу дорогу вострой сабли из ножей не вынимать и на крепкой лук [ти]тивы не складывать; а как едучи будет по[д] Себежем-градом, ажно стоят три царевича заморские, а силы с ним было у всякова царевича по сту и по тысече; а хотят они Себеж-град за щитом взять, а самаго царя сибирскаго в полон взять, и я ево выручил, и побил всю силу их, и трех царевичев в полон взял и подарил сибирскому царю в подарки. И другая, государь, на меня притчина была: как едучи на мосту калиновом, на реке Смородыне, и наехал, и напустил на меня Соловей Разбойник: закричал громким гласом и засвистал своим разбойничиским посвистом, ажно подо мною конь впотыкнулся: и бил Соловья Разбойника в правой глас и привез его с собою в Киев-град, и теперь он стоит у моего коня богатырского привязан у стремени.

И выглядывает князь Владимер в оконечку[1] хрусталную и сам взговорит:

— О еси ты, Соловей Разбойник! Засвищи ты своим разбойничиским посвистом.

И Соловей Разбойник ответ держит:

— Не твой холоп, не слушаю тебя; я слушаю своего господина Илью Муровца.

Велел Соловью Разбойнику Илья Муровец: засвистал разбойничем посвистом, ажно и тут у богатырей скаме[й]ки подломились. И князь Владимер бысть велми радошен и зговорит:

---

[1] У рукапісу «вокошечнаку».

— Тебе у меня, Илья Муровец, будет золота казна не запечатана и добрыи кони не изеждены за твою служ-бу верную и богатырскую; заслужи ты мне верою и правдою.

Теж люди миновалиса, а слава их до скончания века. Аминь. Конец и богу слава! Аминь!.

## ВОХ ВЫ, ЛЮДЗІ, ЛЮДЗІ СТАРЫЯ...

Вох вы, людзі, людзі старыя,
Мужукі вы прувуслаўныя,
Ох, вы братцы, да вы слушайця,
Во што я буду і-і-сказываці,
Разгаворы разгаварівацi,
Во што была прі старому царю,
Прі царю Івану Васільевічу,
Прі блаженный яго памяці.
Як задумаў цар жаніцца сябе,
Ён ізволіў ён і сватаціся,
Маладую ён Черкасініцу,
Ён і первую амператарніцу,
Ён і Марію Дзіменцьеўну,
Ён і многа і приданага бярець:
Гарады с прігародачкамі,
Яшче сёлы і с прісёлачкамі,
О дзереўні і с памешчічкамі;
Ён і многа да ён півушка варіў,
Ён і многа зелена віна куріў,
Ён і многа ён гасцей запрасіў,
Ён і многа князей пазазваў.
Усі госці паз'ехалісь,
Усі князі пасабраліся,
За столікі пасажаліся,
За столікі за цесовенькіе,
За скацерці за набельчатыя;
Аднаго ж таго і нетуці
Да і большіга і шуріна.
Пріезжаіць ён апосле ўсіх,
Ён садзіцца павыше ўсіх,
Хлеба-солі ён ня кушаець,
Бела лебядзя ня рушаець.

Зелена віна і ў рот ня бярёць,
Толька жостка выхваляецца.
Як скочець наш царь-государь
На сваё красна крылечушка,
Як і свіснець на Волгу-ряку,
А сы Волгі на Остраханю,
Сы Острахні ў камянную маць Маскву,
С камянной маці Масквы на ціхай жа Дон:
—Сабірайцесь с татар і с быяр,
Яшче сы Данскіх казакоў,
Яшче да с найлучшіх маладцоў,
Яшчэ сы дваровых людзей!
Выхадзілі два брата Андреі да й Андреевічы:
Яны самі-то малёшенькі,
На каленушках нізёшенькі,
На язык прішяпётываюць,
Адзін на аднаго паглядываюць,
Усы за усы закладываюць.
Як узяўся ж і менші брат,
Як і скочэць чрез семдзесяць сталоў,
Ён і семдзесяць татаріныў убіў летучі;
— Ох, і с кем толька сохвачусь,
Ох, і с кем толька я побарюсь,
Сваей сілушкі праведуюсь?
Як і хваціць ён за правую руку,
Метанёць яго об землю:
На ім плацыца палопалась,
І сапажонкі попалопаліс,
І шатанёнкі далой спаўзлі.
Выхадзіла й Марья Дземенцьеўна,
Выхадзіла на крылечушка,
Выхадзіла са вісокага церема,
Гаваріла славечушка:
— Ты, мужік, ты мужічій сын,
Ты, крапіўныя семечка!
Ой, і многа б цябе сеілась,
Да і мала ўрадзілася!
Што не брацъ было за правую руку,
Не метацъ было об землю,
Не мараць было плацця цветныга,
Не пазоріць ліца белага!

## СЯЎРУК

Ой, хто ж таго ня знаў,
Як белы свет настаў?
Як і соўнушко взойшло,
Як і яркі месячко,
Як і частыя звездочкі,
Як і цемныя хмарычкі,
Як і сільныя дожчачкі?
Як царь да сыноў пожаніў,
Як царь дочарей поотдаў?
Сяўрук на вяселлі бываў,
Сяўрук і горелкі піваў,
Сяўрук позыватым бываў.
Як пошоў жа то Сяўрук —
Семсот городоў пройшоў,
Семсот казакоў созваў,
Семсот да бояріноў,
Семсот да татаріноў,
Семсот полкоў Доньскіх казакоў.
Як крікнуў то Сяўрук,
Як свіснуў то сільной,
Да на свой двор шірок,
Да на свой церям вісок.
Як бегаць к яму борці,
Із борцоў да на выборца,
Як да ўдалыя Калужанці,
По бацюішчі Мікітовічі,
По матушці Марініны сыны;
Яны ўсікі зажімаючі,
І рукавікі засучіваючі,
І сапожанькі подцягівачі,
І чулочікі падвязіваючі.

Ухваціў жа то Сяўрук,
Ён наібольшаго брата,
Як за левое плячо,
Як за правую пашку,
Як за тонку рубашку;
Як падняў жа то повыша сябе,
Як ударіў жа поніже сябе, —
Земля стряхнулася,
Вода сплясқнулася,
Москва ўлякнулася,
Яго пуговіці полопаліся,
І пяцелікі потрескаліся,
І жалудкі повіскочілі,
І пячонкі повікаціліось;
По колянкі ў землю ўбіў,
Ох, што жана яго, Сяўрушаніца,
Бело-удалая Чаркашаніца,
Яна по двору ходзя,
Белы ручанькі ломя.
Як пайшло жа то Сяўрушаніца,
Бело-удалая Чаркашаніца,
Семсот городоў пройшла
По сябе борца не найшла.

# БЕЛОРУССКАЯ БЫЛИНА

Оживленно

Голосъ.

Оживленно

Фортепiано.

*f con moto*

*Что не три го_ры за_ша_та_ли_ся, Что не три го _ ры за_ша_та_ли_ся, Три ба_га_ты_ря со_ез_жа_ли_ся, Три ба_га _ты _ ря со_ез_жа_ли_ся Иль_я Му_ра _ вец с то_ва _ ри_ща_ми, Иль_я Му_ра _ вец с то_ва _ ри_ща_ми*

2

А с Алёшечкой со Поповичем.
А ехали полем, едут другое,
А радили раду, раду новую:
Кого в поле встреним, того в смерть убьем,
А хоть загубим, а хоть застрелим.
На третее поле поле уз'езжаючи,

3

Насустречу им всё калечище,
Всё убогое, всё безногое;
А в него шляпа сорока пудов,
А в него костыль двадцати сажен.
Становится он в стороне пути,
Костыль становит середи пути,

4

Вешает калека шляпу на костыль,
Здевши шляпушку кланяется.
— Здравствуйте, братцы, вы товарищи,
Илья Муравец с товарищами,
Ай с Алёшечкой со Поповичем,
Со Микитушкой со Добрынюшкой.

## БЫЛІНА АБ БАРЫСЕ І ГЛЕБЕ І СВЯТАПОЛКУ АКАЯННЫМ

Як у слаўным городзе Кіеве,
Як жыў сабе Владзімір князь,
Ён ў своем доме благочынном,
Ён ў своей каменной палаце
Імеў сабе двенаццаць чадоў.
Ён только залюбіў тры чады,
Тры чады надзежные:
Борыса, Хлеба, Владзіміра.
Быў князь Полгей,
Так ўзяў подзеліў гарады.
Владзіміру чаду даў Кіеў-город,
А Чэрнігоў-город Хлебушку,
І Магілеў Борысу.
Владзімір князь пэрэстановіўся;
Цепер ён пішэт ліст грамотны
До святаго Хлеба, Борыса.
Хлеб жэ, Борыс лісты смотраць.
Яны ўсеўшы на лошадзей,
Под Вышгород под'езжаючы.
Ох, і его брат не ўстрэціў его
Ні с хлебом, ні с сольreceived,
А сустрэў его со всей злобой,
З войстрым мечэм, з войстрым коп'ем.
Загубіў іх ён, Борыса коп'ем пробіў,
А Хлебушка ножом заколоў.
Борыс і Хлеб просілі брата Полгея:
— Ой, брацец мой, брацец святой Полгей,
Ой, не узрэй, не губі нас людзей молодых;
Возьмі ж нас ў свой дом;
Каб мы ў твоем доме побывалі.
І хлеба і солі покушалі,
І ойца своего і мацер поміналі.

А ўражый сын, ні айцецкі сын,
Ён тыя молітвы не слышаў,
Садзіўся на лошадзей со сваімі слугамі,
Под Вышгород под'езжаючы,
Каліновы огонь расклаў,
Вороных лошадзей отпрог.
У полі полаці пораскінуўшы,
Ён Борыса коп'ем прыбіў,
А Хлебушка ножом заколоў.
Ён побіўшы, погуляўшы,
Сам сабе уцешаецца,
Што ему богацтво отставаецца,
Под Вышэгород под'езджаючы,
Под нім земля здрагонулася,
У пуць ў дорозе замешалося.
Отрочы с Хлеба і Борыса
Лежаць мошчы все святые,
Лежаць мошчы все святые,
Ох, трыццаць лет і тры леты.
Нічэго мошчы не ўрождаюцца.
Ні водой жэ, ні от ветра,
Ні от таго слонца,
Ні от таго лютаго марозу.
Ніхто мошчы ні спроведае.

## ПРА БАГАТАГА

Садзіўся багачій на добра каня,
Саезжаў багачій з дому свайго,
Выезжаў багачій в чістоя поля,
В чістоя поля на прагулянне,
А на красаванне в поля палеваць;
Впередзі багачага пышная рожа,
Па бакам багачага два лютые пса,
Пазадзі багачага жена із дзецьмі.
Падносяць багачаму мёду і віна.
Больші за таго чіста жемчуга.
Не с'ехаў багачій поля свайго,
Злая хвароба на зямлю спала,
І злая ліхая, прівродлівая,
Збіла, скалаціла са дабра каня,
Вдаріла багачага аб сыру зямлю,
Аб сыру зямлю, а белы камень,
А бела каменне, сыро каренне,
Не помніць багачій ні чам нічаго,
Не помніць багачій ні кем нікаго,
Не помніць багачій дому свайго;
Пышная рожа проч атступіла,
А два лютые псы да лесу пашлі.
А жана са дзецьмі на пабег пашла.
Жіцце багачага віхрем разнесла,
Атласы багачага ўсе тлен паеў,
Золата, серебра зямля пріняла,
А пышная рожа проч атступіла.
Стаў багатый богу маліцца:
«А божа мой, божа, спас міласцівый!
Ты вослыш, гасподзь бог, малітву маю,
Пріймі маю душеньку да хвалы сваей,
А ўжо ж мая душенька на вольнам свеце
Упіла і ўела, дарагі, красны адзежды панасіла,
У золаце, у серебре націмілась,

Неправедным судом насудзілась,
Вялікіе працэнты душа набіралась».
Вослышал гасподзь бог малітву яго,
Малітву яго, неправедную.
«Неправедна твая, багач, малітва,
Не хвалішся, багачій, беднасцю сваей,
А хвалішся, багачій, багацтвам сваім».
Ссылаець гасподзь бог са вышняга неба (2)
Трох врагоў, трох пякельнікаў (2)
Па яго па душеньку па багачага.
Бралі яго душеньку неміласьціва,
Бралі яго душеньку жалезным крукам,
Бралі яго душеньку скрось лева рабро,
А всторнулі душеньку на востра капье,
Паднялі душеньку ў гору высока,
А ўкінулі душеньку ў пекла глубока
Паплыў багачій па огняннай рацэ
Зазрэў багачій брата свайго:
Ох, брацец мой, святый Лазару!
Нас едзіна матушка с табой радзіла,
Не едзінай гасподзь долей надзеліў:
Цябе гасподзь надзеліў скверпасцю,
Вялікай хваробай, больнасцю,
Мяне надзеліў пышнасцю,
Вялікім багаццем, гордасцю.
Твая скверпасць, больнасць, ва светлам раі,
Мая пышнасць, гордасць ва огняннай раце.
Схадзіў бы ты, брацец, на сіне море,
Памачіў бы, брацец, хоць мізін пярстак,
Памазаў бы брату хоць па усьценькаме,
А не даў бы брату устаме засмягнуць».
— Ах, брацец, мой брацец, славен багатыр!
Ты мяне, брацец, за брата не маў,
Ты на мяне, брата, пліваў і харкаў,
Сам проч адходзіў, а за сабой вялеў варота заперець.
Я б на гэта, брацец, я ж бы не ўпаваў,
Я б схадзіў бы, брацец, на сіне море,
Памачіў бы, брацец, па локаць руку ва студзену ваду,
Затушыў бы, брацец, вынянну руку
А не даў бы брату ўсему сагарець,
А не даў бы брату ва век мучіцца.
Ты, брацец мой, брацец, славен багатыр!
Тут же не наша воля...

## ПРЫЕХАЎ ДЗЕД НА ПАЛЯНАЧКУ...

...Прыехаў дзед на паляначку
І пусціў коніка на папасачку,
А сам лёг на аддыханнійка.
І прышло к дзедушку сорак молайцаў,
Сорак молайцаў, усе разбойнічкі.
Хочуць дзеда ў палон забраць,
Яго коніка ў табун загнаць.
А стары дзедзя не ўлекаецца,
К сырому дубу прыграбаецца.
Узяў дуба за вярхушачку,
Прыгнуў дуба к сырой зямлі.
Сырая зямля здрыганулася,—
Сорак молайцаў улякнулася:
— Ах, ты дзедушка, родны бацюшка,
Не будзем цябе ў палон браць
І твайго коніка ў табун гнаць,
А будзем цябе аццом зваць.





# ПЕСНІ

## ПАДЫЙМАЛІСЬ ЧОРНЫ ХМАРЫ...

Падыймаліcь чорны хмары,
Неба пакрывалі,—
Прыхадзілі злы татары,
Пад Крычавам сталі.
Запалілі стары Крычаў,—
Канцы запылалі...
Наш Івашка падыймаўся,
Людзі ў рады сталі.
Палілася кроў, змяшалась
З чорнаю зямлёю,—
Злы татары падаліся
Уцякаць гурбою.
А Івашка гоніць, гоніць,
Голасна смяецца,
Што татарва уцякае,
Аж хахол трасецца.

## ВОХ ТЫ, ЁЛКА, ЯЛІНКА...

Вох ты, ёлка, ялінка,
Прынадобная дрэўца.
А стаяла там ёлка,
А стаяла ялінка,
Прі пуці, прі ў дарогі,
Бліз прібойныга гасцінца.
Во пад тэй жа ёлкый,
Кравадь цісава́я,
А на тэй жа краваці
Да пяріна пухава́я,
А на тэй жа пяріні
Добрый молыдзіц ляжыць,
Добрый молыдзіц ляжыць,
Ён ні зарезан, ні ўбіт.
На ём рубашачка
Іна тонка, палатняна,
Іна тане́нька і бяле́нька,
Уся кроўю скіпела.
А ня шыла матушка,
Ні страчыла сястріца,—
Вох і шылі татары,
А страчылі калмыкі;
Вох і шылі татары
Вострымі мічамі,
Страчылі калмыкі
Залатымі штыкамі.

## КАЛЯ ЛЕСУ, КАЛЯ ЦЁМНАГА...

Каля лесу, каля цёмнага,
Пралягала там дарожанька шырокая.
Па тэй дарожанькі бягіць конік варанюсенькі,
На тым коніку сядзіць малойчык маладзюсенькі.
Бягіць конік—разлягаецца,
Сядзіць малойчык—хістаецца.
Яго мамка пераймаіць, у яго пытаіць:
— Ох ты, сынку мой, сынок,
Нашто так ківаесся,
Што на коніку хістаесся?
— Ох ты, маці мая, матулька,
Ні сам я ківаюся,—
Упаіў мяне татарскі сын:
Тром ножыкам вараўскім,
А чацьвёртай шабляй войстрай,
А пятай—куляй простай.

## НА ДАРОЖКУ ЛЯСОК НАХІНУЎСЯ...

На дарожку лясок нахінуўся,
На молыйца да сон наваліўся.
Пусціў каня да ён на даліну,
А сам жа лёг на 'дну на часіну.
Аткуль узілась красная дзяўчонка,
Стала малайца іна прабужаці:
— Ты й устань-ка, удалой малойчык!
Наехалі да злые татары,
Варана каня твайго ўзялі,
Цябе, малайца, да хочуць звязаці!
— Аткасніся, красная дзяўчонка!
Людзі скажуць, што ты любіш мяне.
— Кабы я цябе, малайца, не любіла,
Дак бы я цябе, малайца, не будзіла!

## СА ВЕЧЫРА ДОЖДЖ, КІ УТРУ ТУМАН...

Са вечыра дождж, кі утру туман,
А мне, маладзёшыньке, ўсё горя-пічаль.
Дружка дома нет, паехаў мой мілінькій,
Ён ўздумаў на час, ён будзіць сей час,
Ажну майго мілага дружка дома нет.
Пайду, маладзёшынька, ў нову горенку,
Сяду, маладзёшынька, пад вакошачкам,
Гляну, маладзёшынька, у вакошачка.
Па уліцы, уліцы татары ідуць,
Майго мілінькага коніка вядуць.
Знаць жа мой мілый убітый ляжыць,
А мне, маладзёшынькі, удавою быць,
Маім дзетушкам—горькый сіратою.

## НАЕХАЛІ, НАЕХАЛІ ЎСЁ ТАТАРЫНЫ...

Наехалі, наехалі ўсё татарыны,
Наехалі ўсё татарыны.

Сталі яны, сталі яны дзяльбу дзяліці,
Сталі яны дзяльбу дзяліці:

Таму-сяму, таму-сяму па татарыну,
Таму-сяму па татарыну.

Дасталася, дасталася, ой, цешча зяцю,
Дасталася, ой, цешча зяцю.

Загадаў зяцька, загадаў зяцька трі дзелы дзелаць,
Загадаў зяцька трі дзелы дзелаць:

Первыя дзела, первыя дзела—белый кужыль прясці,
Первыя дзела—белый кужыль прясці;

Другое дзела, другое дзела—серых гусей пасцівіць,
Другое дзела—серых гусей пасцівіць;

Трэція дзела, трэція дзела—дзіця калыхаць,
Трэція дзела—дзіця калыхаць.

Я ручкамі, я ручкамі белый кужыль праду,
Я ручкамі белый кужыль праду;

Я глазкамі, я глазкамі серых гусей пасу,
Я глазкамі серых гусей пасу;

Я ножкамі, я ножкамі дзіця калышу,
Я ножкамі дзіця калышу:

— Баю, баю, баю, баю, баю, маё дзецітка,
Баю, баю, маё дзецітка:

Па матушкі, па матушкі мой унучачак,
Па матушкі мой унучачак;

Па бацюшкі, па бацюшкі мой Татарьевіч.
Па бацюшкі мой Татарьевіч!

## ЦЁМНА НОЧКА ДА НЯВІДНАЯ...

Цёмна ночка да нявідная,
Галовачка мая бедная!
Дзе ж я буду да начэваці,
Што я буду да вячэраці?
Вячэрацьму да шчуку-рыбу,
Шчуку-рыбу да й асетрыну.
Каня пушчу да на даліну,
А сам лягу да й атпачыну.
Ой, там дзеўка да жыта жала,
Жыта жала да пшэнічэньку,
Мяне будзіць да п'янічэньку:
— Устань, мілы, бо татары йдуць,
Татары йдуць, каня возьмуць.
Каня возьмуць,—конь другі будзе,
Цябе заб'юць, то нам жаль будзе.
— Ой, дзеўчына, сэрцэ рыбчына,
Ці ты мяне да так верна любіш,
Што ты мене да заране будзіш?
— Што б я цебе да не любіла,
То б я цебе да не будзіла.

## ЦЁМНА НОЧКА НАСТУПАЯ...

Цёмна ночка наступая,
Сон галоўку абымая,
Едзе казак і думая.
Пусьціў каня на даліну,
А сам прылёг на гадзіну.
Шчаслівая гадзіначка,
Скуль бралася дзяўчыначка:
— Ўставай казак, досыць спаць,
Ідуць туркі ваяваць.
Возьмуць каня варанога,
Цябе заб'юць маладога.
Возьмуць каня—другі будзя,
Цябе заб'юць—мне жаль будзя.
— Дзяўчыначка, верна любіш,
Што так рана мяне будзіш?
— Каб я цябе не любіла,
То так рана ні будзіла.

## ЦЁМНА НОЧКА НАСТУПАЕ...

Цёмна ночка наступае,
Сон галоўку абымае,
Едзе ко́зак і дума́е:
— Дзе ж я буду начаваці?
Пушчу каня на даліну,
А сам лягу на гадзіну.
Санлівая гадзіначка,
Дзе бралася дзяўчыначка?
А дзеўчына не дурная,
Яна рана абуджае:
— Ўставай, козак, досыць спаці,
Едзе турак ваяваці.
Яго войска нізмерона,
Нізмерона, незлічона.
Заб'юць цябе маладога,
Вазьмуць каня варанога,
Заб'юць цябе,—мне жаль будзе,
Вазьмуць каня,—другі будзе.

## ОЙ, ЛІТАЎ-ПЫЛІТАЎ ДЫ СІВЫ ГАРОЛ...

Ой, літаў-пылітаў ды сівы гарол,
У кіпцёх ён нясець руку белыю,
Руку белыю мылайцоўскыю;
А ў дагон яму ясін сакол:
— Пыгадзі-пастой ты, сівы гарол,
А дзе ж быў-жырываў ты, сівы гарол?
— А я быў-жырываў на пабоішчы,
Над шырокый ракой кыля Клецiўска!
А там послынь сьцеліна ды галовымі,
Усё галовымі мылайцоўскімі;
А там кроў плыве ды Дунай-ракой,
А ваўкі грызуць белы костычкі;
Там агні гыраць, там катлы кыпяць
І татары стыяць, палон дзелючы,
Палон дзелючы, пыдзяляючы,
Дзіцей з маткымі разлучаючы.
Дысталася сістра брату пытурчаніну,
Сістра брату, цешча зяцю бысурманіну.
А брат сістру дамоў пусьціў,
Дамоў пусьціў, добра слоўца казаў:
— Ты віртай, сістра, бордза да дому:
Прыдуць тытары налета узнову,
Прыдуць узнову хмарый страшною,
Стануць абозым лі нашыга двору.
А прывёз зяць цешчу маладэй жане:
— Вось табе, мая мылада жына,
Вось табе з вайны пыланяначка,
Будзе яна табе, мая верна жына,
Векавечная твая работніца,
А вам, дзеткі мае, будзе нянькый яна.
А ты дай ей, жына, тры работынькі:
Перша работа—тонкі кужыль прасці,

Другая работа—гусей ў лузі пасьці,
Трэця работа—дзіцё калыхаці...
Ножкамі маці дзіцё калыхае,
Дзіцё калыхае, сціха пыдпявае:
— Ой люлі, люлі, дробна дзіцятка,
Ой люлі, люлі, маё ты мілоя.
А пы бацьку—ты мне тытарчатка,
А пы маці—ты мой унучатка.
Як учула дычка песьню з пакою,
Бяжыць у сені бордзый стралою:
— Ой, кінь, кінь, маці, дзіцё кылыхаці,
Хадзем у пакоі, а сядзь за столым,
Бяры ў міне, маці, ключы залатэя,
Адмыкай жа імі скрэні дубовэя,
Бяры золата-срыбра, скольki табе трэба,
А будзь ў міне, родна, як у сібе дома.
— Дзіцятка маё, Алёнка мілое,
Не нада мне грошы, пусьці да дому,
Пусьці да дому ў Клецькі староны.

## У НЕДЗЕЛЮ ПАД ПАНЕДЗЕЛАК...

У недзелю пад панедзелак
Звала невехна завіцу на нач:
— Хадзі, завічка, хадзі, сестрычка, ка мне на нач!
— Баюсь, невехна, баюсь, галубка.
— Не бойсь, завічка, не бойсь, сестрычка:
Ёсць у мене каморка смаловая,
У мене завалы дубовыя,
У мене замочкі немецкія,
У мене караватка цесовая,
У мене перыны пуховыя,
У мене падушкі цветовыя,
У мене палажочкі берчастыя.
Ой, стучыць, гручыць кала каморкі...
Завіца кажа: «Татары едуць!»
Невехна кажа: «Начлежнікі коні ведуць,
Пужкамі сякуць».
Адзін прышоў—каморку адбіў,
А другі прышоў—палажок адкрыў,
А трэці прышоў—завічку павёў.
— Невехна мая, зрадніца,
Зрадзіла ты мене, маладую,
Як вішаньку садавую,
Як ягадку баравую.
Ой, не татка мене выпраўляе,
Не мамка мене сураджае,
Не браты мне вароты адчыняюць,
Не сёстры мене праважаюць.
Выпраўляе мене ясен месяц,
Сураджае мене цёмная ночка,
Адчыняюць вароты буйныя ветры,
Праважаюць мене яркія звёзды.
Пашла мамулька дачкі шукаці,

Ідзе поле, ідзе другое,
На трэццем полі стаіць хатачка,
У той хатачцы—татарачка.
Зайшла мамулька ў тую хатку,
Татарка кажа: «Бабулячка,
Наймісь ка мне дзецей калыхаць,
Белымі рукамі кужалю прасць,
Ярамі вачамі гусей пасць».
— Кужалю прасць—падумаці,
А гусей пасць—пагуляці.
— Садзісь, бабка, у мене дзецей калыхаць,
А я пайду к суседу на беседу.
Ой, стала татарачка пад дзвермі да й слухае,
Як баба дзецей калыша.
А яна да й коціка прыпевае:
— Ай, нуце спаткі, мае татараняткі!
Вы не татараняткі, вы—мае донькі дзіцяткі!
Увыйшла татарка ў хату
Да й за слёзкамі свету не бача:
— Кідай, бабулька, дзецей калыхаці,
Хадзем, бабулька, беседы вадзіці,
Ты не бабулька—мая мамулька.

## І СОН МОЛАЙЦА СКЛАНЯІЦЬ...

І сон молайца скланяіць:
Вароныму каню ў грыву,
А с капыцця ву далінку.
Спіць молыдзіц гадзінку,
Спіць молыдзіц другую.
Як прашнуўся: каня нету;
Прышоў двору: жаны нету.
— Уж вы, слугі верныя,
Запрыгайці карэту,
Уж я сяду, да й паеду!
Еду поля, [еду] другоя,
На трэція ўз'іжжаю,
Віжу ў полі быў шацёр;
У том шатре татары,
Міз татарыў мая мілая;
Мілая гуляіць,
На мяне платком махаіць:
— Ні наезжай, міленькій,
На чужу дальнію старонку,
Паціраеш, міленькій,
Сваю буйную галоўку.
— Я татарыў ні баюся:
Я татарыў усіх парублю,
Цябе, шэльму, пачвяртую.
Выхвачу вострую меч,
Сыму жане галаву с плеч:
— Ні д[а]ставайся, мілая,
Ні мне, ні татару,—
Даставайся, мілая,
Сырой матушке-зямелькі!

## ШТО ПА ПОЛЮ ЛІБЯДА...

Што па полю лібяда,
Туды ішла удава,
А за ею татары,
А за ею ліхея;
Хочуць ўдаву загубіць,
Прі ў дарозе палажыць.
— Вы, татары мае,
Не губіця мяне!
Ёсць у мяне бацюшка,
Прі ў дарожанькі жывёць;
Ці ня выкупіць мяне,
Ці ня выручыць мяне.
Ох, я к бацюшке на двор,
Бацька кажыць:—Ня мой род.
А, худая гадзіна,—
Атрыкаіцца радзіна!

Што па полю лібяда,
Туды ішла удава,
А за ею татары,
А за ею ліхея;
Хочуць ўдаву загубіць,
Прі ў дарозе палажыць.
— Вы, татары мае,
Не губіця мяне!
Ёсць у мяне матушка
Прі ў дарожанькі жывёць;
Ці ня выкупіць мяне,
Ці ня выручыць мяне.
Ах, я к матушкі на двор,
Матка кажыць:—Ня мой род.
А, худая гадзіна,—
Атрыкаіцца радзіна!

Што па полю лібяда,
Туда ішла удава,
А за ею татары,
А за ею ліхея;
Хочуць ўдаву загубіць,
Прі ў дарозе палажыць.
— Вы, татары мае,
Не губіця мяне!
Ёсць у мяне мілы друг,
Прі ў дарожанькі жывёць;
Ці ня выкупіць мяне,
Ці ня выручыць мяне.
Ах, я к мілыму на двор,
Мілый кажыць:—Вот мой род.
А, харошая гадзіна,—
Прызнаецца радзіна!

## ІЗ-ЗА СЛУЦКА, ІЗ-ЗА КЛЕЦКА...

Із-за Слуцка, із-за Клецка
Едзе дружба маладзецка,
Ат княжаці із-пад Мінска
Ваеваці места Пінска.
Места Пінска ваеваці,
Ад ляхоў абараняці.
Хоць прышлі—не далі рады,
Пагінулі ўсі ат здрады.
А я пайду ў пост велікі
Да Турова, да ўладыкі,
Шчоб малебен атслужыці,
Да й пакаюсь за грахі.
Дзень і ноч буду маліці,
Дзень і ноч буду прасіці,
Шчобы згінулі ляхі.

## ОЙ, У ГОРОДЗЕ МОГІЛЁВЕ ДЫМОМ ПОЦЯГНУЛО...

Ой, у городзе Могілёве дымом поцягнуло,
Як тэ войско Запорозське з гармат да рэвнуло.
Ой, у городзе Могілёве да сталося пусто,
Як повеялі козакі з самопалоў густо.
Ой, у городзе Могілёве орлы да гадзюкі
Ляцькім целом згодуюцца, ляцьку дзелу раду́юцца.
Ой, у городзе Могілёве, што пні да колоды...
Прылучылося, бач, ліхо ляцькой породзе.
Не такее ішчэ б ліхо, як тая позора,
Што ходзіць по белу свету з двора да до двора.
Не так тая позора, як козакам порада...
Што краўчыну шануючы, ляхам далась зрада.
Далась ляхам зрада із самога рана,
Ад гецьмана Налівайка, шановного пана.

## ДА У РОДНАГА БРАТАЧКІ...

Да ў роднага братачкі
Тры сястры было, эй!
Сама старша сёстрачка
Качала бяллё.

Сяродальша сёстрачка
Варыла, пякла, эй!
А меншая сёстрачка
Сядлала каня.

Сястрыцы сабраліся—
Брата выпраўляць, эй!
Ў паход за казакамі,—
Волю здабываць.

Падняліся з поўначы
Буйныя вятры, эй!
Збіралісь ватагамі
На падбор ямцы́ [байцы].

Сабраліся ўдалыя,
Што цвет, малайцы, эй!
На конях асёдланых,
Быстры сакалы.

Старшыны паперадзі
Гарачаць каней, эй!
За імі казачэнькі
Строюцца бадрэй.

Паднялісь магучыя
Сілы дужыя, эй!

Пашлі з казачэнькамі
Сябры дружныя.

Бывайце здаровенькі,
Вы малойчыкі, эй!
Бывайце жывенькія,
Вы казачэнькі.

## КУКАВАЛА ДЫ КУКУЛЕЧКА...

Кукавала ды кукулечка
На белай бярозе.

Заплакала да міленькая,
Што мілы ў дарозе.

— Не плач, не плач, да міленькая,
Не плач, не гаруйся,

Дарожанькай недалёкаю
Я не забаўлюся.

Падняліся да казачэнькі
Ў паход на ватагі,

А за імі да маёнтачкі
Агнём запылалі.

Кукавала да зязюленька
На стройным дубочку,

Сустракала да дзяўчонанька
Казака ў садочку.

Любіліся ды кахаліся,
Паход ўспаміналі,

Калечкамі да залотымі
Навек абручылісь.

## ОЙ, КОЛЫ Б, КОЛЫ...

Ой, колы б, колы
Москалі прышлы,
Москалі прышлы,
Нашы сродные,
Веры одныя!
Добрэ нам было,
Шчасно нам было,
Колі Русь уся,
Трымаючыся
Одной сілою,
За одно была.
Да й к нам за грэхі
Понайшлі ляхі,
Занялі нам край
Аж до Ляховіч.
Ой, ляхі б не прышлы,
Шчоб паны іх не свелы,
Ой, паны шчобы пропалы,
Шчо ляхам нас запродалы;
Ой, паны, шчоб вы сгінулы,
Шчо вы веру покінулы.

## БЫЛА ДЗЕЛА ПАД ПАЛТАВАЙ...

Была дзела пад Палтавай,
Дзела слаўнае, друззя,
Мы дралісь тагда са шведам
Пад знамёнамі Пятра.
Наш магучы імператар,
Памяць вечная яму,
Сам камандаваў вайскамі,
Сам і пушкі заражаў.
Сам камандаваў вайскамі,
Сам і пушкі заражаў,
Сам ружжом салдацкім правіў
І, як сокал, ён лятаў.

## А Ў ДВАНАЦЦАТАМ ГАДУ...

А ў дванаццатам гаду,
Аб'явіў хранцуз вайну
На матушку на Маскву,
На Расеюшку усю:
— Мы Расеюшку ўсігда
вазьмём,
Жывых усіх ў плен пубярём!

## ЯК У НОНІШНІМ ГАДУ...

Як у нонішнім гаду
Зыявіў хранцуз вайну,
Ды зыявіў хранцуз вайну
На Расеюшку на ўсю,
Ды на Расеюшку на ўсю,
На матушку на Маскву.
Вот мы пад Речэю стыялі,
Многа голыду прінялі,
Нам і тріццаць і два дня
Да ні дывалі клась агня.
А мы с тога сы марозу
Мы ня можым гаваріць,—
Сталі водкый нас паіць.
Ды мы па крышкі водкі п'ём,
У паход січас ідзём.
Мы паходы прыхадзілі,
Кі Дунай-речкі пыдхадзілі,
Кі крутому д' біряжку,
Кі зялёныму лужку.
К нам матросы пыд'езждалі,
Лёгку лодку пыдгынялі,
Лёгку лодку пыдгынялі,
Мы ў лодычку паселі.
Мы ў лодычку паселі,
Слаўну песінку запелі;
Дунай-речку прыезждалі,
Кі беріжку пыд'езждалі,
Кі бальшому кі двару,
Да на хранцузскыю зямлю.
Наш маёр Капылоў
Па ту сторыну стаіць,
Яго бела грудзь гаріць:

— Уж вы, брацци, скіньця
ранцы,
Вы лажыцісь аддыхаць,
[Вы лажыцісь аддыхаць,]
А я буду ваюваць!

## ХРАНЦУЗ БЕРІГ ЗАСТУПІЎ...

Хранцуз беріг заступіў,
Астаёмся ні пpi чом.
За грыніцыю стыялі,
Мы ні ’б чом ні гаравалі,
Толька думалі адзецца,
Прівубрацца харашо.
Ні паспелі прівубрацца,
Ў барабаны сталі біць,
Білі, білі ў барабаны,
Мы паходамі пашлі.
Пріхадзілі к Вішні-речкі,
Піряходу ні нашлі,
Ні васпелі піряйдзіць,
Выступіў с-пад гор туман:
Арцілерія гриміць,
Слоўна туча грозная,
Как ударілі карцеччу,
Роўна с неба сіні град.
Как ударілі,—народу,
Роўна ляда цёмны лес,
Міжда бітыга народу
Чалавеку негдзі стаць.
Са таго та са народу
З руды речка працікла,
А на той жа на речушкі
Белы лебідзі плывуць,
А па крутым біряжочку
Родны матушкі ідуць.

## ЦЁМНА НОЧКА ДА ТУМАНІСТА...

Цёмна ночка да туманіста.
Нету друга, нету галубочка.
Як мне ночку ў лесе начаваці,
Як мне длінную ў страху каратаці?
Ваўкі ў лесі, на полі хранцузы.
Пушчу каня на далінушку,
Сам жа ляжу пад ялінушку,
Пад зорюшку пад румяную.
Прішла мілая падружанька,
Будзіць, будзіць добра молайца:
— Устань, устань, скарей прабудзіся:
Ой, хранцузы на нас наступаюць;
Каня возьмуць,—другога дастанеш,
Цябе заб'юць,—на каго я застанусь?!

## РАЗАРЁНАЯ ДАРОЖКА...

Разарёная дарожка
Ат Мажая да Масквы!..
Каба хто яё разарыў?
— Ніпріяцель вор, вор-хранцуз.
Да разарёмшы пуць-дарожку,
Ў сваі землі жыць пашоў,
Кі Паріжу падыйшоў,
Вахваляўся Паріжой:
— Ты Паріж мыя, Паріжок, Паріжок,
Слаўны горыд, гарадок, гарадок!
— Ні хваліся, вор-хранцуз,
Сваім слаўным Паріжой:
Как у нашыга во царя й
Да есць, есць палуччы,
Палуччы, пачышчы, пачышчы Паріжа,—
Есць жа матушка жысць-Масква!
Харашо Масква строіна, строіна,
Белым камнем выбіта, выбіта,
Жалтым пяском ўсыпана, ўсыпана!

## МАЦЬ РАСЕЯ, МАЦЬ РАСЕЯ...

Маць Расея, маць Расея,
Маць Расейская зімля,
Пра цябе то, маць Расея,
Худа славушка прайшла,
А не токма пра Расею,
Што пра белага цара,
Пра Платова казака.
А-ў Платова казака
Нябрытыя барада,
Нястрыжыные вусы.
Платаў бораду аббрыў
Вусы нáгала абстрыг,
Вусы нáгала абстрыг,
У Парыж-горыд прыбыў,
У Парыж-горыд прыбыў,
Ка хранцузу падхадзіў.
Хранцуз яго не ўзнаў,
За купчыка зашчытаў,
За купчыка зашчытаў,
За белы рукі хватаў,
За цісовый стол сажаў,
Гаворкамі занімаў:
— Каба хто Платова ўказаў,
Злата, серэбра таму даў.
— На што злата, сірабро класць,
Его так можна ўзнаць:
Яго лічка белая,
Слоўна браціц мой радной.
А ў хранцуза, ў дурука,
Была дочка хараша,
Была дочка хараша,
Ана славечка молвіла:

— Уж ты, купчык, сіз галубчык,
Пакажы-тка свой патрэт.
Купец патрэт вынімаіць,
У цісовый стол кладзець,
Сам вон з горынкі ідзець:
— Не ўмеў хранцуз, варона,
Ясна сокала дзіржаць.
То ня сокыл, то ня сокыл,
А Платоў жа казачок.
Платоў на каня садзіўся,
Выезжаў он на паля:
— Немереча ты, хранцуз,
Выезжай на поля:
Мы папляшэм-ка с табой!
Яму стала ні да пляскі:
Па'тарваліся падвязкі.

## МАЦЬ РАСЕЯ, МАЦЬ РАСЕЯ...

Маць Расея, маць Расея,
Маць Расейская зямля!
Ік пра цябе, маць Расея,
Далячо слава прайшла,
Ўсё пра белага цара,
Да пра Платона-казака.
А ў Платона-казака
Не стрыжана валаса,
Не брытана барада.
Платон зáкан уступіў,
Мрытву-ножніцы купіў,
Сабе бораду аббрыў,
Русы воласы абстрыг,
Пранцузкую доч любіў,
У пранцуза ў гасцях быў.
Пранцуз яго не ўвазнаў,—
За белыя рукі браў,
За цесовы стол сажаў,
Румку водкі наліваў,
На падносах паднасіў,
Ў его міласці прасіў.

## СА ФРАНЦУСКАГА ДВАРА...

Са французкага двара
Выхадзі, француз, на поле,
Пагуляім мы з табой!
Відзіць француз—ні да пляскі,—
Расціраў парткі, падвязкі,
Закрычаў: «Пардон, пардон!»
—Ты сарока, ты варона,
Ты хранцузскі кароль,
Ты ня ўмела, сарока,
У руках сокала дзержаць.

## ХМАРЫ ЦЁМНЫ, ТУЧЫ ГРОЗНЫ...

...Хмары цёмны, тучы грозны
Ўсё й пад небеса ідуць,
Харашы нашы рэбята—
На учэнье самі йдуць;
Ены ідуць, машэруюць,
Самі с сабой гаварацъ:
— Трудна, трудна, нам, рэбята,
Прэбальшой горад узяць,
Ешчэ ж было патрудней жэ,
Як пад пушкі падбежаць.
Як пад пушкі падбежалі,
Раскрычаліся мы ўраз,
Міхаіл наш, князь вялікі,
Громкім голасам ўскрычаў:
— Вы паліце, братцы, не рабейце,
За марамі знаюць нас!
Окаянныя пранцузы,
Пакарыцеся вы нам!
Як не будзеце карыцца,
Мы парубім вас, паб'ём,
У Расію жыць сашлём.

## ПРОЦІЎ НОВЫХ ВАРОТ...

Проціў новых варот
Мы састроім машыну,
Самі на морэ паедам,
Морэ сінее, зелёнае.
А што на том моры?
Паўтараста караблёў.
А што ў тых караблях?
Па пяцьдзесят чэлавек.
Харашы нашы рэбята—
Слаўна песенкі паюць,
Разгаворы гавараць,
Усе Паскевіча браняць:
— Распрасукін сын Пашкевіч
Ўсю Расію разарыў,
Салдат з голаду марыў,
Тры правіанта затаіў:
Первы правіант—партавой,
Другой правіант—дзеньгавой,
Трэйці правіант—харчавой.

## У НЯДЗЕЛЬКУ РАНЕНЬКА...

У нядзельку раненька
Ўзышло сонца ясненька;
Татка коніка поіць,
Дужа жаласна плачыць.
Прышоў сынок, пытае:
— Чаго, татка, плачаш,
Ды нашто ж, каму рана,
Татка, коніка поіш?
— Табе, сыночку, табе,
На вайну ты паедзеш;
На вайну ты паедзеш,
Ах, адтуль ня прыедзеш.
Панясеш ты галоўку
У чужую старонку,
Занясеш свае плечы
Пад турэцкія мечы.
— Не плач, татулька, пры мне,
Наплачашся без мяне,
Наплачашся даволі,
Як ня ўвідзіш ніколі.

## ПОЛНА ВАМ, СНЯГІ, НА ТАЛАЙ ЗЯМЛЕ ЛЕЖАЦЬ...

Полна вам, снягі, на талай зямле лежаць,
Полна нам, рабятушкі, гора гаруваць.
Гора гаруваць, нам куды таску дзеваць?
Бросім мы таску-печаль ва цёмных ва лесах,
Забывай, служывы, атца-мацъ, сваю жану,
Успомні, малодзенькі, чэсак і ружжо.
З атцом, з мацяр'ю мне не век векаваць,
А з ружжом, чэсаком мне жысць сваю канчаць.
З дзеўкамі, з малодкамі шабаш нам гуляць,
Пярыны, падушкі пара нам забываць,
К турэцкім гарадам пара нам прывыкаць.
Салдацкае жыццё, права, луччэ за ўсяго:
Пашні мы не пашам, касы ў рукі не бяром;
П'ём-ядзім гатовае, прыўпасённае,
Носім перашыта, перакроенае.
Ходзя наездзімся, стоя выспімся,
Утрам рана ўстаём—слязой ўмыемся.
Слязой ўмыемся, кручынай ўватромся.
Кручынай ўватромся, богу молімся:
— Саздай, госпадзі, нам пажыць, паслужыць,
На сваёй старонке галоўку палажыць.

## ТЫ НЕ ПЕЙ, САЛАВЕЙ, У МАЁМ САДУ...

Ты не пей, салавей, у маём саду,
Не будзі, салавей, майго мілага дружка,
Я сама, маладая, дружка разбуджу.
— Ты ўстань-ка, мілы, разлюбезны мой,
Усі роты-палкі, ўсі салдаты пашлі,
А адзін жа твой полак заставаецца.
Здзесь табе, дружок, баліць галава
С учарашняга дня, сы пахмеляйка.
— Паіў жа мене турэцкі князёк,
Трамя півамі, да ўсё разнамі:
Первая піва—куля быстрая,
Другая піва—шабля войстрая,
Трэцяя піва—ружжо чыстае.

## КАЛЯ РЭЧАЧКІ ДНЯПРА...

Каля рэчачкі Дняпра
Там хадзіла удава,
Там хадзіла удава
Да й забачыла она
Да й на яворы орла,
Да й на яворы орла.
— Ох ты, ворлю мой, ворлю,
Да, ты чорны варона,
Ты вісока лятаеш
І далёка відаеш.
Ці ня відзеў ты, орлю,
Майго мілага дружка?
Ох, мой-та то міленькі,
Он із туркам ваюе,
Он із туркам ваюе
Па каленічкі ў крыве
Да й па пашачкі ў трупе́,
А на нём рубашоначка
Ўся ўскіпела ў крыве.
Ох ты, ворлю мой, ворлю,
Ох ты, чорна варона,
Ты высока лятаеш
І далёка відаеш.
Прынясі-ка ты, ворлю,
Мне рубашачку ад яго.
Выпяру я рубашачку
Сваімі гарючымі слязамі,
Высушу я рубашачку
Сваёю сухатою,
Перашлю я рубашачку
Сваёю красатою.

## ОХ ТЫ, ПОЛЕ, ПОЛЕ ЧЫСТАЕ, ТУРЭЦКАЕ...

Ох ты, поле, поле чыстае, турэцкае,
Мы когда цябе, поле, пройдзем,
Ўсе пуці твае, дарожачкі,
Усе места слаўна прэкрасныя?
На тым полі, на тым чыстаму
Мы сайдзёмся з непрыяцелем,
Сы такой ардой невернаю.
І ў дваццаты дзень, у пятніцу,
На турэцкі мерзкі празнічак,
Злыя туркі сабіраліся,
Віна-мёду напіваліся,
С пахмелляйка выхваляліся:
— Мы Расеюшку наскрозь прайдзем,
Грап Пашкевіча у плен возьмем
Сваім мерзкім злым турэцкім первым корпусам.
Грап Пашкевіч разгаварываў:
— Не журыцеся, рэбятушкі,
Белага цара салдатушкі.
Вы вайстрыце шашкі войстрыя
На турэцкія шыі тоўстыя.

## НЕ ТУМАН ЖА ДА З МОРА ПАДНЯЎСЯ...

Не туман жа да з мора падняўся,
Ці то тры дні зраду дождж ішоў,—
Цар Лександра ў паход збіраўся
Са войскаю да ён са сваёй.
Мы ўперод ішлі а з хрэстом, з малітваю,
Штоб нам турка, турка пабедзіць,
Мы ў паход, браццы, днём ішлі і ночы—
Грап Пашкевіч даў жа нам ільготу
Прытуманілась у нашых глазах.
На тры часы, часы пагуляць,
Мы гулялі ўсяго тры часочкі,
Ну, мы зналі сваё ўрэмено.
Мы Карс-горад ядрамі пакрылі
Ў скора ўрэмя, ўрэмя поўчаса,
Застагнала турэцкая крэпасць,
Зарыдала ўся яго вайска́.
Расплакалась праклятая Турчанка
Са войскаю яна са сваёй—
Запрапала турэцкая слава,
Што не будзе ее нікагда!

## ТРУДНА, ТРУДНА НАМ, РАБЯТЫ..

Трудна, трудна нам, рабяты,
Пражыць нынешні гадок;
Як у нынешнем гадочку
Аткрываецца вайна.
Нам стражэннійца не страшна,
Ну, паходы чажалы.
У марцу месяцу, ў апрэлю,
Вочань холадна было:
Што дзве ночы і два дня
Не давалі класць агня.
С таго холаду, з марозу
Мы не можам гаварыць.
Мы не можам гаварыць,
Сталі водкай нас паіць.
Мы па крышке водкі п'ем
І ў паход січас ідзем.
К Дунай рэчцы падхадзілі,—
Нас матросы падхвацілі.
Нас матросы падхвацілі
І на лоткі пасадзілі.
Мы на лотачкі як селі—
Слаўны песянькі запелі.
Слаўны песянькі пяем,
На ту сторону плывем,
Ка зладзею, ка ўрагу.
У зладзея, у ўрага,
Чужа сіла, не свая,—
Ён ня можаць ваеваць.
Мы паколем, мы паб'ём,
Турак ў плен мы забяром;
Аглічана і пранцуза
Будзем прама калоць ў пуза.

## АХ, СПОМНІМ, СПОМНІМ, БРАЦЦЫ, СЫЖАЛЕІМ...

Ах, спомнім, спомнім, браццы, сыжалеім,
Как мы былі, былі у Крыму;
Ох, на нас пушкі ядры васыпалі,
Роўна ў полі, ў полі буйны град.
— Ах, пушкі, ядры нам, браццы, знакомы,
Карцечы былі ніпачом,
Ох, турык, турык, што ён агліčанін,
Ён нам перід заўнімаў.
Ах, захваціў нас на Чорным на морі,
Ах, пазаставіў ўсі пуці-дарогі,—
Хацеў з голыда нас умаріць:
Ах, рагавую мы; браццы, скаціну
Мы прієлі яе ўсяе,
Мы каніну, браццы, лашадзіну
Мы варілі яе і пяклі,
Ах, межда солі, солі мы салілі
С патрон мелкам, мелкам парахом,
Ах, сена ў трубычку, браццы, курілі,
Распрашчаліся да мы с табаком.

## ПІША, ПІША ЦАР ТУРЭЦКІ...

Піша, піша цар турэцкі,
Піша нашаму царю—
Саберу я войска многа,
Сам ў Расею жыць пайду.

— Не журыся, цар наш белы,
Мы Расеі ні 'ддадзём.
Сабером мы войска болей
І мы туркаў разаб'ём.

## УСПОМНІМ, БРАЦЦЫ, КАК СТАЯЛІ...

Ўспомнім, браццы, как стаялі,
Мы на Шыпкі ў ваблаках,
Туркі нас атакавалі
І асталісь ў дураках.

Грыміць слава трубой,
Мы дралісь, турак, с табой,
Па брягам Дунай-рякі
Блісцяць рускія штыкі.

Была, браццы, плахавата,
Но памілуваў нас бог,
Ат рассвета да заката
Аддыхнуць ніхто не мог.
. . . . . . . . . . . .

## СПОМНІМ, БРАЦЦЫ, ПРА БЫЛОЯ...

Спомнім, браццы, пра былоя,
Как мы ў Турцыі былі,
Троя сутык прастыялі,
Дажыдалі мы вайны.
Грэміць слава трубой,
Мы дралісь, турык, с табой,
Па гарам тваім Балканскім
Раздалась слава аб нас.
Утрым рана на зарэ
Ехыл турык па гарэ.
Бліз дзярэўні пад'езжаў,
Нас, армейцаў, не відаў:
Коні серыя ліхея
Беглі, беглі, усталісь,
Там і туркі праклятэя
Ўсе валяліся ў краві.
Грэміць слава трубой,
Мы дралісь, турык, с табой,
Па гарам тваім Балканскім
Раздаёцца слава 'б нас.

## НІ ТУМАН С МОРЯ, БРАЦЦЫ, ПАДНЯЎСЯ...

Ні туман с моря, браццы, падняўся,—
Дробны дождзік, дождзічык ідзёць,
Князь да вялікы тольќа са палкамі
Адпраўляіцца скора у паход.
Мы ішлі доўга, браццы, паходым,
Пріўтуманілісь у нас глаза,
Нам за ета гасударь дазволіў
На трі часа, часа пагуляць.
Мы гулялі, браццы, трі часа,
Да пра то знали, знали нібіса,
Бомбамі, ядрамі Плеўну пакрывалі,
Нам за дымым была нічаво.
Заплакала наша маці Плеўна,
Застагналі ўсе яе міста,
Запрапала турецкая слава,
Што ня будзіць яе нікагда.





# ПАДАННІ[1]

## АДКУЛЬ РУБЕЖ?

Пра войны тыя нам дзяды расказвалі, ну а ў кніжках можа і ні так, як мы знаім. Тут і шведы былі, і палякі, і французы, ну, усех іх і пабілі. Во, можа слыхалі, тут недалёка Рубеж, дак то шчэ ад татар. Прышлі яны і сталі супроць нашага войска. А раней дак перш біліся князі ці багатыры, а за імі ўжо войска. Вышлі на поле татарын і рускі, біліся конныя, потым пешшы, ну ніхто ні пераможа. На другой дзень, аддыхнуўшы, зноў сашліся. І зноў таксама ніхто ні пабядзіў. Так і прастаялі сем дней, пака не знайшоўся такі малады хлопец, што як схапіў таго татарына, да як кінуў яго вобземлю, так і ўбіў. А за ім і ўсё войска на татар пайшло, пабілі іх многа, каторых пабралі да паразганялі. Дак ад таго і Рубеж завецца, што доўга на ім стаялі. А ў капцах нідалёка татары закапаны.

---

[1] Змешчаныя тут паданні самі па сабе не з'яўляюцца эпічнымі творамі, але яны маюць пэўнае пазнавальнае значэнне ў вывучэнні генезісу эпасу.

## ПОЛЕ ТАТАРЫНА

Поле Татарына тут недалека. Татары хацелі забраць усё, прышлі да нас, грабілі, людзей білі. За лавы заклалі дзяцей да прыціскалі, душылі іх. Людзі паўцякалі ў лес, пагналі коні, забралі хто што мог. Хаваліся доўга, галадавалі, сосны пуб'ядалі, што бялелі хвоі. На полі была бітва, многа пабілі і нашага войску, і татар. З таго часу поле і называецца Татарскім ці Татарына.

## ПРА УРОЧЫШЧА ТАТАРСКІ КАЎДОБ

Татарскі Каўдоб, ён ужо зарос: заплыў, ну яма яшчэ ёсць. Калісь, кажуць, татары ці манголы, як іх там называюць, прыходзілі сюды. Дак у гэтым месцы засаду ім зрабілі, акружылі ўвесь атрад і пабілі, колькі іх там было. А хто астаўся, дак схаваўся ў лесе і сабраліся потым у гэтую яму. Яе і празвалі Татарскі Каўдоб. Яны доўга там жылі, людзі баяліся ў лес хадзіць, пакуль іх ні палавілі.

## БІТВА ПАД ЛЯСНОЙ

Швед, разбіты пад Лясной, трапіў у балота Чыстая Лужа. Там патанулі ў дрыгве яго гарматы, коні, людзі, а галоўны начальнік іх — Левенгаупт — кінуўся цераз Брадзілаў мост на Прапойск. Прапойскія перавознікі на вачах у шведаў хутка знішчылі паромы на Сожы... У той жа час на левым баку Сожа, у Старынцы і Краснаполлі, з'явіліся казакі. Яны не дапусцілі шведаў да пераправы і пагналі іх далей, на Рудню... Тут шведы пакідалі сваё ваеннае снаражэнне ў балота і разбегліся па лясах, ратуючыся ад пагоні рускіх... Начальнікі шведскія кінуліся да Сожа, закапалі там пад сасновым крыжам купу золата і срэбра... І давай уцякаць па слядах свайго караля.

## ВАЙНА ШВЕДСКА

Як то было кедысь цяжко на свеці, неспакой, от шведска вайна была, мноство рознаго войска цягалосе па свеці. От тады ішлі якіесці Сасы, Тарантасы, не зналі нашай мовы, а мы іх. Бог іх ведае, як ены гаварылі, только ўвойдзе да хаты і крычыць: «Пекі ку́рка!», то ледво дамыслілісе, цо юн кажа—палі печ. Забіралі людзям хлеб, авёс, на хвурманкі гналі, а некаторые як паехалі, то і прапалі з імі заўсім. От, кажуць, з Дрыгі някі Баран Мацей і Балдыка стары прапалі. А возьмуць дзяцей, пазасаджаюць шыямі за лаву, прыціснуць лаваю і падушаць. А старшые паўцякалі да леса, дзеўкі ўсе ў лесе седзелі, бо не можна было быць дома. Так, бывало, ены падходзяць пад лес і крычаць: «Крыся, Марыся, жані́ валэ да дому, жані́!». А як катора выйдзе з леса, то ўжо ее ўхопяць і робяць, цо хочуць з ёю.

## АБ ПРАБЫВАННІ ФРАНЦУЗАЎ

Радзілася я ў Дзявічку — азяро ёсць там Дзявічак і дзярэўня Дзявічак, а там дзярэўня Качарагі, Стадола. А Сіняўскага двор недалёчка ад нас, Сарнапольля; там ішоў ручэй Сідораў, на том баку было Сіняўскага, а на гэтам баку нашага, Сіняўскага дзярэўні: Грушкова і Калатоўка, а ў Стадоле было палавіна нашага,—а палавіна Езавіцкага; казённые мужыкі былі.

Бацьку маго звалі Якаў Шашко; быў ён сам хазяін, было ў яго чатырэ сыны. Усе памёрлі і сам памёр яшчо да французаў. Як памёр бацька, далі нам паны здольніка з жонкай і з дзяцём; шэсьцяра было дзяцей, сёмый сам, восьмая—яна. Послі пранцузаў, як вышлі яны — дзяліліся з братам, ці брат з імі, хто іх там знаіць. Два гады з здольнікам пражылі, на трэцьем гаду пранцузы прышлі, і прышлі на самую Іллю. Толька дала нам здольніца юшкі, а пранцузы прышлі і ложкі ў нас пабралі, сталі юшку хлібаць. Чалавек з дзесяць, ня большы, прышло; сталі яны поліўку тую хлібаць, а мы скаціну занялі і пагналі за азяро́ Дзявічак, а із азяра пакопаны канавы, такіі ключы радзі рыбы, што рыба на свежую воду ідзець, так гэці ключы радзі рыбы пакопаны. Як вот сіголетняя зіма так тхло мусіць быць; лёд тоўсты і снегу нарынула, дак рыбе душно; канавы глубокіі пакопаны; як вычысьцююць канавы сярод лета — калі суха, так усякій беражэць сам для сябе, радзі сваей карысці. Дак як найдзець рыбы ў тыі канавы, — там як ёсць печ топіцца, такі пар валіць. Бывала бацька пойдзіць, калі знайдзіць многа рыбы ў нератах, рыбу тую выбярэць і язок разберэць; так рыбы поўная канава найдзець, тагды чарпай только сакамі; такімі мяшэчкамі на вілках; чэрпаюць тымі сакамі, да ў сакі кладуць і дамоў вязуць, а Шантырыха і Дрозд не баранілі—ня-

хай ловіць той, каму рыба ловіцца. Ужо послі, як стаў Руткоўскі, забраў ён усё пад сябе, карыставацца нікому не даваў; ня толька забярэць у канавах, так і лавіць не даваў; ён вот і ацецарам быў... Былі мы добры і багатые былі... Мусіць жэ было што... Калі жыта жнем, а сырое будзець — дак бацька сколькі коп зложыць апрыч, каб зраслося і сушыць яго апрыч і сыпюць апрыч на пост... на саладуху. Здзелаўшы саладухі... вот саладуха— і меду не нада! Так было што есць. Коні было дзевяцера і кароў штук дваццаць і большы ёсць. Як бацька памёр, пашла матка за адзежай у клець і забылася пяраклець замкнуць; улезлі туды два коні, насыпана было на выгрэбы саладовае жыта; як наелісі яны таго жыта, так думалі—ці не прыбягуцца яны, можа жывы будуць, алі свяшчэннік як толькі прыехаў хаваць бацьку—так і коні падохлі, і скура палопалася на іх, толькі на хрыпце асталася цэла; а конь быў слаўны і кабыла, што жарабят вадзіла.

Як загналі мы жывацiну за тры астравы... Прамеж бальшога лесу—пожні... Узагналі на чацверты остраў, сталі мушчыны загародку валіць; валілі лес, каб жывацiна ня вышла ўсё роўна як з хлеву, а скацiны было многа—плошчадзь, як вот ёсць рынак, а пожня большэ за рынак, вады нет нігдзе. Пашла я с Пёклай вады іскаць, нігдзе нет, дак мы ў Чарвятку, у рэчку, што вышла із Чарвята, із озяра, і ўпала ў Палату́, у гэту ў самую. Зачарпнулі мы па вядры да на кійку і нясём. Узашла я на ўзвалок... гляджу... аж прянцузы кала нашай скацiны. «А Пёклачка,—кажу,—прянцузы!»—«Кідай вёдры, бяры палкі!»—крычыць тая Пёкла. Пабралі мы палкі да бягом пабеглі к ім: «А вы гады! Зачым сюды прышлі!..» А прянцузы ў башмачках, у чулках наўцёк. Яны ўцікалі, а мы за імі гналісі; тагды і мужчыны за імі, а то стаяць, рукі паспусціўшы. Угналі мы прянцузаў у тыі ключы. Ці асталіся яны там жывы, ці не, хто іх там ведаіць. Як мы іх прагналі, занялі мы жывацiну і пагналі па балоту, па кічах, па драхбе такой, што і божэ ўпасі, пакуль аж дагналі да рэчкі Чарвяткі; там брат ведаў, гдзе перагнаць чыраз рэчку. Як перагналі чыраз рэчку, дак скацiна начавала там на лугах; назаўтрае ўжо абвалівалі ізгародку... Каб аттуль ня рушылі скацiну, так уся б, можа, была цэла, усе былі там, уся жывацiна

была ў кучы: і наша і саседзей... Пагнала я толькі на лугі дробязг: авец, коз. Дробязг ходзіць, а я сяджу ў кічах, аж чую гамоняць. Дай паглядзець..., хто гамоніць. Як устала—віджу пяць французаў на конях, я б на ўцёкі, да ў іх пісталеты ёсць, застрэлюць; дак я стаю, як дурачка якая, і яны стаяць за канавай, рукой махаюць да крычаць: «Галё, галё, галё, машыр», а я стаю... Дак двое, аддаўшы коні, перашлі чыраз яз, да мяне пад рукі і вядуць. Узяўшы вяровачку, завязалі мне кала шыі; вядзі іх, кажуць, гдзе кровы, гдзе млека, масла, бараны, куры, яйкі. Павела б я іх у Лапацінавых двор—да Палата́; як жа павяду чыраз рэчку? Нада вясьці кала озера. Я і ўвіла ў беразняк,—пачом я знаю, па якому яны гавоpуць? Нічога не знатко, толькі і знатко: «Галё, галё, машыр!», а знатко, што гавоpуць, што добра будзець, што я прывяду іх к чаму добраму, а ў мяне за калошынай нож ёсь: як лапці абуты, дак за анучынай ён і тарчыць, нада ж лапці сплесьць, німінучы дзела, дак ён у мяне і быў. Сагнуцца мне ня можна, я і падняла нагу і выцягнула ножык. Бог мне так паказываў, — я так і рабіла. Было яшчо відно ў поўатвечорка, узяла я да вяроўку перарэзала да ў руках дзяржу, як будто кала шыі качаюся; яны думаюць, можа вяроўка муліць, а я дзяржу... Як увіла іх у тыі ключы: лаза густая, крапіва бальшая. Як скокну я чыраз канаву, а француз за мной, конь піраскочыў... Я чыраз другую — і ён туды, а там конь і сеў. Тагды яны ўсе разам выстралілі з пяці пісталетаў. Вот, дай бог, збавіцеля к скананню так шчыра прызваць, як шчыра кажу.

Як уцікла я ат тых французаў, вярнулася я к жывaціне, забрала статак да ўжо позна прыгнала к сваім; а яны гаворуць: «Чаго ты так позна прыгнала скаціну, мусіць, спала». На што ж мне хваліцца, што было? Няхай будзець так, а то мне ж прыдзецца на заўтрыя ізноў скаціну, ніхто ж другій не атважыцца гнаць, як спачуўшы, што французы прыходзілі. Так прабылі мы да бальшой багародзіцы; на бальшую ж багародзіцу прыгналі мы скаціну дамоў. Па ўсіх дзярэўнях пастаўлены былі ў кажнай хаце па тры чалавекі залогаў; а наш Дзявічак блізка двара, дак у нас не было; с праценцыей, колі есць якая, ідзі ў двор. Сталі тыі залогі хазяінам гаварыць: «Ганіці кроў дамоў, цэла будзіць усё». — І пастаўлены былі тыі залогі ат французаў, штоб мужыкі работу ра-

білі—і касілі, і жалі, і малацілі. Як намалоцуць ноччу, так у лес занясуць, ямы павыкопаюць і бяростай абложуць, штоб было на зіму што есьць, пясок разнясуць і муравейніку нанясуць, а пранцузы і знайдуць. Бог святый ведаець, як яны знали: зараз і знайдуць, а было ж іх там як туча незлічоная... Як прыгналі мы дамоў і сваіх, і Качаражыных, і с Ступакоў, і с Сіценца, і с Стадолы кароў к поўдню, а адвячоркам пагналі к озеру; панаехалі пранцузы із двароў і давай лавіць, каго паймаюць. Калі паймаюць барана, альбо падцёлка, прывяжуць пярэднії ножкі к заднім, да аднаго барана к другому, альбо к падцёлку і піракінуць чыраз каня; а паймаюць быка, ці карову, то аднаго с аднаго боку, а другога—з другога боку прывяжуць і павядуць. Адкуль яны ўжо бралі тые вяроўкі, усё ж прыезджалі з вяроўкамі, набяруць, сколькі ім нада, і павядуць — войску ж многа нада. Назаўтра, як настаў золачак, пагнала я статак у лес, сама хаджу па чыстаму полю, а як каторая скаціна выйдзіць із лесу, я яе апяць туды завярну. Гляджу—аж пранцузы гонюць усіх кароў з чатырох дзеравень. Увагнаўшы ў нашу уліцу, — уліца была шырокая, заехала сколькі чалавек напярод статку і кажуць нашым дзяўцкім: «Бярыці свой статак!». Мусіць сабе думалі: «Тут жа блізка, возьмем, калі нада будзіць». А каторый з нашых кінуўся заганяць, дак нічога ня зробіць, каровы чужыі ўцікаюць; а я скарэй давай сваіх кароў дальшэ ў лес адганяць. Послі казалі, што клікалі мяне, да гдзе ж я пачую, калі далёка атагналася ўжо? Загналася я далёка да думаю сабе, доўга ж гэта будзіць, пакуль пранцузы папойдуць, а дамоў можна будзець гнацца, дак я кароў дойных сваіх да другіх, усяго з дзесятак сабе кінула, а тых пазапускала. Гдзе ж мне адной управіцца, да куды і малако ліць? Надрала я бяросты, нарабіла кужні такіі, даю ў тыі кужні да стаўлю: як скісніць, дак я на пень выверну прастаквашу, сыроватка збяжыць, а творах там і ссохніць, дак я яго з малаком з смітанкай і ем, арэхамі закусываю. Арэхаў жэ сколькі хочаш бяры, шчыпаць мне іх не нада, гатовые. Як набяру іх там, да палажу сушыць, дак ад соек біда, сколькі іх там налящіць—дак нязлічыць. Ягад: чорнай смароды, брусніц— сколькі хочыш. Паганю я сваіх кароў у поле — ідзець адна кала аднэй блізеханька, ні адна не раўнець, а калі хрусніць каторая, дак усе глядзь-глядзь да на яе. На

ноч прыганюся апяць на тоя сама мясцечка: палягуць каровы, адна кала аднэй блізенька. Сталі ўжо ночы халодныя, і я меж іх лягу. Паабнасілася я, толькі рубцы ад адзежы на мне засталіся, а лягу меж кароў—мне і цёпла. Так дажыла я да пакрова, дай, думаю сабе, даведуюся я дамоў, што там чуваць. Вышла із бора, да на поле выйці ня можна: саўсім голая. Пагляджу—брат мой на полі арэць; думаю сабе, як даарэць баразну, дак заверніцца ўзад апяць к лесу. Я зашла ў той бок і стала клікаць: «Хвядот, а Хвядот!»... Першы раз паглядзеў толькі і стаў апяць араць. Я клікнула і другі раз: «Хвядот, а Хвядот!»... Тагды ён спрашываець: «Хто мяне клічыць?» Я кажу: «Брацітка, гэта я!» А ён кажыць: «Агапка, гэта ты?»—«Брацітка,—я!»—атклікаюся. «Хадзі ж сюды, чаму ты няйдзеш сюды?» — «Брацітка, я ж голая!» Тагды кінуўшы каня, бягом ён ка мне; я за куст, скорчыўшысь, прытаілася; дак ён зняўшы насоў з сябе, на мяне накінуў,—тагды я пашла ў дзярэўню, да расказала, гдзе наш статак. Дак толькі ў нашым Дзявічку адным і засталіся каровы, а то ўсюдах-усюдах пабралі французы.

Народ усё лета хаваўся ў лясу, толькі адна братóва заставалася ў хаці. У яе быў малый рабёнак, дак з рабёнкам у табар другія яе не прынімалі, баяліся, што рабёнак станіць крычаць, каб французы не пачулі. Усё лета яна там пражыла; мыіць бяллё на іх, доіць ім кароў. Сперша яшчо я адна яе праведывала: падашла я к сялу, аж яны ўсе кала пчэльні; пчол палюць, да мед дастаюць. Я скорынька ў хату; сядзіць яна за люлькай і мяне за люльку пасадзіла. Нашло французаў у хату, наняслі мёду, сыру—повен стол. Я паглядзела, да кажу: «Пара мне іцці».—«Не, няйдзі,—кажыць яна,—заб'юць»... Я і заначавала, а золачкам, узяўшы ў братавай жонкі гаршчочак масла, да скарэй у лес. А як павышлі после нашы із лесу на работу, дак і жнуць і косюць. Пакажуцца французы,—каторая станіць уцікаць, дак яны і стрыляць. Сколькі пазастрэлілі! А як застануцца, дак усяго было. А братава жонка послі ўся стала ў ранах і брат ад яе набраўся: кажуць, што ўся дзярэўня набралася хваробы ад тых французаў.

На самага пакрова пад'ехалі казакі пад наш двор да сталі стрыляць, дак і павыгналі французаў. Тагды і ў Полацку ўжо ціха стала, не стала слышна стрэлу. Тагды

ўжо я атважылася ісьці дамоў; а саседзі мяне і матку цэлую зіму за тоя кармілі, а я дзяцей учыла богу маліцца. Прыду, бывала, у хату, дадуць мне есьць; я і кажу: «Панясу матцэ».—«Еш, еш сама, дадзём і матцэ». Прынясу дамоў, дак і братова з намі хлібаець. А ў брата была худая кабылёшка, дак ён і паехаў на ей карміцца сам кала сябе. Як жэ даждаліся вясны, тагды ўсім палягчэла. Па дварах усё панскае поле пазасталося някошанае і ніжатае. Пойдзім на поле, набяром калосься ячменю, награбём жыта да ярыцы, завязём дамоў, змалоцім да і ядзім; грэцкі награбём, зробім на полі ток, там і змалоцім. А лён, што застаўся на поле, і хадзіўшы кала яго, так ня выхадзім. Валакно само на ём паашставала, а бел так, што сказаць ня можна, і крэпкій такій; каторый жэ ліжаў, то ўвесь папалам, саўсім ня крэпак.

## ПРА 1812 ГОД

Казакі былі пад камандай генерала Платава, узялі яны нашага мужыка Дзяніса, далі яму казацкага каня і паслалі з некалькімі казакамі ў Стоўбцы, дзе за Нёманам было другое казацкае войска, каб правёў яго ноччу праз Мхі (урочышча паблізу возерка), бо ён быў тутэйшы і дарогі добра ведаў. Палякі прышлі ў вёску і сталі снедаць. Казакі спачатку мала паказваліся, вазіліся з імі перад вёскай і стралялі. Потым сілай навалілі. Калі палякі абяссілелі, падышлі і ўдарылі тыя, якіх прывёў Дзяніс з Стоўбцаў, разбілі, і пабеглі палякі на Жукавічы, Мядзведку, а некаторыя на Мір... Калі пасля... беларускага селяніна Дзяніса запыталі, якой узнагароды ён хоча, ці волю яму даць ці грошы, ён адказаў: «Дайце мне паесці». Дзяніса накармілі і ён пайшоў у казённы лес, дзе нашы хаваліся.

## ПЛАТОН-КАЗАК

У дзвананцатом гаду падняўса на белага руськаго цара пранцуз Напальён. Нагнаў ён сюды войська, бы цёмная хмара, да й пачаў паліць вёскі, гарады да забіваць людзей. Пахаваліса людзі, хто пасьпеў у лес, ці за балото, загналі туды ўвесь свой статак, а дабро закапалі ў землю. Знішчылі пранцузы ўвесь край, змарнавалі ўсе дабро, так што й самі пачалі падыхаць з голаду. Пераелі паганые сабак да катоў, палавілі мышэй да пацукоў, пастралялі ўсіх варон да й паелі ўселякую погань. Сам цар Напальён ходзіць сабе на балоце да ловіць жабы або чарапахі, каб пасілкавацца, бо голад не свой брат, кожнаго як засмокчэ, дак гатоў сам сабе руку адгрызці. Соваюцца галодные пранцузы бы сонные мухі да збіраюць чарвякоў, жукоў да ўсялякіх слізнякоў, каб хаць гэстаю пошкудзью набіць сабе лантух. От і пачалі людзі памаленьку вылазіць з лесу да дабіваць тых гадаў. Зберуцца яны дзе-небудзь грэцца ў хату, а тут бы з зямлі вынырне Платон-казак да й запаліць атусюль тую хату. Пекуцца пранцузы, бы картопля ў прыску, пекуцца, а вылезці з хаты не могуць, бо дзьверы калом падперты. Гуляе Платон-казак та тут, та там і ніяк яго не могуць злавіць пранцузы. Абецаў Напальён гасцінец таму, хто зловіць Платона-казака, ці хаць скажэ, дзе ён. Але ніхто не мажэ таго сказаць, бо Платон-казак летае, бы арол, плывае, бы шчупак, бегае, бы хорт. От перэадзеўса ён за купца да й прыехаў к Напальёну, нібыта прадаваць хлеб. Прымае яго Напальён да й пытае:

— Ой ты, слаўны купец-маладзец, ты ўсюды па сьвету бываеш, усе бачыш, усе знаеш, мо Платона дзе стракаеш?

— Ну, нема таіць чаго,—добрэ знаю я яго.

Цар тут разам схаменуўса, на Платона азірнуўса. Дак казак той не дурак, паказаў яму канчак. Замахнуў-

шыса з плеча, рэзнуў трэйко з гарача, аж зваліласа карона; сам ускочыў у стрымёна да й крычыць:

— Лаві Платона!

От такі то быў казак, што пранцузам даўса ў знак. Ён па полю раз'езджае, страх на варм'ю наганяе, паліць яняралаў хаты да берэ ат іх гарматы; забегае на дарозі, топіць войско ў Берозі. От адзін стаў Напальён, хаць прыўеў да нас мільён. От і едзе той казак по полю, смело даў каняцы волю. Жыто поруч каласіцца, крыж за гордаю ласніцца. Сонцо грэе, аж печэ, толькі пот з ылба цечэ. От ён шапачку здымае, бога шчыро праслаўляе, што памог пранцуза рацъ з края роднаго прагнаць. Толькі ў жыце зашумело, раптам сэрцэ бы згарэло. Толькі ён перахрысціўса да й на карак да каня схіліўса. Казакоў падбегло двое. — Мабыць, место тут ліхое. — Перш прanцуза тут забілі, а Раманава местэчка на жалобу запалілі. Бы свеча дамы палаюць, — то Платона памінаюць. Слезанькі з вачэй цекуць, песню ж казакі паюць, як велікі той казак згінуў дарам небарак.





## ОЙ, ЧАМУ Ж ТО ПАН ХАМІЦКІ...

Ой, чаму ж то пан Хаміцкі
У той час не жаніўсе,

Як у лесе на орэсе
Голуб уродзіўсе?

Ой, чаму ж ты, Бондароўна,
Ў той час замуж не шла,

Як у млыне на камені
Пшэнічунька ўзышла?

У местэчку Церастэчку
Каманда стояла,

Там жа наша Бондароўна
Усю ночку не спала.

Говорылі Бондароўне
Ды добрые людзі:

— Уцекай ты, Бондароўна,
Ліхо табе будзе!

Ой, як скочыць Бондароўна
Межамі, лугамі,

А за ею пан Хаміцкі
З своімі слугамі;

А як догнаў Бондароўну
У пул-лахчынэчкі,

Так ухапіў Бондароўну
За белы ручэчкі,

А прывёў жэ Бондароўну
До свэй светлічэнькі,

Посадзіў жэ Бондароўну
На белом крэсельку;

А казаў жэ Бондароўне
Песеньку спеваці,

А сам пошоў пан Хаміцкі
Стрэльбу набіваці.

— А ці лепей, Бондароўно,
Ў сыром песку гніці,

Як за мною, за Хаміцкім,
Ў атласе ходзіці?

— Ой, лепей, пане Хаміцкі,
Ў сыром песку гніці,

Як за паном, за Хаміцкім,
Ў атласе ходзіці.

Ох, як выцяў Бондароўну
Под левое ухо,—

Засталасе Бондароўна
І слепа і глуха.

Ой, казаў жэ пан Хаміцкі
Од ранку до ранку

Выкопаці Бондароўне
Глыбокую ямку.

Ой, казаў жэ Бондароўну
Ў тры дні ховаці,

Ды нехай жэ наплачэцсе
Ее бацько, маці.

Ой, прышоў жэ ее бацько
І сплясну́ў рукамі:

— Ото ж табе прышло ліхо
З твоімі думкамі.

## ОЙ, ГУЛЯЛА БОНДАРОЎНА...

Ой, гуляла Бондароўна
Ў корчонца пьяная,
А сцераглі Бондароўну ціха.
— Ня стой, ня стой, Бондароўна,
Будзе цябе ліха!
Догонялі Бондароўну
Конюшныя слугі,
Як догналі, так узялі
За белыя рукі,
Повялі Бондароўну
Ў цяжкія мукі.
Заказаў жа пан Конюшный
Ў скрыпочку граці,
Стала Бондароўна
Плясачкі скакаці.
Заказаў да пан Конюшный
Ванну готоваці,
Стала, стала Бондароўна
Жалосно плака́ці.
Як ударыў пан Конюшный
Ў левае вуха,
Стала Бондароўна
І нема і глуха;
Заказаў жа пан Конюшный
Труночку робіці,
Для молодоі Бондароўны
Золотом выбіці;
Заказаў жа пан Конюшный
Ямочку копаці,
Для молодоі Бондароўны
Муры муроваці;
Заказаў жа пан Конюшный

Тры дні ні ховаці,
Ніхай прідзе ойцец, маці
Посю(?) плакаці.
Ой, як прішоў стары Бондар,
Як стряпне ногою:
— Ніхай ліхо пропадае
За ўсё головою!
Ой, як прішла Бондаріха,
Як сплясне рукамі:
— Отгуляла мое дзіця
С тымі дворокамі.
— Ні так дворак, ні так дворак,
Як простыя людзі,
Да уж такой Бондароўны
Ў свеце ня будзі.

## ПОСЕЮ ПШАНІЧЭНЬКУ...

Посею пшанічэньку
На руўненьком полі,
Посаджу я Бондаруўну
Ў новенькім покою.
Нехай моя пшанічэнька
Ешчэ побуяе,
Нехай моя Бондаруўна
Трошка погуляе.
Ой, час-пора, час
Пшанічэньку жаці,
Абецаўся пан крулевіч
Бондаруўну ўзяці.
Ой, ў полі пры дорозе
Обманочка стояла,
Там гуляла Бондаруўна
Ўсю ночку пьяна.
Як зачуўся пан крулевіч,
Што с его слугамі,
Уцекала Бондаруўна
Да ў цёмные лугі,
Да зловілі Бондаруўну
Крулевічавы слугі.
Як зловілі, так подалі
Крулевічу ў рукі:
— От цяпер жа Бондаруўна
На вечныя мукі!
Да як даў жа пан крулевіч
Бондаруўне ў вухо,
Скоро стала Бондаруўна
І нема і глуха.
Да веліў жа пан крулевіч
Труночку зробіці,

Да веліў жэ кутасамі
Навоколо обіці.
Да веліў жэ пан крулевіч
Тры дні не ховаці:
— Нехай прідзе поплачыцца
Оцец еі і маці.
Прышла маці, прышла маці,
Як сплесне рукамі:
— Дзіця ж мое молодое,
Отгуляла з тымі двоpакамі.
Прышоў оцец, прышоў оцец,
Як стукне ногою:
— Дзіця ж мое молодое,
Разлука с тобою.
Да надзелі Бондаруўне
Едвабны панчошкі,
Проводзілі Бондаруўну
Крівавы дорошкі,
Да як сталі Бондаруўну
Да долу спускаці,
Так то стаў пан крулевіч
Сільненько плакаці.
— Ой, і плацьце, мої слугі,
Ой, і плацьце, мої людзі,
Бо такой жэ Бондаруўны
На свеце не будзе!
Одзін жэ быў поконічак
Гонтамі крыты,
Одна была Бондаруўна
Да і тая ўрыта.

## ПАСЕЮ ПШАНІЧАНЬКУ...

Пасею пшанічаньку
Ў роўненькім полі,
Пасаджу Бандароўну
У новенькім пакоі.

Расці, расці, пшанічанька,
Пакуль цябе жаці,
Заляцаўся пан крулевіч
Бандароўну ўзяці.

А ў Слуцку на рыначку
Карчомка стаяла,
Там панна Бандароўна
П'яная гуляла.

Вот гуляла, вот гуляла
З тымі дваракамі,
А дачуўся пан крулевіч,
Што з яго слугамі.

А ў Слуцку на рыначку
Гаварылі ціха:
— Уцякай, Бандароўна,
Будзе табе ліха.

Уцякала Бандароўна
На цёмныя лугі,
Сталі яе даганяці
Крулеўскія слугі.

Як дагналі, так і ўзялі
Пад белыя рукі

Да павялі нешчасліву
На вялікія мукі.

Прывялі і паставілі
На новенькім ганку,
— Стой, панна Бандароўна,
З вечара да ранку.

Як стаў жа пан крулевіч
На скрыпачку йграці,
Стала панна Бандароўна
Песенькі спяваці.

Як стаў пан крулевіч
Руж'ё набіваці,
Стала панна Бандароўна
Цяжанька ўздыхаці.

Як намерыў, так і ўдарыў
У левае вуха,
Ляжыць панна Бандароўна
І нема і глуха.

Паляжала, паляжала
З вечара да ранку,
Пакуль сказаў пан крулевіч
Выкапаці ямку.

Прыходзіць родна маці,
Спляснула рукамі,
Адгуляла ж дзіця маё
З тымі дваракамі.

А прыходзіць родны бацька,
Тупнуў жа нагою,
Дзіця маё маладое,
Разлука з табою.

Павялеў жа пан крулевіч
Ёй труну рабіці,
Залатымі кутасамі
Вокала аббіці.

У нашага крулевіча
Шоўкам хата крыта,
Адна была ў яго жана
І тая забіта.

Ляцелі скаўроначкі,
Садам гукаючы,
Заплакаў пан крулевіч,
Лісты чытаючы.

## ЯК У ЛЕСЕ НА ВЕРАСЕ...

Як у лесе на верасе
Музыкі ігралі,
Ой, там з імі маладая
Дзяўчына гуляла.

Гуляй, гуляй, дзяўчыначка,
Будзе табе ліха,
Як пачуе пан Камінскі,
Дык не будзе ціха.

Ой, гуляла дзяўчыначка,
Стала уцякаці,
А за ёю пан Камінскі
Руж'ё набіваці.

Як даў жа ён дзяўчыначцы
У левае вуха,
Ой, упала дзяўчыначка
І нема і глуха.

Ой, сказаў жа пан Камінскі
Трунaчку зрабіці
Ды для яе, маладзенькай,
Золатам аббіці.

Ой, сказаў жа пан Камінскі
Тры дні не хаваці,
Няхай прыдзе паглядзеці
Яе бацька, маці.

А як прышоў стары Бондар,
Як тупне нагою,—

Скруцілася яго дзіця
Уверх галавою.

А як прышла Бандарыха,
Як ўсплясне рукамі:
— Ды апошні табе раз
Гуляць з дваракамі.

## ХАДЗІЎ, БЛУДЗІЎ БАНДАРЭНЬКА... (БАНДАРОЎНА)

1

Хадзіў, блудзіў Бандарэнька
Сем лет па Валыні,
Прыблудзіўся Бандарэнька
І к ліхой гадзіне.
Не хацеў жа Бандарэнька
На Украіне жыці,
Ды пашоў жа на Палессе
Панкоў-ляшкоў біці.
Узыграйце, музыканты,
А я пайду ў танцы,
Адступіцеся, ўражжы панкі,
Каб вас з'елі пранцы!

2

У Кіеве на базары
Дзеўкі табуном ходзяць,
Маладую Бандароўну
Пад ручанькі водзяць.
Скуль узяўся пан Канеўскі,
Тупае нагою,
— Пойдзем, пойдзем, Бандароўна,
Гуляці са мною.
— Ой, хоць тупай, хоць не тупай
Праваю нагою,
Недастоен, пан Канеўскі,
Гуляці са мною.
У Кіеве на базары
Гаварылі ціха:
— Уцякай, уцякай, Бандароўна,

Бо будзе табе ліха.
Пабегла Бандароўна
З места уцякаці,
А за ёю два лёкаі
Яе даганяці.
Пабегла Бандароўна
З высокага мосту,
Азірнулася кругом сябе,
Ці вялікага росту.
Пабегла Бандароўна
Қ глыбокаму броду,
Азірнулася кругом сябе,
Ці харошага роду.
Хутка ўзялі Бандароўну
За правую руку,
Ды павялі нешчасліву
На вялікую муку.

3

Пасадзілі Бандароўну
На залатым крэслі,
Қаб спявала Бандароўна
Жаласныя песні.
Ох, як стала Бандароўна
Песенькі спяваці,
Дык стаў пан Қанеўскі
Ружжо заражаці.
Як ударыў Бандароўну
Пад правае вуха,
Дык і стала Бандароўна
І нема і глуха...
Як загадаў пан Қанеўскі
Дол ёй капаці,
Для маладой Бандароўны
Мурам мураваці.
А як прышла Бандарыха,
Спляснула рукамі,—
Прапала ж ты, мая дачушка,
Залілася слязамі.
А як прышоў стары Бондар,
Траснуў барадою,—
Прапала ж ты, мая дачушка,
Заліўся слязою.

## ОЙ, У МЭСТЭЧКУ У БЭРЭСТЭЧКУ...

Ой, ў мэстэчку ў Бэрэстэчку
Капэлія грала,
Молодая Бондарыўя
Ўсю нычку гуляла.
Ой, гуляла Бондарыўя
До зыходу сонця,
Аж побачыў пан Ганеўскі
Сэдзячы ў окэнці.
— Слугы моі, слугы моі,
Бэрытэ вэсельця,
Ой, ловітэ Бондарыўю,
Дрэжыць мое сэрцэ!
Ой, казалы Бондарыўі
Стары бабы зтыха:
— Ой, ўтыкай, Бондарыўя,
Бо наробыш лыха!
Утыкала Бондарыўя
Крутымы горамы,
А за ею пан Ганеўскі
З двыма дворакамы.
Ой, і поняў дворачэнко
Прыгорнуў до сэбэ:
— Нэ быйсь, нэ быйсь, Бондарыўя,
Пан наш любыць тэбэ!
Ой, чы будэш, Бондарыўя
У сырый зэмлі гныты,
Чы із намы, дворакамы,
Мэд-горылку пыты?
— Луччэ буду, дворачэнкі,
У сыруй зэмлі гныты,
Ныж із вамы, дворакамы,
Мэд-горылку пыты!

Утыкала Бондарыўна
Із корчмы до саду,
Забыў, забыў пан Ганеўскі
З ручіці ізразу.
Ой, ў нашэі Бондарыўні
Хвартух розмэрэжкы,—
Ой, дэ іі поводылы,
Там кровавы стэжкы!
Ой, ў нашэі Бондарыўны
Жоўты чэрэвычкы,—
Ой, ды іі поводылы,
Там кровавы рычкы.
Ой, як ўрызаў стары бондар
У зэмлю ногамы:
— О то тобі, моя доню,
Пыты з дворакамы.
Як урізаў стары бондар
У стыг головою:
— О то тобі, моя доню,
Нэ жыты со мною.

## МОЛОДАЯ ПУДОЛЯНКА...

Молодая Пудолянка
Выглядала с-пуд ганка,
Як крулевыч з війска іхаў
Да й забачыў Пудолянку
На высокому ганку.
— Слугы мої вірныї,
Здыймітэ Пудолянку
З высокого ганку.
Як узялы так і знялы
Крулевычу до рук.
Молодая Пудолянка
Цілу нічку ны спала,
Лысты пысала
Да до мацюнкы слала:
— Моя мацюнко рыдна,
Прысылай мні рубачок
Шчэ й шолковы чыпочок
З білого лёнку
І капку на мою білую галівоньку.
— Мое ж дзіцяткоріднэ,
Дэ ж ты ходыло,
Шчо выночка загубыла?
— Моя мацюнко рідна,
Іхала ўпэрод конэм
Я стояла під мычэм,
Брала шлюб з нывірным поляком,
Нашым паном крулевычом.

## У КАРАЛЕЎСКІМ ВОЙСКУ КОНІКІ ІРЗУЦЬ...

У каралеўскім войску конікі ірзуць,
А ў пана-лацмана дзевычка плачыць,
Дзевычка плачыць, замуж ня хочыць.
— Цыц жа ты, дзевычка, цыц жа ты, ня плач,
Вазьму цябе замуж за слугу свайго.
Яму будзіш гатуваць, а мне пыдываць,
Яму будзіш пасцелю слаць, са мною спаць.
— А пану, мой пану, бадай ты прапаў,
Ні насіла мыя мацъ пы два пыясы,
Ні любіла мыя мацъ пы два мужыкі.
Каму буду гатуваць, таму буду пыдываць,
Каму буду пасцелю слаць, і з тым буду спаць.

## ЗА ГАРОЮ ЗА КРУТОЮ...

За гарою за крутою
Касарыкі косяць
І у пана Салывона
Сабе хлеба просяць.
Ой, касілі касарыкі
Паўтара нядзелі,—
Не бачылі касарыкі
Хлеба ні скарыны.
Ой, касілі касарыкі
Ды радзілі раду,—
Да забілі Салывона
За ўсю грамаду.
А ў нашага пана
Плецены тыны,—
Гэта табе, ліхі пане,
Гаспадарскі сыны.
У нашага пана
Пабіты калочкі,—
Гэта табе, ліхі пане,
Гаспадарскі дочкі.
У Кіеве агонь гарыць,
Ў Дарагінцы дымна,—
Як забілі Салывона,
Усім панам дзіўна.
Ў яго дачкі Галютачкі
На галаве лечкі,
Куды цяглі Салывона,—
Крывавыя рэчкі.
Ў яго дачкі Галютачкі
Ў падолках мярэжкі,
Куды цяглі Салывона,—
Крывавыя сцежкі.

## ЗЛОДЗЕЙ ТЫ, НАША БАРЫНЯ!..

Злодзей ты, наша барыня!
Сжіла ўсю сваю вотціну.
Ена маладых-то рабят
У салдаты атдаець,
А середовых мужікоў—
Усе ў вінакуріцкі.
Удалых малайцоў—
[Усе] на хвабріцкі,
Красных дзевушак—
Усе ў батрацуцкі,
Астаўляець ена
Сірацінкамі
Дробных дзетушак,
Малалетушак,
Старім-та ена
Не даець атдыхнуць,
Старікам не даець
За дваром праглянуць:
Ена гоніць іх
На работушку,
На работушку, ну
Усё цяжолую,
На цяжолую,
Паднявольную,
Паднявольную
Да прігонную.

## ОЙ, СОДОМА, ПАНЕ БРАЦЕ...

Ой, содома, пане браце,
Содома, содома!
Нема хлеба, пане браце,
Ні ў полі, ні дома.

Была ж у мене поляначка
Зелена, зелена,
Да пожалі, ўражы ляхі,
Без мене, без мене.

Як пошоў я, пане браце,
К пану по заплату,
А ён мене выбіў, выбіў
Да й выгнаў із хаты.

Цепер сталі ўражы ляхі
Шчэ горш на работу,—
Увесь тыдзень на паншчыне,
Шарваркі ў суботу.

Ой, ждом жа мы нядзеляныкі,
Як самога бога,
Да што б наша оддыхала,
Малая нябога.

Ой, у недзельку пораненьку
Во ўсе звоны звоняць,
Асаул да с казакамі
На паншчыну гоняць.

Мужчын ў гумно молоціці,
А баб—ва двор прасці,

Малых дзяцей да цюцюну,
У папушы класці.

Бадай жа вам, ураж'і ляхі,
Важко ў свеце жыці,
Як вы нашы помучылі
Маленькіе дзеці.



## У НАШАМ У СЯЛЕ...

У нашам у сяле
Прачулася навіна:
Клічаць войта да двара.
Клічаць войта да двара,
А сотніка да суда,
Збіралася грамада.
Сталі суды судзіці,
Каму ў салдаты іці:
Дзе пяць—там не браць,
Дзе чатыры—не веляць,
А дзе тры—тыя ўцеклі,
У разбойнічкі пашлі.
А дзе два, там нема.
У вудоўкі адзін сын,
Падыходзя пад аршын.
Ён аршыну не дайшоў,
А ў салдацікі пашоў.
Везуць его ў прыём—
Плачаць дзевушка па ём.
Сталі яго прымаці—
Пачала плакаці маці.
— Ох, ты, матушка радна,
Ты не плач па мне адна,
Тагды будзеш плакаці,
Як выйду я на базар.
Як выйду я на базар,
Ды ўдару ў барабан—
Тагды матушка рыдай.

## У НАШАГА КАРАЛЯ...

У нашага караля
Вышла нова навіна.
Клічуць войта са двара,
А сотніка са сяла:
— Хадзі, сотнік, хадзі, войт,
Хадзі, войт, бічавойт,
Будзем думаць ды гадаць,
Каго ў рэкруты аддаць:
— А дзе шэсць, там не ўлезць;
— А дзе пяць, там не ўзяць;
— Дзе чатыры, не веляць;
— А дзе тры, уцяклі;
— А дзе два, там радня.
А за рэчкай, за ракой,
Там удовачка жыве.
У той ўдоўкі адзін сын,
Ён і гож і маладзён,
Ён і гож і маладзён,
і у рэкруты згадзён...
А ў нядзельку паранку
Пад'язджае фурманка.
І ручанькі звязалі,
І ножанькі скавалі,
І павезлі малайца
У сталічны гарадок.
Ад'язджае ад ганку:
— Бывай, родная мамка.

Саязджае са двара:
— Бывай, уся мая радня.
Саязджае са варот:
— Ты бывай, увесь народ,—
Ад бацюшкі, ад айца,
Як заблудшая аўца.
Ад матулі, ад роду,
Як бел-камень у воду.

## З-ПАД ЗЯЛЁНАГА ДУБА ЗАГАРЭЛАСЯ ГАРА...

З-пад зялёнага дуба загарэлася гара,
Эй-эй, ох-хо-хо, загарэлася гара!
А з-пад тае гарыцы вышла тры маёрыцы,
Сталі грамату пісаць, каго ў салдаты аддаць:
Аддалі б мы старыка—старык не гадзіцца,
Аддалі б мы багача—багач выкупіцца,
Аддамо мы малайца, што без маткі, без айца.
А ў нядзелю на ранку заказалі хурманку,
Пасадзілі на вазок ды павезлі ў Беласток.
Увялі яго ў прыём, стала сэрца крамянём,
Паставілі ў куточку:—Скідай штаны, сарочку!
Узялі яго пад меру—рукі, ногі памлелі,
Пасадзілі на столку ды абрылі галоўку.
Далі яму мундзірэц ды чырвоны каўнярэц,
Далі шашку і палаш:—Цяпер, братцы, я не ваш!
А ні сястры, ні брата—толькі служба праклята.

## НЫЕЦЬ, НЫЕЦЬ МАЁ СЕРЦА...

Ныець, ныець маё серца,
Чуець, чуець мая доля—
Быць малойцу ўсё ў няволі.
Усё ў няволі, усё ў няволі,
У рэкруцкім у паборэ.
Накасаліся злые людзі,
Не так людзі, як суседзі.
Не так людзі, як суседзі,
Як бліжніе прыяцелі.
Ой, бліжніе прыяцелі
У вазочку прыляцелі,
Усадзілі ў вазочак,
Самі селі ў перадочак.
Самі селі ў перадочак
Ды ўставілі ў станочак.
Русы воласы далоў знялі,
Быстрай водкай напаілі,
Быстрай водкай напаілі,
У карваць спаць палажылі:
— Спі, малойчык, не ачхайся,
На 'тца-маці забывайся.
Ой, ачхнуўся малады малойчык...
Ён жа думаў, што дзявіца.
Ён жа думаў, што дзявіца,
Ажны ранец і муніца,
Ён жа думаў, што жартушкі,
Ажны на вайне б'юць ў пушкі.
— Ах, радзімая маці,
На што ж мяне спарадзіла?
На што ж мяне спарадзіла,
Усё на гэты свет пусціла?
Лучча б было не радзіцца,
Як па свету валачыцца.

## АХ, С-ПАД ГАЮ, ГАЮ...

Ах, с-пад гаю, гаю,
Гаю зілянога,
Дарожка лежала
І кузенка стыяла.
Кузнецы кувалі,
Ціжало ўздыхалі,
Ціжало ўздыхалі,
Крепка зрабаталі.
На каго зялезы:
Ці на вора-плута,
Ці на душагуба?
— Ні на вора, ні на плута,
На мяне, дзяцінку,
Горьку сірацінку.
Нямножка ладзілі,
Молайца злавілі,
Ручэнькі звязалі,
Ножынькі скувалі,
У вазочык сажалі;
У вазочык садзілі,
У горыд вазілі,
У горыд вазілі,
У прыём увадзілі.
У прыём увадзілі,
У станок станавілі,
У станок станавілі,
Кудзеркі забрілі.
Кудзеркі забрілі,
У платок увязалі,
У платок увязалі,
Матушкі атсылалі.
Матушкі на слёзы,

А жане на радысць.
Молыдзец ачнуўся,
Кудрімі ўстрыпянуўся:
— Гаспада баярі,
Ідзе кудрі дзівалі?
— Ў платочык ўвізалі
Матушкі 'тсылалі.

## ВЫ СУСЕДЗІ, ВЫ СУСЕДУШКІ, НЯДОБРЫЕ ЛЮДЗІ...

Вы суседзі, вы суседушкі, нядобрые людзі,
На каго ж вы, суседушкі, зялезы кувалі,
Ці на вора, ці на разбойніка, ці на мяне, сіраціну?
А ў мяне ж то, у сірацінушкі, ні роду, ні племя,
Толька ў мяне, сірацінушкі, тры родных сястріцы:
Ой, большая мыя сястрічэнька брата суражаіць,
А другая мыя сястрічэнька коніка седлаіць,
Ай, трэція мыя сёстрінька брата праважаіць,
Праважаючы, мыя сёстрінька ў брата пытаіць:
— Калі ж ты, родненькій брахненька, к нам у
госці будзеш?
— Ай, у садзіку ў зялёненькім ёсць сухая й груша,
А калі ж тая сухая й груша атростычкі пусціць,
А тады ж я к вам, мае сёстрінькі, к вам у госці буду.

## ОЙ, У ГАЮ, ГАЮ ЦЁМНЫМ...

Ой, у гаю, гаю цёмным,
З-пад берэзнічку зялёнага,
Там масты ўсе машчоны,
Ўсе машчоны ды памошчаны;
Па тых мастах ахвіцэры йдуць,
Ахвіцэры йдуць, барабанючы,
За німі сіроткі, сільна плачучы.
Былі ў бацькі тры сыны, тры сыны Васілі;
Катораму сыну ў салдаты ісці:
Ці большаму, ці срэднему,
Ці самому апаследнему?
Ў большага сына дзеткі дробны,
Ў срэдняга жэна маладая,
Ў паследняга—заручаная.
Большаму сыну ў салдаты пайсці,
Да па нім жана занудзілася,
Занудзілася, затужылася,
Дзеткі дробные заплакалі.
— Ня тужы, ня плач, жана маладая,
Я сваіх дзетак па палках разашлю,
Цябе, маладзенькую, с сабой вазьму.
Чы я ў цябе, бацька, ня касіў, ня араў,
Што ты мяне, бацька, у салдаты аддаў?

## НАЛЯЦЕЛА ДА ГАЛУБЧЫКАЎ ПОВЕН ДВОР...

Наляцела да галубчыкаў
Повен двор,
Да бяруць, вязуць
Майго мілага ва двор.

І да бяруць, вязуць
Майго мілага ва двор...
Заплакала ўся
Радзіначка па ём.

Заплакала ўся
Радзіначка па ём...
Бацька плача,
Сыну грошы лічачы.

Бацька плача,
Сыну грошы лічачы...
Матка плача,
Гасцінчыкі пякучы.

Матка плача,
Гасцінчыкі пякучы...
Сястра плача,
Да рубашачку шыючы.

Сястра плача,
Да рубашачку шыючы...
Жана плача,
У вароцячках стоячы.

Жана плача,
У вароцячках стоячы...

Маленькага рабёначка
У ручачках дзержачы.

Маленькага рабёначка
У ручачках дзержачы...
Братка плача,
З поля ж каня вядучы.

Братка плача,
З поля ж каня вядучы...
— Куды ж едзеш,
Мой міленькі, слугою?

Куды ж едзеш,
Мой міленькі, слугою?
Забяры ж свайго
Да рабёначка з сабою.

Забяры ж свайго
Да рабёначка з сабою...
— Ёсць у мяне
Родны братачка ў дому.

Ёсць у мяне родны
Братачка ў даму...
Пушчай будзе
Мой рабёначак яму.

Пушчай будзе
Мой рабёначак яму...
Меншая сястра
Павады з коніка зняла.

Меншая сястра
Павады з коніка зняла...
Сваййму братачку
Большай жалі задала.

Сваййму братачку
Большай жалі задала...
— Ты ж, мой братка,
Найяснейшы сакалок.

Ты ж, мой братка,
Найяснейшы сакалок...

Да прыбудзь жа ты
Тры раз ў госці у гадок.

Да прыбудзь жа ты
Тры раз ў госці у гадок...
— Не к таму я, сістра,
Цару папаўся.

Не к таму я, сістра,
Цару папаўся,
Каб на гаду
Па тры разы ў госці вяртаўся.

## У КАНЦЫ САДЗІКУ ЗЯЛЁНАГА...

У канцы садзіку зялёнага,
Зелянога, усё й вішнёвага,
Пралягала там дарожанька,
Дарожанька запушчоная.
Шлях-дарожанька не торная,
Не тарна́я, не праезжая,
Уся калодамі завалена,
Калодамі ўсё рэкруцкімі.
Той дарожанькай рэкрут
вядуць
З калодамі, да замкнёнымі,
А за імі ўслед—жанок табун,
Да з дзіцяткамі.
Стогнуць рэкруты, з калодамі
Дубовымі закаваныя,
Плачуць гоманам дарожанькай
Рэкруцкаю праважатыя.

## ОЙ, ПАЛЫН ТЫ МОЙ, ПАЛЫН...

Ой, палын ты мой, палын,
Палын—горкая трава,
Што гарчэй цебе, палын,
Ў чыстам полі нема.
Ох, ты, служба мая, служба,
Служба белага цара,
Чэжалей цебе, служба,
Ў белым свеце нема.
Што не мушачка па гораду
Пралётавая,
Прылетае белы цар,
Наш бацюшка гасудар,
Наш бацюшка белы цар,
Александра гасудар.
Ён па сваёй слаўнай варміі
Пахажавае,
Салдатушак-рабятушак
Ён распрашуе:
— Ці харашо вам, рабяты,
На страджэнію стаяць,
На страджэнні, на вайне,
Да й на правам крыле?
— Мы стаялі на траве
Па калена у крыве,
Шчэ й па пояс ва трупе.
Камышовая трава
Многа гора прыняла,
Салдацкая галава
Многа слёз праліла.
— Не журыцеся, рабяты,
Не печальцесь, малайцы:
Скора восені даждом,

У Расею жыць пайдзём,
Некруцікаў набером.
Набіралі малайцоў
Ат матушак, ат атцоў,
Ат матушак ат радных,
Ат жоначак маладых,
Ат дзетушак ат дробных.
Дзе жанатага беруць—
Ручаём слёзы цекуць;
Дзе халостага беруць—
Галосны песні пяюць.

### ПАЛЫН, ПАЛЫН, ПАЛЫНА...

Палын, палын, палына, палын горкая трава,
Зачым, зачым, палына, у чыстом поле нема.
Ой, як жа мне, палыну, у чыстом поле бываць,
Кала мене афіцэры ўсё ў кружочак стаяць.
На іх кудры паразкудрываны,
На іх руж'і панаратываны.
Ох! Прыехаў млоды цар, наш бацюшка гасудар:
— Ці харашо, рабятушка, у стражэніі стаяць?
— О, харашо, млоды цар, наш бацюшка гасудар.
Па калені ў трупах, па капыта ў крыві.
— Ой, мае ж вы рабятушкі, не ўважайце вы таго,
Будзем лісты пісаць, па губерням рассылаць,
Пабольш рэкрута браць, будзем рэкруты браць,
Будзем браць трыццаць пяць, будзем войско
напаўняць.
Будзем браць жэнатые, будзем слёзы разліваць,
Будзем браць халастые, будуць песенькі спеваць.
Кудэма шлі жэнатые, там дуброва зелена,
Кудэма шлі халастые, там дорожка весела.

## АСІЛАК

Жылі сабе дзед да баба. Жылі ены ў згодзе: любіліса-кахаліса ўсё жыцце. Разам гаравалі, працавалі, разам аддыхалі і былі шчаслівые, толькі ў адном не даў бог ім уцехі — пражылі ўвесь век і не малі дзецей.

— Хто нам на старасці вады падасць?—часта гаварыла баба і хвартухом уцірала слёзы.

— Не плач, баба, — развражаў ее дзед, — ніхто, як бог. Ён міласлівы, мо ешчэ і парадуе нас на старасці.

Баба пакідала плакаць і ціхенька смеяласа. Бывала ее вочкі блішчаць ад радасці, дарма што твар, бы раля, ўвесь зморшчыўса. Ведама, чалавек ніколі не кідае надзеі на шчасце, бо без надзеі нельга жыць на свеце. Часта маладзіцы прасілі бабу, каб ена бабіла ў іх дзецей. Але баба ўсе адпіраласа, бо, ведама, ена баяласа, што як родзіцца ў ее дзіця, то его будуць зваць бабічам да пасміхацца.

От раз дзед быў на гумне, а баба ўхаджаласа каля печы, пекла аладкі. Толькі ось клубок агню ўскочыў праз вакно, да й качаецца па хаце. Спалохаласа баба, не ведае, што рабіць. Качаўса-качаўса клубок агню да й падкаціўса бабе пад ногі. Баба ўхваціласа за падол, але чуе—штось у ее паміж ног шалпочэ. Не паспела баба ачухацца, як чуе, што ў ее штось залезла да й варушыцца ў лане. І стала бабе так добрэ, што ена аж прысела. Млосць узела бабу. Дацягаласа ена да полу да й прылегла. Ці доўга, ці мала ена лежала, толькі ось ачухаласа трохі да й дзівіцца, што гэта было. Толькі ось заждаласа бабе, як жывое вады та аселенца, та тара́на́, та оцту. Заганяла ена дзеда, каб ён даставаў ёй усё, чаго ена пражэцца. Пачала баба гаварыць маладзіцам, чаго ей жадаецца, а тые й кажуць, што гэта на маладзэ. Пасміхаюцца маладзіцы з старое бабы, а ена ўсё не ве-

рыць. Але ось жывот пачаў круглець. Паверыла баба, што ена чараватая й рада, бы на свет нарадзіласа. Але ось і радзіўса ў ее такі гожы хлапчук, што ўсе й надзівіцца не могуць. Узелі его бабіць; бачаць, аж у его тры чортавы рабра. От батцэ абручы так і тырчаць. Падзівіліса бабы да й кажуць, што, мабыць, гэта будзе асілак. От расце хлапчук да сілы набіраецца. І скора ён стаў такі дужы, што его ні адзін самы здаравенны мужчына не мажэ пабароць. Вырас асілак, вабраўса ў сілу й давай ён збірацца ў свет. Як ні ўпрашалі дзед з бабаю, каб ён не пакідаў іх на старасці, — куды там.

— Нема чаго мне тут з вамі седзець да курэй заганяць. Я пайду шукаць варагоў і ці сам загіну, ці варагоў загублю.

Нема чаго рабіць—прыбралі дзед з бабаю свайго сынка ў велікую дарогу і с плачам правелі его за село. Тут ены папрашчаліса і вернуліса да гасподы, бо далей не маглі йсці,—вельмі ўжэ былі старэнькіе. Вайшоў Асілак—так его ўсе называлі—у цёмны лес да так засвістаў, што аж лісце пасыпаласо. Спалохаліса пташкі, пахаваліса ў веткі або ў лом. Спалохаліса дзікія зверы, пахаваліса, хто куды мог. Жыло ў гэстым лесе сем братоў, сем разбойнікаў. І ніхто не смеў прайсці або праехаць праз той лес. Жылі ены там і нікога не баяліса. От пачулі разбойнікі той свіст і пашлі проста на Асілка. Тым часам Асілак вышаў па парасельку, наклаў агню, седзіць сабе да на ражэньчыку печэ сала. Тут его разбойнікі й абступілі адусюль.

— Якіе вы людзі й што вам трэба?—пытае Асілак.

— Хто ты такі, што пасмеў прыйці ў наш лес?—пытае старшы разбойнік.

— Хто я — пазнаеш, як памераесса са мною сілаю, а лес не твой, а божы, а бог даў лес на патрэбу ўсім людзям.

— Гэта наш лес; гэта нашэ паньство. Мы тут тубыльцы с даўных час.

— Вы разбойнікі. Вы разбоям запанавалі гэтым лесам. А я прышоў, каб атабраць у вас божую пушчу і даць усім людзям.

— Гэ, які ты моцны! Давай перш паборэмаса, хто з нас дужэйшы.

— Давай.

Узяў старшы разбойнік залезную булаву ў дзесяць пудоў і стаў перад Асілкам. Асілак азірнуўся кругом, бачыць — непадалечку стаіць велізазны дуб, што ўтрох не абняць. Ухваціў гэта Асілак таго дуба да й вырваў з карэнем. Убачылі тое разбойнікі, спалохаліса й давай прасіцца, каб ён не губіў іх.

— Будзь у нас старшым, і тады мы ўсім светам запануем.

— Не, — кажэ асілак, — не затым я прышоў, каб светам панаваць, а затым, каб аслабаніць свет ад паноў, бо ўселякі чалавек сам сабе пан. А хто хочэ быць панам над другімі людзьмі, той мой вораг.

І давай тые сем братоў, сем разбойнікаў прасіцца, каб Асілак узяў іх к сабе ў таварышы.

— Добрэ,—кажэ Асілак.

І пашлі ены разам. Ідуць сабе ены да йдуць ад аднаго села да другога. І ўсюды Асілак усе адно кажэ, што ўсе людзі самі сабе паны, што ўсё бог даў на патрэбу ўсім людзям. У его адна прымоўка была. Ён ее заўжды гаварыў:

— Еж хлеб і людзям дай. І — жыві, спажывай, да людзей неўжывай.

Ведама, хто любіць кусацца, та й таго другіе кусаюць. І пачаў Асілак навучаць, каб людзі жылі ў згодзе да ў ласцэ.

— Тады,—кажэ,—ніякае ліха з імі не справіцца, бо згодная грумада, бы адзін велікі чалавек, велікі багатыр, дужэйшы ўсіх багатыроў. Пашла тая прачутка па ўсему свету. Спужаліса паны й давай лавіць Асілка. Доўга ены шукалі его да ўсе не маглі знайці. Але ось тые сем братоў, сем разбойнікаў захацелі самі быць панамі, от ены згаварыліса і выдалі Асілка. Паны рады, называюць разбойнікаў сваімі братамі, чапкуюць перад імі й даюць ім маёнткі, многа грошэй і ўселякага дабра. Давай гэта разбойнікі падмаўляць людзей, каб ены выдалі мецежніка-Асілка. Адных падмовілі, другіх застрашылі, а трэйціх падпаілі. Ведама, заўжды, многа знайдзецца дурных людзей, што ены гатовы самі ў вероўку лезці. Ены й сказалі паном, дзе жыве Асілак. Набралі гэта паны маскалёў [1] і напалі на Асілка. А ведама маскаль. Ему як прыкажуць, та ён і роднага бацька зарэжэ. Асілак тым

[1] Маскаль—салдат.

часам нічога не ведаў і лёг на супачынак. Тут маскале напалі на его, скрампавалі вероўкамі й ведуць к паном. Сабралоса многа людзей. Шкода ім Асілка, да нема чаго рабіць. Не могуць атабраць у маскалёў добрага чалавека. Ведуць маскалі Асілка ў двор, а людзі цягнуцца ззаду. Мужыкі маўчаць, апусціўшы голавы, а бабы плачуць да божкаюць: «На каго ж ты нас пакідаеш? Хто ж нам скажэ добрае славечка?» Тым часам сабралоса паноў, што хоць гаць гаці да па галавах хадзі. Бы ваўкі над падлам завылі, што Асілка злавілі. Смеюцца, жупяць, рукі паціраюць да якую прыдумаць кару, выбіраюць. Адзін кажэ — шкуру з жывога садраць; другі кажэ — ганталёў у цела назаганяць; трэйці кажэ — павесіць за язык, каб увесь свет знаў, што пан, та не мужык; чацьвёрты кажэ — язык адрэзаць да ногі перабіць, каб не мог па свету хадзіць, не мог гаварыць да людзей вучыць. Пакуль ены крычалі да кару прыдумлялі, Асілак страпенуўса, вероўкі парваў да й да людзей сказаў:

— Браткі, калі б паноў чорт узяў, та б свет беды не маў, а без гарапашнікаў-мужыкоў не было б ні хлеба, ні асьмакоў. А каб гэтае ліха зламаць, трэба ўсім, як адзін чалавек, стаць; не грызціса праміж сабою, да ад варагоў бараніцца гурбою.

Так сказаў Асілак і знік; толькі клубок агню з таго мейсца пакаціўса па землі. Спалохаліса паны й маскалі; стаяць да дрыжаць. Ачухаліса ены, азіраюцца, бы ваўкі ў ваўкаўні. А Асілак, кажуць, і да тых час па свету гуляе да людзей навучае. Але ведама, мужыкі дурные, праміж сабою грызуцца, перад панамі-варагамі гнуцца; самі себе за губы трымаюць і дабра не маюць. Але пэўне хутка тое будзе, што кожын сам сабе панам будзе. Усе людзі будуць роўна гараваць, будуць роўна панаваць.

## ПАНУ НАВУКА

«Слухайце! Бо скажу вам не казку, а шчырую праўду. Гдзе тое было—цяпер я забыўса, бо ўжэ, бачыце, старасць. А, ведама, калі з чупрыны гінуць валасы, та й памяць—з галавы. От я забыўса, што сегонячы абедаў. Не памятаю. А мо' й нічога. Трапляецца й гэ. Кажуць жэ: часам з квасам, а парою з бедою, ці бо з вадою. Цяпер ліха, жаляцца маладзічкі, а даўней было гарэй. Вы таго не памятаеце. Не вельмі даўно тое было, ешчэ за паньшчыну. За паньшчынаю было добрэ, калі трапляўса добры пан. Было так добрэ, так добрэ, што не трэ й паміраць. Добры пан даглядаў сваіх мужыкоў, як родны бацька. Але гдзе трапляліса такіе добрые паны? Больш былі не паны, а звер'ё паганае. От як трапіцца такі паганы пан, то хаць лажыса да й памірай—нічым ему не ўгодзіш. Кажуць жэ: зачыні чорту дзверы, та ён у вакно. Гэ й ліхі пан. Ты ему годзіш, шчыра робіш, а ён табе ўсё крычыць: не так, шэльма, не так, галган, не так, пся крэў,—і есць цебе поедам, есць, зневажае, здзекуецца. А чуць што — жыўцэм шкуру злупіць. Ой, цяжка, вельмі цяжка было за ліхімі панамі. А ліхіе паны немаль былі ўсе. Эгэ ж. От у вадном двары быў такі ліхі пан. Чаго толькі ён не вычвараў! Як толькі ён не наздзекуваўса над людзьмі. Сек ён і мужыкоў, і баб, старых і малых. Разцягнуць было маладзіцу або дзеўку, камысар тычэ палцам да й кажэ:

— Пане, о! — Лупі па о, — кажэ пан, і хурман начне перэсціць, што аж пара валіць. Не аднаго ён засек насмерць і нікога не баяўса. А людзей ён лічыў гарэй сабак... Што ён вычвараў над маладзіцамі да дзеўкамі, дак сорам і казаць. Не мог той паганы пан ужэ больш нічога прыдумаць, каб паздзекувацца над людзьмі, от і велеў ён, каб мужыкі прыводзілі на продаж валоў

толькі ў двор; а па канцох села паставіў рагаткі, да й не пазволіў праехаць к мужыком ніякаму купцу. От і павелі людзі ў двор валоў на продаж. Але прыведзе хто вала, а пан і кажэ:

— Што ж ты прывёў, асёл? Гэта ж не вол, а казёл.

І заплаціць, бы за казла, а то ешчэ пашле на стайню да ўсыпле ў седзібу паўсотні гарачых.

Доўга мучыліса бедныя мужыкі з такім паганым панам; доўга церпелі, бо што зробіш, каму пажалісса? Ведама, паны за панамі й цягнуць. Але ось знайшоўса адзін чалавек, што адплаціў таму пану за ўсе люцкіе слёзы да за крыўду. Дак от як тое было. Быў там удалы, здатны хлопец. Рана ён асірацеў, але й адзін узбіўса-такі на гаспадарства. Гарды быў хлопец. Ніхто его ніколі й палцам не зачапіў. Толкі от ён прыводзіць у двор на продаж вала. Убачыў пан, вышаў на ганак, да й кажэ:

— Што ж ты прывёў, асёл? То ж не вол, а казёл.

Пазірнуў той дзецюк, што блізка нікога нема кале пана, паказаў ему папліску да й пытае:

— Што гэта, пане, бероза ці лаза? Я ж прывёў к табе вала, не казла...

І давай перэсціць, давай дубасіць пана тою папліскаю. Рэзаў, рэзаў, пакуль сам здаволіўса.

— От жэ, табе, пане, за тое, што ты людзей мучыш. Калі вычухаеш гэта, та чакай мене ешчэ тройчы. Тройчы я здыму з цябе шкуру.

Сказаў гэта той дзецюк да й уцёк у лес. А ведама, якіе даўней былі цёмные да густые лесы. У іх жыві колькі хочэш, ніхто цебе не трапіць. Нашла дворня пана без памяці, так его вымесіў той дзецюк. Толькі на трэйці дзень трохі ачухаўса пан і велеў злавіць Рымшу — так звалі таго дзецюка. Да куды там — его й след ветрам замело. Немаль недзель сем пракачаўса пан; чуць чорту душу не аддаў. Якіх толькі дахтуроў не справаджалі — нічога не парадзяць, бо ему, мабыць Рымша адсадзіў печанцы. А што ўложыць хам, то не выме й пан. Але ось па не малым часе прыехаў у двор якісь венгерац. У его ўселякіх зельеў, уселякае лекобы. Рад пан, чапкуе, просіць таго венгерца, каб его палечыў. Пагасцяваў венгерац у двары, да й давай лечыць пана. Велеў гэта ён напаліць лазню; павёў пана туды, пасадзіў его на лаўцы да й велеў аберучкі дзержацца за жэрдачку, а сам пачаў націраць пана ўселякімі мазямі. Седзіць пан, трымаецца абе-

ручкі за жэрдачку да толькі крэхчэ. Але не доўга ён так седзеў: выцяг венгерац з кішэні суромец, прывязаў ім к жэрдачцы паньскіе рукі, заткнуў пану вехцем горла, узяў хварасціну да й кажэ:

— Што гэта, пане, бероза ці лаза? Я ж прадаў табе вала, не казла.

Бачыць пан, што гэта Рымша, а не венгерац, хочэ крычаць да не мажэ, бо вехаць у роце. Круціцца пан, бы ўюн на гарачай скаварадзе, а Рымша дастаў з-пад палы канчук і давай хрысціць паганага пана па чом папала. Лупіў, лупіў, немаль усю шкуру садраў, да й давай пасыпаць пана соллю. Самлеў пан ад болю. А Рымша сеў на коней да й паехаў сабе. Толькі его і бачылі. Доўга хварэў пан, чуць не паўгода пракачаўса. Усе думалі, што ўжэ ему прышлі капцы. Але ліхога й смерць не берэ: к весне трохі вычухаўса пан і хацеў ехаць за граніцу на воды, да, бачыце, грошэй нема. От і ўздумаў ён прадаць лес. Пашла по́галаска, й пачалі купцэ аглядваць лес. Таргаваліса ены, таргаваліса, дак не сходзяцца аб цану, бо пан вельмі даражыўса. Толькі ось прыехаў якісь, бачно, вельмі багаты купец. Павёў его пан аглядаць лес. От пан хваліць лес, а купец толькі ўсё адводзіць пана ў гушчарню да ў нетру. Забраліса ены ў такую гушчэчу, што й свету божага не бачно; от купец давай абдымаць хвоі, сажням мераць таўшчыну. Абхапіў і пан адну хваіну, а купец хуценька выхапіў з кішэні суромец да й прывезаў пана к хвоі. Бачыць пан, што тут не перэліўкі і хацеў крычаць, зваць на ратунак, але так спалохаўса, што нема голасу. Але ось купец паказаў ему папліску да й пытае:

— Што гэта, бероза ці лаза? Я ж, — кажа, — прадаў табе вала, а не казла.

Тут пан дагадаўса, што гэта Рымша, да аж у калошы напусціў. Тым часам Рымша запхаў пану мохам рот да й давай перэсціць па чом папала да прыказваць, каб больш не здзекваўса над людзьмі. Біў, біў Рымша пана, чуць на смерць не забіў да так і кінуў прывязаным к хвоі, бы падло. Так да вечара і ўсю ноч правісеў пан на хвоі, чуць яго нудзьга не з'ела, пакуль дворня нашла. От тут ужэ пан цэлы год пракачаўса: усё не мажэ выздаравець. Нема ачунку; от і радзяць пану ехаць на воды. Прадаў гэта пан лес, прадаў збожэ да гаўядо. Сабраў многа грошэй да й давай выладжвацца на воды. Тым ча-

сам Рымша ўсё цікуе за панам. От толькі пан выехаў з двара да ўехаў у лес, як Рымша ўжэ зрабіў на его пасгку. От ён паставіў на дарозе ганоў на трое адзін ад другога двух конных хлапчукоў с доўгімі паплiскамі. Толькі пад'ехаў пан, як першы хлапчук трасе паплiску да й крычыць:

— Што гэта, пане, бероза ці лаза?

А сам па каню да й наўцекача.

— Лапайце, лапайце! — крычыць пан, — то ж галган Рымша.

Хурман адрэзаў пастронкі, сеў на каня да й пагнаўса за хлапчуком. Але той сунуў у лес і чорт ведае, куды дзеўса. А хурман папёр дарогаю ўперад, мо' верстоў дзесяць. Тым часам заехаў уперад перад панам другі хлапчук, паказаў паплiску да й пытае:

— Што гэта, пане, бероза ці лаза?

— Лапай, лапай его галгана! — крычыць пан на лёкая, — то ж Рымша.

Ускочыў лёкай на другога каня да й пагнаўса за хлапчуком. Астаўса пан адзін. Тут Рымша высунуўса з-за выскаці да й паказаў пану паплiску:

— Што гэта, пане, бероза ці лаза? Я ж, — кажэ, — прадаў табе вала, а не казла.

І давай дубасіць да перыць пана тою паплiскаю. Збіў Рымша пана на горкае яблыко, забраў усе грошы да й пашоў сабе ў лес, у сваю землянку. Кажуць, потым Рымша много дабра рабіў людзям. Ешчэ да тых час у цемным лесе серод балота стаіць гара. Ее называюць Рымшаваю Гарою. Гэта паміж Запольем і Навоселкамі (Мозырскага уезда). Мо', ведаеце. Дак, кажуць, там жыў той Рымша. Ён дзесь схаваў многа грошэй, але нельга знайці. Землянку та я сам бачыў, як хадзіў туды ат пана з картаю. Каб пашукаць, мо', і грошы е.

## ВЯЛІКІ ГРЭШНІК

Даўно гэта дзеілася... Чула я ад старых людзей, а яны лгаць ня будуць—значыцца праўда была. Жыў на свеці дужа бальшы грэшнік. Такі грэшнік, што не было таго граха, каб ён не саграшыў. Такі быў злодзей, якога і свет не бачыў: ён і краў, і чыніў разбоі, губіў людзей без пакаяння... Нават на бога забыўся, — чорту душу запрадаў; чараваў, калі краў, абарачываўся ваўкалакам, пушчаў маравыя паветры — і не было ліку яго грахоў.

Прышлося яму паміраць. Тут такі страх яго агарнуў, што не магла яго душа пакінуць цела. Німа яму смерці, дый годзе. Тут успомніў ён на бога. Захацеў паспаведацца, душу ачысціць. Сколька не прыводзілі к яму папоў, ксяндзоў, — як раскажэць ім сваі грахі, — не даюць адпушчэння. Такі ён быў грэшнік. А смерць не прыходзіць, а душа яго мучыцца, з целам ня можа разлучыцца. Раздаў ён свае багацця ўбогім і пашоў па свету шукаць такога ўгодніка, каб замаліў яго грахі, разлучыў душу з целам. Ідзець, распытывая... Параілі яму людзі наведацца к аднаму пусцельніку, што цэлае жыцце жыў у пушчы, пасціў, еў толькі хлеб з вадой, маліўся—душу спасаў і ўгодны быў богу. І пашоў ён к яму. Прыходзіць: «Так і так, — кажа, — я дужа вялікі грэшнік, ратуй,—кажа,—мяне, выспаведуй. Ты ўгодны богу,—можа адпусціць мае грахі». Стаў спаведацца. Выслухаў яго той пусцельнік і кажа:

— Ты такі грэшнік, што цябе смерць ня возмець, зямля ня прымець, пакуль ты свае грахі на гэтым свеці не адпакутываеш, пакуль ты ня зробіш столькі дабра, каб яно твае грахі пераважыла. А датуль ты будзеш мучыцца на гэтым свеці.

І пашоў той грэшнік заслужываць спасення. Хадзіў ён на афяры і хадзіў на каленях, марыў голадам сваё цела, нанімаўся к сярдзітым гаспадарам на работу, каб яго білі, лажыўся за другіх пад розгі, служыў хворым і ўбогім, — смерць не прыходзіць. Хацеў на сябе рукі налажыць: тапіўся, вешаўся і рэзаўся — усё німа смерці, толькі мукі прынімаў надарэмна.

І так прайшло многа лет. Раз ідзець ён полем. Ідзець і праклінае сваю долю. Узяла яго злосць, што німа яму смерці. «Дакуль я буду мучыцца?» — думае ён сабе. А быў першы дзень Вялікадня. Ідзець ён і бачыць многа, многа народу на поле — пашуць, барануюць. «Што ж бы гэта значыла? — думае ён. — Першы дзень Вялікадня, такое свята, што і птушкі сяткуюць — гнёзды ня ўюць, а тут народ хрішчоны марудзіцца». Падходзіць бліжэй, бачыць: войт пахаджывае міжду работнікамі, крычыць і бізуном іх падганяе. Тыя плачуць, жалюцца: «Што гэта, — кажуць, — ты насміхаешся над намі? Хіба німа ў цябе бога ў серцы? Б'еш нас, катываеш у будні, у свята не даеш адпачынку... І нават сягоння, на Вялікдзень, вышаў на прыгон». А войт равець як апантаны, бізуном лупіць.

Глядзеў, глядзеў той грэшнік: «Во, — думае, — акаянны, — ні папушчы мяне! Думаць гэта, як народ мардуе!» Падышоў ён к войту і кажа:

— Што ты робіш? За што ты людзей мучыш?

А войт, ні слова не кажучы, як нахлысне яго бізуном чыраз лоб, — аж іскры з воч пасыпаліся. Азвярэў наш грэшнік, схваціў камень, як пусціць ім у войта... і разбіў яму чэрап. Войт і не айкнуў — сасвяжыўся. А грэшнік на тым месці пірахней рассыпаўся; кончыў пакуту — і пашла яго душа на той свет.

## З ЧАГО ЛІХА НА СВЕЦЕ

Цепер, куды ні зірні, усюды ліха на свеце. Кажуць — служыў адзін парабак, і ўсе его застаўлялі малоць у жорна. Меле ён ды меле, прыслухаецца, дак млын ў клопаце ўсё кажэ: «Там лепш, там лепш!». Наслухаўса таго парабак, пакінуў тут хаджаіна да й пашоў туды, дзе лепш. Прышоў ён і наняўса к другому хаджаіну. Але й там заставілі парабка малоць у жорна. Малоў ён малоў да й давай прыслухоўвацца, што кажуць жорна. Чуе, аж млын у клопаце ўсё кажэ: «Як і там, так і тут! Як і там, так і тут!». Кінуў парабак і таго гаспадара да й пайшоў шукаць, дзе лепш. Але колькі ён ні хадзіў, усюды застаўляюць малоць у жорна, і ены ўсё кажуць: «Як і там, так і тут! Як і там, так і тут!».

— Цяпер усюды парабкóм ліха на свеце, — кажа парабак.

Пачуў тое хаджаін, паківаў галавою да й кажа:

— Не, мабыць, цяпер усім і ўсюды ліха на свеце.

Дак от я раскажу вам, з чаго ліха на свеце. Калі праўду скажу, смекайце, а прыхлушу — не мешайце да прабачайце, бо як устарыцца, да і праўда будзе:

«Даўным-даўно спрадвеку жылі сабе людзі, пажывалі, ніякаго ліха не зналі. Свет велікі: усюды вольно: як патрудзіўса, так і пажывіўса. Не было тады ні паноў, ні мужыкоў, а так сабе людзі жылі-пажывалі да бога выхвалялі, а ні аб чым яны не клапаціліса. А бог тады ешчэ жыў на землі, прыходзіў да людзей, бы свой брат, вучыў іх, як на свеце жыць да дзетак пладзіць, дзетак пладзіць да гадаваць, да землю напаўняць. І не было на землі ні ліха, ні дабра. Людзі бы кветкі цвілі: жылі нібы птушкі ў небе, ці рыба ў вадзе; жылі, што стрэлі, то ўжывалі, — ні шчасця, ні бяды не мелі. Але што такое жыце? Так жыве і звяр'ё ў лесе, так жыве і дзераў-

ляка. Бог убачыў тое да й пачаў вучыць людзей, як лепей дастаць ім жыўнасць, як зрабіць адзежу, як схавацца ў непагоду, як лавіць рыбу ды звера, ды птушак. I пазналі тады людзі, што каму ўлажыў бог розум, той можа рабіць, што хоча.

— Гэ, мы і самі з вусамі, — кажуць людзі, — што захочам, тое зробім. Мы й самі, бы багі, толькі бог затым не даў нам сілы, улады, што баіцца, каб, землёю заўладаўшы, мы не ўздумалі і самога бога сапхнуць з неба. I адступіўса тагды бог ад гардых людзей і пашоў сабе на неба. Але пачалі святыя анёлы прасіць бога, каб не губіў людзей. I сказаў ім бог, што дае ён людзям уладу на зямлю, на ўсё, што расце на зямлі; на ўселякае звяр'ё, што жыве па лесе, па палях, балотах, на зямлі і пад зямлёю; над птушкамі, што купаюцца пад небам; над рыбамі, што ў вадзе гуляюць вольна. I будуць мець людзі ўладу над ўсім, што ёсць у зямлі й на зямлі. I будзе людзям добра жыць на свеце, калі яны не захочаць маць улады адзін над другім, а калі ўздумаюць над людзьмі панаваць, то пазнаюць і дабро і ліха, і датуль будзе ліха, пакуль людзі будуць мець уладу над людзьмі. Але я даў людзям розум, каб ены самі пазналі, з чаго ліха на свеце. I розум пакажа людзям дарогу, як ліха адалець і як так жыць і маць уладу над усім на землі, каб усім было добрэ і каб не было ліха. I просяць бога святыя анёлы, каб ён паслаў іх на зямлю служыць людзям і бараніць іх ад ліха. I пазволіў бог анёлам сцерагці людзей, а сам велеў яснаму сонейку свеціць людзям, каб ад таго свету яны набіраліса розуму, патаго вялікаго розуму, што мацней усяго на свеце. Пакланіліса анёлы богу, да й паляцелі на землю сцерагці людзей. Тым часове, пакуль святыя анёлы благалі бога, шатан не спаў. Убачыў ён, што бог адступіўса ад людзей і пакінуў землю, давай гэто падбіваць дужэйшых, каб яны бралі ўладу над слабейшымі. Давай гэта дужэйшые адбіраць ад слабейшых, што тыя зробляць. Давай іх прымушаць рабіць на себе, давай імі ўладаць, бы сваім дабром. От гэ шатан дужэйшых ды хітрэйшых зрабіў панамі і аддаў ім у рукі ўсіх слабейшых людзей. I пашло з тае пары ліха на землі, пашло такое ліха, што і сказаць не можна. Пачалі паны лавіць людзей, бы звяр'ё, пачалі іх мэнчыць, ды здзекувацца, батцэ гэта і не людзі, а гаўядо. Прылецелі святыя анёлы, сунуліса

туды-сюды, пачалі падбухторваць людзей, каб ены не слухалі паноў. Ды куды там! — стала яшчэ гарэй: паны ўзялі ўладу на землю, пачалі марыць людзей голадам, пачалі іх біць да забіваць, да аднаго на другога насылаць. Папробавалі святые анёлы сказаць, што е бог на небе, што ён усё бачыць і чуе, што за такое ліха ён пакарае паноў. Слухалі, слухалі тое паны да й кажуць:

— Э, што вы нам баеце! Вы там седзелі на небе й нічога не знаеце, што тут робіцца на зямлі. Мужык без пана абайціся не можэ: б'ецца, дзерэцца, сцеражы ты божа! Над мужыком трэ' стаяць з бізуном над каркам, да ешчэ трымаць воз лазы за хвальваркам, бо ў мужыка такая натура, што без бізуна свербіць шкура. Ён, бы свіння, напрэцца, нажрэцца, улезе ў гразь да й думае, што князь. Мужык без ушчунку не знойдзе сабе ратунку, бо ён да паньскаго дабра хцівы, а на работу — лянівы; будзе ад голаду падыхаць, а на баку лежаць. Адно ліха на свеце будзе, як мужык вольнасць дабудзе. Свет перавядзецца — адна бяда астанецца.

Учуйшы тое, святые анёлы паляцелі к богу на скаргу. Тым часове паны запанавалі й ліха б не зналі, калі б не пачалі вымышляць ды адзін другога есці, пажыраць. Паны праміж сабою б'юцца-дзяруцца, а ў мужыкоў гіры трасуцца, ды ілбы трашчаць, аж сківіцы вішчаць. І паслаў бог на землю святых анёлаў з чарцямі ваеваць, а святых пракокаў—людзей навучаць. Але ні анёлы, ні пракокі нічога не зрабілі, бо ены слаўцом, а ліха дубцом. Яны па-божаму праўду ладзяць, а паны ў вус смеюцца да чэрава гладзяць. Так да тых час мужыкі гаруюць, мужыкі працуюць, а хлеба не маюць, часам голадам падыхаюць, бо што ні зробляць, то паны здзіраюць. А паны пануюць, нічога не робляць, ды ліха вымышляюць, бо за сабою чортаву сілу маюць. І нема ратунку ад такого жыцця, бо ено ўсё бы каменя куча: зверху цяжкае каменне дробных на пясок расцерла доле; зверху іх гнетуць другія, а на тых ляжаць і цісnуць долу яшчэ цяжэйшыя; зверху ж лёг адзін велікі камень. От гэ спрадвеку і да тых час ліха людзей давіць, ліха цісне людзей зверху к долу, бы ў кучы той каменне. Трашчыць куча, трэ каменне, на жарству іх трэ на доле; трашчыць і хутко аседае, аседае ніжэ-ніжэ, да ўсё ніжыцца да долу. Мабыць скора затрашчаць падпоркі і рассыплецца ўся куча. Так і ў жыцю: усё гарэй-гарэй

бедным людзям, бо народ множыцца, а свет адзін. І так цесна людзям на зямлі, а тут і тое, што е сліма-зарнае, дужэйшыя людзі захвацілі, да й трымаюць, бы воўк зубамі. Забіваюць, паедаюць людзі адзін другого гарэй, як звер звера. Ены не знаюць таго, што адзін чалавек не мае моцы, бы чарвяк, бы тая былінка ў полі; налеціць вецер, закруціць хвіля да й сатрэ, зраўнуе з зямлёю. Быў чалавек — пхх! й нема, бы й на свет не радзіўса. Толькі тагды чалавек моцны, як ён не адзін, а жыве з другімі людзьмі ў згодзе ды ў ладу. І чаго толькі не зробляць людзі, калі возьмуцца за дзело грамадою, бы адзін чалавек. Але вось гэтаго й не зналі людзі, не зналі як жыць на свеце, каб усім было добрэ. Кожын цёг да себе, кожын кошкаў к сабе, кожын на другіх, як на варагоў пазіраў і кожын другіх варагамі маў. І затрацілі людзі ўсе свае сілы толькі на тое, каб адалець сваіх варагоў — такіх самых людзей, як і яны. Так спрадвеку біліся людзі, нішчылі адны другіх. От ад чаго ліха на свеце. Але як сказаў бог, так і сталасо: радзіўса на свеце ясны розум і пачаў расці; толькі расце ён так ціхо, так памалечку, што чалавек век пражыве, а розуму чуць на крыху прыбудзе. Адны людзі ўміраюць, другія раджаюцца. Ены пражывуць век і аслабаняюць мейсцо другім. Тые гэ ж сплодзяць дзяцей і памруць. Так і жывуць людзі, бы вада цячэ ў рацэ. А розум хоць ціхо, памалечку, ды ўсё расце, расце й паднімаецца на ногі. От як вырасце той ясны, бы сонейка, розум, да пачне свяціць людзям у вочы, то тагды ўсе пазнаюць, з чаго ліха на свеце, пазнаюць праўду, паднімуцца ў згодзе, бы адзін чалавек, прагоняць паганую нечысь і зажывуць на зямлі, бы ў раю. Мы ўжэ не даждомса таго, але, мо, нашы дзеці ці ўнукі такі дачакаюць.

## ІВАНКО ПРАСТАЧОК

У якому-тось краю жылі людзі, бы ў раю: гаравалі, працавалі, да й бяды не малі. Свет вялікі: зямлі многа; усюды вольна — працуй на хлеб, рабі ды бога хвалі. І жылі там людзі ў ласцы, у згодзе, весь дзенёчак, гаравалі, працавалі, а аб ночы аддыхалі. А прыдзе бяда — у згодзе ратаваліса ў прыгодзе: бедным хворым памагалі, дык і ўсе бяды не малі. Толькі ось адкуль узяўса й пачаў сюды летаць страшны Змей; пачаў летаць, пачаў дабро цегаць, а нарэшце й людзей хватаць да к сабе цегаць. Нахватаў ён людзей і давай будаваць сабе харомы. Нахватае адусюль людзей, зганіць іх у вадно мейсцо да й прымушае будаваць харомы, акопваць іх канавамі, абсыпаць валамі да абгароджваць частаколам, каб ніхто не мог туды ўлезці. Будуюць людзі, капаюць канавы, насыпаюць валы землі, бы горы, й патуль гаруюць, пакуль там і загінуць. А Змей хватае да валочыць туды ўсё новых да новых людзей. От набудаваў ён многа такіх агародаў, пралажыў паміж іх шляхі, летае па іх да цягае ў вагароды й людзей і людское дабро. Працуюць людзі, загаруюць што кольвек, а тут налеціць Змей, аберэ ўсё, бы пожар, да й запрэ к сабе ў вагароды, а людзі пухнуць ад голаду, да мруць, бы мухі. І чым далей, тым гарэй: няма спосабу, няма ратунку ад ліхога Змея. Тым часам тыя людзі, што іх Змей навалачыў у сваe харомы, жаруць сабе людское дабро, нічога не робляць, да только сало гадуюць. Дак от не только Змей, але й ены, забыўшы сваіх бацькоў да братоў, пачалі па шляхох вылазіць з вагародаў, бы мурашкі з мурайейніка, пачалі хадзіць па свету, да адбіраць у людзей іх дабро. І стала людзям гарэй ад людзей, як ад Змея, бо, ведамо, гэстых ліхіх слуг Змея вельмі многа. Ены бы плойма, усюды находзяць людзей і адбіраюць

у іх, што запарвуць. Нема ў іх літасці — з жывого шкуру дзеруць. І пачалі яны лічыць людзей гарэй гаўяда, пачалі саромецца, што самі ены людзі, пачалі выдумоўваць сабе ўселякія назвіска. Хто назваў себе змеем, хто воўкам або мядзведзем ці другім зверам, хто арлом, коршакам ці другою птушкаю, хто якім кольвек дзеравам, і гэ яны ўсе далі сабе назвіска. Толькі людзей называюць яны проста людзьмі, батцэ гэто самае гарэйшае імя. Дак от скуль узяліса паны Свінскія, Ваўкі і другія... І да таго дажыліса людзі, да таго падурэлі, што й не думаюць аб лепшым жыццю. Ім здаецца, што гэ й трэ, што йнак жыць, дак і свет зведзецца.

— Гэ жылі нашы прадзеды і дзяды; трэ й нам уступіць у іх сляды, — кажуць людзі да й нічого не робляць, каб зрабіць лепшае жыцце. Але ось радзіўса ў том краю хлапчук. Быў ён вельмі благенькі, вельмі худы: да от так як заняпаў з маленства, дак так і астаўса на ўсё жыцце. Ні паны, ніхто яго не чапае, бо ён такі нехлемяжы, што нікому не патрэбен. От ён і вырас ужэ, але ўсё грае з дзецьмі, бы маленькі. І празвалі яго людзі Іванкам Прастачком. От узімку сядзіць сабе Іванко Прастачок на печы да з лучыначак цацкі складвае, а па летку пясочак перасыпае з дзецьмі. Так пражыў ён гадоў трыццаць. От раз седзіць Іванко Прастачок на землі каля прызбы, да перасыпае пясочак, аж ідуць тры старцы. Прышлі ены к хаце да й селі на прызбе аддыхаць. У селе ні жывое душы — пан усіх выгнаў на работу. Пуста, хаць падпалі. Седзяць старцы на прызбе, аддыхаюць да насыпаюць у люлькі цюцюну. Хапіліса яны, аж няма агню, да й просяць Іванка, каб ён дастаў агню люлькі закурыць. Пабег Іванко ў хату, набраў у прыгаршчы жару да й прыносіць старцом. Закурылі тыя люлькі, падзякувалі Іванку да й пытаюць яго, што ён робіць.

— Песочак перасыпаю, — кажэ Іванко, — бо што ні рабіць, то ўсё на паноў тахціць. А нашы людзі дурныя, цягнуць жылы да са ўсяе сілы пнуцца, дзела спраўляюць, а ліха маюць, бо паны ўсё к сабе грабуць, з мужыкоў шкуры дзеруць, а то й саўсім іх к сабе беруць, за свет заганяюць, б'юць, калечаць, мучаць, забіваюць і літасці не маюць.

Паслухалі тыя старцы, галавамі паківалі, узеліса за штрументы да й загралі. Першы раз загралі — Іванку

розум далі; другі раз загралі — у серцэ жаласці нагналі; трэці раз яны загралі — язык Іванку развязалі. Зніклі старцы, а Іванко Прастачок стаў ужо не дурачок, стаў за дзела брацца да й у свет збірацца. Зрабіў дудку-веселушку да заграў сабе так жаласліва да так гожа, што не толькі людзі, а зверы й птушкі сталі его слухаць, сталі ўкруг збірацца. І пачаў Іванко Прастачок па свеце хадзіць, у дудачку граць, людзей збіраць да ім праўду казаць. Як заграе, дак і ўбачаць людзі, што велікая крыўда на свеце, што адны пануюць, другія гаруюць; адны багацтву лічбы не маюць, другія з голаду падыхаюць. І разнёсса ад Іванкавае дудкі голас па усяму свету. Пачалі людзі к таму голасу прыслухáцца да розуму набірацца; пачалі думаць да гадаць, як за праўду пастаяць. От учулі па палацах той велікі голас да і спалохаліса слугі Змея, пачалі яны войска збіраць да Іванка Прастачка шукаць. Чуюць голас на ўсходзе — шамелях яны туды. Палашы блішчаць, пікі бы лес тырчаць, гарматы грымацяць, а Іванка не відаць. Стануць ціхо, бы на палеванні, слухаюць, стаяць. Аж тым часам чуюць голас на заходзе, — грае дудка-веселушка, грае, людзей навучае. Ідзе пошчак ад сяла да сяла, па полю, па лесе ад краю да краю. Кінуцца яны на захад, гоняць коней, бягуць самі, шаблямі звіняць, на зві вецер з гармат страляюць, дак Іванка не спаймаюць. Гудзе дудка, грае: то засвішчэ, то бы бусел заляскочэ, то зацягне тонка, от бы павуціна, то так дробненько шчабеча, што ў паноў аж лыткі затрасуцца, а мароз бяжыць па спіне, батцэ мыш туды залезла да й скрабецца пазурамі. От з тых часаў слугам Змея ні ў дзень, ні ў ночы ані збла спакою, бо бяды яны сабе чакаюць, бы вол доўбні. Дудка свішча, дудка грае; пошчак па свету гуляе, людзей навучае. Яго ні злавіць, ні з гармат не забіць. Ён вольна па свету гуляе, ніякіх загародак не знае; хаць сам без цела, да вялікую сілу мае. Грае, грае, а як прыдзе час, дак усіх ён параўняе. Ой ты, дудка мая, веселушка мая!

## ПАСЛУХАЙ, ГРАМАДА, ЯКАЯ НАМ РАНЕЙ БЫЛА БЯДА...

Паслухай, грамада, якая нам раней была бяда, бо тарасаўскі Даніла ўсё ведае, як даўней была. Таму мінула многа лет, таго зусім на свеце нет. А ў тыя годы жыццё было нам такого рода. Усе прахвосты з панамі былі начальнікамі над намі. Самі былі за судзей, а нас, беднякоў, не лічылі за людзей; самі смачна пілі, елі, раскошнічалі, гулялі, а нас на скаціну мянялі. Паны Ганепраўскі і Багусака па тры душы аддавалі за сабаку.

Мы ў вялікай нуждзе жылі і панам прыгон служылі: па тры дні ў тыдзень з душы. Елі адны куляшы, і хлеб быў наш з горкай мякіны. Каралі нас горш скаціны. Не было ў лесе той бярозкі, дзе б не ламалі на нас розгі. А аб маю грэшную спіну ламалі лазу і асіну. Білі нас, білі, пабівалі, цела кроўю палівалі. Аканома, старасты і войта мы баяліся горш за чорта. Прыпомніш цяпер моладзі, дык ім гэта дзіўна, а ў тыя часы было гэта для нас бесперарыўна. Нагатой і голадам нас марылі і заўсёды на нас гаварылі: «Пашахонцы вы, кроў хамская». І кожны знаў, што воля была панская.

Елі мы крапіву і шнітку. Не мелі на цела світку. Сарочкі былі грубыя, як рагожкі, такія, як і парткі на ножкі. А што тычыцца сапог для ног, дык іх і здох, а ўбачыць не мог. Ногі ў лазовых лапцях гнілі. Цела сваё ніколі не мылі.

Акрамя цяжкага прыгону мы яшчэ служылі згоны. Па вечарах на варту хадзілі — панскія двары сцерагчы. І там усю ноч дровы рубілі. А ў кухні на панскай печы спаць нельга прылегчы.

З прыгону прыдзеш дамой—чуеш плач ды вой. Дзеці сустракаюць: галосяць, есці просяць. А ім гаворыць маці: «Дзе ж вам чаго ўзяці?». І так дзеці сохнуць і скаціна дохнець. Нават галодная кошка крычыць, гледзячы ў вакошка.

Не паспееш дома прысесці, поснай пахлёбкі з'есці, як да захаду сонца войт крычыць у ваконца: «Мужчыны з цапамі, жанчыны з сярпамі заўтра на прыгон! Гасіце агонь! Уставай да зары — абедаць вары». Некалі прасці ніткі на сарочкі і світкі. І думай, чым адзецца, дзе ад бяды падзецца. Ад голаду збалеўшы, старэнькую світку адзеўшы, вадзіцы напіся і на прыгон тарапіся. Да сонца прыдзі — цяжкім цэпам круці. А раніцай аканому войт паказвае салому. І калі хоць адно знойдзе зерне — ён табе галаву зверне. А хто на прыгон запаздаў, той пад лазу і папаў. Сто лоз далі Васілю з Емельянам, што не скора шапкі знялі перад панам. Далі сто лоз і Дзянісу, што прадаў без дазволу панскага карову лысу. А ў пастуха Саўкі ваўкі свінню схвацілі, дык яго тры дні калацілі. А Грышка ссек пяць бяроз, дык яму далі пяцьдзесят лоз. А раз Даніла з гораду позна з'явіўся (у калясе вобад зламіўся), дык яму на тым жа месцы ўляпілі розаг дзвесце. Сто дваццаць далі Харламу, што вырыў на полі яму. А быўшаму ў хмяльку Міхалку не раз паламалі на спіне палку.

Так без віны нас мучылі, білі, каралі і насільна замуж выдавалі. А іншая дзяўчына не захоча—пан абвянчае з кім захоча. А маладыя панічы бралі дзевак да начы. І чуць пятнаццаць лет прыдзе́, кожная па няволі ідзе. А калі якая не з'явіцца, з такою пан інакш расправіцца. Меўшы над ёю ўласць — сто пляцей дасць. А замужнюю, калі захоча, кожную прывалоча і спіць з ёю ноч, а мужа адганяе проч. Мужы бунтавалі і іх ў жалезы кавалі. А часам і малодкі насілі на нагах калодкі.

І цяжарныя жанчыны на прыгон хадзілі. Там жа яны і раджалі, накрыўшыся палой. Цягнецца хворая дамой і да нядзелі калыша дзіця ў калыбелі. А ў нядзелю трэба ахрысціць і папу прынесці курыцу, яйцо і палаценца, каб у кнігу запісаў младзенца. А як дзіця падрасце—у пана свіней пасе. І на гэту грэшную душу́ пан не дабавіць куляшу.

Дык вось як мы жылі, гаравалі, пакуль паноў не прагналі.





# АСНОЎНАЯ ЛІТАРАТУРА, ЯКАЯ ВЫКАРЫСТАНА Ў КАМЕНТАРЫЯХ,[1] І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ


Акимова—А. Т. Акимова, Фольклор Саратовской области, кн. I, Саратов, 1946.

Антонович и Драгоманов—Вл. Антонович и М. Драгоманов, Исторические песни малорусского народа, т. I, Киев, 1877.

Афанасьев—Народные русские сказки А. Н. Афанасьева, т. I—III, ГИХЛ, М., 1957.

Бессонов—П. Бессонов, Белорусские песни, М., 1871.

Бирюков—Урал в его живом слове. Дореволюционный фольклор. Собрал и составил В. П. Бирюков, Свердловск, 1953.

Бирюков, Фольклор — В. П. Бирюков, Фольклор Урала, вып. I, Челябинск, 1949.

Бродский — К воле. Крепостное право в народной поэзии. Составил И. Л. Бродский, М., 1911.

Булгаковский—Д. Т. Булгаковский, Пинчуки, СПб, 1890.

Бычко-Машко—И. Е. Бычко-Машко, Сборник народных песен, записанных в пос. Калюга-Комарно Рогознянской волости Кобринского уезда Гродненской губ., СПб, 1911.

Бядуля—З. Бядуля. Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных песнях і казках, Мінск, 1924.

Гильтебрандт—Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае. Под ред. П. Гильтебрандта, Вильно, 1866.

Гильфердинг—О. Ф. Гильфердинг, Онежские былины, т. I, изд. 4-е, М.—Л., 1949; т. II, 1950; т. III, 1951.

Головацкий—Я. Головацкий, Народные песни Галицкой и Угорской Руси, т. I, 1878.

Дембовецкий—А. С. Дембовецкий, Опыт описания Могилевской губернии, кн. I, Могилев, 1882.

Дарэв. і Сав. Бел.—Дарэвалюцыйная і Савецкая Беларусь у народнай творчасці, Выд. АН БССР, Мінск, 1938.

Дмитриев—М. А. Дмитриев, Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края, Вильно, 1869.

Добровольский — В. Н. Добровольский, Смоленский этнографический сборник, ч. I—IV, СПб, 1891—1903.

Жанч. у бел. н. тв.—Жанчына ў беларускай народнай творчасці.


[1] Каментарыі склалі К. Кабашнікаў (да раздзела I) і М. Грынблат (да раздзелаў II і III).

Склалі Э. Галубок, А. Калечыц і Н. Багдановіч. Пад рэд. М. М. Нікольскага і М. Я. Грынблата, Мінск, 1940.
Зданович—Н. К. Зданович, Народные песни Западной Белоруссии, М., 1931.
Зеленин—Д. К. Зеленин, Описание рукописей Ученого архива императорского Русского географического общества, вып. I—III, Петроград, 1914—1916.
Истомин—Песни русского народа, собранные в Вологодской, Вятской и Костромской губерниях. Зап. слова Ф. М. Истомин, напевы—С. М. Ляпунов, СПб, 1899.
Карский—Е. Ф. Карский, Белорусы, т. III, ч. 1, Петроград, 1916.
Киреевский—Песни, собранные П. В. Киреевским, вып. I—X, М., 1860—1874.
Косич—М. И. Косич, Литвины-белорусы Черниговской губернии, СПб, 1902.
Левченко—М. Левченко, Казки та оповідання з Поділля, Київ, 1928.
Лисенко—М. В. Лисенко, Збірник українських пісень, вып. IV, Київ, 1886.
Листопадов—А. М. Листопадов, Донские исторические песни, Ростов-на-Дону, 1946.
Лопатин—И. М. Лопатин и В. П. Прокунин, Сборник русских народных лирических песен, ч. I. М., 1899; ч. II, Петроград, 1922.
Лопачевский—А. Лопачевский, Сборник песен буковинского народа.
Любан—Беларускія народныя і рэвалюцыйныя песні. Склаў І. Любан, Мінск, 1938.
Малевич—С. Малевич, Белорусские народные песни, СПб, 1907.
Метлинский—А. Метлинский, Народные южнорусские песни, Киев, 1854.
Миллер—Вс. Миллер, Очерки русской народной словесности, М., 1897.
Носович—И. И. Носович, Белорусские песни, СПб, 1873.
Ончуков, Былины.—Н. Е. Ончуков, Печорские былины, СПб, 1904.
Ончуков—Н. Е. Ончуков, Северные сказки, СПб, 1908.
П. дон.—Песни донского казачества, Сталинград, 1938.
П. оренб.—Песни оренбургских казаков с напевами, в. 2, Оренбург, 1913.
П. Пинежья—Песни Пинежья. Под общей ред. Е. В. Гиппиуса, кн. II, Изд. АН СССР, М., 1937.
П. уральск.—Песни уральских казаков. Записали А. и В. Железновы, СПб, 1899.
Песні бел. нар.—Песні беларускага народа, т. I. Склаў М. Я. Грынблат, Выд. АН БССР, Мінск, 1940.
Попов—Г. М. Попов, Сборник боевых, бытовых и плясовых солдатских песен, ч. 1—2, Харьков, 1888.
Путилов—Б. Н. Путилов, Исторические песни на Тереке, Грозный, 1948.
Радченко, Гом. н. п.—Зинаида Радченко, Гомельские народные песни. Зап. РГО по отд. этнографии, т. XIII, вып. II, СПб, 1888.
Радченко, Сб. п.—Зинаида Радченко, Сборник малорусских и бе-

лорусских народных песен Могилевской губ., СПб, 1911.
Розенфельд—А. Розенфельд, Белорусские народные песни. Сб. отд. р. яз. и слов. Акад. наук, т. LXXVII, № 3, СПб, 1904.
Романов, Бел. сб.—Е. Р. Романов, Белорусский сборник, I—IX, 1885—1912.
Романов, Мат.—Е. Р. Романов, Материалы по этнографии Гродненской губернии, I—II, Вильно, 1911—1912.
Сахараў—С. П. Сахараў, Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў, вып. I, Рыга, 1940.
Сержпутовский, Сказки—А. К. Сержпутовский, Сказки и рассказы белорусов-полешуков, СПб, 1911.
Сержпутоўскі, Казкі—А. К. Сержпутоўскі, Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета, М.—Л., 1926.
Сержпутоўскі, Прымхі—А. К. Сержпутоўскі, Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў, Мінск, 1930.
Соболевский—Великорусские народные песни. Изданы проф. А. И. Соболевским, т. I—IV, СПб, 1895—1902.
Тумилевич—Ф. В. Тумилевич, Песни казаков-некрасовцев, Ростов-на-Дону, 1947.
Укр. думи — Українські думи та історічні пісні, Укр. держ. выд. [М.], 1944.
Укр. нар. думи—Українські народні думи та історічні пісні, Выд. АН УРСР, Київ, 1955.
Укр. нар. пісня—Українська народна пісня, выд. 2-е, Київ, 1936.
Фридрих—И. Д. Фридрих, Фольклор русских крестьян Яунлатгальского уезда, кн. I, Рига, 1936.
Чубинский — Труды этнографическо-статистической экспедиции в Зап.-Русский край... Собраны П. П. Чубинским, т. I—VII, СПб, 1872—1878.
Чуркін—М. М. Чуркін, Беларускія народныя песні і танцы. Пад агульнай рэд. Н. Аладава і М. Грынблата, Мінск, 1948.
Шейн, Бел. нар. п.—П. В. Шейн, Белорусские народные песни, СПб, 1874.
Шейн, Мат.—П. В. Шейн, Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. I—III, СПб, 1887—1901.
Шлюбскі—А. Шлюбскі, Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны, I—II, Мінск, 1927.
Шырма—Р. Шырма, Беларускія народныя песні, загадкі, прыказкі, Мінск, 1947.
Якушкин—П. И. Якушкин, Народные стихи и песни. Сочинения, СПб, 1884.
Янчук—Н. А. Янчук, Белорусские песни Минской губернии. Изв. о-ва любителей естествозн., антропол. и этнографии, т. LXI, М., 1882.
Czeczot—Jan Czeczot, Piosnki wieśniacze z nad Niemnal Dźwiny, Wilno, 1846.
Federowski—Mich. Federowski, Lud Białoruski na Rusi Litewskiej, I—III. Krakuw, 1897—1903.
Pietkiewicz—Czesław Pietkiewicz, Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego. Warszawa, 1928.
Zieńkiewicz—Romuald Zieńkiewicz, Piosnki gminne ludu Pińskiego. Kowno, 1851.

# ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

АГТ—Архіў Геаграфічнага таварыства СССР
АСФ—Архіў Сектара фальклору Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР
бл. вар.—блізкі варыянт
вар.—варыянт
вол.—воласць
г.—губерня
дал. вар.—далёкі варыянт
зап.—запісана (-ла, -аў)
п.—павет
р.—раён
расш. вар.—расшыраны варыянт
скар. вар.—скарочаны варыянт
с.—старонка
т.—том

# ГЕРОІКА-ЭПІЧНЫЯ ТВОРЫ

## КАЗКІ І ПАДАННІ АБ БЫЛІННЫХ БАГАТЫРАХ І АСІЛКАХ

### Праз Іллюшку

Зап. у др. пал. XIX ст. у в. Гарадзішчы Быхаўскага п. Магілёўскай г. ад селяніна Кузьмы Прохарава Ісаева.

Са зб. Романов, Бел. сб., III, с. 259.

Казка шырока вядома ў Беларусі і мае шматлікія варыянты як у беларускім, так і ў рускім і ва ўкраінскім фальклоры (В. Добровольский, I, с. 397; Сержпутоўскі, Казкі, с. 47; Афанасьев, № 174 а, в, 175, 308, 309; Ончуков, № 136; Садовников, № 3; Левченко, № 436).

Гэта казка даволі поўна перадае падзеі жыцця быліннага героя Іллі Мурамца, захоўваючы не толькі сюжэт быліны, але і ідэйную накіраванасць твору і шэраг яго мастацкіх асаблівасцей. Па сутнасці тут мы маем адзіны малюнак, якому адпавядаюць быліны аб Іллі: «Первая поездка Ильи Муромца» (Ончуков, Былины, с. 78) і «Илья Муромец и Идолище» (Гильфердинг, I, с. 119) і іншыя іх варыянты.

Ісцаленне Іллі, расчыстка ляда, калі ён вырываў з карэннем дрэвы і гаціў Дунай-раку, выбар каня, выпрабаванне булазы — усё гэта добра вядомыя эпізоды па быліне аб Іллі Мурамцу. Далей у казцы ёсць невялікае адрозненне: Ілля накіроўваецца не да Кіеўскага князя Уладзіміра, а ў царства Пражора, які вельмі нагадвае Ідалішча паганае. Па дарозе ён сустракае «нягіднага Сокала», які сядзеў на дванаццаці дубах, і перамагае яго. Няцяжка ўбачыць, што вобразы нягіднага Сокала і Салаўя-разбойніка маюць шмат агульных рыс. Як Салавей-разбойнік, Сокал убіваў людзей сваім свістам.

Ілля Мурамец перамагае таксама і цара Пражора. І ў гэтай сцэне бачым амаль літаральнае падабенства да быліны аб Іллі Мурамцу і Ідалішчу (Гильфердинг, I, с. 274), калі Ілля забівае Ідалішча сваёй шапкай.

У казцы, як і ў быліне, Ілля Мурамец служыць свайму народу, працоўным людзям. Ён ачысціў свет, а потым дапамагае людзям будаваць млын. У гэтым эпізодзе, якога няма ў быліне, Ілля вельмі нагадвае асілкаў, што таксама перакідвалі вялікія камені.

У гэтым варыянце твору праявіўся рэлігійны ўплыў.

Аб гэтай казцы пісалі Карскі (Белорусы, т. III, ч. I, с. 483),

Шамбінага («Аб бытаванні быліннага эпасу ў Беларусі», часопіс «Беларусь» № 11—12, 1945), Мілер (Очерки русской народной словесности, М, 1897, с. 376—377).

### Аб Ілюшку

Зап. С. І. Васілёнак у 1949 г. у в. Рудні-Нісімкаўскай Чачэрскага р. Гомельскай вобл. ад селяніна-казачніка Гулевіча П. І., 76 год.

Гэта найбольш позні і разам з тым найбольш поўны вар. казкі, сюжэт якой арганічна аб'ядноўвае эпізоды, уласцівыя тром былінам аб Іллі («Первая поездка Ильи Муромца», «Илья и Идолище поганое», «Святогор»), расказвае аб ім з нараджэння да апошніх дзён. Асобныя эпізоды казкі невядомы ў былінным эпасе, але многія з іх маюць пэўнае падабенства з былінамі.

Як і ў быліне «Первая поездка Ильи Муромца» (Ончуков, Былины, с. 78; Гильфердинг, II, с. 317, 639) Ілля даязджае да раскрэсаў, чытае надпісы і едзе па дарозе, дзе павінен быць забіты. На сваім шляху ён сустракае мужыкоў-разбойнікаў, якім кажа, як і былінны герой: «У мяне мала дзенег, усяго чатыраста рублёў. А сертучок мой каштуе тысячу рублёў. А каню майму цаны няма».

Параўнай з былінамі:

А взять с меня са старого вам нечего.
Однорядочка у старого да во пятьсот рублей,
А петлі-пуговіцы у старого да во целу тысячу,
А мой добры конь—да цены-сметы нет.
*(Гильфердинг, III, с. 17).*

Золотой казны не случилась,
Только прилучился добрый конь,
И доброму коню у меня цены нет.
*(Гильфердинг, II, с. 727).*

Яшчэ адно месца, падобнае да быліны — зварот Іллі да Ідалішча. Ілля кажа: «У нас у канцы вёскі пан жыве, у яго многа кароў. Адна карова большая за ўсіх. Трэба тры каровы ўместа. Дык яна выпівае тры бочкі брагі. А надысь узяла ды і чацвертую выпіла. Узяла ды і лопнула. Каб з вамі гэтага не здарылася».

Параўнаем з былінай:

У нас как у попа было ростовского
Как была что корова обжориста,
А много она ела, пила, тут и лопнула,
Тебе-то поганому да также быть. .
*(Гильфердинг, I, с. 433,* гл. таксама *Гильфердинг, I, с. 122; II, с. 672, 704 і інш.).*

Канцоўка казкі такая ж, як і ў былінах. Як і Святагор, які падымаў цягу зямную, Ілля ўлез па калені ў зямлю (Рыбнікаў, I, с. 453, быліна «Святагор»).

### Як Ілья Мурамец пубядзіў Салаўя Разбойніка, Абжору, Алькадзіма

Зап. у др. пал. XIX ст. на Смаленшчыне.
Са зб. Добровольский, I, с. 397.

Усевалад Мілер у «Очерках русской народной словесности» (М., 1897) адзначае паўнату гэтага варыянта казкі ў параўнанні не толькі з беларускімі, але і з рускімі і ўкраінскімі казкамі (с. 377).

Асобныя эпізоды твору сведчаць аб тым, што ў Беларусі былі вядомы розныя варыянты казкі аб Іллі. У гэтай казцы ёсць эпізоды, невядомыя ў другіх варыянтах: напрыклад, князь і княгіня, калі засвістаў Салавей, хаваюць свае галовы пад пахі Іллі.

Ус. Мілер падкрэсліваў, што ў персанажы Алькадзіма прасвечваюць некаторыя рысы Святагора.

### Безногі багатыр

Зап. у пач. XX ст. у Слуцкім п. Мінскай г.

Са зб. Сержпутоўскі, Казкі, с. 47.

Адзін з варыянтаў казкі пра Іллю, які мае меншае сюжэтнае падабенства да іншых твораў аб гэтым героі.

Цудоўныя памочнікі — заяц, воўк, а таксама некаторыя эпізоды набліжаюць казку да чароўных, але галоўны сэнс твору — гераізацыя подзвіга ў імя вызвалення народа ад варожых сіл.

У сюжэтнай канве трэба адзначыць наступныя звенні, паходжанне якіх можа быць звязана з багатырскім эпасам: нараджэнне хлапчука без ног, цудоўнае яго ісцаленне, выбар багатырскага каня, выпрабаванне булавы, што мы маем у казках і былінах аб Іллі Мурамцу. Наступныя эпізоды больш нагадваюць быліну аб Дабрыні. Герой казкі, як і герой быліны «Дабрыня і змей» (гл. Ончуков, Былины, с. 247; Гильфердинг, I, с. 124), перамагае змея, які хватаў людзей, нарэшце, захваціў царскую дачку, і аслабаняе ад ворага родную зямлю. Таксама, як і ў былінах «Алеша Попович женится» (Ончуков, Былины, с. 389), «Добрыня и Алеша» (Гильфердинг, I, с. 273) і інш., героі казкі абмануты сваім сябрам, які мае намер жаніцца на яго нявесце (жане), і, як героя быліны, нявеста пазнае яго ў апошні момант па палове хусткі (у быліне па пярсцёнку), якую яна аддала яму ў знак абручэння.

### Аб рыцару, як ён забіў змея

Зап. у канцы XIX ст. у в. Ходараўцы (каля Сухаволі) на Гродзеншчыне ад селяніна Фелікса Дзежкі.

Са зб. Federowski, II, I, с. 82—84.

Акад. Я. Ф. Карскі адзначаў, што толькі ў гэтым варыянце захаваліся такія эпізоды гераічнага эпасу, як сустрэча Іллі з разбойнікамі і пір у князя (гл. Карский, с. 489). Як мы бачылі, гэтыя эпізоды ёсць і ў другіх, пазнейшых запісах.

### Ілья

Зап. у др. пал. XIX ст. у Магілёўскай г.

Са зб. Романов, IV, с. 17, № 11.

### Іван Прекрасны і князь Ладымяр

Зап. Н. Котляр у др. пал. XIX ст. у Чарнігаўскай г. Навазыбкаўскага п. в. Дзяніскавічы (мяжуе з Гомельскай вобл. БССР).

Са зб. Шейн, Мат. II, с. 168.

Казка цікава тым, што яе героі князь Ладымяр і Алёша вельмі нагадваюць герояў былін кіеўскага цыклу. На гэту казку звярнуў увагу акад. Я. Карскі, які бачыў у ёй «водгук старын аб князі Уладзіміры і Іване Гадзінавічы, ці хутчэй Даніле Лаўчаніну... Параўноўваючы казку з былінай пра Данілу Лаўчаніна («Этнографическое обозрение», XXV, с. 25), знаходзім у становішчы галоўных герояў падабенства, таму што і там князь, жадаючы ўзяць сабе прыгожую жонку Данілы, дае яму цяжкія даручэнні» (Карский, с. 492).

Сюжэтнае падабенства з гэтым творам маюць некаторыя рускія казкі (гл. Афанасьев, № 212, 216).

### Кірыла Кажамяка

Зап. О. Барысевіч у др. пал. XIX ст. у в. Іодзічы Грыцэвіцкай вол. Слуцкага п. Мінскай г.

Са зб. Шейн, Мат., II, с. 170.

Паданне мае шматлікія варыянты ў беларускім, рускім і ва ўкраінскім фальклоры (Романов, Бел. сб., III, с. 214; Афанасьев, № 148; Чубинский, Труды, т. II, с. 129, № 45).

На аснове народнага твору паявілася летапіснае паданне. У Лаўрэнцьеўскім летапісу пад 992 годам маецца «Сказание о Кожемяке». Аб шырокай распаўсюджанасці твору і яго папулярнасці сведчыць той уплыў, які адчуваецца на творах больш позняга часу. Напрыклад, у паданні аб Меркурыі Смаленскім адзначаецца, што Меркурый быў Кажамяка.

### Курыла Кажамяка

Зап. у др. пал. XIX ст. на Магілёўшчыне.

Са зб. Романов, Бел. сб., III, с. 217.

Гл. папярэднюю заўвагу.

### Аб Ігрі Ігравічі, аб старіке Палугрімі

Зап. у др. пал. XIX ст. на Смаленшчыне.

Са зб. Добровольский, I, с. 455.

Сустракаецца ва ўкраінскім фальклоры (вар. Левченко, № 477).

Вобраз Абжоры мае падабенства да быліннага вобраза Ідалішча паганага. Сцэна сустрэчы галоўнага героя казкі Ігра Ігравіча з Абжорам вельмі блізка да такой жа сцэны з быліны аб Іллі Мурамцы, калі той амаль тымі ж словамі кажа Ідалішчу: «Была карова — абжора... да патом аб'елась і абпілась... Акалееш і ты». *(Гильфердинг, I, с. 433).*

### Івашка Мядзвежжа Вушка

Зап. у в. Новай Бычы Быхаўскага п. Магілёўскай г. у др. пал. XIX ст. ад селяніна Паўла Іванова, 43 гады.

Са зб. Романов, Бел. сб., VI, с. 340.

Казка мае шматлікія варыянты ў беларускім, рускім і ва

ўкраінскім фальклоры (Шейн, Мат. II, с. 110; Афанасьев, № 72, 73; Ончуков, № 34, 79, 107, 241; Ю. А. Яворский, Памятники галицко-русской народной словесности, вып. I, Киев, 1915, с. 60, № 25).

На гэты твор і яго варыянты звяртаў увагу ў сваіх працах («Жывёлы ў звычаях, абрадах і вераннях беларускага сялянства», «Происхождение и история белорусской свадебной обрядности») і акад. М. М. Нікольскі, які бачыў у іх адлюстраванне татэмістычных поглядаў нашых продкаў і адзначаў старажытнасць іх паходжання. Вобраз Івашкі, а таксама вобразы Дуб-Дубавіка, Гара-Гаравіка часта сустракаюцца ў беларускім фальклоры. Магчыма, што гэта старажытныя міфічныя вобразы, у якіх адлюстраваліся погляды нашых продкаў на прыроду і іх мары аб перамозе над яе таямнічымі сіламі.

«Народны эпас, — пісаў Кіркор, — асабліва развіты ў Магілёўскай губ., а таксама ў Віцебскай... Ёсць свае тры галоўныя багатыры-велікаваны: Дубіна, Пруд, Гарыня. Гэтыя багатыры растуць не па днях, а па гадзінах і мінутах. Галавою яны дастаюць аблакоў і падарожнічаюць з аднаго канца свету ў другі. Сіла іх такая вялікая, што яны вырываюць з карэннямі векавыя дубы і іншыя дрэвы, руйнуюць цэлыя горы... Дубіна, здаецца, тое ж, што вядомы велікан-багатыр Дубыня... Гарыня добра вядомы ў славянскім эпасе. Аб Прудзе, здаецца, у першы раз чуем у беларускім эпасе, але ўсе тры валодаюць аднолькавымі якасцямі веліканаў-багатыроў» (Живоп. Россия, т. III, ч. II, СПб, 1889, с. 273).

### Іскарка-Парубак Дзевічы Сын

Зап. у др. пал. XIX ст. у Вахоцкай вол. Мсціслаўскага п. ад селяніна Нікіты Аляксеева, 45 год.

Са зб. Романов, VI, с. 254.

Казка мае шматлікія варыянты як у беларускім, так і ў рускім фальклоры (Афанасьев, № 74 в, 75—78; Ончуков, № 27; Садовников, № 1).

Два варыянты гэтай казкі «Іван Дараган» і «Аўдон Аўдонавіч і Вадавон Вадавонавіч» былі запісаны С. І. Васілёнкам у 1949 г. ад казачніка П. Гулевіча.

Асноўны змест казкі — барацьба героя-асілка з шматгаловым змеем, нават з трыма, якія «канчаюць народ». Гэта тэма ўласціва гераічнаму эпасу ўсходніх славян—і рускіх, і ўкраінцаў, і беларусаў, а таксама эпасу іншых славянскіх народаў. Як прыклад можна прывесці вядомую быліну аб змаганні Дабрыні Нікіціча са змеем, а таксама шырока вядомае паданне аб Кажамяку.

Тэма барацьбы са шматгаловым змеем, які ўвасабляе ў сабе вобраз ворага народа, адлюстравана таксама ў іншых беларускіх народных казках. Гл., напрыклад, казку «Аб Іване Гадзімавічы, Аляксеі Гадзімавічы і Стаўры Гадзімавічы» ў зборніку: Добровольский, ч. I, с. 433.

### Васька Папялышка

Зап. у др. пал. XIX ст. у Старым Сяле Мсціслаўскага п. Магілёўскай г. ад селяніна Захара Іванова, 43 гады.

Са зб. Романов, VI, с. 123.

Мае шматлікія варыянты ў фальклоры ўсходнеславянскіх народаў (Афанасьев, № 135; Шейн, Мат., II, с. 81; Левченко, № 514). Вобразы дзявіц-багатырак можна параўнаць з вобразамі паляніц з рускага эпасу (гл. быліны аб Дунаі).

### Пра Івана-Дарагана

Зап. С. І. Васілёнак у 1949 г. у в. Рудні-Нісімкаўскай Чачэрскага р. Гомельскай вобл. ад калгасніка-казачніка Пятра Іосіфавіча Гулевіча.

Гл. заўвагу да казкі «Іскарка-Парубак Дзевічы Сын».

### Асілкі

Зап. Ф. Альхімовіч у Себежскім п. Віцебскай г. у 80-х гадах XIX ст.

Друк. з рукапісу Ф. Альхімовіча «Сборник белорусских народных легенд, былин, песен с описанием некоторых обрядов, обычаев, праздников и игрищ крестьян Себежского у. Витебской губ., 1882—1890 гг.»

Аб асілках, або волатах (у цэнтральнай і ўсходняй частках Беларусі), або велькалюдах (у некаторых месцах Гродзеншчыны), у беларускім фальклоры існуе шмат паданняў і казак, якія былі запісаны ў розных месцах у розны час. Акрамя твораў, якія друкуюцца ў зборніку, паданні аб асілках ёсць таксама ў кнізе Н. Нікіфароўскага «Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи в Витебской Белоруссии», Витебск, 1897, № 2289, 2291; у зборніку: M. Federowski, I, с. 201, № 783—787; 241, № 1161; III, 2, с. 23, № 58; у рукапісах, якія захоўваюцца ў архівах РГТ і Віленскага універсітэта (Рукап. аддзел Віленскага універсітэта, А, т. 58, № 10673; А, т. 60, № 10911, 10913, 10914 і інш.).

Аб бытаванні ў народзе падобных твораў і аб адлюстраванні ў іх старажытных рыс светапогляду народа сведчыць і той факт, што з імёнамі волатаў звязваюць паходжанне асобных мясцовасцей і населеных пунктаў. Напрыклад, у Гомельскім раёне ёсць вёска Валатава, якая, па паданню, вядзе свой пачатак ад волатаў.

Гэтыя творы адлюстроўваюць старажытныя міфічныя ўяўленні людзей аб сваіх продках і, відавочна, па свайму паходжанню належаць да старажытных часоў, да дакласавага грамадства. На гэтыя паданні звяртаў увагу акад. Я. Ф. Карскі ў даследаванні «Следы богатырского эпоса» (Карский, с. 485), які бачыў у іх адгалоскі старажытнага гераічнага эпасу.

У беларускім фальклоры эпохі феадалізму таксама створаны вобразы асілкаў (казкі «Асілак», «Асілак-работнік і поп», «Іванка Прастачок», паданне «Машэка»), у якіх удала выкарыстаны традыцыі ўсходнеславянскага гераічнага эпасу, але яны істотна адрозніваюцца ад папярэдніх твораў сваім ідэйным зместам.

## БЫЛІНЫ І ПЕСНІ БЫЛІННАГА СКЛАДУ

### Илья Муромец. Повесть о сильном могущем богатыре о Илье Муромце и о Соловье Разбойнике

(По списку Имп. Публичной библиотеки, XVII, 194).

Са зб. «Русские былины старой и новой записи» пад рэд. акад.

Н. С. Ціханравава і праф. Ус. Ф. Мілера, М., 1894, с. 1—4.

Акад. Ціханраваў выказваў думку, што гэта і іншыя быліны аб Себежы былі ўзяты з больш старадаўніх спісаў, магчыма, з рукапісаў XVII ст. Праф. Шамбінага бачыў у гэтай быліне, а таксама ў іншых былінах аб Себежы адлюстраванне гістарычных падзей, адбываўшыхся на тэрыторыі Беларусі, і лічыў яе творам беларускага фальклору (гл. артыкул праф. Шамбінага «Аб бытаванні народнага эпасу ў Беларусі», часопіс «Беларусь» № 11—12, 1945). Гл. уступны артыкул.

### Вох вы, людзі, людзі старыя...

Зап. у в. Данькава Смаленскага п. ад Цімафея Грыгор'ева Міхалёва, 70 год.

Са зб. Добровольский, IV, с. 609, № 11.

Вар. вядомай рускай эпічнай песні-быліны «Каструк», або «Цямрук-Каструк», якая ўзнікла ў сувязі з гістарычным фактам жаніцьбы Івана Грознага з кабардзінскай князёўнай Мар'яй Цемрукаўнай (1561 г.). Гл. уступны артыкул.

### Сяўрук

Зап. у др. пал. XIX ст. у Суражскім п. Чарнігаўскай г. Былы Суражскі п. межаваў з Магілёўскай г.

Са зб. Шейн, Мат. II, с. 178.

Варыянты гл.: В. Добровольский, IV, с. 609, а таксама зборнікі былін: Рыбников, I, с. 402, 480, 483; II, с. 35, 386, 568, 687; Гильфердинг, I, с. 257; Ончуков, Былины, с. 307, 363, 397.

Я. Карскі (гл. Карский, III, I, с. 492—493) падкрэслівае вялікае падабенства гэтага твору да гістарычных песень аб Маструку Цемрукавічы па свайму сюжэту і, наогул, да быліннага эпасу па мастацкіх асаблівасцях. Пачатак песні ён параўноўвае з «старынай аб Салаў'і Будзіміравічы». Указваючы на непаўнату запісу, Я. Карскі дадаваў, што прозвішча Сяўрук вельмі часта трапляецца паміж беларусаў.

Да гэтага можна дадаць, што не толькі прозвішчы, але і назвы вёсак Сяўрук ёсць у Беларусі (Гомельскі р., в. Сеўрукі). Трэба падкрэсліць таксама, што мова твору як з боку фанетыкі, так і лексікі прадстаўляе сабой адзін з дыялектаў беларускай мовы.

Гл. уступны артыкул.

### Белорусская былина

Тэкст (урывак) і мелодыю зап. А. Л. Маслаў у 1908 г. у Краснянскім п. Смаленскай г. Гарманізаваў гэту быліну вядомы рускі кампазітар Іпалітаў-Іванаў («Съезд богатырей»).

З кнігі «Труды музыкально-этнографической комиссии Общества любителей естествознания, антропологии и этнографии при Московском университете», т. IV, с. 106.

Аб гэтым творы гл. артыкул Янчука «О музыке былин» у зборніку «Памятники мировой литературы» (Русская устная словесность. Былины, исторические песни, М., 1919, с. 545). Гл. уступны артыкул.

### Быліна аб Барысе і Глебе і Святаполку Акаянным

Зап. у Барысаўскім п. Мінскай г. у др. пал. XIX ст.

Друк. са зб. П. Авенариус, Образцы белорусского наречия разных местностей, сб. ОРЯС ИАН, СПб, 1890, т. XLVI, с. XIII—XX.

У аснове твору ляжыць гістарычны факт: па загаду Святаполка ў 1015 г. былі забіты Барыс і Глеб, сыны Кіеўскага князя Уладзіміра.

Па сваіх мастацкіх асаблівасцях, і ў першую чаргу па асаблівасцях вершаскладання, гэты твор набліжаецца да быліннага эпасу. Гл. уступны артыкул.

### Пра багатага

Зап. Н. Корабаў у др. пал. XIX ст. у б. Полацкім п. Віцебскай г.

Са зб. Шейн, Мат., II, с. 585—587.

Твор змешчан у раздзеле духоўных вершаў, але ў сваёй аснове гэта народны твор, блізкі да эпічных песень па сваіх мастацкіх асаблівасцях. Аналагічныя творы прадстаўлены ў зб.: Шейн, т. II, с. 581, 591, Романов, вып. V і інш. Гл. уступны артыкул.

### Прыехаў дзед на паляначку...

Зап. у 1929 г. у в. Рыжкаўцы Быхаўскага р. Магілёўскай вобл. Друк. з архіва сектара этнаграфіі Інстытута гісторыі АН БССР.

Іншыя варыянты гэтага твору невядомы. Сюжэт твору—сустрэча старога багатыра на шляху з разбойнікамі і перамога над імі — з'яўляецца арганічнай састаўной часткай многіх былін і казак усходнеславянскіх народаў. Напрыклад, у быліне «Первая поездка Ильи Муромца» (Ончуков, Былины, с. 78) Ілля на шляху сустракае мужыкоў-разбойнікаў, якія хацелі яго аграбіць. Ён страляе з лука, страла ўваходзіць у зямлю-матушку да пояса, разбойнікі падаюць на зямлю, просяць літасці. Аналагічныя сітуацыі і ў іншых былінах (Ончуков, Былины, с. 221; Гильфердинг, I, с. 111, 317 і інш.). Багатыр песні—«стары дзедзя». У гэтым прозвішчы можна бачыць таксама ўплыў гераічнага эпасу, у прыватнасці былін, дзе Ілля празываецца старым, старым казакам:

Засвистел Соловей по-соловьиному,
У Старого конь учул—пал на окары.

*(Ончуков, Былины, с. 79).*

Блізкім да быліннага з'яўляецца эпічны стыль песні, яе рытміка.

## ГІСТАРЫЧНЫЯ ПЕСНІ І ПАДАННІ

### Песні

У гэтым раздзеле прыведзены запісы эпічных твораў, якія шырока адлюстроўваюць барацьбу беларускага народа з іншаземнымі захопнікамі. Гэтыя творы з'яўляюцца мастацкім выражэннем гістарычнай свядомасці беларускага народа.

На працягу XIII—XVI стст. насельніцтва Беларусі часта пакутвала ад разбойніцкіх набегаў татар. Нямала пабоішчаў з татарамі адбылося на беларускай зямлі.

Памяць аб барацьбе з татарамі захавалася ў многіх геаграфічных назвах населеных пунктаў, урочышчаў, месц даўніх пабоішчаў і ў шматлікіх паданнях і песнях.

Сярод песень ёсць такія, якія апавядаюць пра бітвы з татарамі, пра гібель воіна ў баі, але найбольшую групу складаюць песні пра татарскі палон. Песні пра захоп у палон, які разбураў сям'ю, насычаны глыбокім драматызмам.

Трэба адзначыць, што ў беларускіх песнях народ часта не робіць розніцы паміж разбойным татарынам і туркам («турчынам»), магчыма, таму, што на Беларусь часта рабілі напады татары з Крымскага ханства — васала Турцыі.

Песні пра барацьбу з татарскімі заваявальнікамі належаць да найбольш ранніх з вядомых беларускіх гістарычных песень.

**Падыймалісь чорны хмары...**

З кн. М. Гарэцкі, Гісторыя беларускай літаратуры, Вільна, 1925, с. 58.

Песня пра асаду Крычава татарамі і пра іх разгром крычаўлянамі на чале з Івашкам.

**Вох ты, ёлка, ялінка...**

Зап. у в. Радашкова Ельнінскага п. Смаленскай г. ад Міхаіла Ільіча Цюры.

Са зб. Добровольский, IV, № 10.

**Каля лесу, каля цёмнага...**

Зап. у 1939 г. у в. Шушках б. Лудзенскага п. (Латвія) ад Вікторыі Далячонак.

**На дарожку лясок нахінуўся...**

Зап. у в. Данькава Смаленскага п.

Са зб. Добровольский, IV, № 9 б.

Песня пра татарскі наезд. Вядомы ўкраінскі вар.

Малевіч, с. 64—65, № 30. Зап. у в. Малеве Слуцкага п. Мінскай г. Больш поўны вар., але пазнейшая перапрацоўка. Замест татар—«Палякі ідуць, ваяваць будуць».

Е. Романов, Мат., II, с. 147, № 164. Замест татар упамінаюцца «варшавякі»: с. 202—203, № 260. Упамінаюцца туркі.

Лопачевский, № 307.

Антонович и Драгоманов, I, с. 139—143. Тры варыянты, перадрукаваныя з раней выданых зборнікаў украінскіх песень.

**Са вечыра дождж, кі утру туман...**

Зап. у в. Хахлове Смаленскага п.

Са зб. Добровольский, IV, № 7.

**Наехалі, наехалі ўсё татарыны...**

Зап. у в. Самаходаўцы Смаленскага п. ад Лукер'і Бяляевай.
Са зб. Добровольский, IV, № 6.

**Цёмна ночка да нявідная...**

Зап. М. Д. Давідоўскі ў Гарадку Бабруйскага п. Мінскай г.
Са зб. Янчук, с. 105, № 128.
Вар. песні пра татарскі наезд.

**Цёмна ночка наступая...**

Зап. у 1932 г. у в. Кушлянах Ашмянскага п. ад сялянкі Адэлі Яновіч.

Са зб. «Белар. нар. песні і казкі», кн. II, Вільна, 1939, с. 70.

Вар. песні пра татарскі наезд, у якім замест татар называюцца туркі.

**Цёмна ночка наступае...**

Зап. Я. Я. Матулойць у в. Сакалойці Астравецкага р. Маладзечанскай вобл. ад Казі Іванаўны Шауліс, 43 год.

Другі вар. песні пра татарскі наезд, у якім называюцца туркі.

**Ой, літаў-пылітаў ды сівы гарол...**

Зап. Ф. Курыловіч у 1902 г. у м. Іказні Дзісненскага п. Віленскай г. ад Кацярыны Рубінковіч, 42 гады.

Песня пра татарскі палон.

Гэта песня і тры наступныя маюць вядомы сюжэт аб паланенні татарынам сваёй «цешчы», якая пазнае ў яго доме раней трапіўшую ў палон сваю дачку. Розныя варыянты песень пра сустрэчу паланянкі ў няволі са сваёй маткай ёсць у рускім і ўкраінскім фальклоры. Адзін рускі вар. яе запісан, у прыватнасці, М. Ю. Лермантавым (Н. П. Андреев, Русский фольклор. Хрестоматия, М., 1938, с. 285).

«Клеціўск», «Клецьска старона»—відаць, старадаўні беларускі горад Клечаск, Клецк, на які неаднаразова рабілі разбойніцкія напады татары. У 1506 г. каля Клецка татарам было нанесена цяжкае паражэнне. Клецк—зараз раённы цэнтр Мінскай вобл.

Добровольский, IV, № 5, Смаленскі п. (Скар. вар.).

Киреевский, VII, с. 56; 189—213, г. Архангельская, Сімбірская, Арлоўская, Тульская, Самарскі край.

Якушкин, с. 79—82. (Больш поўны вар.).

Антонович и Драгоманов, I, с. 286—291; у некаторых вар. замест татар упамінаюцца туркі. Ва ўсіх вар. цешча не жадае застацца на чужыне.

Укр. нар. думи, с. 59—60. Дума «Втеча з турецької неволі». Вінніцкая вобл.

**У недзелю пад панедзелак...**

Зап. селянін Парфен Фядосаў у в. Пераросце Гомельскага п. Магілёўскай г.

Са зб. Романов, Бел. сб., 1—2, с. 49—50, № 97.

Песня пра татарскі палон, у якой сюжэт «цешча зяцю-татарыну дасталася» распрацаваны ў іншым плане: маці сама, шукаючы сваю дачку-паланянку, трапляе да яе ў хату і калыша «татаранятак».

### І сон молайца скланяіць...

Зап. у вв. Данькава і Свалы Смаленскага п.
Са зб. Добровольский, IV, № 76.
Песня пра татарскі палон.

### Што па полю лібяда...

Зап. у в. Данькава Смаленскага п.
Са зб. Добровольский, IV.
Песня пра татарскі палон.
Антонович и Драгоманов, I, с. 100. Замест татар — «турчын»; з палона мілы выкупляе дзяўчыну; с. 102. З турэцкай няволі мілая выкупляе казака.

### Із-за Слуцка, із-за Клецка...

Са зб. Гильтебрандт, с. 7, № VI.

Упершыню была апублікавана ў 1839 г. Перадрукавана таксама ў русінскім (украінскім) часопісу «Зол. грамота», Вена, 1865, № 24; Гільтэбрандт памылкова лічыць гэта першай публікацыяй.

У жанравых адносінах павінна быць аднесена да духоўных вершаў або «старэцкіх» песень, аб чым сведчыць заключная частка твору, у якой гутарка ідзе аб вялікім посце, малебне, пакаянні, малітвах.

У гэтай песні можна ўгледзець водгук на падзеі, звязаныя з сялянскім паўстаннем 1595 г. на чале з украінскім казакам Налівайкам (гл. наступную заўвагу) супраць польскіх магнатаў і шляхты. Гарады Слуцк, Пінск, што ўпамінаюцца ў песні, знаходзіліся якраз у зоне дзейнасці атрадаў-загонаў Налівайкі. З другога боку, у песні, магчыма, маецца водгук і на больш позпнія падзеі, а менавіта — на паўстанне пінскіх гараджан супраць польскіх феадалаў у 1648 г., да якога далучыўся казацкі атрад Антона Нябабы (аб паўстанні ў Пінску гл. «История БССР», т. I, Минск, 1954, с. 143—145).

Імкненне да вызвалення ад прыгнёту ненавісных польскіх паноў-прыгоннікаў асабліва праявілася ў апошніх радках песні, дзе народ называе паноў «ляхамі».

Вар. песні, запісанай у г. Пінску з нязначнымі тэкстуальнымі зменамі, маецца ў рукапісным зборніку А. Шыманоўскага «Минская губ. и ее народное творчество», Кишинев, 1898, с. 412, № 278, АГТ, разр. 20, оп. 1, № 8. Да песні заўвага складальніка зборніка: «У 1648 г. палякі выразалі і патапілі ў р. Піне 14 000 пінскіх жыхароў, якіх казацкі палкоўнік Нябаба не паспеў выратаваць. Да гэтага часу адносіцца народная песня».

Янчук, с. 95, № 83, Слуцкі п. Мінскай г.

Гэта песня як і песня «Ой, калі б, калі», радам вучоных (П. В. Уладзіміравым, Н. І. Кастамаравым, Н. А. Янчуком, Я. Ф. Карскім, П. Бяссонавым) прызнавалася псеўданароднай,

штучнай, тэндэнцый. «Яркім прыкладам беларускага свецкага вершатворства другой паловы XVII—XVIII стагоддзяў» лічыць гэтыя песні і савецкі літаратуразнаўца П. П. Ахрыменка (Белорусская литература второй половины XVII—XVIII веков, Гомель, 1957, с. 13). Як ужо даводзілася адзначаць (гл. М. Грынблат, Адлюстраванне ў фальклоры барацьбы нашага народа з іншаземнымі захопнікамі. «Беларусь», Мінск, 1946, № 5—6, с. 45—47), падставай для абвяшчэння названых песень «штучнымі» паслужыла тая акалічнасць, што ўпершыню яны былі апублікаваны ў кнізе «Опыты в русской словесности воспитанников гимназий Белорусского учебного округа», Вільна, 1839, с. 79—83. Аднак больш уважлівае азнаямленне з кнігай пераконвае, што тыя, хто абвяшчаў песні штучнымі, памыляліся. У кнізе «Опыты» песні змешчаны зусім асобна ад «піітычных» практыкаванняў гімназістаў і пад асобным загалоўкам «Народные песни» з зусім дакладнай заўвагай: «Гэтыя песні... сабраны вучнямі і змешчаны ў такім відзе, датычна правапісу і вымовы, як спяваюцца ў народзе ў розных паветах Мінскай губерні». У сувязі са змешчанымі песнямі, у прыватнасці ў сувязі з песнямі «Быў на Русі чорны бог» і «У лесе ў цёмном на Высліцы», у «Опытах» надрукаван артыкул «Об остатках языческих обыкновений в Белоруссии». Усё гэта зусім выразна гаворыць аб тым, што ў адносінах змешчаных песень мы маем справу не з літаратурнай творчасцю гімназістаў, а з сапраўднымі народнымі песнямі. Характэрна, што і сам акадэмік Я. Ф. Карскі, які лічыў гэтыя песні штучнымі, быў вымушан прызнаць, што яны, «бясспрэчна, з'явіліся даўно і спачатку ў спісах, а затым у веснай перадачы былі пашыраны ў паўднёва-заходняй Беларусі... Значна пазней, у 70-х гадах, я сам чуў спяванне «Із-за Слуцка, із-за Клецка...» («Белорусы», III, 2, с. 28). Адносна песні «Быў на Русі чорны бог» вядомы гісторык Беларусі М. О. Каяловіч сведчыць, што «па зробленых даведках» яна бытавала каля Нясвіжа і Слуцка («История русского самосознания», СПб, 1865, с. 77).

Нарэшце, пытанне пра паходжанне гэтых песень не мае істотнага значэння. Асноўнае — гэта ўстаноўлены факт бясспрэчнага бытавання іх у народзе. Яны цалкам выяўлялі настроі народных мас Беларусі ў перыяд польска-шляхецкага іга.

**Ой, у городзе Могілёве дымом поцягнуло...**

Са зб. Максимович «Украинские нар. песни», ч. I, М., 1834, с. 85, № 11.

Песня пра Налівайку і ўзяцце яго войскам горада Магілёва. Северын (па іншых крыніцах—Павел) Налівайка—казацкі палкоўнік, родам з Падолля, кіраўнік сялянска-казацкага паўстання на Украіне і Беларусі супраць польскіх паноў у 1594—1596 гг. У 1595 г. з казацкім атрадам прыйшоў з Валыні на Беларусь. Войска Налівайкі разам з далучыўшыміся да яго беларускімі сялянамі і гарадской беднатой узялі Слуцк, Бабруйск, Магілёў і іншыя гарады, выгнаўшы з іх польскія войскі. Пазней, вымушаны вярнуцца на Украіну, атрад Налівайкі быў разбіт пад Лубнамі, а сам Налівайка трапіў у палон і затым пакаран.

Вобраз гэтага мужнага правадыра народнага паўстання выведзен у радзе народных твораў—песнях, думах і легендах. Ва ўкраінскім фальклоры, апрача публікуемай песні, вядома яшчэ дума пра

перамогу Налівайкі над польскім войскам пад Чыгірынам і песня пра смерць Налівайкі (гл. М. Максимович, Укр. нар. песни, ч. I, М., 1834, с. 21—24, 86—87). Барацьба Налівайкі супраць ворагаў украінскага і беларускага народаў адлюстравана таксама ў творах Т. Г. Шаўчэнкі «Нікіта Гайдай» і «У неділеньку у святую».

### Да ў роднага братачкі...

Зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у в. Новае Лядцо Пухавіцкага р. Мінскай вобл. ад Лідзіі Данільчык, 25 год, Ганны Цвірко, 18 год, і іншых калгасніц.

Са зб. «Песні бел. нар.», с. 90, № 66.

### Кукавала ды кукулечка...

Зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у в. Навасёлкі Пухавіцкага р. Мінскай вобл. ад калгасніц Мар'і Андросік, 45 год, і Мар'і Юшкевіч, 56 год.

Са зб. «Песні бел. нар.», с. 90, № 66.

### Ой, колы б, колы...

Зап. у Мінскай г. Асаблівасці мовы дазваляюць меркаваць, што песня была запісана на Піншчыне.

Са зб. Гильтебрандт, с. 116—117, № CXIX.

### Была дзела пад Палтавай...

Зап. І. К. Цішчанка ў 1956 г. у в. Студзёнай Гуце Церахоўскага р. Гомельскай вобл. ад Арцямона Паўлавіча Цімашэнкі, 80 год, б. удзельніка руска-японскай вайны 1904—1905 гг.

Скарочаны вар. вядомай рускай салдацкай песні пра Палтаўскую бітву 1709 г., яе першыя тры звароткі з нязначнымі зменамі.

Аўтарства першапачатковага тэксту песні належыць малавядомаму паэту XIX ст. І. Е. Малчанаву (1809—1881). Поўны тэкст у кн. «Сборник солдатских, казацких и матросских песен. Собрал Н. Х. Вессель, 2-е изд.», СПб, 1886, № 4. Песня шырока бытавала і па Беларусі.

### А ў дванаццатам гаду...

Зап. у в. Данькава Смаленскага п.

Са зб. Добровольский, IV, с. 623, № 26 а. Тэкст, відаць, не закончан.

Твор пра нашэсце французаў на Расію ў 1812 г., належыць да салдацкіх песень. Пачатковыя радкі пры адпаведнай замене года і імя ворага (туркам, немцам) сустракаюцца таксама ў песнях часоў руска-турэцкіх войн і ў іншых салдацкіх песнях.

### Як у нонішнім гаду...

Зап. у в. Круцілаўцы Ельнінскага п. Смаленскай г.

Са зб. Добровольский, IV, с. 623, № 26 б.

Салдацкая песня Айчыннай вайны 1812 г. Упамінанне «Дунай-

рэчкі» дазваляе меркаваць аб больш раннім паходжанні песні, пазней аднесенай да 1812 г.

Добровольский, IV, с. 623, № 26 в. Краснянскі п. Смаленскай г. Супадаюць першыя куплеты:

> У двінадцатым была ў гаду,
> Аб'явіў француз вайну
> На Расеюшку на ўсю,
> На матушку на Маскву.

У далейшым—значнае разыходжанне, з упамінаннем «Александра гасудара» і «туркыў, палякоў», што пацвярджае меркаванне аб больш раннім паходжанні песні. Гл. таксама:

Фридрих, с. 272, № 387.

Зеленин, III, с. 1061, № 95.

### Хранцуз беріг заступіў...

Зап. у в. Раманаўцы Рослаўскага п. Смаленскай г.

Са зб. Добровольский, IV, с. 624, № 26.

Салдацкая песня таксама, відаць, больш даўняга паходжання, але аднесеная да вайны з французамі 1812 г. У песні разгортваецца шырокі малюнак бою.

Фридрих, с. 253, № 359. Без пэўнага аднясення да канкрэтнай падзеі. Адзначана як рэкруцкая. Скар. вар.

### Цёмна ночка да туманіста...

Зап. у Сухім Пачынку Ельнінскага п. Смаленскай г.

Са зб. Добровольский, IV, с. 624, № 27б.

Песня больш даўняга паходжання (пра наезд татар, туркаў), якая перажыла другое нараджэнне ў час вайны з французамі 1812 г., падвергшыся адпаведнай перапрацоўцы.

### Разарёная дарожка...

Зап. у в. Радашкове Ельнінскага п. Смаленскай г. ад старой сялянкі Праскоўі Сафронавай.

Са зб. Добровольский, IV, с. 626, № 31.

Мажай—горад Мажайск у 110 км к захаду ад Масквы на р. Маскве. Ляжаў на дарозе, па якой наступаў і адступаў вораг з Масквы.

Киреевский, X, с. 7—8, № 1. Бл. вар.

Фридрих, с. 273—274, № 388. Бл. вар.

Зеленин, III, с. 1266, № 26. Вар.

### Маць Расея, маць Расея...

Зап. у в. Шагалаве Смаленскага п. ад Сяргея Голасава.

Са зб. Добровольский, IV, с. 625—626, № 29 а.

Песня пра Платава-казака, героя Айчыннай вайны 1812 г., шырока вядома ў рускім, украінскім і беларускім фальклоры. З шматлікай групы песень пра Платава «ў гасцях» у французаў.

Матвей Іванавіч Платаў (1751—1818)—граф, данскі казачы ге-

нерал, які праславіў сябе цэлым радам перамог над французамі ў вайне 1812 г., асабліва пры праследаванні французскай арміі, адступаўшай з Масквы (каля Гжацка, Духаўшчыны, Смаленска Дуброўны і інш.). Кіраваў таксама народным партызанскім рухам. Платаў стаў адным з любімых герояў народных песень. Маецца і рад легенд аб тым, як Платаў, пераапрануўшыся, пранікае ў лагер ворага і робіць там спусташэнні. Гэта легенда вызначыла і змест песень аб адважным, лоўкім і няўлоўным казаку Платаве. Народ у сваёй творчасці апявае вобраз генерала Платава. Платаў у песнях называецца казакам і набывае рысы нацыянальнага героя (Смирный, Жизнь гр. Платова, М., 1821; Е. Вейсман, Нашествие Наполеона и русские народные песни, газета «Сов. искусство» за 17/VIII-1937 г.).

Песні бел. нар., с. 188, № 122. Мінская вобл. Скар. вар.

Киреевский, IX, с. 95—96; X, с. 54—78. Розныя вар.

Зеленин, I, с. 82, Астрах. п. і г., № 51, 1848 («Платов казак генерал... ко французу в гости заезжал, француз его не узнал, за купца его считал»); с. 265, Вельскі п. Валагодск. г., № 78, 1890; с. 403, Уржумскі п. Вятск. г., № 15, 1850; II, с. 582, Калужск. г., № 24, 1849 (пра Платава); с. 671, Шчыгроўскі п. Курск. г., № 38, 1889; Сергачскі п. Ніжагар. г., № 8, 1850 (упамін. «козак Платов инирал»); с. 823, с. Котава Ніжагар. г., № 130, 1854; с. 845, Княгінінскі п. Ніжагар. г.; № 152, 1854 (упамін. Платаў); с. 933, Аланецк. г., № 40, 1870; III, с. 1025, № 46, Шадрынскі п. Пермск. г., № 46, 1864; с. 1061, Царскасельскі п. Пецярб. г., № 21, 1877; с. 1200, Самарск. г., № 22, 1854; с. 1266, Сарат. г., № 58, 1850.

Бирюков, с. 15. Курганск. вобл. Бл. вар.; с. 15—16, Пермск. вобл. Расш. вар.

Бирюков, Фольклор, с. 39—41. Вар.
Тумилевич, с. 44. Кар. вар.
Фридрих, с. 276, № 390. Кар. вар.
Листопадов, с. 90.
Путилов, с. 81—84.
Укр. думи, с. 146—147. Зап. у 1886 г. на Падоллі. Бл. вар.
Укр. нар. думи, с. 240. Зап. у 1919 г. у Вінніцкай вобл. Скар. вар.

### Маць Расея, маць Расея...

Зап. у Магілёўскай г.
Са зб. Романов, Бел. сб., I—II, с. 83—84, № 21.

Больш скар. вар. папярэдняй песні пра Платава-казака (тут—«Платона-казака»).

### Са французскага двара...

Зап. у Смаленскай г.
Са зб. Добровольский, IV.

З песень пра Напалеона, якія ўзніклі пасля разгрому французскіх войск у Расіі ў 1812 г.

Даны тэкст, бытаваўшы як самастойная песня, у радзе выпадкаў служыў канчаткам у расш. вар. песень пра Платава-казака «ў гасцях» у Напалеона: Платаў насмешліва выклікае Напалеона «пагуляць» або «паплясаць» з ім. Няўдалая пляска Напалеона з'яў-

ляецца зместам самастойнай песні літаратурнага паходжання, якая пачынаецца радкамі:

За горами, за долами
Бонапарте с плясунами
Вздумал вровень встать...

Напісаў гэту песню паэт XIX ст. Каваленскі ў наследаванне рускай народнай песні XVIII ст.:

За горами, за долами,
За лесами меж кустами
Лужочек там был...

Киреевский, X, с. 142—144; гл. таксама Г. Самарин, Патриотическая тема в песенном творчестве русского народа, Фрунзе, 1946, с. 115—116.

### Хмары цёмны, тучы грозны...

Зап. М. Ф. Давідоўскі ў канцы XIX ст. у Гарадку Бабруйскага п. Мінскай г.

Са зб. Янчук, с. 102, № 118.

Песня пра паход рускіх войск на Захад пасля выгнання французаў з Расіі.

Пазней гэта песня шырока ўвайшла ў салдацкі і сялянскі рэпертуар і адносілася да іншых падзей, напрыклад да кампаніі 1831 г.

«Міхаіл наш, князь вялікій»—вялікі рускі палкаводзец М. І. Кутузаў.

### Процiў новых варот...

З рукапіснага зборніка А. П. Шыманоўскага «Минская губерния и ее народное творчество в связи с описанием ее народных праздников и обрядов» (Кишинев, 1898, с. 414, № 280). АГТ, разр. 20, воп. 1, № 8.

Салдацкая песня пра І. Ф. Паскевіча (1782—1856), генерала-фельдмаршала, які ў 1831 г. узначаліў царскія войскі, што падаўлялі паўстанне ў Польшчы, пасля чаго атрымаў ад цара тытул князя Варшаўскага. У песні выражаны яўна варожыя адносіны салдат да гэтага царскага генерала, душыцеля польскага вызваленчага паўстання 1831 г.

У рускай гістарычнай песні з Пячоры маецца аналагічная скарга салдат на ваяводу:

Ой, да заедает-то вор да собака наше жалованье,
Ой, да перво-то хлебно, второ—мундерно, третье-то денежно...

(П. Пинежья, с. 513).

### У нядзельку раненька...

Зап. у 1908 г. у Лепельскім п. Віцебскай г.

Са зб. «Песні бел. нар.», с. 138, № 92.

Песня пра вайну з туркамі, якая не дае падстаў аднесці яе да канкрэтнага гістарычнага перыяду.

Шейн, Мат., І, 1, № 550. Вар.

### Полна вам, снягі, на талай зямле лежаць...

Зап. у Астравенскай вол. Сенненскага п. Магілёўскай г.
Са зб. Романов, Бел. сб., I—II, с. 412, № 79.

Салдацкая песня пра войны з туркамі, якую таксама нельга аднесці да якой-небудзь канкрэтнай вайны. У песні абмаляван цяжар салдацкага паходнага жыцця. Маецца рад варыянтаў у рускім песенным фальклоры (пераважна сярод салдацкіх і казацкіх песень).

Соболевский, VI, с. 123, № 153. Больш шырокі вар. Побач з туркамі ўпамінаюцца французы: «Станем привыкать мы к турецким степям, ко французским городам»; с. 123—124, № 154. Бл. вар., але інш. канцоўка; с. 125—126, № 156. Скар вар., але замест турак упамінанне пра паходы «под горы Кавказские», «под те аулы под чеченские», што сведчыць аб тым, што песня выконвалася і пры іншых гістарычных абставінах; с. 126, № 157; с. 127, № 158; с. 127—128, № 159. Далёкія, больш скар. вар. без упамінання турак.

Попов, с. 61. Больш расш. вар.

### Ты не пей, салавей, у маём саду...

Зап. на поўначы Магілёўскай г.
Са зб. Романов, Бел. сб., I—II, с. 91, № 46.

Таксама песня пра войны з туркамі без канкрэтнага гістарычнага аднясення.

### Каля рэчачкі Дняпра...

Зап. К. П. Кабашнікаў у 1956 г. у в. Ялоўцы Краснагорскага р. Бранскай вобл. (на граніцы з БССР) ад Івана Емельянавіча Ражанка, 71 год.

Песня пра вайну з туркамі. Належыць, відаць, да ранніх песень гэтага цыкла. Аднак змест песні не дазваляе аднесці яе да якой-небудзь канкрэтнай вайны.

### Ох ты, поле, поле чыстае, турэцкае...

Зап. у Магілёўскай г., дзе яна была шырока вядома.
Са зб. Романов, Бел. сб., I—II, с. 68, № 1.

Салдацкая песня пра руска-турэцкую вайну 1806—1812 гг., якую распачала Турцыя з мэтай захопу Крыма. Пашыраны ў салдацкіх песнях пра войны матыў—вораг, у даным выпадку туркі, пагражае Расіі.

«Грап Пашкевіч»—граф І. Ф. Паскевіч (1782—1856), камандаваў рускімі войскамі ў часе руска-турэцкай вайны 1806—1812 гг.

Добровольский, IV, с. 635, № 46. Смаленскі п. Скар. вар.

### Не туман жа да з мора падняўся...

Зап. у в. Алешкі Рагачоўскага п. Магілёўскай г.
Са зб. Романов, Бел. сб., I—II, с. 76, № 18.

Салдацкая песня пра руска-турэцкую вайну 1806—1812 гг. Аб гэтым гаворыць упамінанне ў ёй «цара Лександры» (рускага цара Аляксандра I, 1801—1825), «грапа Пашкевіча» (І. Ф. Паскевіча) і

«Карса-горада», які быў узят рускімі войскамі ў 1807 г. Пазней гэта ж песня з адпаведнымі зменамі была аднесена да ўзяцця Плеўны ў часе руска-турэцкай вайны 1877—1878 гг.

«Турчанка»—Турцыя.

### Трудна, трудна нам рабяты...

Зап. у Горацкім п. Магілёўскай г.

Са зб. Романов, Бел. сб., I—II, с. 413, № 81.

Салдацкая песня пра Крымскую вайну 1853—1856 гг. Для песень гэтага цыкла характэрна ўпамінанне побач з туркамі англічан і французаў (у гэтай вайне супраць Расіі выступалі ў кааліцыі з Турцыяй Англія і Францыя). У сваёй аснове гэта песня больш даўняга паходжання. Аналагічнае апісанне цяжкіх паходаў сустракаецца ў салдацкіх песнях часоў Айчыннай вайны 1812 г. і кампаніі 1831 г.

### Ах, спомнім, спомнім, браццы, сыжалеім...

Зап. у в. Шаталаве Смаленскага п. ад Фёклы Бабарычыхі.

Са зб. Добровольский, IV, с. 633, № 42 а.

Салдацкая песня часоў Крымскай вайны 1853—1856 гг. Апавядае аб становішчы рускіх салдат у Севастопальскай асадзе ў часы гераічнай абароны Севастопаля 1854—1855 гг.

### Піша, піша цар турэцкі...

Зап. М. Я. Грынблат у 1956 г. у в. Кругавец-Калінін Церахоўскага р. Гомельскай вобл. ад Філіпа Фёдаравіча Мытнікава, 76 год, б. салдата рускай арміі.

Салдацкая песня часоў руска-турэцкай вайны 1877—1878 гг., якая ўвайшла ў сялянскі песенны рэпертуар канца XIX ст. Апавяданне аб тым, як перад нападам на Расію варожы цар піша рускаму цару адпагражальнае пісьмо, сустракаецца ў многіх салдацкіх песнях, аднесеных да розных войн.

### Успомнім, браццы, как стаялі...

Зап. М. Я. Грынблат у 1956 г. у в. Кругавец-Калінін Церахоўскага р. Гомельскай вобл. ад Філіпа Фёдаравіча Мытнікава, 76 год, б. салдата рускай арміі.

Салдацкая песня пра гераічную абарону Шыпкі на Балканах у часе руска-турэцкай вайны 1877—1878 гг. Тэкст не закончаны; заключныя строфы выканаўца забыў. Пры супастаўленні гэтага тэксту з іншымі варыянтамі відаць, што другое чатырохрадкоўе—«Грыміць слава трубой»—з'яўлялася прыпевам да кожнай страфы.

Шыпка—горны перавал у Балгарыі, на якім разгарнуліся цяжкія і працяглыя баі ў часе вайны 1877—1878 гг. Больш чатырох з паловінай месяцаў перавал гераічна абаранялі рускія войскі сумесна з балгарскімі апалчэнцамі і адстаялі яго ад няспынных атак турак.

Бирюков, с. 22—23. Супадзенне першай страфы. Прыпеў, маючы аднолькавую рытмічную будову з нашым варыянтам, адрозніваецца

сваім зместам, які ўзят, відаць, з песні пра паходы ў Сярэднюю Азію і на Каўказ:

Грянем песню трубой:
Мы дралися за Дарьёй;
По горам, горам Кавказским
Раздалась слава о нас.

Другая страфа песні апавядае пра ўзяцце Карса.

**Спомнім, браццы, пра былоя...**

Зап. у в. Буловіцы Смаленскага п.

Са зб. Добровольский, IV, с. 635, № 48.

Салдацкая песня пра пераход рускіх войск праз Балканы ў часе руска-турэцкай вайны 1877—1878 гг.

Другое і апошняе чатырохрадкоўі, відавочна, з'яўляюцца прыпевам, які мае падабенства да прыпеву папярэдняй песні.

**Ні туман с моря, браццы, падняўся...**

Зап. у в. Данькава Смаленскага п. ад Сідара Івінкова.

Са зб. Добровольский, IV, с. 634, № 44.

Салдацкая песня пра ўзяцце Плеўны ў часе руска-турэцкай вайны 1877—1878 гг. Пазнейшая перапрацоўка больш ранняй песні пра ўзяцце Карса ў 1807 г.

Плеўна—горад у Балгарыі, які быў ператворан туркамі ў моцную крэпасць. 10 снежня 1877 г. пасля ўпартых баёў Плеўна была ўзята рускай арміяй і вызвалена ад турэцкіх захопнікаў.

## ПАДАННІ

**Адкуль Рубеж?**

Зап. К. П. Кабашнікаў у 1956 г. у в. Дзяражычах Лоеўскага р. Гомельскай вобл.

Паданне пра ўрочышча, месца бітвы з татарамі. Эпізод бітвы двух асілкаў, дзе перамагае рускі багатыр, збліжае паданне з былінным багатырскім эпасам (пар., напрыклад, адзінаборства Алёшы Паповіча з Тугарыным).

**Поле Татарына**

Зап. К. П. Кабашнікаў у 1956 г. у в. Танежы Тураўскага р. Гомельскай вобл. ад І. Калеснага 1855 г. нараджэння.

Паданне пра месца бітвы з татарамі.

**Пра ўрочышча Татарскі Каўдоб**

Зап. К. П. Кабашнікаў у 1956 г. у в. Абакумаве Лоеўскага р. Гомельскай вобл.

Паданне пра ўрочышча каля в. Абакумава, месца, у якім хаваліся рэшткі разгромленых татар.

**Бітва пад Лясной**

Зап. І. А. Сербаў у 1938 г. у в. Кульшычах Слаўгарадскага р. Магілёўскай вобл.

Апубл. у артыкуле М. Грынблата «Адлюстраванне ў фальклоры барацьбы нашага народа з іншаземнымі захопнікамі» («Беларусь», 1946, № 5—6, с. 47).

Паданне гэта расказвае пра разгром корпуса Левенгаупта пад Лясной. Бітва пад Лясной адбылася 28 верасня 1708 г. Перамога над шведамі пад Лясной з'явілася важным этапам Паўночнай вайны, мела вялікае значэнне ў далейшым ходзе вайны і падрыхтавала разгром шведскай арміі пад Палтавай. Таму Пётр I назваў яе пазней «матерью Полтавской баталии» (гл. Б. С. Тельпуховский. Северная война 1700—1721 гг., М., 1946).

Левенгаупт—Адам Людвіг Левенгаупт (1659—1719), шведскі генерал, камандаваў войскамі, якія былі разбіты пад Лясной. Пасля разгрому арміі Карла XII пад Палтавай (1709 г.) быў захоплен у палон.

Прапойск—цяпер Слаўгарад, раённы цэнтр Магілёўскай вобл.

### Вайна шведска

Зап. у в. Хадораўцы Сакольскага п. Гродзенскай г. ад Яна Дзежкі.

Са зб. Federowski, т. III, ч. 2, с. 5.

Сказ-успаміны аб зверствах шведаў. Даўнасць падзей прывяла да таго, што нашэсце шведаў у радзе выпадкаў, як у даным сказе, народная памяць аб'яднала з вайной супраць французаў у 1812 г.

Дрыга—вёска паблізу в. Хадораўкі, дзе быў запісан гэты сказ.

### Аб прабыванні французаў

Зап. у 1870 г. у Полацкім п. Віцебскай г. ад старой сялянкі А. Я. К. Зейне.

Са зб. Шейн, Мат., II, с. 453—460.

Сказ-успаміны пра 1812 год на Беларусі, пра тое, як беларускія сяляне пакутвалі ад французскіх акупантаў і вялі з імі барацьбу.

Дзявічак, Качарагі, Стадола, Грушкова, Калатоўка—вёскі ў б. Полацкім п.

Чарвятка—рэчка, якая выцякае з возера Чарвята, таксама ў б. Полацкім п.

Палатá—рака. Пры ўпадзенні яе ў Заходнюю Дзвіну ляжыць горад Полацк, які атрымаў ад яе сваю назву.

Сіняўскі—памешчык Шаняўскі, які валодаў маёнткам Сарнаполле і навакольнымі вёскамі.

### Пра 1812 год

Змешчана ў артыкуле Ф. Канстанцінава «Роля беларускага народа ў разгроме Напалеона» («Бальшавік Беларусі», 1945, № 4, с 59) з заўвагай: «Апавяданне, якое перадавалі з пакалення ў пакаленне сяляне в. Сімакоўкі, запісанае гісторыкам Айчыннай вайны 1812 г. Б. Харкевічам».

Паданне, у якім адлюстравана дапамога беларускіх сялян рускім войскам у вайне з Напалеонам. У аснову падання пакладзен сапраўдны факт: селянін Дзяніс з вёскі Сімакова каля Міра (зараз Карэліцкага р.) непрыкметна правёў казакаў генерала Платава праз лес і балоты з м. Стаўбцы ў м. Мір і гэтым садзейнічаў

разгрому ворага («История БССР», т. I, с. 222). Палякі, аб якіх гаворыцца ў паданні,—польскі атрад, што ваяваў на баку Напалеона супраць рускіх войск.

Стаўбцы—б. мястэчка, зараз горад, раённы цэнтр Мінскай вобл.

Мір—б. мястэчка, зараз гар. пас. Карэліцкага р. Гродзенскай вобл.

Мядзведка, Жукавічы—вёскі, якія ляжаць на захад ад Сімакова (зараз таксама Карэліцкага р.).

### Платон-казак

Зап. у в. Пераваloцы Слуцкага п. Мінскай г. ад казачніка Калесніка.

Са зб. Сержпутоўскі, Казкі, с. 166—167.

Казка пра Платава, якая вызначаецца сваімі ідэйна-мастацкімі якасцямі і народнай мовай; тут спалучаюцца пашыраныя ў народзе паданні аб галодных французах і партызанскай вайне супраць ворага з вядомымі паданнямі аб Платаве, які, перапрануўшыся, пранікае ў варожы стан, да самога Напалеона. Тут казачнік, выкладаючы эпізод прыезду Платона-казака да Напалеона, пераходзіць на песенны склад, мерную рыфмаваную мову.

Згодна беларускім паданням, Платаў геройскі загінуў, вызваляючы Беларусь ад французскіх рабаўнікоў. Так, каля в. Дашкаўка Магілёўскага р. знаходзіцца старадаўні курган. Згодна мясцоваму паданню, ён лічыцца магілай «партызана Платава», які нібыта загінуў у баі з французамі (Архіў Сектара археалогіі Ін-та гісторыі АН БССР, спр. № 7). У сапраўднасці генерал М. І. Платаў памёр у 1818 г. і пахаван у г. Навачаркаску.

Раманава—мястэчка ў б. Слуцкім п. Мінскай г.

## ЭПІЧНЫЯ ТВОРЫ АБ ПРЫГОНЕ І РЭКРУЧЧЫНЕ

### Ой чаму ж то пан Хаміцкі...

З прынёманскіх месц.

Са зб. Шейн, Мат., I, 1, с. 431—432, № 530 (Перадрукавана са зб. Czeczot, с. 25—26).

Песня была шырока вядома ў розных раёнах Беларусі, але найбольш у паўднёвых і цэнтральных раёнах. Шырокую вядомасць гэта балада мела таксама і на Украіне, адкуль яна, магчыма, і паходзіць. Ва ўкраінскіх варыянтах у якасці забойцы Бандароўны часцей за ўсё называецца пан Канеўскі, імя якога звязваецца з імем польскага магната Патоцкага, старасты Канеўскага на Кіеўшчыне. У беларускіх гістарычных песнях пра Бандароўну побач з панам Канеўскім часта ўпамінаецца пан Ганеўскі, пан Хаміцкі, Канюшны або пан крулевіч і інш. Месцам дзеяння ва ўкраінскіх вар. часцей з'яўляецца м. Багуслаў, або Багуслаўка, якое належала пану Канеўскаму—Патоцкаму, г. Луцк і інш. Месцам дзеяння беларускіх балад часцей служыць «мястэчка-Берасцечка», Слуцк, Янаў, Кіеў.

На аснове беларускіх песень пра Бандароўну, скарыстаўшы, відаць, даны вар. і два наступных вар. са зб. Шэйна, вялікі беларускі паэт Янка Купала стварыў сваю выдатную паэму «Бандароўна».

Носович, с. 269—270.
Романов, Мат., II, с. 190, № 241.
Чубинский, V, с. 426, № 818. Іншы вар.
Укр. нар. думи, с. 193—195.
Укр. думи, с. 136—138. Зап. у 1844 г. на Валыні.
Зеленин, III, с. 1121. Палтаўск. г.

**Ой, гуляла Бандароўна...**

Зап. А. Кулеш у м. Крэва Ашмянскага п. Віленскай г.
Са зб. Шейн, Мат., I, 1, с. 432—433.
Вар. балады пра Бандароўну.

**Пасею пшанічэньку...**

Зап. Я. Копаць у в. Падлессі Слуцкага п. Мінскай г.
Са зб. Шейн, Мат., I, 1, с. 433—434.
Вар. балады пра Бандароўну. Бандароўну забівае «пан крулевіч» за тое, што яна гуляла «з яго слугамі».

**Пасею пшанічаньку...**

Зап. В. Хмялеўская ў 1948 г. у в. Гатаве Мінскага р. ад калгасніцы А. М. Раманоўскай.
Вар. балады пра Бандароўну. «Пан крулевіч» забіў Бандароўну за тое, што яна гуляла «з тымі дваракáмі», з яго слугамі.

**Як у лесе на верасе...**

Зап. у 1929 г. у в. Дуброве-Гаішчы Маладзечанскага р.
Са зб. Шырма, с. 179—180.
Скар. вар. балады пра Бандароўну.

**Хадзіў, блудзіў Бандарэнька... (Бандароўна)**

Зап. у 1935 г. у Петрыкаўскім р. Гомельскай вобл. і Плешчаніцкім р. Мінскай вобл.
Са зб. «Жанч. у бел. н. тв.», с. 127—129. Урыўкі з двух запісаў. Поўныя тэксты, якія захоўваліся ў фальклорным архіве АН БССР, загінулі ў часе гітлераўскай акупацыі г. Мінска.
Варыянты песні пра Бандароўну. Падзеі разгортваюцца на Валыні і ў Кіеве. У песні захаваліся водгукі на барацьбу казацтва з польскімі панамі.

**Ой, ў мэстэчку ў Бэрэстэчку...**

Зап. у Гродзенскай г.
Са зб. Романов, Мат., II, с. 303—304, № 453.
Вар. песні пра Бандароўну.
«Капэлія грала»—музыкі, аркестр. «Забыў з ручіці»—з ружжа.

**Молодая Пудолянка...**

Зап. І. Праневіч у Драгічынскай вол. Кобрынскага п. Гродзенскай г.
Са зб. Гильтебрандт, с. 62—63, № LXIII.

Поруч з песнямі пра Бандароўну вядом рад песень, у якіх апавядаецца пра панскае сваволле часоў прыгону. Маладую дзяўчыну на кожным кроку падсцерагалі пажадлівы пан, паніч, войт, аканом. «Пан—бабская мука»—гаворыць старая народная прыказка. У феадальную эпоху ўзнікла немала песень і вусных апавяданняў аб някчасных «пакрытках», якіх зняславіў пан, аб прымусовым прыводзе прыгонных дзяўчат у панскія пакоі, аб дзікунскім праве пана на першую ноч (jus primae noctis).

Да гэтай катэгорыі належыць даная песня аб маладой дзяўчынепадалянцы, якую слугі схапілі для «пана крулевіча». «Під мычом» пан прымусіў падалянку ўзяць з ім «шлюб».

«Чыпочак» і «капка»—галаўны ўбор замужняй жанчыны.

### У каралеўскім войску конікі ірзуць...

Зап. А. Шашалевіч у 1929 г. у в. Гібалы Касцюковіцкага р. Магілёўскай вобл.

Са зб. «Песні бел. нар.», с. 83. № 60.

З групы песень аб гордай дзяўчыне, якая смела адхіляе дамаганні пана.

Можна думаць, што гэта старадаўняя воінская песня. Украінскі вар. песні, запісаны ў 1571 г., змешчан у граматыцы Яна Благаслова. (Гл. Потебня, Малорусск. нар. песни по списку XVI в., М., 1877).

Супастаўленне ўкраінскага вар. з беларускім, які змешчан у Шэйна, робіць В. Н. Перэтц. Гл. яго «Адшуканні і нагляданні ў беларускай народнай творчасці» (Зап. Аддзела гуманіт. навук ІБК, кн. II, Мінск, 1928, с. 253—255).

«Ні насіла мыя маць пы два пыясы»—маецца на ўвазе стары звычай, згодна якому жанчына, што была двойчы замужам, павінна была насіць два паясы, з якімі пасля смерці яе і хавалі.

Добровольский, IV, с. 240, № 6 б. Смаленскі п. Дал. вар.

### За гарою, за крутою...

З кн. З. Бядулі «Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных песнях і казках», Мінск, 1924, с. 116—118.

Песня пра расправу прыгонных сялян з панам. У аснову яе пакладзена сапраўдная падзея—забойства сялянамі в. Дарагінкі Нежынскага п. Чарнігаўскай г. пана-прыгонніка Селівановіча, якое было ўчынена ў 1854 г. Мяркуючы па песні, забойства пана з'явілася вынікам арганізаванага паўстання, перад якім сяляне «радзілі раду» і вынеслі свой прыгавор «за ўсю грамаду». Песня ўзнікла на Чарнігаўшчыне, але вядома і на Беларусі, пераважна ў паўднёва-ўсходняй Гомельшчыне, недалёка ад месц, дзе адбылася сама падзея. У параўнанні з украінскімі запісамі беларускія варыянты маюць нязначныя тэкстуальныя змены.

Укр. нар. пісня, с. 24. Зап. на Чарнігаўшчыне.

Укр. нар. думи, с. 266—267. Зап. у 70-х гадах XIX ст. у Ічнянскім п. Чарнігаўскай г.

### Злодзей ты, наша барыня!..

Зап. С. П. Рачынская ў 1882 г. у Парэцкім п. Смаленскай г.

Апубл. у арт. П. В. Шэйна «Крепостное право в народных пес-

нях» («Русская старина», СПб, 1886, № 2, с. 490).

Песня часоў прыгону. У ёй вельмі выразна паказана, як паны распараджаліся жыццём сялян. Ад волі пана-прыгонніка залежала аддача селяніна ў рэкруты, у «вінакуріцку», на «хвабріцку», прадажа яго ў «батрацуцкі». У песні пералічваюцца розныя віды прыгоннай эксплуатацыі сялянства.

### Ой, содома, пане браце...

З рукапіснага зб. «Простонародные белорусские песни, записанные в Минской губернии. Собрал Г. Кулжинский, 1869 г.», с. 3, № 1. (Маюцца ноты).

Апубл. упершыню ў зб. «Песні бел. нар.», с. 79—80, № 57.

### У нашам у сяле...

Зап. у Рагачоўскім п. Магілёўскай г.

Са зб. Романов, Бел. сб., I—II, с. 92—93, № 48.

Песня, у якой апісан працэс рэкруцкага набору. Яго праводзіць «грамада»—абшчына, у якой кіруючую ролю ў прызначэнні рэкрута, як відаць з песні, адыгрывалі «войт» і «сотнік»—выканаўцы волі пана і больш заможных абшчыннікаў. Несправядлівасць, якая дапускалася пры «наборы», відаць з таго, што ў рэкруты аддалі адзінага сына ўдавы—момант, які асабліва часта падкрэсліваецца ў рэкруцкіх песнях. У песні таксама адлюстраваны частыя выпадкі ўцёкаў сялян, якія гэтым ратаваліся ад рэкруччыны. «А дзе трытыя ўцяклі, у разбойнікі пашлі».

Двитриев, с. 102. Навагрудскі п. Мінскай г. Вар.

### У нашага караля...

Зап. у 1935 г. у в. Пакоціне Расонскага р. Віцебскай вобл.

Са зб. «Дарэв. і Сав. Бел.», с. 42—43.

Песня пра рэкруцкі набор. Тут таксама асноўную ролю адыгрываюць войт, якому аддае загад пан («са двара»), і соцкі. У песні рэалістычна паказана, як гэтыя панскія паслугачы ловяць адзінага ўдоўчынага сына, што схаваўся «пад снапок», вяжуць яго і «падаюць да двору»—пану. Ён і здае яго ў рэкруты, хаця «рэкрут мерай не дайшоў». Развітанне рэкрута з роднымі і ўсёй грамадой—адзін з пашыраных матываў рэкруцкіх песень.

Сахараў, с. 140, № 371. Даўгаўпілскі п.

Гильтебрандт, с. 177—179, № CLXXVII. Дзісненскі п. Віленскай г.

Шейн, Бел. нар. п., с. 378, № 705. Скар. вар.

### З-пад зялёнага дуба загарэлася гара...

Зап. у в. Пяшчанікі Беластоцкага п. (Польшча) ад Парaскі Грыцук.

Са зб. Шырма, с. 171.

Песня пра здачу «молайца» ў рэкруты з паслядоўным апісаннем працэсу. Падкрэсліваецца класавая аснова рэкруцкага набору.

### Ныець, ныець маё серца...

Зап. у в. Будне Раснянскай вол. Сенненскага п. Магілёўскай г.

Са зб. Романов, Бел. сб., I—II, с. 405, № 64.

Песня пра здачу «молайца» ў рэкруты з апісаннем усяго працэсу. Дакаранне маці за тое, што яна спарадзіла молайца на свет, належыць да пашыраных матываў рэкруцкіх песень.

Песні бел. нар., с. 143, № 95. Зап. у Горацкім р. Магілёўскай вобл. Скар. вар.; с. 144, № 95 а. Зап. у 1911 г. у Лідскім п. Віленскай г. Скар. вар.

Шейн, Мат., I, 1, № 553, Горацкі п. Магілёўскай г. Скар. вар.

Радченко, Гом. нар. п., с. 159, № 76. Вар.

**Ах, с-пад гаю, гаю...**

Зап. у Мсціслаўскім п.

Са зб. Добровольский, IV, с. 548, № 22 а.

Песня пра здачу «молайца» ў рэкруты, для якога ў кузні скавалі «зялезы» на ногі.

Шейн, Бел. нар. п., с. 379, № 708. Вар. папярэдняй песні. Лепельскі п. Віцебскай г.

**Вы суседзі, вы суседушкі, нядобрые людзі...**

Зап. у Ельнінскім п. Смаленскай г.

Са зб. Добровольский, IV, с. 546, № 17.

Песня пра провады рэкрута, якога скавалі ў «зялезы». Рэкрута праводзяць тры яго сястры—традыцыйны матыў рэкруцкіх і наогул воінскіх песень. Звычайна адна з сясцёр пытаецца ў брата, калі ён вернецца дадому? З загадкавага адказу брата вынікае, што ён ніколі не вернецца.

Дакаранне «суседзяў» трэба разумець як зварот, адрасаваны да грамады, якая здала «сірацінушку» ў рэкруты.

**Ой, у гаю, гаю цёмным...**

Зап. Н. А. Рубяроўскі ў Барысаўскім п. Мінскай г.

Са зб. Шейн, Бел. нар. п., с. 380—381, № 710.

Рэкруцкая песня з групы песень пра трох сыноў, але з іншым, рэдкім вырашэннем пытання: у рэкруты даводзіцца ісці старэйшаму брату, у якога «дзеткі дробны». У даным вар. і «апаследні» брат не зусім вольны —у яго «заручоная».

**Наляцела да галубчыкаў повен двор...**

Зап. Ф. А. Рубцоў у 1938 г. у в. Казлоўцы Парыцкага р. Гомельскай вобл. ад Ефіміі Мітраховіч, 48 год, Куліны Мітраховіч, 52 гады, і Мар'і Мітраховіч, 22 гады.

Са зб. «Песні бел. нар.», с. 145—146, № 96.

Песня пра провады рэкрута. «Бяруць, вязуць... ва двор»—значыць, да пана, які праводзіць «набор» і адпраўляе рэкрутаў.

**У канцы садзіку зялёнага...**

Зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у в. Навасёлкі Чэрвеньскага р. Мінскай вобл. ад калгасніц Мар'і Андросік, 45 год, Мар'і Юшкевіч, 56 год, і інш.

Са зб. «Песні бел. нар.», с. 154, № 102.

Песня пра адпраўку рэкрутаў. Паходная. У гэтых песнях зві-

чайна спяваецца пра дарогу, па якой вядуць рэкрутаў, і пра родных, якія з плачам іх праводзяць.

### Ой, палын ты мой, палын...

Зап. на Магілёўшчыне.

Са зб. Романов, Бел. сб., I—II, с. 82—83, № 30.

З групы песень пра цяжар рэкруцкай службы, паходнага і баявога жыцця.

Добровольский, IV, с. 630, № 36 б. Смаленскі п. Скар. вар.

Романов, Бел. сб., I—II, с. 407, № 69. Аршанскі п. Магілёўскай г. Вар.

АГТ, разр. 20, воп. I, № 10. Зап. М. Дмітрыеў у 50-х гадах XIX ст. на Навагрудчыне. Скар. вар.

### Палын, палын, палына...

Зап. Карловіч у 1873 г. у Навагрудскім п. Мінскай г. (ЦГИАЛ, фонд. 279, воп. 10, № 219, л. 75).

Вар. папярэдняй песні.

### Асілак

Зап. у 1890 г. у в. Вялікі Рожын Слуцкага п. Мінскай г. ад 100-гадовага казачніка Рэдкага.

Са зб. Сержпутовский, Сказки, с. 87—90.

Беларуская казка пра асілка, у якой традыцыйны вобраз багатыра пры захаванні ўсіх рыс, уласцівых гэтаму казачнаму герою (цудоўнае зачацце і нараджэнне, незвычайныя рост і сіла, імкненне да подзвігаў і г. д.), у эпоху барацьбы сялянства супраць прыгоннай няволі набывае новыя якасці. Асілак выступае ў новай ролі вястуна праўды і кіраўніка сялянства ў яго барацьбе з прыгнятальнікамі-панамі. «Не затым я прышоў,—абвяшчае асілак,—каб светам панаваць, а затым, каб аслабаніць свет ат паноў». Раскрыўшы перад прыгнечаным сялянствам асноўную прычыну яго пакут («Калі б паноў чорт узяў, та б свет бяды не маў»), Асілак заклікае ўсіх «гарапашнікаў мужыкоў» аб'яднацца і «ат варагоў бараніцца гурбою».

### Пану навука

Зап. у в. Чудзіне Слуцкага п. Мінскай г. ад казачніка Дудара.

Са зб. Сержпутовский, Сказки, с. 103—107.

### Вялікі грэшнік

Зап. А. Е. Багдановіч у м. Халопенічы Барысаўскага п. Мінскай г. ад сялянкі Разаліі Асмак.

Са зб. Шейн, Мат., II, с. 371—373.

Народнае паданне, якое ўзнікла на аснове народных легенд, апакрыфічных паданняў і было пераасэнсавана ў сялянскім асяроддзі ў эпоху прыгону. У ім праявілася лютая нянавісць народа да сваіх мучыцеляў і катаў—паноў і войтаў. Нават у легендзе, якая мае хрысціянска-рэлігійнае адценне, апраўдваецца забойства войта — ненавіснага ворага працоўнага чалавека. Вялікі грэшнік мог атрымаць

збавенне тады, калі ён зробіць «столькі дабра», каб яно ўсе яго «грахі пераважыла». Гэтым дабром аказалася забойства войта, які мучыў людзей нават у свята.

У іншых вар. грэшнік атрымлівае збавенне, забіўшы страшэннага разбойніка або людаеда, ад якіх таксама вельмі пакутвалі людзі. Вядомы таксама рад рускіх і ўкраінскіх вар. легенды. Літаратуру і некаторыя даныя аб паходжанні легенды прыводзіць Карскі (с. 477—478).

Романов, III, с. 310—312. Вар. Грэшнік забівае разбойніка. Federowski, II, с. 309—312. Грэшнік забівае людаеда.

Садовников Д. Н. Сказки и рассказы Самарского края, СПб, 1884, с. 300—301, № 99д. Рускі вар. Грэшнік атрымлівае збавенне, забіўшы «кулака-купца» і раздаўшы яго грошы, якія ён «из мужиков... выжал» па ўсім «окрестным деревням».

«Киевская Старина», т. X, Киев, 1884, с. 175. Укр. вар. Зап. у Кіеўскай г.

### З чаго ліха на свеце

Зап. Сержпутоўскі паміж 1897—1907 гг. у в. Гаўрыльчыцы на Случчыне ад казачніка М. Краўца.

Са зб. Сержпутовский, Сказки, с. 123—127.

### Іванко Прастачок

Зап. Сержпутоўскі на мяжы XIX і XX стст. у в. Вялікім Рожыне на Случчыне ад казачніка Рэдкага.

Са зб. Сержпутовский, Сказки, с. 149—152.

### Паслухай, грамада, якая нам раней была бяда...

Зап. у 1934 г. у калгасе «Юны мір» Дрысенскага р. Віцебскай вобл.

Са зб. «Дарэв. і Сав. Бел.», с. 23—26.

Апавяданне пра прыгон. Належыць да народных твораў-успамінаў аб жыцці сялянства за прыгонам, якія ўзніклі ў пасляпэформенны перыяд і шырока бытавалі ў вёсцы ў другой палове XIX і пачатку XX ст. і захаваліся ў памяці старых яшчэ ў савецкі час. Даны твор, вядомы пад назвай «Тарасаўскі Даніла», быў пашыран у розных раёнах Беларусі.

Вар. гл. у зб. Бродскага.



## ЗМЕСТ





Рэдактар Выдавецтва *Ів. Чыгрынаў*
Мастак *Л. Асецкі*
Тэхнічны рэдактар *І. Валахановіч*
Карэктары *І. Шарафановіч*, *Е. Волкінд*

*

Зацверджана РВС АН БССР

*

АТ 01296. Здана ў набор 23/I-1959 г. Падпісана да друку 16/IV-1959 г. Папера 84×108¹/₃₂. Тыраж 5000 экз. Фіз. друк. арк. 10,0. Ум. арк. 16,4. Уч.-выд. арк. 17,9. Выд. заказ 010. Друк. заказ 311. Цана 7 р. 50 к.

*

Друкарня Выдавецтва АН БССР
Мінск, праспект Сталіна, 110

## ПАМЫЛКІ ДРУКУ

| Старонка | Радок | Надрукавана | Трэба чытаць |
|---|---|---|---|
| 4 | 6 зверху | дыялектычных | дыялектных |
| 70 | 9 „ | чуляе | гуляе |
| 117 | 11 „ | зямлёю | змяёю |
| 128 | 13 „ | прасыпаліся. Васіль Папялышка ваюваўсь-ваюваўсь с па- | крылцо прасту-дзіцца. І глянула туды, аж едзе сам па- |
| 146 | 1 „ | пашні | пашці |
| 183 | 7 „ | дзелу | целу |
| 302 | 1 „ | тэндэнцый | тэндэнцыйнай |

Зак. 311.